# ПОЛЫМЯ
# РЭВОЛЮЦЫІ



ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-
ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

1

1938

# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР



*КНІГА ПЕРШАЯ*



МЕНСК — 1938

*Акоп Акапян*

## БЯССМЕРТНЫ ЛЕНІН

Хто кажа, што памёр Ленін?
Сонца-ж век гарыць—не патухае,
І акіян у хвалях ускіпае,
І Марс на небе вечны і нязменны,
І высяцца крутыя Гімалаі.
Яго справы, як сонца, свецяць нам,
Як акіян, што ў хвалях закіпае,
Завет яго высокі, быццам Марс,
Нязрушны ён, як горы Гімалаяў.
Хто скажа, хто? Быць можа, прыдзе дзень,
І сонца дагарыць на небасхіле,
І акіян, ўладарац грозных дзей,
Застогне ў сударгах прадсмертнай сілай,
І Марс падзе, і ў змроку дапалае,
І зрушацца каменні Гімалаеў...
Усё-ж да апошняга дыхання чалавека
Да будзе жыць, вялікім і нязменным,
Ад века нашага, ад века і да века
Бяссмертнае, імя жывое Ленін.

*Пераклаў М. ХВЕДАРОВІЧ.*

*Вера Інбер*

## ПЯЦЬ НАЧЭЙ І ДЗЁН

Перад тым, як схавацъ у магіле
Навекі ад жывых людзей,
Ў Калоннай зале палажылі
На пяць сумлівых дзён, начэй.

І пацяклі людзей натоўпы
З чырвоным сцягам у руках,
Каб паглядзець на профіль жоўты
І ордэн на яго грудзях.

Цяклі. А сцюжа над Масквою
Такая лютая была,
Як быццам ён панёс з сабою
Часціну нашага цяпла.

І пяць начэй ў Маскве не спалі
Таму што ён смяротна спаў.
І месяц у журботнай далі
На ганаровай варце стаў.

*Пераклаў МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ*

*Віктар Місюн*

## ПЕСНЯ АБ ЛЕНІНЕ

Засмуцілася дзяўчына
Стаіць над крыніцай.
Русы-косы заплятае,
У ваду глядзіцца.
Гусі-лебядзі лятаюць
Над борам, над гаем.
І раняюць песню смутку
Над шырокім краем.

Ой, вы, гусі-самалёты,
Свой палёт спыніце,
Маё гора вялікае
Светам разнясіце.
Разнясіце, раскажыце
Цяжкія ўспаміны,
Аб вялікай страце, горы
Нашае краіны.

У Горках Леніна не стала,
Смерць не ў час скасіла.
І ішлі народы ціха
Да яго магілы,
Каб пабачыць дарагога,
Сабраць мужнасць, сілы.

Над труной гучэлі клятвай
Сталінскія словы—
Ён прысягу даў народам
Будаваць свет новы.
Як у казцы вырастаюць
Гарады, заводы.
Адзінаццаці рэспублік
Шчасце ткуць народы.
Каласы сцяной пасталі
На шырокім полі.
Хлеба белага мець будзе
Наш калгас даволі.

Ціха моўкне спеў гусіны
Над зялёным гаем,
Самалёты ў паднябессі
Песні льюць над краем.
Самалётам песню ў полі
Дзяўчына спявае,
Справу Леніна ўслаўляе
Буйным ураджаем.

Заслаўль.

*Узбекская народная творчасць*

## ФЕРГАНА

Хвала, сябры! Цяпер і я свабоду і славу маю!
У краіне рабочых і сялян абарону і права маю!.
Няма на свеце галоднай, жабрачай былой Ферганы,
Замест гора, пакуты—высокую долю маю.
Як гранаты, дабро і багацце ўсюды расце.
Хлапок у светлых далінах—багатае поле маю.
У Кішлаку Балыкчы збіраю я смачны інжыр,
І міндаль малады, што рана цвіце, я маю,
І пахучыя дыні, і фісташкавыя сады,
І цяжкія яблыкі Намагана маю.
У Ленінску—слодыч паветра, цяжкія ў садах плады,
І буйнейшы за дыні, пурпурны вінаград я маю.
На гару выйду ранкам—там спее міндаль і арэх,
І ў Чакэне празрысты і спелы вінаград я маю.
Многа песень складу я. І многае людзям скажу.
Навукі вялікай святло, замест змрока былога маю.
Па шырокаму свету словы ідуць Ільіча...
Я для ўсіх пролетарыяў сусвету высокае слова маю.

*Якуб Колас*

# У ПУШЧАХ ПАЛЕССЯ

*Драма ў 4-х дзеях, паводле аповесці „Дрыгва“*

ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

Дзед Талаш, стары селянін, партызанскі камандзір.
Бабка Наста, яго жонка.
Максім, іх старшы сын.
Панас, малодшы сын, падлетак.
Мартын Рыль, малады селянін, партызан.
Жыбуль, большэвік, падпольшчык.
Шалёхін, камандзір батальёна.
Грыгарук, Пятраш, Путнік — ротныя камандзіры.
Нупрэйка, Купрыянчык, Балук, Будзік, Дарвідошка — партызаны.
Букрэй, узводны камандзір.
Кухарык, польскі салдат, перашоўшы да чырвоных.
Бусыга, войт.
Бруй, Бірка — яго прыяцелі.
Аўгіння, жонка Бусыгі.
Алеся, яе дачка.
Саўка Мільгун, вясковы злодзей.
Пан Крулеўскі, польскі афіцэр, памешчык.
Польскі афіцэр, памочнік Крулеўскага.
Гэмбіцкі, шпіён, сышчык, дыверсант.
Ксёндз Пацейкоўскі.
Пан Дэмбіцкі, палкоўнік.
Галініч, беларускі нацдэм.
Польскі вартавы.

Чырвонаармейцы, партызаны, легіянеры.

Дзея адбываецца на Палессі ў час вайны з белапалякамі.

# АКТ ПЕРШЫ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ.

Хата Васіля Бусыгі. Прасторная, чыстая. Фіранкаю разгароджана на дзве часці. Фіранка ідзе ад адзежнай шафы да пярэдняга фасада печы. У куце стаіць стол, засланы белым абрусам. Над сталом — абразы, упрыгожаныя вышытым палаценцам. Ад стала на абедзвюх сценах праходзяць шырокія лавы. Бліжэй да печы на табурэціку сядзіць Алеся, развёўшы рукі. На руках скрутак нітак. Аўгіння насупраць Алесі, звівае ніткі ў клубок. Збоку відаць ганак. За ганкам вясковая вуліца.

Алеся. Заспявай мне, мама, песню: я люблю, калі ты спяваеш.
Аўгіння. Якую-ж ты хочаш песню?
Алеся. А вось гэту (*дэклямуе*):

„З гары па даліне
Галубы лятаюць,
Ды з белае бярозанькі
Лісця абіваюць“.

Аўгіння (*уздыхае*). Сумная гэта песня, жаласная. А я хачу, каб табе спяваліся вясёлыя песні.
Алеся. А нашто спяваюць жаласныя песні?
Аўгіння. Калі каму нявесела, цяжка на сэрцы, дык таму хочацца спяваць і песні такія-ж.
Алеся. А ты чаму сама спяваеш іх? І табе не весела?
Аўгіння. А вось-жа і ты хочаш слухаць сумную песню. А хіба табе цяжка з маткаю. Ну, добра: заспяваем тваю песню, а ты памагай мне.

(Аўгіння зачынае песню. Алеся далучае свой голас. Праспявалі першы куплет песні. Рвецца нітка).

Аўгіння. Вось і нітка парвалася (*звязвае нітку*). Не хочуць ніці слухаць нашу песню.
Алеся (*смяецца*). Мусіць ніцям весела... (*другім тонам*). Дык раскажы мне, мама, казку, як белую лебедзь сом на возеры глынуў...
Аўгіння. А мы сходзім як-небудзь да дзеда Талаша. От ён умее казкі казаць. Ён сам бачыў, як сом хватаў белую лебедзь.
Алеся (*падхватвае мысль маткі*). Сходзім, мамачка, ды папросім яго, каб ён мяне на чоўне павазіў, як калісь і цябе вазіў.

(З вуліцы даносіцца песня Праходзіць **Саўка Мільгун.** Адзеты бедна. Рваная сярмяжка, у лапцях. З-пад заношанай шапкі выбіваюцца ўскудлачаныя валасы, не спяшаецца, ідзе павольна, спявае):

Гаварыла маці мне:
„Не сябруй з ліхімі—
У Сібір—катаргу сашлюць
Цябе разам з імі“.

Саўка Мільгун. Здарова была, што вышла за вала.
Аўгіння. Чаму-ж ты, Саўка, сам да мяне не пасватаўся?

Саўка (*задаючыся*). Гм... Ці такія квапіліся на мяне, ды Саўка не хоча з бабаю надоўга звязвацца. Рахунку ніякага няма.
Аўгіння. З чужымі коньмі мець рахунку больш?
Саўка (*смяецца*). Вядома... (*праходзіць фігура вайскоўца*). Слухай, гаспадыня, хоць ты з Вепраў, Аўгіння: вырвала-б ты хоць шарсцінку з свайго вала ды Саўку дала...
Аўгіння. Ну, досыць брахаць, ідзі, куды ідзеш.
Саўка. Не, не пайду, хачу ў цябе сала папрасіць бо, няма чым Саўку закусіць, а не дасі, дык украду. (*Аўгіння выходзіць. Саўка сам з сабою*). Саўка чалавек праўдзівы, што сказаў, тое і зробіць. (*Крадзе сыр, які сушыцца на ганку. Вайшла Аўгіння*).
Аўгіння. Ну, на вазьмі... (*дае яму сала*).
Саўка. Дзякую. Дык бывай тая, па якой сам Саўка ўздыхае. (*Кланяецца, ідзе далей, спявае тую-ж песню*):

Павядзе цябе канвой,
Па матушцы Расіі,
Збрыюць, збрыюць волас твой
Аж да самай шыі.

Аўгіння (*заўважае прапажу*). А, зладзюга; без кражы не абышоўся.

(Песня заціхае. **Саўка** хаваецца з вачэй).

Аўгіння (*пазірае на вуліцу*). Хто-ж гэта там? Няўжо Мартын? (*Углядаецца*). Ён.

**Мартын Рыль** праходзіць, стараецца не глядзець на вакно, у якім стаіць **Аўгіння**. Аўгіння моўчкі пазірае і калі бачыць, што Рыль ужо мінае хату, аклікае).

Аўгіння. Мартын... (*Рыль прыпыняецца*).
Мартын. А, гэта ты, Аўгінька. Здарова.
Аўгіння (*з дакорам*). Ужо не хочаш і зірнуць у мой бок, Мартын.
Мартын (*падыходзіць бліжэй*). Спяшаюся, Аўгіння.
Аўгіння. Куды-ж так спяшаешся?
Мартын (*асцярожліва азіраючыся навокал*). Справа паварочваецца так, што мне трэба пакінуць гэтыя мясціны.
Аўгіння (*з большым дакорам і крыўдаю ў голасе*). І ты, Мартын, не сказаў мне аб гэтым, нават не зірнуў у той бок, у якім я стаю і гляджу на цябе.
Мартын (*апускае вочы, момант маўчыць*). А якое права маю я пазіраць туды, дзе стаяць чужыя жонкі. Была-б маёю, дык глядзеў-бы кожны дзень. Маёю-ж ты быць не захацела. Бо што такое я? Галыш... такі, якой наўперад была і ты сама. Ну, бывай. Мая дарога вунь з імі, чырвонымі. (*Выходзіць*).
Аўгіння. Ах божа мой! Выходзяць чырвоныя.
Алеся (*уваходзячы*). Мама, тата прышоў.

(Уваходзіць **Васіль Бусыга**).

Васіль. Нешта ты сёння не ў гуморы. Ну, як значыцца? Кавалі, Мартын Рыль хутка зробіцца камісарам.
Аўгіння (*апускае вочы. Пасля паузы*). А з яго камісар быў-бы не горшы, чым з цябе валасны старшыня.

Васіль (*ківае галавой знізу ў гору. Абразліва*). Ого, Рыль. І шавец, і кравец, і да дзевак маладзец... нават да маладзіц.
Аўгіння (*каб падкусіць Васіля*). Здольны чалавек, не ўсім-жа бог такія здольнасці дае.
Васіль (*мяняе гутарку*). А ты ўсё для дачкі на прыданае дбаеш.
Аўгіння (*спакойна*). А хто-ж аб ёй падбае, калі не маці.
Васіль. А чаму гэта табе твая маці нічога не прыдбала?
Аўгіння (*успыхвае ўся*). Колькі разоў ты папікаеш мяне маёю беднасцю. Чаго ты да мяне чэпішся? Бачылі вочы, які тавар куплялі.
Васіль (*стукае кулаком па стале*). Ты мне голасу не падымай і слухай, што я табе кажу. Я тут гаспадар. І ніхто не забароніць мне казаць, што я хачу.
Алеся (*туліцца да мацеры*). Мама. Не злуй тату.
Васіль (*пагрозліва*). Многа ты сабе ў галаву забіраеш. Ваша бабскае сваволле можа прахам пайсці, а ўсе твае камісары к чорту паляцяць.

(Уваходзіць рыжы **Кандрат Бірка**).

Бірка (*запыняецца каля парога, урачыста*). Дзень добры ў хату.
Васіль (*зганяючы з твару сляды злосці*). Дзень добры, васпане Кандраце.
Бірка (*разглядваючы хату*). І хата харошая (*паварачваючыся да Аўгінні*), а гаспадыня дык яшчэ харашэйшая... Эх, каб мне такая жонка, заўваж, суседзе, дык я стаяў-бы каля яе і з яе вачэй не зводзіў-бы. (*Бярэ Аўгінню рукой за плячо і туліць да сябе, Аўгіння адштурхвае яго, ідзе за фіранку, Бірка падыходзіць да Бусыгі*).
Васіль. Сядай, Кандраце.
Бірка. Такі момэнт, заўваж, суседзе, што проста не сядзіцца. (*Аглядаецца навокал, прыцішаным голасам, у якім адчуваецца радасць*). Заварушыліся чырвоныя, заўваж, суседзе, як мурашкі ў мурашніку, калі ў яго палкаю папораш. Абозы на Рудню пашлі.
Васіль. Ведаю, ведаю. Я так і казаў, васпане: рана ці позна выпруць іх адгэтуль.
Бірка. У Вепры, заўваж, суседзе, польскія перадавыя часці ўступілі. (*Пазірае ў вакно*). А зірні, зірні. Народ, заўваж, суседзе, глядзі як заварушыўся. (*Бусыга пазірае ў вакно*).
Васіль. А праўда, праўда. (*Адыходзіць ад вакна*). Пойдзем падзівімся.

(Надзяе шапку, світку. Выходзяць разам з Біркам з хаты; Аўгіння выходзіць з-за фіранкі і таксама падыходзіць да вакна. Расчыняе вакно).

Аўгіння (*журботна*). І ніхто-ж на свеце не паспагадае мне. Зайздросцяць. І нікога на свеце не знайду я, каб расказаць, як мне салодка жыць.

(Зачыняе вакно, пакрыўджаная адыходзіць).

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Дзея адбываецца каля хаты дзеда Талаша. Хата заняпалая— нізкія дзверы, маленькія вокны. З глыбі двара выступае край клуні з буславым гняздом. Каля клуні—стажок сена. Па вуліцы праходзяць чырвонаармейцы. Сям-там каля хат стаяць сяляне. Жанчыны, дзеці. Пазіраюць, як праходзіць войска, махаюць рукамі, шапкамі.

З хаты дзеда Талаша выходзіць Шалёхін. За ім ідуць дзед Талаш, Панас, Максім і бабка Наста. Шалёхін запыняецца, каб развітацца з гаспадарамі.

Шалёхін (*да дзеда Талаша*). Ну, бацька, бывайце. Яшчэ раз дзякую вам і вашай сям'і за гасціннасць, за дружбу, за ўсе.

(Шалёхін крэпка націскае руку дзеду Талашу).

Талаш (*расчулена*). І вам дзякую, голубе... Эх, пакідаеце нас. (*Шалёхін прыяцельскі стукае дзеда Талаша па плячы*).

Шалёхін. Не тужы, бацька, і вы, хлопцы, носа не вешайце. Ніякага няшчасця ў тым, што наша часць выходзіць з вашай вёскі, няма. Мы такі ўжо народ, вайскоўцы, што доўга сядзець без работы не любім і не заседжваемся на адным месцы. А мы сюды вернемся, вернемся, бацька. Дык да скорага пабачэння.

Знімае шапку, агульны паклон. Панас, Максім таксама знімаюць шапкі, выказваюць добрыя пажаданні Шалёхіну „Добрай часіны". „Шчаслівай дарогі").

Талаш (*услед Шалёхіну*). Няхай будзе шчасце з вамі, голубе, і добрая доля.

(**Шалёхін** выходзіць, дзед Талаш і яго сям'я некаторы час стаяць моўчкі)

Бабка Наста (*журботна*). Так нечакана і так хуценька пакінулі нас. І што яно будзе? Калі-ж прыйдзе той спакой?

Талаш. Не ўсё яно, нябога, робіцца так, як нам жадаецца. А дабра не будзе, калі пан сюды прыдзе ды зноў волю возьме.

Панас (*злосна*). Скула яму ў бок, а не воля.

Талаш. Падавяцца калі-небудзь, гады. Прыдзе пагібель і на іх. (*Да ўсіх*). Вось што, голубе, бабка і вы хлопцы: схавацъ на ўсякі выпадак усё, на што паляк паквапіцца можа.

Максім. А што ён возьме ў нас?

Талаш. Кажушок з плячэй здзярэ. Апошнюю скарынку хлеба з рота вырве, эге-ж голубе.

Бабка Наста. А стрэльба твая дзе?

Талаш. Я яе яшчэ ўчора схаваў.

(Усе ідуць у хату. На сцэну выходзяць **Мартын Рыль і Жыбуль**).

Жыбуль. Ну, значыцца так і парашылі. Трэба, брат, табе застацца ў тылу ў палякаў, толькі будзь асцярожны, цябе тут ведаюць. З прыходам сюды палякаў улада афіцыяльна будзе зліквідавана. Фактычна-ж яна павінна быць і будзе. Толькі форма існавання іншая—падполле, разумееш, Мартын.

Мартын. Разумею.

Жыбуль. З гэтага падполля ў даных умовах і трэба праводзіць лінію нашай партыі і савецкай улады.

Мартын. Я застаюся. А якая-ж будзе мая работа ў падполлі? Ты мне скажаш падробна.

Жыбуль (*прыязна пазіраючы на Рыля*). Работа важная. Помні, Мартын: да яе заклікае Ленін і наша партыя. (*Пасля некаторай паузы*). Белапольская акупацыя будзе чыніць гвалт і здзекі над бядняцкім народам. Вось гэта нам і трэба выкарыстаць, як мага паўней. Якім чынам? Трэба весці супроць панскай улады агітацыю і арганізоўваць беднату на ўзброенае выступленне супроць акупантаў і праз сваіх верных людзей весці сярод іх прапаганду... Адным словам, Мартын: шкодзіць лютаму ворагу чым толькі можна і дзе можна. Ды не трэба забываць, што вораг мае сваю агентуру сярод заможнікаў, сваіх шпіёнаў. І яшчэ, што важна, Мартын: мець цесную жывую сувязь з нашай Чырвонай Арміяй. А я ж з табою буду трымаць сувязь. Дык вось у асноўным і ўсе. Ну, браток, Мартын, трымайся. Ты чалавек моцны. Спадзяюся на цябе. Умоўнае месца нашай яўкі астаецца тым самым... Усяго добрага.

(Разыходзяцца ў розныя бакі. Нахаду Жыбуль кідае апошнія словы: „Будзь асцярожным“. На вуліцы рух павялічваецца. Прабягаюць адзінокія фігуры вяскоўцаў, рассыпаюцца па сваіх дварах. Выходзяць **Васіль Бусыга і Кандрат Бірка**).

Бусыга. Няхай трусіцца хто іншы, той, хто ў камісары падаваўся, а нам чаго баяцца?

Бірка. Дык невядома-ж, заўваж, суседзе, што яны заспяваюць.

Бусыга. Першым чынам, васпане мой, я так разумею, парадак будзе. А па другое, васпане мой, я так разумею, павінна быць і начальства.

(Убягае **Сымон Бруй** устрывожаны, узбуджаны).

Бруй (*моўчкі паказвае пальцам*). А зірніце, ягамосці.

(Бусыга і Бірка пазіраюць, куды паказвае Бруй).

Бірка (*у страсе*). Салдаты!

Бусыга. Войска, мой васпане.

Бірка. А чыё-ж яно, заўваж суседзе?

Бруй. А ці не большэвіцкая гэта хітрасць?

(Усе ўтрох задам адыходзяць бліжэй да двара. Чуецца польская салдацкая песня).

Прыпеў: Марыся, мая Марыся
Пойдзем са мной шпацыраваць...
Марыся, мая Марыся
Пойдзем са мной спаць...

і смяюцца, падаюцца наперад).

Бусыга. Не паказваць, мой васпане, віду, што мы папалохаліся хто-б тут ні быў. Знімайма шапкі і будзем кланяцца, нікому ніколі гэта не пашкодзіла і не пашкодзіць.

(Усе ўтрох становяцца ў рад, знімаюць шапкі, махаюць імі і кланяюцца штораз ніжэй. Чуваць рытмічны тупат ног, праходзіць атрад легіянераў з напышлівым відам пераможцаў. Наперадзе ідзе пан **Крулеўскі** ў форме польскага афіцэра.

Бусыга і яго прыяцелі кланяюцца ў пояс. Пан Крулеўскі запыняецца, пыхлівы, надзьмуты. Салдаты пад камандай афіцэра ідуць далей. Памалу сходзіцца натоўп. Прыходзіць дзед Талаш, каля яго стаіць бабка Наста і Аўгіння. На самым відным месцы пан Крулеўскі, якога вітаюць Бусыга, Бруй і Бірка).

Бусыга. Вітаем яснавяльможнага пана.

Бруй, Бірка (*падхопліваюць*). Вітаем пана. (*Нізка кланяюцца*).

Бусыга. Вітаем храбрае польскае войска, збавіцеляў нашых.

Бруй, Бірка. Вітаем збавіцеляў нашых. (*Кланяюцца*).

Талаш (*плюе з агідаю*). О, што-б вы на свой жывот крычалі.

Бабка Наста (*таўчэ дзеда пад бок са страху*). Ціха ты. Маўчы.

Пан Крулеўскі (*задаволены*). Дзенькую, панове, мосці добрадзею. (*Падае руку Бусыгу. Бусыга хватае руку, згінаецца ўвесь, прыпадае ілбом да рукі*). У асобе пана... (*не ведае прозвішча.*)

Бусыга (*падказвае*). Бусыгі, кандыдата ў валасныя старшыні, яснавяльможны пане.

Крулеўскі. А, пан Бусыга, мосці добрадзею. Знаю, знаю. (*Адступаючы ад тэмы сваёй прамовы*). Зараз я, імем польскай ваеннай улады, прызначаю пана Бусыгу войтам.

(Бусыга кланяецца. Дзед Талаш штурхае Аўгінню локцем).

Талаш (*да Аўгінні*). Цяпер ты, голубе, не сядзеш са мною ў мой човен.

Аўгіння (*заломліваючы рукі*). Ох, матанькі, гэтага яшчэ не хапала.

Крулеўскі (*варочаецца да тэмы сваёй прамовы*). Панове, мосці добрадзею. У асобе пана войта я вітаю вас з новай законнай уладай польскай. Дык так, панове, вы цяпер пад аховай бялэго ожла панства польскага. Польша дасць вам парадак і спакой. Польша забяспечыць вам, панове, права на сваю ўласнасць, гаспадарку, набытак.

(Бусыга, Бірка і Бруй кланяюцца).

Бусыга. Нашы бацькі, яснавяльможны пане, жылі з панскімі бацькамі ў добрым ладзе і ў згодзе.

Талаш (*іранічна*). І пасвілі панскую гавяду, голубе, эгэ-ж.

Крулеўскі (*не пачуўшы слоў дзеда Талаша*). Так, так. Пан войт мае рацыю. Але мы былі пад Маскалём. Маскаль адабраў і нашу і вашу волю. Цяпер-жа незалежная з ласкі пана бога Польша і яе гаспадар, маршал пан Пілсудскі, даруюць нам усім волю і роўнасць.

Бусыга, Бруй, Бірка. Дзякуем пану Пілсудскаму.

Талаш. Абяцанкі цацанкі, а дурному радасць, эге-ж.

Бабка Наста (*штурхае дзеда*). Ціха ты, маўчы.

Крулеўскі. Панове, Польша нясе вам культуру і збавенне ад большэвіцкай анархіі, барбарства і бязбожніцтва. Нех жые польска! Віват!

Бусыга. Нех жые польска! (*Дае знак каб усе крычалі „Віват“*).
Бруй, Бірка (*перакручваюць мала знаёмае слова*). „рві, брат“).
Талаш. Эге-ж, рвалі, голубе, і яшчэ збіраецеся рваць.
Бабка Наста. Ціха ты, маўчы.

(Пад канвоем трох легіянераў вядуць **Мартына Рыля**. Паяўленне Рыля пад канвоем зварочвае на сябе агульную ўвагу. На сцэне некаторы час цішыня. Мартын ідзе падняўшы галаву. Праз плячо перакінута раменная паляўнічая сумка. Ён кідае варожы погляд на Бусыгу, потым пераводзіць на Аўгінню, горка ўсміхаецца. Аўгіння парываецца кінуцца да Мартына, але стрымлівае свой парыў. Бабка Наста і дзед Талаш пазіраюць на Рыля са спачуваннем).

Бабка Наста (*цяжка ўздыхае*). Ох, божачкі. Забралі чалавека.
Талаш. Адну волю прынеслі ўжо, голубе.
Пан Крулеўскі (*да Бусыгі, ківаючы на Рыля*). Хто такі? Ваш?
Бусыга. Тутэйшы, яснавяльможны пане. Большэвік.

(Канвойнікі штурхаюць Мартына).

Мартын. Што пхаешся, панская падэшва.

(Адзін з іх крычыць „Мільч хаме“. Канвойнікі і Рыль выходзяць. Пан Крулеўскі крычыць услед канвойнікам: „Пільнуўце яго, як свайго вока“. Бусыга нагінаецца да пана Крулеўскага, гаворыць штось ціха, пасля чаго пан Крулеўскі зварачваецца да дзеда Талаша)

Пан Крулеўскі (*да дзеда Талаша*). А скажы мне, каханы: стаяў у цябе на кватэры камандзір чырвоных?
Дзед Талаш. Эгэ, стаяў.
Пан Крулеўскі. А чаму гэта ён абраў тваю хату?
Дзед Талаш. А гэта, голубе, трэба запытаць самога камандзіра.
Бабка Наста. Ці-ж, панок, яго клікалі. Вось каб і вы прышлі ў нашу хату, дык хіба-ж мы былі вінаваты.
Пан Крулеўскі (*ківае пальцам дзеду Талашу*). Глядзі стары.
Дзед Талаш. Ды я ўжо гляджу, голубе...

(Бабка Наста тузае дзеда Талаша за пільчак, каб дзед не сказаў лішняга. Пан Крулеўскі робіць рух ісці. Бусыга кланяецца яму).

Бусыга (*да пана Крулеўскага і афіцэра*). Прашу яснавяльможных паноў зайсці ў маю хату, зрабіць мне такую ласку.
Пан Крулеўскі (*ківае галавою*). Дзенькуе.
Бусыга (*да Аўгінні*). Жонка, ідзі сустракай высокіх гасцей. (*Аўгіння стаіць нерухліва*).
Дзед Талаш (*Аўгінні ціха*). Ідзі, ды закінь слова за Мартына.
Пан Крулеўскі. А гэта жонка пана война?

(Падыходзіць да Аўгінні, бярэ яе пад руку. Маўклівая і пакорная, яна ідзе ў хату. За ім ідуць афіцэр, Бусыга, Бруй, і Бірка. На сцэне астаюцца бабка Наста і дзед Талаш. Дзед Талаш глядзіць у бок пашоўшых польскіх афіцэраў і Бусыгі з кампаніяй).

Дзед Талаш. Тфу. Тфу. Тфу, згінь ваша маці.
Бабка Наста (*накідваецца на дзеда Талаша*). Стары, стары. Свярбіць табе язык. Трымай ты яго за зубамі. Ды навошта табе чапаць іх, няхай іх лепей кашуля не чапае.
(Легіянер цягне ў бабы сала. Яна лемантуе. Ён б'е яе. Прыходзіць Панас).

Баба. Ой, людзечкі родныя, сала і палатно пацягнуў. Аддай!
Легіянер. Ідзь до д'ябла, холера.
Баба. Чым-жа я дзетак карміць буду? Не пушчу, не дам.
Легіянер. О пся маці (*б'е*). Ляжы, пся крэў.
Баба. Ой, божачка мой. Што-ж гэта робіцца на свеце?
Дзед Талаш (*абурліва*). О, сволачы, сволачы. Каб вы там усе галовамі налажылі. А бадай вас пярун пазабіваў.
Баба. Што-ж гэта, дзядзечка, за маё дабро, ды ботам у грудзі?
Дзед Талаш (*падышоў да жанчыны*). Боты ў іх моцныя—нямецкія. О! Гвалтаўнікі, разбойнікі.
Бабка Наста. Выйдзі ты адгэтуль, стары, на некаторы час, бо ты тут сабе ліха нажывеш з тваім языком і характарам.
Талаш. А можа ты нябога і праўду кажаш. Пайду ў Бабры да Параскі, каб і вочы мае гэтага не бачылі. А ты, Панаска, прыдзі, голубе, праз тры дні вечарам пад Целяшоў дуб. І праўда: пайду, голубе. А ты прыходзь да мяне, Панасе.
Панас. Прыду. (*Раптам абарочваецца, глядзіць на свой двор*). А зірні, бацька, забіраюць наша сена.

(Бабка Наста, дзед Талаш раптам паварочваюць галовы, глядзяць на свой двор. Каля стажка відзен зад павозкі. У павозцы стаіць польскі салдат, утоптвае сена. Другі салдат кідае віламі на воз сена. Трэці сядзіць на стажку і кідае яго на дол. Салдаты перакідваюцца жартамі).

1-ы салдат (*з віламі*). Тапчы, тапчы, Янэк.
2-і салдат (*на возе*). Антэк млоды, не роб шкоды,
Не роб собе рах-цях-цях.
3-ці салдат (*на стажку спявае*):

Піен мнахі, піен мнахі,
Маен велькія келіхі
Ім ружанцы не в паменці,
Гды гожалка вэ лбэ крэнці.

Дзед Талаш. О, што-ж яны робяць! Гіцлі, грабежнікі. Апошняе сена забіраюць. (*Парываецца ісці. Бабка Наста хватае яго за руку*).
Бабка Наста. Не хадзі ты, стары, туды.
Дзед Талаш. Пусці. На ражон не палезу, а прасіць буду.

Дзед Талаш падыходзіць да легіянераў. За ім ідуць Панас і Максім. Бабка Наста стаіць зводдаль. Пры паяўленні дзеда Талаша салдаты прымаўкаюць).

Дзед Талаш. Паночкі, залаценькія. Што-ж вы робіце?
1-ы салдат. Сена, дзядуля, на воз кладзем. Не перашкаджай.
Дзед Талаш (*заходзіць наперад*). Паночак, не бярэце сена. Апошні мой стажок.
3-ці салдат (*са стажка, бярэцца ў бок, дэклямуе*):

„Пшэпюрэчка ў жыце квілі,
Жэсь мя гняздо ей збужылі“.

(Кідае жмак сена на дзеда).

1-ы салдат. Адступіся, стары, а то віламі закіну на воз.
2-гі салдат. Бяры яго, Антэк, на вілы, а я патапчу яго тут.

Дзед Талаш (*хватае салдата за край шынелі*). Паночак, голубе. Майце-ж вы літасць да беднага чалавека. Чым-жа худобу карміць будзем?

1-ы салдат. Ідзь да д'ябла, стары пёс. (*Штурхае дзеда ў грудзі. Дзед Талаш у момант вока выхватвае з-за пояса сякеру*).

Дзед Талаш (*замахваючыся на салдата сякерай*). Сабака, панскі гіцаль.

(Легіянер ад нечаканасці кідаецца ў бок. Максім хапае бацьку за рукі).

Максім. Апамятайся, бацька, што ты робіш.

(З воза кідаецца да дзеда другі салдат, са стажка спускаецца трэці. Усе тры легіянеры накідваюцца на дзеда. Дзед Талаш разварочваецца ўсім корпусам, напружыўшы рукі, рэзка паварочваецца. Легіянеры адкідваюцца. Адзін з іх падае, з другога скідаецца шапка. Барацьба суправаджаецца асобнымі выгукамі. Дзед Талаш крычыць „Смярдзюхі, гіцлі, грабежнікі Салдаты—„Пся крэў" „Бяры яго, Антэк". Бабка Наста лемантуе. Панас —„Ай людзі ратуйце. Гвалт". Дзед Талаш вырываецца з рук легіянераў, кідаецца наўцекі ў лес. Адзін салдат цэліцца ў дзеда з нагана Бабка Наста кідаецца да легіянера на калені, абдымае за ногі з лемантам: „Ой, паночкі, добрыя, змілуйцеся, што вы робіце". Салдат страляе ўгору. На шум выбягае пан Крулеўскі, афіцэр, Бусыга, Бруй і Бірка)

Пан Крулеўскі. Цо то ест?

Салдат (*бярэ пад казырок*). З сякерай кідаўся на нас, пан капітан. Не даваў браць сена.

Бабка Наста (*падбягае да пана Крулеўскага*). Няпраўда, панок, яго самога штурхалі, білі, а ён толькі бараніўся.

Пан Крулеўскі (*не зварочвае ўвагі на бабку Насту*). А дзе старая псіна? Го, не дармо стаяў тут бальшэвік Бальшэвіцкае гняздо. Дзе ён, пёс стары.

Салдат. Уцёк да лясу, пан капітан. Я застраліў-бы яго, ды вось гэта старая холера (*паказвае на Насту*) перашкодзіла.

Пан Крулеўскі. А, так. (*Грозна паказваючы на Насту*). Усыпаць ёй дваццаць пеньць.

(Салдаты хапаюць Насту, цягнуць за стог. Панас кідаецца да яе з крыкам: „Мамка, мамка родная!")

Крулеўскі. А гэта што за шчанё? (*Бусыга шэпча яму на вуха*). Ага забраць яго і справадзіць да астрога. Будзем трымаць яго ў астрозе, покі не прыдзе сам разбойнік, яго ойцец.

(Салдаты хватаюць Панаса. Панас крычыць, вырываецца, кусае салдат за рукі. Бабка Наста падымае дзікі крык: „За што? За што? Не дам дзіцяці".

*Заслона*

## АКТ ДРУГІ

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Ноч. Глухі лес. На скрайку леса стаіць магутны дуплясты дуб. Прысланіўшыся да дуба, стаіць дзед Талаш. Адразу яго не відаць; ён знарок замаскаваўся так, каб быць незаметным. Паволі выходзіць трохі наперад, вылучаецца ўся яго постаць. Ён азіраецца ў глыб лесу, прыслухоўваецца. Свішча пад голас савы. Слухае, у лесе поўная цішыня.

Дзед Талаш (*затрывожаны*). Гм... Што ж бы гэта магло значыць? І места і час дамоўлены... Ці то памылка якая, ці хлопец нешта зблытаў? Не разумею. (*Зноў слухае*). А можа

здарылася што? (*Некаторы час стаіць моўчкі, потым ціха напявае старасвецкую песню*):

Ой, валы-ж мае ды ўсё паловыя,
Чаму-ж вы не арэце?
Ой, леты мае, ой, леты мае,
Чаму-ж дарма гінеце!
Каб да тых валоў
Добры аратай
. . . . . . . . . . . .
А каб для мяне
Добрая дзяўчына,
То-б я радаваўся.

(Перастае спяваць. Пазірае на дуб, стукае рукою па яго камлі).

Дзед Талаш. Адзін я ў лесе, як воўк. Хіба ты, стары дубе, адзіны сябр мой тут. Эх, гаварыць ты не ўмееш, дружа мой... А можа гэта і добра, што ты безгалосы. Пакажыся-ж, голубе, як ты служыш мне. (*Засоўвае руку ў дупло, водзіць рукою па дупле. Задаволена.*) Не, не ашукаў мяне, голубе. Захаваў мне прыяцелку старую (*вымае шомпал, прачышчае пакуллем рулю*). А цяпер, прыяцелка мая, прыгатуемся на ўсякі выпадак. А каб надзейней было, голубе, залажу кулю. (*Дастае порах, набівае стрэльбу, закладае кулю*). Ну, вось цяпер мы не з пустымі рукамі. (*Яшчэ раз аглядае стрэльбу і стаўляе яе каля дуба, сам падаецца бліжэй да яго, зноў прыслухоўваецца. Свішча па-савінаму. Тая-ж цішыня*). Няма... І што-ж бы гэта магло значыць? (*Пасля паузы з горыччу*). Эх, жыццё ты наша... Праклятыя паны... Туляюся, як апошні злодзей. А што я зрабіў? Дзе-ж справядлівасць на свеце? (*Апускае галаву, моцна задумваецца*). А можа ён не пад Целяшовым, а пад Яшуковым дубам чакае мяне... Ой, ці не так яно і ёсць, голубе. (*Прыслухоўваецца. У лесе чуецца шорах, трэск сукоў пад нейчымі нагамі. Дзед Талаш настарожваецца*).

Дзед Талаш. Звер ці чалавек? (*Пауза*). А можа Панас. (*Бярэ стрэльбу, становіцца за дуб, чуць-чуць высоўвае галаву*).

Дзед Талаш. Хто ідзе? (*Крокі спыняюцца, адказу не чуваць*). Хто тут?

Голас з лесу. А хто пытае?

Дзед Талаш. Пытаюся я.

Голас. А хто ты?

Дзед Талаш. Першы пытаю я, а ты першы адказвай мне.

Голас. Чалавек, хто-ж я.

Дзед Талаш. Чалавек, то чалавек, ды чалавек цяпер горай за звера.

Голас. Ты адзін?

Дзед Талаш. Як для добрага чалавека, голубе, дык адзін, а на ліхога маю стрэльбу, набітую куляй.

Голас. Ну, то кінь сваю стрэльбу: стрэльба ёсць і ў мяне і мусіць быць лепшая за тваю.

Дзед Талаш. Дык пакажыся, голубе: па гутарцы і па голасу ты быццам-бы свой, тутэйшы.

(Дзед Талаш ступае на крок ад дуба).

Голас з леса (*наближаючыся*). А кім-жа мне быць яшчэ, калі не тутэйшым.

(З лесу высоўваецца постаць высокага чалавека. Не даходзячы крокі тры, чалавек запыняецца).

Чалавек (*у радасным здзіўленні*). Дзядзька Талаш!

Дзед Талаш (*таксама ў радасці*). Мартыне, голубе. А бадай-жа ты ліха ніколі не ведаў. Скуль ты ўзяўся? Здароў-жа -сынку:

(Радасна вітаюцца за рукі).

Мартын Рыль. Каго-ж тут, дзядзька, вартуеш?

Дзед Талаш. Гэ, голубе. Каго вартую? Выходзіць, сынку, так, што вартую сам сябе. Ты-ж тут, голубе, як апынуўся? Падобна, сынку, на тое, што і ты быў у баталіі.

Мартын Рыль (*горда*). А такі і быў. І была-ж баталія.

Дзед Талаш. Дык раскажы, сынку, як гэта яно было?

Мартын Рыль. А было так. Назганялі нас чалавек трыццаць і гоняць з каталажкі ў каталажку, каб дух большэвіцкі з нас павыбіваць. Вось я і злажыў план: напасці раптам грамадою на канвой, калі я крыкну: „Стой, лапаць скінуўся“. Спадабалася ўсім гэта стратэгія. Разыгралі пад арэх, абяззброілі ўвесь канвой. І паглядзеце, дзядзька, што за стрэльба ў мяне, у канвойніка капрала адабраў, англійскі карабін.

Дзед Талаш (*бярэ стрэльбу, разглядае*). Ну-ж і штучку здабыў ты сабе, Мартыне.

Мартын Рыль (*горда*). Сем патронаў закладай і жар: за дзве вярсты дастане, толькі не спудлуй.

Дзед Талаш (*цешучыся з стрэльбы*). Ах, згінь іх доля. І чаму, голубе, мяне з вамі не было. Праўдзіва прыказка: і ліха без дабра не бывае.

Мартын Рыль. Ды я цяпер і не шкадую, што пад панскім канвоем пахадзіў: прысягі-ж з хлопцаў я не зняў і стрэльбу здабыў.

Дзед Талаш. А скажы, голубе, куды-ж хлопцы [illegible]?

Мартын Рыль. Я пусціў іх з тым, каб пры першай патрэбе сабраць іх. Мне-ж трэба Жыбуля пабачыць. Ён нічога не ведае. Меўся тут быць, ды час ужо сышоў.

Дзед Талаш (*разважліва*). А скажы ты мне, голубе, што-ж далей будзе. Ні табе, ні мне, сынку, покі паляка не выгналі, паказаць носу дамоў не можна. Ты-ж не ведаеш, голубе, і мае бяды.

Мартын Рыль. Чуў, дзядзька Талаш, чуў пра вашу баталію з палякамі: пра вас, як пра героя расказваюць людзі.

Дзед Талаш (*задаволены*). Што ты кажаш, голубе.

Мартын Рыль. Так, так, дзядзька. А што рабіць далей, дык я вось што вам скажу: нам трэба паціхоньку за зброю брацца ды з тылу біць панскую нечысць. А людзі для гэтага зной-

дуцца. Амаль адзін узвод ужо ёсць. Чырвоная-ж Армія дапаможа нам: зброю дасць і камандзіраў добрых прызначыць.

Дзед Талаш. Праўду ты кажаш, Мартыне. Дык давай, голубе, разам трымацца, я табе памагу, а ты мне. Ды ў цябе-ж і стрэльба такая хвацкая... Эх, сынку, здабыць бы і мне настаяшчую ваенную стрэльбу.

Мартын Рыль. Калі па-сапраўднаму да справы прыступіць, то і стрэльба знойдзецца.

Дзед Талаш. То пойдзем, сынку, разам. Я тут свайго Панаса чакаў, а ён не прышоў. Баюся, ці не здарылася чаго з ім. Дык пойдзем, сынку: можа ў вёску прабяромся і даведаемся. А ў дарозе нешта надумаем. Няхай нам пан робіць на глум, а мы, голубе, будзем браць сабе на вум.

Мартын Рыль. Праўда ваша.

(Дзед Талаш і Мартын Рыль ідуць у лес).

---

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Тая-ж ноч. Хата дзеда Талаша. Убогая абстаноўка беднай сялянскай хаты: печ, качарэжнік, стол у куце, дзве лавы, палок. Над сталом цмяна куравіць газоўка. Каля печы на дубовай калодцы сядзіць бабка Наста. Насупраць яе Аўгіння.

Бабка Наста (*тужліва*). І не прыдумаеш, Аўгінька, што рабіць. Такая-ж напасць навалілася на нас. Разбурылі сям'ю. Апошняе сена аграбілі. Хлопца, недалетка забралі. Старога застраліць хацелі. І бадзяецца чалавек немаведама дзе. За што-ж на нас так угневаўся бог? (*Закрывае рукамі твар, плача*).

Аўгіння (*са спачуваннем*). Ну, што-ж цётачка, зробіш. Трэба пацярпець. Не можа-ж быць, каб за несправядлівасць ды не было пакарання.

Бабка Наста. Ох, божа мой. Усе костачкі баляць. І як я жывая засталася.

Аўгіння. Ох, звяр'ё праклятае. Так глуміцца над людзьмі. Не, цётачка, праўда верх возьме. (*Дастае з-за пазухі пакунак*). Я вам, цётачка, трохі скораму прынесла. Ды толькі-ж вы нікому не кажэце, што я да вас заходзіла, каб Васіль не ведаў.

Бабка Наста. Барані божа, ён-жа войт.

Аўгіння. Ох, яго войтаўства мне поперак горла становіцца.

(Чуецца стук у дзверы. Жанчыны палохаюцца. Аўгіння азіраецца, дзе-б схавацца.)

Бабка Наста. Божухна! Хто-ж гэта?

(Уваходзіць **Максім**).

Максім. Добры вечар.

Бабка Наста. Ну што-ж ты чуў, сынок?

Максім. Нічога не чуў. Дарма толькі ногі трапаў.

Бабка Наста (*цяжка ўздыхае*). Ох ліха. Можа забралі і яго— каравуляць-жа старога.

Максім. Таптаўся паміж двух дубоў. Можа размінуліся.

Аўгіння. Ды пэўна-ж маглі і размінуцца.

Максім. А каля Целяшова дуба Жыбуля сустрэў. Думаў, што бацька, а ён там Мартына чакаў, не ведаў, што і яго забралі.

(Стук у дзверы).

Бабка Наста. Можа і паляк... (*Усе ўздрыгваюць*).

(Расчыняюцца дзверы. Уваходзіць дзед Талаш са стрэльбаю і з сумкаю паляўнічага праз плячо. Бабка Наста нямее ад радаснага здзіўлення).

Дзед Талаш. Добры вечар.

Аўгіння (*кідаецца да дзеда Талаша*). Гэта вы, дзядзька.

Дзед Талаш. Здарова, Аўгінька. А ты, бабка, чаго ляжыш?

Бабка Наста. Нічога, так, нядужыцца трошкі.

Дзед Талаш (*быстрым поглядам акідае хату, палок і печ*). А што-ж гэта не бачу я Панаса, бабка?

(Момант кароткага і цяжкага маўчання).

Дзед Талаш (*затрывожаны*). Дзе Панас? Што з ім?

Бабка Наста. Забралі Панаса.

Дзед Талаш (*адступае крок назад, моцна ўражаны*). Забралі, за што?

Бабка Наста. За цябе, стары. Ты вырваўся, уцёк, а яго забралі.

Дзед Талаш (*у вялікім узрушэнні*). Забралі. Дзіця нявінна забралі!

(Пауза. Бабка Наста плача. Аўгіння стаіць утупіўшыся).

Максім (*пасля суровага маўчання*). І гэты кат Крулеўскі сказаў: „будзем трымаць яго ў астрозе, покі не прыдзе яго бацька". А матку бізунамі спаласавалі.

Дзед Талаш (*садзіцца на лаву*). Дзе-ж ёсць на свеце такая жорсткасць?

Бабка Наста (*неспакойная*). Думай, стары, што рабіць. Ды не заседжвайся доўга. Будзе горш, калі яны цябе зловяць самі.

Аўгіння (*са страхам у голасе*). Вас каравуляць, дзядзька. Асцерагайся.

Дзед Талаш (*пасля паузы*). Пайду, пайду, голубе, эгэ-ж. (*Мяняе тон гутаркі, згортвае кулакі*). Ды не так, як ты думаеш, гіцаль, панская морда. (*Лагодна да бабкі Насты*). Бабка, збірай мяне ў дарогу.

Бабка Наста. А куды-ж ты пойдзеш?

Дзед Талаш. Потым скажу, а ты не зводзь часу. (*Бабка Наста выходзіць. Дзед Талаш зварочваецца да Аўгінні*). Аўгінька, нікому ні шэп, што ты бачыла мяне тут.

Аўгіння. Ой, не, дзядзечка, што вы!

Дзед Талаш (*да Максіма*). Максіме. Вазьмі стрэльбу, голубе, ды ідзі стань на варту каля клуні, а яму скажы, няхай у хату зойдзе.

Максім. Каму?

Дзед Талаш. Ідзі, сынку, сам пабачыш.

(Максім бярэ стрэльбу, выходзіць. Аўгіння таксама збіраецца ісці. Дзед Талаш затрымлівае яе).

Дзед Талаш. Пабудзь трошкі, бо можа мы не хутка пабачымся.

Аўгіння. А маё сэрца нібы чула, што я вас убачу. Мая Алеська прасіла—пойдзем да дзеда Талаша: ён казку раскажа. І вось як яно сталася.

Талаш. Нічога, нічога, Аўгінька! Пераджылі лета гарачае, пераджывем і панскую няволю.

(Грук у дзверы. Дзед Талаш выходзіць у сені. Адтуль чуюцца яго словы: „Заходзь, заходзь, сынку, а я зараз.“ На парозе паяўляецца **Мартын Рыль**. Убачыўшы Аўгінню, ён, здзіўлены, спыняецца. Аўгіння момант глядзіць, потым уся парываецца да яго).

Аўгіння. Мартын, ты. Мартын!

Мартын. Вось дык так!

Аўгіння. Пусцілі цябе?

Мартын. Пусціў-то сябе я сам... А я думаў пра цябе, Аўгіння.

Аўгіння (*у радасным хваляванні*). Думаў. Няўжо гэта праўда?

Мартын. Мне, от паверыш, цяжка нейк стала, што я з табою растаўся тады, нібы ў сварцы. Хацелася сказаць табе добрае слова, от тое, што ў сэрцы жыве, а нейкі чорт у другі бок язык павярнуў. А калі мяне вялі арыштаванага, а ты стаяла, то мне так хацелася сказаць табе тое слова, ды думаю сабе, не трэба рабіць гэтага пры людзях, ды каб яшчэ паны—сабакі чулі.

Аўгіння (*туліцца да Мартына*). Мартын, міленькі. Я-ж вочы праплакала: так шкода было, што цябе забралі. І ты цяпер вольны. Як-жа я рада. Я хачу каб ты ведаў адно: цябе аднаго любіла, люблю і буду любіць. (*Уздыхае*). Эх, Мартын: так усё жыццё: блукаем адзін каля аднаго, а разам ісці не можам.

Мартын. Хіба-ж не мая была праўда, калі я казаў, што не маю права заглядацца на чужую жонку? Хітруеш ты са мной.

(Уваходзіць дзед **Талаш** і **бабка Наста**).

Дзед Талаш. Ну, сынку: збіраемся ў дарогу—па вёсцы польскія патрулі ходзяць. Няма часу, бабка. Пасілкуемся ў лесе.

Бабка Наста (*дае дзеду торбу з харчамі*). Вазьмеце-ж гэта з сабою і няхай вас бог бароніць... Ох, божухна. Да чаго мы дажылі.

Мартын Рыль. От, цётка, нічога: дажывуцца і палякі, што не будзе ім ні хлеба, ні табакі.

(Уваходзіць **Максім**, дакладае).

Максім. Толькі што прайшлі патрулі і падаліся на другі канец вёскі. Калі ісці, дык самы час.

Дзед Талаш. Так, сынку, трэба ісці.
Бабка Наста (*цяжка ўздыхае*). Ох, божухна.

(Чуецца стук у акно. Перапалох у хаце. Мартын Рыль бярэ свой карабін, займае найболей выгадную пазіцыю. Аўгіння кідаецца ў сені. Дзед Талаш хапаецца за сякеру. Бабка Наста хаваецца за дзеда Талаша).

Талаш. Максім, адчыні. А ты, Аўгінька, у сенцах схавайся, як увойдуць, уцякай і нікому ні шэп...

(Максім выходзіць на двор са стрэльбай. Момант маўклівага напружанага чакання. Уваходзяць **Максім** і **Жыбуль**. Жыбуль запыняецца на парозе, аглядае прысутных).

Жыбуль. Свае, таварышы, свае.
Мартын Рыль. Таварыш Жыбуль! А мы ўжо хацелі сустрэць цябе, як няпрошанага госця. (*Радасна паціскае Жыбулю руку*).
Жыбуль. Мартын, браток. Ну і маладзец-жа ты. Не ведаў я, што з табою, ды думаў, дзе ты прападаеш.
Дзед Талаш. О, голубе. І праўда—прападаем.
Мартын Рыль. Тры дні быў пад белапольскім канвоем, ды дагадаліся самі вярнуць сабе волю: канвой абяззброілі, у лапці абулі, а самі хто куды.
Жыбуль. Маладзец. Ад усяго сэрца рад за цябе. Ну, пайшлі, тут небяспечна. Бывайце здаровы.

(Талаш, Жыбуль і Рыль развіталіся з бабкай Настай і выходзяць).

Максім. Бацька, я з табой.
Наста. Сынку родны.

*Заслона*

## СЦЭНА Ў ВАКОЛІЦЫ.

Дзед Талаш. Брадзягі мы і бяздомнікі, голубе. Сына майго недалетка арыштавалі, як заложніка. Пакутуе без віны. Бабу збілі. Навалілася ліха на народ. Што рабіць, голубе? Памажы, навучы.
Жыбуль. Нам тут няма калі, другі мае, траціць многа слоў. Дык вось. Перш—на перш збірайце пакрыўджаны панамі народ, злучайце яго ў адну арганізаваную сілу. Ідзе вайна—вайна багачоў супроць нас, рабочых і сялянскай беднаты. На вайну трэба адказаць толькі вайною, таварышы. Дык так: арганізуйце партызанскія атрады, бейце пана з сярэдзіны, з тылу. А партыя бальшэвікоў дапаможа вам усімі сродкамі. Аб вашым-жа сыне, бацька, не трывожцеся. Помніце толькі адно: трымайцеся Чырвонай Арміі і рашуча вазьмецеся за зброю.
Дзед Талаш. Так, так, голубе, іншага збавення няма.
Жыбуль (*да Рыля*). Вёску Сселішча ведаеш?
Мартын. Ведаю.
Жыбуль. Прабярыся да раніцы туды, знайдзі кульгавага каваля і перадай яму маё даручэнне. Слухай...

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Штаб батальёна. Палатка. На паходнай койцы сядзіць Букрэй, дыміць махоркаю На сярэдзіне палаткі стаіць стол. На стале ляжыць карта тэатра вайны і стаіць гаршчок з мёдам. За сталом сядзяць камандзір батальёна Шалёхін і тры ротныя камандзіры. У глыбіні палаткі ляжыць Жыбуль і нешта піша.

Шалёхін (*да ротных камандзіраў*). Таварышы, прашу папрабаваць мядку. Мёд знамяніты, дзяшовы і сярдзіты. Усю прыгожасць палескіх кветак сабралі пчолы ў гэтым мёдзе.

Грыгарук. Да ты, брат, настаяшчы паэт: так распісваеш свой пачастунак, што не пачаставацца проста грэх. (*Запускае ў гаршчок лусту хлеба, дастае, моўчкі ўзіраецца ў мёд*).

Ротны Пятраш (*да Грыгарука*). Ты што там пазіраеш? Знаёмую спаткаў ці што?

Грыгарук Знаёмую не знаёмую, а звычайны труп пчалы.

Пятраш. Нічога, друг. Еш, мёд, воск і пчалу: весялей жывату будзе. (*Сам апускае хлеб у гаршчок*).

Грыгарук (*жуе мёд з хлебам*). А мёд сапраўды дзівосны.

Ротны Путнік. Толькі Букрэя на мёд не клікаць: у яго лапа, як у мядзведзя—раз чарпане і памінай як звалі.

Грыгарук. Не так страшна яго лапа, як жывот.

Букрэй. Не бойцеся, таварышы камандзіры: покі сніўся вам мёд, Букрэй мёдам напоўніў жывот: нанасіў столькі, што і два раі за лета не наносяць.

Шалёхін. Букрэй маладзец: нідзе зевака не дасць.

(Уваходзіць чырвонаармеец, запыняецца; да Шалёхіна).

Чырвонаармеец. Таварыш камандзір. На заставе затрымалі стары сялянін без дакументаў. Прышоў, кажа, ад палякаў. Вас пытаецца. Што прыкажаце рабіць?

Шалёхін. Давай яго сюды.

(Чырвонаармеец паварочваецца па-ваеннаму, выходзіць).

Путнік. Што-ж гэта за стары такі ад палякаў?

(Дзверы расчыняюцца, чырвонаармеец прапускае дзеда Талаша. Дзед Талаш уваходзіць з сумкай паляўнічага і з воўчаю скураю на плячы. Уся постаць і адзенне дзеда Талаша выклікаюць момант недаўменнага здзіўлення. Дзед Талаш абводзіць поглядам усіх прысутных, знаходзіць Шалёхіна і парываецца да яго).

Дзед Талаш. Нарэшце знайшоў такі вас, голубе.

Шалёхін (*падымаецца з-за стала, ідзе насустрач дзеду Талашу*). А, бацька Талаш. Да якім-жа ветрам занесла вас сюды? (*Здароўкаюцца за рукі*). Таварышы, будзьце знаёмы: мой былы гаспадар кватэры, Талаш. (*Бярэ яго пад руку*). Сядайце з намі за стол, ды мядку пакаштуйце.

Дзед Талаш. Не сяду, я і не адкрыю рота для яды, голубе камандзір, покі не раскажу пра сваю бяду.

Шалёхін (*да дзеда Талаша*). Ну, усё-ж сядайце і расказвайце.

Дзед Талаш (*садзіцца*). Не гаспадар я, голубе, свае хаты.

Я бяздомнік і туляга. За маю крыўду ды нясу кару. Ад каго? Ад смярдзючага пана і яго войска. Мала таго, што яны зняважылі чалавека, аграбілі, дык яны яшчэ хочуць пасадзіць мяне ў астрог. Не злавілі мяне, дык сына-недалетка забралі, каб гэтым зацягнуць да астрогу бацьку. Няўжо-ж, таварышы—голубе, скарыцца мне перад панскаю воляй?

Шалёхін. Не трэба, бацька, пакарацца.

Дзед Талаш. Дык памажэце-ж мне, я ўсіх прашу вас, голубе таварышы. Я хачу сілаю вызваліць свайго сына і не самаму садзіцца ў астрог панскі, а паноў лавіць, ды паглядзець, як крэпка трымаюцца галовы на іх карку.

Жыбуль (*выходзіць з глыбіні і вітаецца з Талашом*). Брава, дзед. Ніякай літасці да пана.

Дзед Талаш. А, таварыш Жыбуль, як гэта добра... І яшчэ прашу вас, голубе камандзір: дайце мне настаяшчую ваенную стрэльбу, альбо пазычце яе на час. З маёй ламачынай не паваюеш ды з ёю і не пусціў сюды чырвонаармеец.

Букрэй (*у захапленні*). Баявы дзед, яй богу.

Ротныя камандзіры. Трэба выдаць дзеду стрэльбу. Чырвонаармейцам запісаць яго.

Шалёхін. А за што на вас палякі так уз'еліся?

Дзед Талаш (*махае рукою*). А свету-б яны не ведалі, голубе... Не могуць даравать, што ў маёй хаце стаяў камандзір чырвоных, гэта значыць вы, голубе. А потым-жа ізноў такі, я на польскіх салдат з сякерою кінуўся. А яны, як звяр'ё, навалліся на мяне ўтрох, каб звязаць, дык я іх так турнуў, што яны, як каноплі, пасыпаліся ад мяне. Вырваўся ад іх, ды ходу ў лес. Стралялі ў мяне з рэвальверта.

Шалёхін. Маладзец, бацька.

Букрэй. Ды няўжо ты, дзед, так дуж?

Дзед Талаш (*змервае Букрэя поглядам з ног да галавы*). А давай пабарукаемся, голубе. (*Барацьба. Дзед Талаш нагінае Букрэя*).

(Шалёхін, ротныя камандзіры гукаюць дзеду Талашу „Ура").

Путнік. Ну, што, Букрэй, скажаш?

Букрэй. Да я-ж казаў, што дзед баявы, дзед на ўвесь свет.

Путнік. Вот то-та. (*Да дзеда Талаша*). А што гэта за скура ў вас і на што яе носіце?

Дзед Талаш. Воўчая, голубе. А нашу яе таму, што збіраюся выць па воўчы.

Грыгарук. О, дзед умее гаварыць загадкамі.

Дзед Талаш. Гэта не загадка, голубе, а праўда. Жыў у лесе дзікі кабан, заманулася яму раз пайсці на здабыткі. Вышаў з гушчару на сваю імшару і давай у зямлю каля карэння капацца. Захапіўся сваёй працай так, што нічога не бачыць і не чуе, што вакол робіцца, эге ж. Аж тут вышаў воўк і з таго звера вачэй не спускае, і калі кабан закапаўся ў зямлі з галавою, дык воўк на яго стралою. Разарваў дзіку жывот, ды думае сабе, голубе, пан гэты сівы—на месяц мне будзе

спажывы. А вышла не так, бо гэтага пана я каравуліў. І злажыў там ён косці, а сівую скуру яго я на плечы сабе палажыў. Няхай сабе будзе пра запас, а кабана ў лесе вазьміце, гэта мой падарунак для вас. Вось і ўвесь мой сказ.

Грыгарук (*пасля некаторай паузы*). Здорава. Да вы, бацька, герой.

Пятраш. А зараз замест воўчых скур, пабольш бы вам жупаноў панскіх здабываць.

Букрэй. Чуе маё сэрца, што мы з дзедам разам ваяваць будзем.

Шалёхін. Таварышы! Нам бацька сваё слова сказаў. А мы што скажам яму? А сказаць павінны. Давайце падумаем, ды абмяркуем.

Путнік. Аказаць яму дапамогу—наш абавязак.

Шалёхін. Верна, таварышы. А што да мяне асабіста, дык я проста ў даўгу перад сваім былым гаспадаром: я ў значнай ступені паслужыў прычынай яго бяды.

Жыбуль. Таварышы! Бацька, як мы яго называем, стаў на верную дарогу. Я ведаю, ён збірае актыўных і смелых людзей і арганізуе іх на барацьбу з белапалякамі.

Дзед Талаш. Восем чалавек я ўжо маю, а заўтра іх будзе болей, голубе.

Жыбуль. А Рыль таксама не з пустымі рукамі прыдзе. Вось бачыце, таварышы, які народ, яны для нашай арміі на вайне каштоўнейшая дапамога. Але дапаможам і мы ім і перш за ўсё іх трэба ўзброіць сучаснымі сродкамі ваеннай тэхнікі. А што да асабістай справы бацькі Талаша, то перш за ўсё трэба даведацца, дзе знаходзіцца яго арыштаваны сын...

(Уваходзіць **чырвонаармеец**).

Чырвонаармеец. Прыбыў партызанскі атрад. Начальнік яго просіць экстрана далажыць аб ім.

Шалёхін. Вядзі яго сюды. (*Уваходзіць Мартын Рыль. Да Рыля*). А я вас, здаецца дзесь бачыў.

Дзед Талаш. Да гэта-ж Мартын Рыль, голубе. У маёй хаце сустракаліся. (*Да Рыля*). А мы толькі што, сынку, успаміналі цябе.

Жыбуль. Гэта наш пэўны і надзейны чалавек.

Шалёхін. Помню, помню. Што скажаце?

Мартын. Таварыш Жыбуль, тваё даручэнне я выканаў. Каваль з людзьмі прыбудзе сёння.

Жыбуль. Добра.

Мартын. А я, таварышы камандзіры, прывёў сваіх партызан і прышоў да вас параіцца і прасіць дапамогі. Атрад затрымаў парабка з фальварка Віркуцце. Парабак крыху дзівакаваты. Ад яго мы даведаліся, што ў Віркуцці асталяваўся штаб белапольскай контр-разведкі.

(Рух сярод прысутных. Чуюцца паасобныя галасы: „Цікавае паведамленне" „Малайчына Рыль").

Шалёхін. А затрыманы з вамі?
Мартын. Тут.
Шалёхін. Пазавеце яго сюды.

(Чырвонаармеец прыводзіць **парабка**, бедна адзетага, худога, у лапцях. Парабак не зусім цвёрда стаіць на нагах, азіраецца).

Парабак. І куды ты папаў, пане... тфу, тфу. Які з цябе пан, брат Дарвідошка, ну, але.

Букрэй. Дарвідошка ці дацягні дошка.

Дарвідошка (*пакрыўджана*). Дарвідошка, ну але. А калі б я быў... Данясі Бервяно, то ці не ўсё табе адно? Не таму салдат Батура, што ў яго дрэнная натура, ну але.

Шалёхін (*да парабка*). Ты хто?

Парабак. А ці я ведаю. Дарвідошка, ну, і Дарвідошка, ну але.

Шалёхін. Гэта тваё прозвішча такое?

Дарвідошка. Ну, але: і людзі мне кажуць ды і сам я ведаю, што прозвішчам не пахвалішся. Але цо кому до тэго, жэ мам коня худэго?

Шалёхін. А чаго ты хістаешся? Хворы ці выпіў?

Дарвідошка. Выпіў трошкі, ну, але.

Шалёхін. А ты дзе жывеш?

Дарвідошка. У Віркуцці. Парабак Дарвідошка. Ну і жыццё...

Шалёхін. А дзе ты выпіў?

Дарвідошка (*ажыўляецца*). Салдат паднёс. Цэлую пляшку. Там, брат, паны, паненкі, афіцэры. І салдаты на варце стаяць. А паны гуляюць, балююць, ды і справы там нейкія робяць. Салдат-жа мне і гаворыць, ён за вартавога там пастаўлен: пашукай мне, кажа, ды прывядзі маладзіцу. Ей-богу!

Шалёхін. І ты пашоў маладзіцу шукаць?

Дарвідошка (*чухае патыліцу*). Ну, дзе я маладзіцу яму знайду? Халера іх там падушыла-б усіх: і паноў і ксяндзоў і афіцэраў і салдат. Адно той карысці, што выпіў. Выпіў і пайшоў спяваючы. Аж тут мяне і цапнулі. Вось табе і маладзіца!

(Прысутныя весела смяюцца).

Букрэй. Дазвольце мне, таварыш камандзір, сказаць.

Шалёхін. Гавары, Букрэй.

Букрэй (*хітра*). Мне шкода Дарвідошкі: ён не можа маладзіцы знайсці польскаму салдату. Трэба памагчы. Ён павінен вярнуцца ў Віркуцце з маладзіцаю. А маладзіцаю быць вазьмуся я.

Путнік. У Букрэя камбінатарская галава. Букрэй на верны шлях ступае. Даручыць яму візыт да паноў у Віркуцце зрабіць.

Дарвідошка (*недаўменна аглядае прысутных, запыняе погляд на Букрэю*). Ты—маладзіца? А божа-ж мой (*рагоча*). Да такая маладзіца забрыкае майго кавалера, каб яго халера!

(Сярод прысутных рогат).

Букрэй. А чым я не маладзіца. Вось глядзі.

(Знімае з пляча дзеда Талаша воўчую шкуру, абкручвае ёю стан, потым завязвае шалік замест хусткі, жаманіцца, падрабляецца пад маладзіцу і гаворыць тонкім голасам: „пшэпрашам пана, мне і казалі, што пан дужа прыгожы, і я з ахвотаю пашла да пана“. Усе рагочуць).

Шалёхін (*ківае чырвонаармейцу. Да Дарвідошкі*). Ну, добра, ідзі трошкі адпачынь, а потым табе скажуць, што рабіць.

(Чырвонаармеец выводзіць Дарвідошку).

Жыбуль. Покі мы яго праверым, наглядайце за ім.

Шалёхін. У Віркуцце, таварышы, мы павінны глянуць ваенным вокам. Верна?

Галасы. Верна!

Шалёхін. Стала быць, пашлем узвод чырвонаармейцаў разам з партызанамі пад камандаю Букрэя. Правільна?

Галасы. Правільна.

Жыбуль. Мы тут смяяліся і пасмяяцца не грэх. Але, таварыш Букрэй, ты ідзеш на важную і адказную справу. Табе даручаецца цэлая экспедыцыя з удзелам партызан. Гэта іх першае баявое хрышчэнне. Ты чалавек у ваеннай справе спрактыкаваны, перадай сваю практыку партызанскім камандзірам.

Букрэй. Слухаю, таварыш Жыбуль.

Шалёхін. Твая задача—разведаць Віркуцце і захваціць гняздо белапольскай разведкі. (*Да дзеда Талаша*). Праз яе, бацька, мы даведаемся аб вашым сыне.

Дзед Талаш (*абедзьвюма рукамі трасе руку Шалёхіна*). Дзякуй, голубе.

Шалёхін. Выдаць баявыя вінтоўкі і патроны для партызан. Узводу Букрэя дадаць два кулямёты. Зараз-жа выступіць у паход. Таварышы, ротныя камандзіры. Паклапаціцеся, каб экспедыцыю выправіць належным чынам.

(Ротныя камандзіры, Букрэй выходзяць. Астаюцца Шалёхін, дзед Талаш, Мартын Рыль і Жыбуль).

Шалёхін. Дык так, таварышы, сёння вам прадстаіць баявая работа. (*Дае Талашу вінтоўку*). А гэта табе, бацька Талаш.

Талаш. Дзякую.

Шалёхін. Што важна ў вашым паходзе? Зорка сачыць і ведаць, што робіцца навакол вас. Ні на крок не, ісці ўсляпую. Разведка перш за ўсё. Другое—крэпкая ўзаемная спайка. Не верыць на слова нікому, што ён скажа аб працаўніку. Правярайце. З Дарвідошкі не спускаць вока. Помніце, што вораг хіцёр, што пад відам нашых людзей, ён можа падкінуць сваіх агентаў.

(Збіраюцца чырвонаармейцы і партызаны. Партызанам выдаюць вінтоўкі і патроны. Дзед Талаш радасны і ўзрушаны бярэ вінтоўку, знімае шапку, кланяецца і дзякуе Шалёхіну. Пазірае на Жыбуля. Той ківае галавою. Дзед Талаш падыходзіць да партызан).

Дзед Талаш. Таварышы партызаны! Нам выдалі зброю. Дык будзем-жа крэпка трымаць яе ў сваіх руках, каб ніводная куля

не мінула панскай галавы. Хіба гэта не гонар нам, голубе, партызанскае войска, што Чырвоная Армія і яе камандзіры пазіраюць на нас, як на сапраўдных ваякаў? Разам з Чырвонай Арміяй будзем гнаць паноў з нашай зямлі. Няхай жыве Чырвоная Армія і яе слаўныя камандзіры!

(Партызаны крычаць „Ура").

*Заслона*

## АКТ ТРЭЦІ

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Дзея адбываецца ў хаце Васіля Бусыгі. Абстаноўка тая самая, што і ў першым акце ў першай карціне. За сталом сядзяць Бусыга, Бруй і Бірка.

Бірка (*да Васіля Бусыгі*). А мы, заўваж, суседзе, па настаяшчаму і не адсвяткавалі твайго высокага чыну. Войт—гэта табе не кот наплакаў.

Бруй. Так, так, ягамосцю войт... І вось, ягамосцю, што цікава: ужо, калі бог каму што прызначыў, дык тое і ў агні не гарыць і ў вадзе не топіцца.

Бусыга. Як разумець, на што ківаеш, васпане?

Бруй. Вось здавалася, ягамосці, што свет ужо дагары нагамі перавярнуўся. Прышлі большэвікі, пачалі свае парадкі заводзіць: а вось-жа не: прызначыў бог нашаму Васілю ў начальстве хадзіць—начальствам ён і стаўся. Не старшыня ў воласці, дык войт у гміне.

Бірка (*жартліва*). Бог, заўваж, суседзе, не цяля—бачыць круцяля. А войта замачыць трэба. Шкода, што гаспадыні няма.

Бусыга. Ну што-ж, васпане-суседзі: замачыць дык замачыць, я так думаю, каб не сох. Але васпане-суседзі, у вас думка адна, а ў войта іх тысячы. На тое-ж і войтам паставілі, каб думаў. А думаць, я так думаю, ёсць аб чым.

Бірка. Аб чым-жа думае, заўваж, суседзе, войт?

Бусыга. А чулі вы, што Рыль па лесе вольным ходзіць?

Бруй. Вольны?

Бірка. Па лесе?

Бруй. Як-жа гэта так?

Бусыга. Сагналі іх цэлую шайку, васпане-суседзі, а яны канвой раззброілі, зброю пазабіралі і па лясах парассыпаліся.

Бірка (*уражаны*). А-а-а! Вось разбойнікі! Канвой абяззброілі! Ну, то-ж яны, заўваж-суседзе, так сабе ціха сядзець не будуць.

Бруй. І стары Талаш, ягамосці, добрая штучка. Не зловяць ніяк. Цяпер ён да іх напэўна падаўся.

(Уваходзіць пан **Гэмбіцкі**).

Гэмбіцкі (*важна*). Дзень добры, панове!

(Бусыга, Бруй і Бірка мітусяцца, устаюць, усе кланяюцца, адказваюць на прывітанне пану Гэмбіцкаму: „Дзень добры пану“. Гэмбіцкі падыходзіць да Бусыгі, падае руку са словамі: „Дзень добры пану гаспадару і пану войту“. Бусыга саджае за стол Гэмбіцкага са словамі: „Проша-ж пана, проша прысесці“. Гэмбіцкі садзіцца, знімае шапку. Бірка паслужліва бярэ яе, вешае на сцяну. Бруй і Бірка з павагі да пана Гэмбіцкага стаяць).

Гэмбіцкі (*да Бруя і Біркі*). Проша, панове, сядайце. (*Бруй і Бірка садзяцца. Гэмбіцкі акідвае поглядам хату, пераводзіць вочы на прысутных*). Аб чым-жа, панове, мелі гавэнду, калі то не сакрэт?

Бусыга. Ды так, проша пана васпана, пра сёе ды пра тое.

Бірка (*пазірае на сяброў, уздыхае*). Пан войт, проша пана, заўваж, суседзе, расказаў нам непрыемную навіну.

Гэмбіцкі (*раптам настаўляе вушы*). А якая навіна?

Бусыга. Нас, проша пана васпана, затрывожыла, што шайка большэвіцкага зброду з-пад канвоя разбеглася ды туляецца па лесе.

Гэмбіцкі (*махае рукою*). А, то—глупства, панове! Што з-пад канвоя бягуць арыштаваныя, няма ў тым нічога ні дзіўнага, ні страшнага. (*Іншым тонам*). Але, панове, у гэтым факце хаваецца іншая небяспека. (*Пауза*). Відочна, панове, што ў даным выпадку замешана трэцяя асоба з боку—тая галава і тая рука, што кіравала, як слушна заўважыў пан войт, тым большэвіцкім збродам. А покі яна не адсечана, то сядзець спакойна мы, панове, не маем права. (*Расшпіляе кунтуш, дастае з кішэні паперу*). Вось проша забачыць, панове. (*Паказвае адозву, чытае*): „Да ўсіх працоўных“. Падпісана „Камітэт большэвікоў Палесся“. У гэтай адозве, панове,—праграма іхняга дзеяння—заклік да так званай беднаты арганізоўваць партызанскія атрады і весці бязлітасную вайну супроць паноў, г. зн. супроць парадку, супроць культуры ў імя большэвіцкай анархіі. Вось дзе, панове, зерні заразы, гвалту, паўстанняў і ўсяго таго, што нясуць большэвікі. Але Польшча не пацерпіць і не дапусціць гэтага: агнём і мечам абясшкодзіць большэвіцкую заразу. І панове, усе, хто хоча спакою, абавязаны змагацца з большэвізмам. Няма, панове, такой хваробы, ад якой не было-б лякарства.

Бусыга. У панскай аптэцы такое лякарства, я так думаю, ёсць.

Гэмбіцкі. Так, так, пане войт. І вы яго маеце. А для гэтага трэба мець свае вочы і свае вушы, якія бачылі-б і чулі, і што робіцца ў іх, хто выпаўняе іхнюю праграму.

Бусыга. Разумеем, пане васпане.

Гэмбіцкі. О, то і добра, пане войт. І чым болей зоркае вока і чуткае вуха будзе мець пан войт, тым лепей. А мы, панове, праз маленькія сцежкі, крывенькія дарожкі, выйдзем і на шырокую дарогу. Пана войта я папрашу зайсці да павету—так дні праз тры, дзе пан атрымае болей падрабязныя інструкцыі і раскажа, што зроблена панам.

Бусыга. Слухаю пана.

Гэмбіцкі. А цяпер, панове, вядзеце далей вашу гавэнду, а я перашкаджаць вам не буду.

(Падымаецца з-за стала. Бірка падае яму шапку. Пан Гэмбіцкі развітваецца, выходзіць. Бусыга праводзіць яго. Бруй і Бірка стаяць каля стала.)

Бруй. Чуў, ягамосцю куды загнуў?

Бірка. Ведае, зауваж, суседзе, куды гнуць. (*З-за дзвярэй паказваецца Бусыга. Усе трое садзяцца за стол.*)

Бусыга. Ну, васпане, што скажаце?

Бруй. А чалавек на такую справу, ягамосці, у нас ёсць.

Бусыга. Хто? Хто, скажы, васпане!

Бруй. Саўка Мільгун, ягамосці.

(Усе трое моўчкі пераглядаюцца).

Бусыга. Праўда, праўда, васпане.

Бірка. Лепшага, зауваж, суседзе, кандыдата і не прыдумаеш.

Бусыга. То давайце, васпане, заклічам яго сюды.

Бірка (*да Бруя*). Ты першы, зауваж, суседзе, назваў яго, ты па яго і схадзі.

Бруй. Для агульнай карысці трэба пастарацца, ягамосці. (*Падымаецца, надзяе шапку, выходзіць*).

Бусыга (*да Біркі*). А мы тым часам, васпане, каля стала патупаем.

Бірка. Шкода, зауваж, суседзе, што гаспадыні дома няма.

Бусыга. А ведаеш, васпане, пры такой справе можа і лепей, калі яе тут не будзе: на бабскім языку кароста сядзіць.

(Бусыга і Бірка накрываюць стол, ставяць талеркі, кладуць відэльцы, Бусыга дастае з шафы пляшку з гарэлкаю).

Бусыга. Ты, васпане, пашукай у шафіку чарку, а я пайду ў клець.

(Выходзіць. Бірка шукае чарку, спявае:
„Бадай таго каваля мяцеліца замяла,
Як ён мяне маладу замарозіў на ляду“.
Уваходзіць Бусыга, нясе каўбасу і сала).

Бірка (*аглядае закуску*). О, зауваж, суседзе, каўбаскі ў цябе — дай божа ўсякаму.

Бусыга. Барані бог ад таварышоў, васпане.

(Уваходзіць **Бруй** і **Саўка**. Саўка адзеты, як і раней. Пераступае парог, круціць лахматаю галавою).

Саўка. Я зараней кажу: выпіць—вып'ю, закусіць—закушу, а рэшту пабачу.

Бусыга. Ды табе-ж яшчэ ніхто не дае ні выпіць, ні закусіць, васпане.

Саўка. Дык, значыцца, вы паклікалі мяне сюды для таго, каб я пазіраў, як вы будзеце выпіваць і закусваць? Дык-жа не падобна да таго, іначай мой нос не свярбеў-бы.

Бусыга. Калі і галава твая такая змыслая, як і твой нос, то ўсё будзе добра, васпане. Ды покі што прашу сесці за стол.

(Усе садзяцца. Саўка садзіцца за сталом у шапцы. Бусыга налівае чарку, ківае на Бруя).

Бусыга. Ну, то дай-жа, божа, каб усё было гожа. Здароў будзь, васпане Бруй! (*Выпівае, налівае Брую, сам бярэ закуску*).

Бруй (*Бярэ чарку, да Саўкі*). Дык за цябе, Саўка, і за тваю справу, каб ты яе зрабіў на славу. (*Выпівае*).

Бірка. Складна сказаў, заўваж, суседзе. (*Бруй налівае чарку, дае Саўку*).

Саўка. Ну, дык за добрых гаспадароў, за іх коняй і кароў. Пладзіцца ім ды пладзіцца, каб і Саўка мог каля іх пажывіцца. (*Перадае чарку Бірку*).

Бусыга. Закусвай-жа, Саўка, ды скінуў-бы ты шапку, васпане.

Саўка. Скінуў-бы, ды баюся, што потым не надзену. А так яна прырасла ўжо да маёй галавы.

(Усе пазіраюць на Саўкаву шапку).

Бірка. А мог-бы ты, Саўка, заўваж, суседзе, капялюш з пяром, як пан, насіць і боты са скрыпам. Выпі. (*Дае чарку*).

Саўка (*выпівае*). На назе бот скрыпіць, а ў гаршчку трасца кіпіць.

Бруй. Не трасца была-б у гаршчку, а гавядзіна, ягамосцю.

Саўка (*захмялеўшы*). Дык, што вы мяне вакруг ды навокал водзіце? Стаўце адразу на залатыя горы!

Бусыга. О, гэта голас, васпане! Залатых гор табе не сулім, а зарабіць ты можаш.

Саўка. Ну, не. Саўка з віду просты чалавек, а натура яго панская: Саўка за работу, мазоль за руку.

Бруй. Ад такой работы, ягамосцю, мазоль не сядзе: садзіцца не будзе на чым.

Саўка. Хіцёр Зміцёр, ды і Саўка не дурак.

Бусыга. Калі ты, васпане, слухаць не хочаш, дык мы можам і не гаварыць.

Саўка. Пачаў дык і канчай. Я слухаю, а там пабачым.

Бірка. Толькі, заўваж, суседзе, сляпым не будзь.

Бусыга. Проста сказаць, ты павінен, Саўка, быць нашымі вачамі і вушамі.

Саўка. Эгэ... Ну, далей.

Бусыга. Ты павінен у партызаны падацца.

Саўка. Я? У партызаны? Ну, а калі я страляць не ўмею?

Бруй. Страляць табе, ягамосцю, і не прыдзецца.

Бусыга. Ты толькі страляй вачамі, ды слухай вушамі, вось і ўся твая работа.

Саўка. А—а! Разумею: палітычная справа. Ну, па часці палітыкі, дык гэта мне пад масць: у палітыцы Саўка маху не дасць. Іду бывала пры царскім прыжыме каня красці і пракламацыю за пазуху. Даведаўся я, што Анісіму Жыгуну паўтары гады за пракламацыю далі. Вось тут я і злажыў план. Падстрэліў пракламацыю на кірмашы, а на ёй напісана „У барацьбе здабудзеш ты права свае". Зловяць, пачнуць тузаць, бачаць—пракламацыі. Вядуць у паліцыю. А мне гэтага толькі і трэба: там я адразу вырас на тры галавы—палітык. Па несвядомасці год крэпасці дадуць замест катаргі. А мне там—лафа!

Бруй }
Бірка } (*смяюцца*). Маладзец!

Бруй. Саўка хват!

Бірка. Выпі!

(Бруй налівае, Бірка падносіць Саўку чарку, той выпівае).

Бусыга. То як-жа, Саўка, будзе.

Саўка. А што вы мне дасцё за такую палітыку?

Бусыга. Пытанне, васпане, разумнае. Дамо табе 10 ф. сала. (*Пазірае на сяброў*). Справім адзежу. А калі зробіш работу, як належыць, гэта значыць вынюхаеш і пакажаш, дзе атабарыліся Рыль, Талаш і іх хаўруснікі, дык цябе польская ўлада злотымі засыпе. Дык вось, ты думай, васпане.

(Пауза, Саўка маўчыць унурыўшыся).

Саўка (*раптам падымае галаву*). Давайце вып'ем. (*Саўку зноў наліваюць чарку*).

Бруй. Маладзец, Саўка!

Саўка (*выпівае залпам. Апускае галаву. Потым падымае вочы на абразы*). Выбачай, хрыстосе, што так прышлося. (*Да кампаніі*). Ну, Саўка, прадаўся. Давайце задатак!

Бусыга. Мы табе ўсё спаўна заплацім, калі зробіш справу.

Саўка. Не, кладзі на бочку!

Бусыга. Што-ж ты, Саўка, мне не верыш?

Саўка. Веру Яўменю, а грошы кладзі ў кішэню.

Бусыга. Колькі?

Саўка. Тысячу злотых.

Бруй. Ты ашалеў!

Бусыга. Пяцьсот.

Саўка. Пяцьсот! Каня ўкраду, у адну ноч пяцьсот зараблю. Тысячу.

Бірка. Прыдзецца даць.

Саўка. Выкладвай.

(**Бусыга** лезе ў скрыню, дае Саўку грошы, старыя. Саўка адбірае іх, старыя бумажкі бракуе).

Саўка. Ну, а цяпер дайце ў дарогу на папаску.

(Бусыга бярэ хлеб, кусок сала, загортвае ў палаценца).

Бусыга. На, вазьмі, Саўка.

(**Саўка** засоўвае за пазуху пакуначак, выходзіць са словамі: „Ну, Саўка, пашоў паветра нюхаць". За ім ідуць Бусыга і Бруй).

Бірка. Ну, справу зрабілі. (*Аглядае хату*). Але, дзе гэта гаспадыня?

(Спявае: „эх, суседачка, маё золата, паглядзець на цябе і то соладка". Уваходзіць Аўгіння з Алесяю).

Бірка. Нарэшце прышла мая княгіня!

Аўгіння. Сумыслу прышла, калі сусед адзін тут.

Бірка. Аўгінька, мілая мая! (*Стрымлівае свой порыў, падыходзіць да Алесі*). Алеська, ягадка, якая ты слаўная. І хто з вас харашэйшая, дык і не ведаю.

Аўгіння. Перастань, суседзе, глупства казаць, ды яшчэ пры дзіцяці.

Бірка (*многазначна*). А калі-б без дзіцяці?

Аўгіння. Тады-б і гутарка была-б іншая (*спакусліва глядзіць на Бірку*).

Бірка. Іншая. А якая, кралечка мая?

Аўгіння. Ну, гэта сакрэт... А што гэта за баль быў у вас?

Бірка. Не скажу... Чаму-ж ты не слугавала нам?

Аўгіння. Каб-жа я ведала, што сусед тут будзе!

Бірка. Хіба-ж ты, кралечка, думала пра мяне?

Аўгіння (*глядзіць Бірку ў вочы*). А чаму-ж і не думала?

Бірка (*у захапленні*). Божа мой! Аба мне мыслі мела.

Аўгіння. Бо я баюся за суседа, калі ён у кампаніі з Саўкам.

Бірка. Зорка мая ясная! Не бойся: паставілі мы Саўку на добрую справу. Толькі-ж, княгінька мая, сакрэт вялікі. Саўка партызаніць пашоў. Цяпер ён—войтавы вочы і вушы. Пераловім усіх Талашоў і будзем жыць, ды бога хваліць. (*Аўгіння мяняецца ў твары, стараецца ўзяць сябе ў рукі.*)

Аўгіння. Шкода, шкода, што я тут не была.

(У дзверах стук. Бірка адступае ад Аўгінні).

Бірка. Дык сакрэт, Аўгінька, а за сакрэт! (*Чмокае ў шчаку, выходзіць, размінаецца ў сенях з Васілём Бусыгай. Уваходзіць Васіль, скоса пазірае на Аўгінню і Алесю. Пауза*).

Бусыга (*сярдзіта*). Прыбрала-б хоць са стала.

(Аўгіння прапускае Васілёвы словы міма вушэй. Развязвае хустку на галаве Алесі).

Бусыга (*яшчэ болей сярдзіта*). Я табе кажу, ці гэтай печы? Прыбяры са стала.

Аўгіння (*не пазіраючы на Васіля*). Самі насвінячылі, самі і прыбірайце.

Бусыга. Ты дзе была?

Аўгіння. А што табе да таго, дзе я была? І чаго ты глядзіш такім зверам? Не баюся я цябе!

Бусыга. Кажы дзе была! Гадзіна ты, шлюха!

Аўгіння. Горшай гадзюкі, як ты, няма. Чаго ашчэрыўся, як звер.

Бусыга. Прызнайся, чаго ты хадзіла да старога разбойніка?

Аўгіння. Чаго хацела, таго і хадзіла. Што-ж ты забароніш мне?

Бусыга. Дзе-ж гэта набралася такой вольнасці? Ці не ў камісараў. Можа і ты ў лес збіраешся?

Аўгіння. А ўжо лепей у лес ісці, чым быць такім войтам, як ты.

Бусыга (*з крывою ўсмешкаю*). Гэта ты ў Талашоў набралася такога розуму? Ці можа навучыў цябе Мартын, палюбоўнік твой?

Аўгіння. Хто-б сабе не вучыў, абы навучыў, а вось цябе дык ніхто не навучыць. Сам сабе яму капаеш. На цябе людзі, як на ваўка глядзяць.

Бусыга. Ты мне капаеш яму, гадзюка ты! Як ты смееш да Талашоў хадзіць, ды кампанаваць з разбойнікамі, злачынцамі,

галадранцамі. Ці табе мой хлеб гаспадарскі надакучыў, галыш няшчасны.

Аўгіння. Што ты папікаеш мяне сваім хлебам? Хіба я не зарабіла сабе на хлеб? Ды няхай ён агнём пойдзе і хлеб твой, і дабро тваё, і ты разам з імі. Лепей-бы я батрачкаю засталася.

(Выбягае Алеся і з крыкам „мама" абыймае маці).

Бусыга. А, абжэрлася! Батрацкая доля табе смачней. Дык забірай свайго байструка і марш адсюль! Не трэба мне здрадніцы і ворага ў хаце. Вон!

(Бусыга хватае Аўгінню за плячук, штурхае яе ў дзверы. Алеся, трымаючыся за матку, ляціць разам з ёю ў дзверы і стукаецца галавою аб касяк, моўчкі бярэцца рукою за галаву. Бусыга ў дзікай ярасці зрывае з ашэстка Аўгініну адзежу, кідае яе на падлогу, потым нагамі падкідае ў дзверы. Аўгіння не звaрочвае ўвагі на ярасць Васіля, адзяе Алесю).

Аўгіння (*да Алесі*). Пойдзем, дачушка. Дом гэты быў заўсёды чужым для нас. Знойдзем сабе спосаб і ніхто за наш хлеб не будзе папікаць нас.

(Выходзяць, Бусыга моўчкі стаіць адзін пасярэдзіне хаты з відам злога і збянтэжанага чалавека).

---

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Дзея адбываецца ў фальварку Віркуцце. Ноч. На адкрытай верандзе за круглым сталом сядзіць група гасцей: ксёндз **Пацейкоўскі**, палкоўнік **Дэмбіцкі**, беларускі дэмакрат **Галініч**. З глыбі дома даносіцца музыка. Іграюць вальс, кракавяк і інш. танцы. Праз тонкую заслону відаць сілуэты танцуючых пар. Час ад часу праходзіць вартавы польскі салдат.

Ксёндз Пацейкоўскі (*у прыемных марах*). Якое то шчасце, панове, бачыць сваімі вачамі адраджэнне нашай айчыны, разгортванне здушаных раменаў зямлі польскай!

Дэмбіцкі. Нашы гістарычныя традыцыі, ойчэ пробашч, не смяртэльны. Яны жывуць у сэрцы кожнага паляка. Яны даюць нам сілу і перамогу на вайне, яны ўзбройваюць нас на стварэнне вялікай Польшчы ў яе гістарычных і этнаграфічных межах „ад можа да можа".

Галініч. Так, так, пане палкоўніку. Польшча мусіць стаць першай дзяржавай Еўропы, а Варшава другім Парыжам. Мы, беларусы, цэнім і ўлічваем, панове, Польшчу. Вось чаму мы і звязваем лёс беларускага народа з лёсам вялікай польскай нацыі, бо і ў мінулым іх лёсы былі аднакія. А пакольки Польшча зараз ставіць сабе задачу—разгром большэвізма, пастольки мы ў меру нашых сіл будзем дапамагаць ёй, чым толькі можам.

Ксёндз Пацейкоўскі. Натуральна, натуральна, пане Галініч. Усё культурнае чалавецтва павінна злучыцца ў барацьбе

супроць комунізма. Але трэба цвяроза пазіраць на рэчы і ў прыватнасці на метады барацьбы. Вы, беларусіны, не настолькі сільныя, каб змагацца з большэвікамі адкрыта. Вы павінны стварыць падпольную беларускую арганізацыю пад шыльдай большэвізма. Праводзячы нібыта праграму большэвікоў, вы павінны тварыць антыбольшэвіцкую справу і выконваць волю маршалка Пілсудскага. Гэту ідэю маршалак цалкам падзяляе.

Галініч (*у захапленні*). Сапраўды, ідэя заслугоўвае вялікай увагі, але яе ажыццяўленне звязана з каласальнымі труднасцямі.

Пацейкоўскі. Але, пане Галініч, бог на тое і розум дае чалавеку, каб труднасці ператварыць у радасць перамогі. У сваёй-жа барацьбе вы знойдзеце шырокае падтрыманне ў асобе Польшчы. (*Прыслухоўваецца да гукаў кракавяка*). Музыка! Польская нацыянальная музыка!.. Колькі імпэту, буры! То—воля і сэрца паляка. (*Пад гукі кракавяка ксёндз варушыць галавою, ускідвае плечы. Пан Дэмбіцкі пазірае на яго, пасміхаецца*).

Дэмбіцкі. Свенты ойцец—сапраўдны паляк.

Пацейкоўскі (*да Дэмбіцкага*). Я, проша пана, з мазураў. „А ў мазура така душа, жэ як загра, цо сень руша“.

Дэмбіцкі. Ойцец пробашч не толькі служка пана бога, пробашч быў-бы добрым ваякам пана Пілсудскага.

Пацейкоўскі. О, так, так, пане палкоўніку! А калі мая сутана не дазваляе мне сеч ворагаў Польшчы і пана бога мечам, то яна абавязвае мяне знішчаць іх словам і маімі праектамі.

Дэмбіцкі. Няхай пан бог дапаможа пробашчу.

(Уваходзіць пан **Крулеўскі** і **Гэмбіцкі**).

Крулеўскі. Добры вечар, панове! (*Вітаюцца за рукі з прысутнымі*). Прашу пана палкоўніка прабачыць за спазненне.

Пацейкоўскі. Пан—наша ахова. У пана шмат справункаў розных.

Крулеўскі. Так, так ойча пробашч. (*Аглядаецца*). Пшапрашам, панове, мосці добрадзею: мусім зрабіць конфедэнцыяльную нараду.

(Галініч выходзіць. Астаюцца ксёндз, Дэмбіцкі, Крулеўскі і Гэмбіцкі. Садзяцца ў гурт за стол).

Дэмбіцкі. Што чуваць у пана капітана?

Крулеўскі. Дзенькі богу, пане палкоўніку: усё ідзе ў руку нашай маткі—айчыны. Пан Гэмбіцкі (*ківае на Гэмбіцкага*) выконвае планы ойца-пробашча, планы, якія я цалкам падзяляю.

Дэмбіцкі. Ксёндз пробашч то—наш Макіавелі. А на мове ваеннай ён—дынаміт, што дробіць камень з сярэдзіны.

Пацейкоўскі. Нішчыць, панове, ворагаў трэба іх жа зброяй. Комунізм будзем біць праз сваіх агентаў, якіх мы зашлем у іх асяроддзе. Вось чаму я арганізую школу, дзе будзе вы-

кладацца навука комунізма для нашых выхаванцаў, верных служак айчыны і пана бога.

(Крулеўскі дае знак Гэмбіцкаму. Гэмбіцкі падымаецца са словамі „пшэпрашам панове" выходзіць. Пауза. Некалькі парачак праходзіць па верандзе са спевамі і танцамі).

Крулеўскі. Выходзячы з праектаў ойца пробашча мы з панам Гэмбіцкім злажылі адну камбінацыю. Я, панове, хачу прапанаваць яе на вашу ўвагу.

Дэмбіцкі. А якая тая камбінацыя?

(Пасля танцаў Крулеўскі працягвае гутарку.)

Крулеўскі. Пшапрашам пана палкоўніка. (*Уваходзіць Гэмбіцкі, пераадзеты пад рабочага*). Рэкамендую, панове (*паказвае на пераадзетага Гэмбіцкага*). Таварыш Краскін, член большэвіцкай партыі. Пры сапраўдных дакументах.

Гэмбіцкі (*разыгрываючы ролю партыйца*). Вось мой дакумент, таварышы.

(Кладзе на стол білет. Дэмбіцкі і ксёндз разглядаюць яго, злічаюць фатаграфію з арыгіналам).

Пацейкоўскі. Дасканала! Дасканала! Благаслаўляю пана на добрую справу для бога і айчыны. (*Хрысціць крыжам*).

Дэмбіцкі. То добра, то добра! А якую канкрэтна работу будзе праводзіць пан?

Гэмбіцкі. Мой аб'ект—Чырвоная армія. Мэта—спрыяць перамозе войску пана Пілсудскага. Мэтады работы ў залежнасці ад сітуацыі.

Дэмбіцкі. Так, так, пане! То добра! Няхай бог дапаможа пану! Айчына-ж яго не забудзе.

Крулеўскі. Мы мусім, пане палкоўніку, зараз-жа пакінуць Віркуцце. Пан Гэмбіцкі павінен сёння-ж перайсці да чырвоных. А я мушу быць у Вепрах.

Дэмбіцкі. У Вепрах? Чаму? У часе карнай экспедыцыі там быў забіт жалнер і тры ранены. Страляўшыя з лесу невядомыя не знойдзены. (*Тонам загаду*). Прыняць, пане капітане, меры для зліквідавання хлопскіх паўстанняў.

Крулеўскі. Меры, пане палкоўніку, прыняты.

Дэмбіцкі. Ну, панове, з богам (*развітваюцца*).

Пацейкоўскі (*хрысціць крыжам Гэмбіцкага*). Няхай пан бог і матка боска чэнстахоўска бароняць пана.

(Крулеўскі і Гэмбіцкі выходзяць. Пацейкоўскі і Дэмбіцкі ідуць з веранды ў дом. Іграе музыка, танцы ідуць бурным тэмпам. Адсоўваецца з акна тонкая заслона. Відаць госці, паны, паненкі, ваенныя. Вартавы салдат падыходзіць бліжэй, спыняецца, пазірае на танцуючых. З глыбі двара высоўваецца Дарвідошка. Салдат стаіць, пазірае на баль).

Салдат (*уздыхае*). О, пся маць! Залучыць-бы сабе такую паненку. (*Спявае*):

„Умарл Мацэк, умарл,
Юж лэжы на дэсцэ,
Жэбысь ему заграць,
Подскочыл-бы ешчэ".

**Дарвідошка** (*сам сабе па адрасу салдата*). Падскочыш ты, брат, у мяне. (*Пауза*). Прыліп да акна, як галоднае цяля да каровы. На баб загледзеўся, мышыны жарэбчык, ну, але... (*Кліча салдата, махае рукою*). Гэй!

(Салдат не адводзіць ад акна вачэй. Дарвідошка свішча. Салдат аглядаецца адыходзіць ад акна, заўважае Дарвідошку, ідзе да яго, настаўляе стрэльбу).

**Салдат.** Хто тут, пся крэў?

**Дарвідошка.** Ціха ты, Бронісь ці Віктусь, ну, але маладзіцу прывёў.

**Салдат** (*заспакоіўшыся, закідае стрэльбу за плячо*). А... дзе она ест?

**Дарвідошка.** З тутэйшых месц. За дрэвам стаіць, саромяецца сама ісці, ну, але.

**Салдат.** Млода?

**Дарвідошка.** Ёмкая, як калода, а гарачая, як печ. Агонь маладзіца!

**Салдат** (*падкручвае вус*). Вядзі мяне да яе!

(Дарвідошка ідзе, за ім салдат. Ступіўшы некалькі крокаў, Дарвідошка спыняецца).

**Дарвідошка** (*заве*). Марыся, пану жалнеру пакажыся!

**Голас.** Няхай пан жалнер сам сюды падыйдзе, я баюся.

(Салдат знімае стрэльбу, стаўляе каля дрэва).

**Салдат.** Не бойся, душка!

**Голас.** Я хлапцоў баюся, я да іх непрывычная.

**Дарвідошка.** Ідзі, не саромся.

**Салдат.** Млода ешчэ, мусіць?

**Голас.** На Пятра восемнаццаць гадоў будзе.

(Салдат рашуча падаецца на голас. З мроку высоўваецца постаць жанчыны. Салдат хоча абняць яе рукою. Раптам маладзіца хватае салдата і ў момант вока валіць яго на зямлю).

**Голас.** Не пікні, гад, бо тут табе магіла!

**Салдат.** Пан бог з намі і дух свенты.

**Голас.** Маўчы: не бог і не дух, а ўзводны Букрэй!

**Дарвідошка.** Вось, брат, якія цяпер пашлі маладзіцы. Маўчы, а то горш будзе, ну, але.

(Са змроку высыпаюць партызаны і чырвонаармейцы, акружаюць дом. Двое чырвонаармейцаў адводзяць салдата ў глыб двара).

**Букрэй.** За мной, хлопцы!

(Група чырвонаармейцаў і партызан ціха ўсходзіць на ганак. Раптам расчыняюць дзверы і віхрам урываюцца ў пакой на чале з Букрэем і дзедам Талашом, узяўшы вінтоўкі, як для штыкавога бою, займаюць усе выхады і праходы).

Букрэй. Ні з месца! Рукі ўгору!

(Сцэна прадстаўляе такі малюнак. Прасторны пакой. Госці за сталом. У цэнтры ксёндз Пацейкоўскі, пан Дэмбіцкі. За сталом у перамежку ваенныя, тры афіцэры, маладыя і пажылыя дамы. Госці зрываюцца з месц. На падлогу падаюць талеркі, куляюцца бутэлькі і чаркі. Некаторыя дамы млеюць. Пацейкоўскі ад страху кідаецца ў акно на веранду. З акна высоўваецца шчэць штыкоў партызан. Чуецца дарвідошкін голас: „Не лезь, ксёндз, на штык: самі пасадзім, калі трэба будзе“.

Букрэй (*да афіцэраў*). Здавайце, паны афіцэры, сваю зброю.

(Выходзіць Дэмбіцкі, аддае шаблю і рэвальвер).

Дэмбіцкі (*да афіцэраў*). Панове! Працівіцца мы не можам.

(Афіцэры таксама здаюць сваю зброю, іх акружае чырвонаармейскі канвой).

Мартын Рыль (*абыскваe, убачыўшы, што адзін хавае зброю*). Куды, куды хаваеш. Давай усё!

Букрэй (*паказвае на ксяндза*). Станавіся, бацька святы, сюды за кампанію.

Дэмбіцкі (*у роспачы*). Ганьба нам, панове, ганьба!

Дарвідошка (*высоўваецца наперад*). Можа вам, паночкі, паненка для танцаў патрэбна? Дык вось яна, ну, але. (*Паказвае на Букрэя, які астаецца ў постаці жанчыны*). Панскі вартавы жалнер да яе там на двары сватаўся, ды мала каля яе палатаўся.

Дэмбіцкі (*пазнае Дарвідошку, глядзіць на яго з нянавісцю*). І ты, лайдак, з імі!

Дарвідошка. Ну, але. На свой-жа банкет вы мяне не заклікалі.

(Наперад выступае дзед Талаш. У адной руцэ трымае вінтоўку, трасе вінтоўкай).

Дзед Талаш. А цяпер, паны, я запытаю вас, голубе: дзе-ж мой малалетні сын? У які астрог пасадзілі яго? (*Маўчанне*).

Букрэй. У штабе палка запытаем іх, бацька, аб тваім сыне. Таварыш Насенка!

Насенка. Я, таварыш камандзір!

Букрэй. Вылучы звяно з свайго аддзялення, для канвоя. Палонных адправіць у штаб палка.

Насенка. Слухаю.

(Афіцэраў і ксяндза выводзяць).

Дарвідошка (*выходзіць на сярэдзіну, махае рукою, спявае*):

„На падлозе чаркі,
Пабітыя міскі.
Ад Варшавы да Масквы
Шлях не так-та блізкі“.

(*Да чырвонаармейцаў і партызан*). Таварышы! Я тут цяпер законны гаспадар. Запрашаю вас за стол!

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Ноч. Густы лес. У лесе стаяць два шалашы, старыя, даўно пастаўленыя, крытыя яловымі галінкамі. Ад часу галінкі павысыхалі. Ігліца з іх паасыпалася. Паміж шалашоў гарыць агонь. Каля агню сядзіць Дарвідошка і Будзік. Будзік сядзіць, абняўшы калені, пазірае на агонь.

Дарвідошка (*спявае*):

Ой, з-пад лесу,
Лесу цёмнага... (і г. д.).

Падымае галаву, слухае. На яго твары блукае ўсмешка. Даносіцца багатырскі храп Букрэя).

Спіць мая маладзіца, як пшаніцу прадаўшы.

Будзік. А ты, нябось, трохі пабойваешся паноў?

Дарвідошка. Я? Не, брат: не ведаеш ты мяне. Ды і сам я да апошняга часу не ведаў, што я за чалавек, ну, але.

Будзік. А цяпер ведаеш?

Дарвідошка. Аказваецца, брат ты мой, я—ваенны чалавек. Палюбіў, ведаеш, ваяваць з панамі, ну, але. Пан, я табе скажу, гэта такая халера, што чым больш дагаджаеш яму, тым меней выйграеш. Дык ужо лепей узяць яго за гніды і трэсці, аж покі духоў яму не павытрасаеш. (*Ізноў пяе тую-ж песню*).

(Дастае з кішэні плітку шакаладу, разглядае этыкетку).

Паглядзі, Цімох, што тут напісана: такія літары, што і не разбярэш.

Будзік (*бярэ шакалад, таксама ўглядаецца*). Мабыць французскі дзядзька з Парыжа прыслаў сваёй утрыманцы. У іх-жа, брат, у паноў, усё заграінчнае: сукно на кунтуш і з пяром капялюш. Самі яны без заграніцы кроку не ступяць.

Дарвідошка. От ліха іх матары. Шыкуюць за кошт народа, ну, але. Давай-жа пакаштуем панскіх прысмакаў. (*Разломлівае плітку, дае палавіну Цімоху. Жуюць шакалад, пазіраюць адзін на аднаго*). Смачны, ліха на яго, ну але.

(З лесу выходзяць **Мартын Рыль** і **Жыбуль**, падыходзяць да агню).

Мартын. Што-ж вы, хлопцы, не адпачываеце?

Дарвідошка. А мы, брат, як зайцы, ну, але: адным вокам спім, а другім навокал глядзім.

Жыбуль (*жартам*). А калі вас хто спалохае, то вы, як зайцы і ўцякаць будзеце?

Дарвідошка. Не, брат, дудкі: у нас чуткасць зайчыная, а натура сакаліная.

(Будзік ускідае галаву, настаўляе вушы, дае знак маўчаць. Усе заціхаюць. Слухаюць. З лесу даносіцца працяглае выццё воўка).

Будзік. Воўк вые!

Дарвідошка. Воўк, ну, але. Дай-жа божа, каб ён панскае мяса ўчуў.

Мартын. Гэта не воўк, а стары Талаш з разведкі ідзе.
Будзік. Ось-жа штукар стары: воўк і крошкі пабраў.

(Рыль адыходзіць ад агню, свішча пад свіст драздa. З лесу паказваецца дзед Талаш. З ім ідзе жанчына).

Дзед Талаш (*да жанчыны*). Ну, вось бачыш, голубе, у якую трушчобу зашыліся мы. Сама ты дарогі да нас не знайшла-б, эгэ.

(Усе з цікавасцю пазіраюць на дзеда Талаша і яго спадарожніцу. Букрэй прачынаецца, падыходзіць да агню).

Дзед Талаш. Добры вечар вам, голубе!
Жыбуль. Добры вечар, бацька... Во—гэта разведка!
Дарвідошка. Вось, што называецца лёгкая рука, ну але: адну маладзіцу я знайшоў, а другую—бацька Талаш.
Мартын (*да жанчыны*). Аўгіння! Ты тут? От дык штука!
Аўгіння. Ды гэта мяне дзядзька Талаш завёў сюды.
Дзед Талаш. Сядайце, голубе. Сядай, Аўгінька! Вось ты таварыш Жыбуль, гаварыў, што разам з нашымі людзьмі будуць прыставаць да нас і ворагі, як ты іх называў, забыўся.
Жыбуль. Правакатары.
Дзед Талаш. Во, во гэтыя самыя аматары. Вось-жа ты і не памыліўся. Паслухайце, што надумаліся зрабіць заможнік, войт Бусыга і яго прыяцелі: яны падсылаюць да нас злодзея і гіцаля, Саўку Мільгуна, што за грошы, голубе, і роднага бацьку прадасць. Падсылаюць, як партызана, каб выведаць, дзе мы і каб потым, як цялят, пад панскі нож прадаць.
Будзік. О, шэльмы. Пусціць іх свечкаю да бога. Я не буду я, калі не пушчу іх у паветра дымам.
Жыбуль. А як вы пра гэта даведаліся?
Дзед Талаш. А са мною, голубе прышла войтава жонка. (*Да Аўгінні*). Аўгінька, голубе, раскажы, як гэта было.
Аўгіння (*саромеючыся*). Да я-ж цяпер не войтава жонка, вы-ж гэта ведаеце, дык навошта, дзядзька, мяне так называеце?
Дзед Талаш (*па прыяцельскі стукае Аўгінню па плячы*). Ну, не крыўдуй, голубе: гэта я для таго, каб іх болей здзівіць. (*Да слухачоў*). Кінула яна гэтага гіцаля войта і болей з ім не жыве, эгэ.
Жыбуль. Маладзец Аўгіння!
Дарвідошка. К чорту панскага падлізу...
Аўгіння (*хвалюецца*). Ды што-ж мне расказваць, калі дзядзька Талаш сам усё расказаў.
Жыбуль. А ў цябе адразу з'явілася думка, каб папярэдзіць нас?
Аўгіння (*горача*). Я ў той-жа час хацела расказаць пра іхнюю змову, ды не ведала куды кінуцца. У той-жа дзень зайшла ў хату да дзядзькі Талаша, пра ўсё расказала. На шчасце дзядзька Талаш сам у вёску зайшоў.
Дзед Талаш. Дык вось, таварышы грамада. Мы тут мяркуем так, а яны там унь як. Дык што будзем рабіць, голубе? Трэба параіцца, падумаць.

Дарвідошка. А што тут многа думаць, ну, але? Адкруціць наўперад Саўку галаву, а потым войту і падвойцікам.

Будзік. Знайсці дуплянятае дрэва, засунуць гада ў дупло і спаліць, каб не смярдзеў.

(Некаторы час на сцэне шум. Букрэй сядзіць каля агню, моўчкі дыміць папяросай, штось думае. Мартын Рыль і Аўгіння стаяць радам, ціха гутараць. Жыбуль стаіць з дзедам Талашом, а потым падыходзіць да Букрэя).

Жыбуль. Давайце, таварышы, гаварыць па аднаму. (*Шум заціхае*).

Букрэй (*падымаецца*). Таварышы! Мы людзі ваенныя. Дысцыпліна перш за усё. Мой сказ вам такі: падасланага партызана, шпіёна, адпусціць.

Голас. Адпусціць адпусцім, але потым ці зловіш яго?

Будзік. Як можна пускаць такога гада? Прыкончыць яго і ўсё.

Жыбуль. Шпіёна адпусціць, няхай сабе панюхае, ды ідзе, а мы вуха дзяржаць будзем востра.

Мартын. Зробім, сябры, так, як раяць нам таварыш Жыбуль і Букрэй: яны праўду кажуць.

Голас. А як наш бацька думае?

Дзед Талаш. Я згодзен з Жыбулем. Давайце так і зробім, бо калі ўжо рабіць, голубе, дык зрабіць так, каб паны патыліцы пачухалі, эгэ. (*Партызаны абкружаюць Талаша і Жыбуля, працягваючы гутарку*).

Мартын (*які стаяў з боку з Аўгінняй*). Аўгінька, любая, а ты малайчына! Ты не ведаеш, якую вялікую паслугу аказала нам.

(З лесу выходзіць **Марка Балук**).

Марка Балук. Эй, народ лапцюжны, сярмяжны, слухай: нашага палку прыбывае. Бацька Талаш, госця сустракай!

(З лесу выступае **польскі салдат**. За ім ідуць два партызаны—**Нупрэйка** і **Купрыянчык**, нясуць насілкі. У насілках сядзіць няясная постаць чалавека. Сход раптам заціхае. Усе пазіраюць на прышоўшых, недаўменна аглядаюць польскага салдата. Партызаны ставяць насілкі Дзед Талаш выходзіць наперад, узіраецца ў насілкі. Балук варочаецца на свой пост.

Голас з насілак. Бацька, гэта я.

Дзед Талаш (*кідаецца да насілак*). Панас, голубе. Сынок мой!

(Абнімае сына, ад радасці і хвалявання некаторы час не можа гаварыць).

А чаму-ж цябе ў насілках прынеслі? Ты ранены?

Панас. У нагу мне трохі стрэльнулі. Але глупства, я сам хадзіць магу. (*Дзед Талаш абнімае Нупрэйку і Купрыянчыка*). Дзякую-ж, дзякую вам!

(Да насілак падыходзяць Жыбуль, Букрэй, Рыль, Аўгіння, партызаны, чырвонаармейцы).

Букрэй. Зняць яго з насілак.

Дзед Талаш (*расчулены, усхваляваны*). Памажэце, памажэце, яму голубе!

Панас. Да я сам.

(Бярэцца рукамі за плечы партызан-санітараў, вылазіць з насілак. Ступіўшы на адну нагу кульгае. Яго нясуць да агню).

Букрэй. Аглядзець і перавязаць рану.

Дзед Талаш. Ох, сынку! Гэта гэты гіцаль раніў цябе? (*Паказвае на польскага салдата*).

Панас. Не, бацька, ён мне памог, і мы разам з ім уцяклі з панскага астрогу.

Дзед Талаш (*абнімае польскага салдата, цалуе яго*). Даруй, даруй, мне, голубе.

(Панаса саджаюць на калодку. Букрэй аглядае раненую нагу).

Букрэй. Тут ранілі? (*Стукае лёгка па галёнцы*). Баліць?..

Панас. Трохі баліць.

Букрэй (*з выглядам вучонага доктара*). Рана ўдачная: куля прабіла лытку навылёт, а косці не закранула. Дні праз тры танцаваць будзеш, хлопча. Давайце сюды вады, прамыем рану і забінтуем. (*Пазірае на Аўгінню*). Да рэчы, і сястра ў нас ёсць.

(Аўгіння падыходзіць бліжэй. Чырвонаармеец нясе капялок з вадою. Букрэй дастае з салдацкай сумкі індывідуальны пакет, вымае адтуль марлю. Аўгіння абмывае рану).

Аўгіння. Ах, браток ты мой. Дай-жа памыю ножку тваю. Ото маці рада будзе.

Букрэй. У старога салдата толькі бацькі з маткаю не стае, а то ўсё ёсць. (*Забінтоўвае нагу. Потым прыяцельскі стукае Панаса па плячы*). Адпачынь і будзеш здароў. (*Панаса адносяць да шалаша прыгаварваючы: „асцярожна! лягчэй“. Да дзеда Талаша*). Ну, бацька, дазволь віншаваць са шчаслівым вызваленнем сына. (*Цісне дзеду руку*).

Дзед Талаш. Дзякуй, дзякуй, голубе!

Жыбуль (*да польскага салдата*). Дык ты, па сваёй волі пакінуў службу ў польскім войску?

Польскі салдат. З панамі, таварыш, мне не па дарозе, і за панскую Польшчу ваяваць не хачу. У советах рабочаму шырэйшая дарога. Я-ж—рабочы.

Рыль. А як вам удалося ўцячы?

Польскі салдат. Паставілі вартавым пры астрозе. Кінуўся мне ў вочы падлетак Панас. За што, думаю, яго забралі? Разгаварыўся з ім. Ён расказаў мне пра ўсё. І я рашыў вызваліць хлопца з астрога, а сябе ад панскай службы.

Букрэй. Вось за гэта ты маладзец. А як ранілі Панаса?

Польскі салдат. Агледзіліся хутка. Выслалі пагоню за намі. І злавілі-б, каб не вашы хлопцы. На той час былі яны на акрайку леса.

Купрыянчык. Бачым мы—людзі бягуць у лес, салдат з хлопчыкам, а за імі тры салдаты гоняцца. Бачым справа неладная, мы і пальнулі па разу ў салдат. Яны спыніліся, залеглі і таксама страляць пачалі і ранілі хлопца.

Нупрэйка. Ён, бедны, спачатку і не заўважыў свае раны. Потым ужо кульгаць пачаў, і мы ўбачылі акрываўленую нагу.

Жыбуль (*да польскага салдата*). А як тваё прозвішча, таварыш?

Польскі салдат. Кухарык Міхал.

Жыбуль. Дык дазволь, таварыш Кухарык, пацісну́ць тваю чэсную рабочую руку і падзякаваць ад нас усіх за твой пастунак.

(Жыбуль і Кухарык падаюць рукі, прысутныя выказваюць воплескамі сваё адабрэнне).

Букрэй. Таварышы! (*Усе падыходзяць*). Дык так, таварышы. Мая задача, што мне паставіў мой камандзір, выпаўнена. Наша першае сумеснае выступленне з вамі, таварышы партызаны, вышла ўдалым. Будзем спадзявацца, што так будзе і ў далейшым. А цяпер мы на некаторы час разлучымся.

Жыбуль. Так, таварышы: узвод Букрэя павінен вярнуцца ў сваю часць і мы астаемося без камандзіра. Першае, што мы павінны зрабіць—абраць камандзіра. Ці так, таварышы?

Галасы. Трэба, трэба. Трэба абраць камандзіра.

Жыбуль. Каго-ж паставім за камандзіра?

Галасы. Талаша! Бацьку Талаша!

(Усе кідаюцца да Талаша, які быў у глыбіні каля сына; цягнуць яго наперад).

Букрэй. Я таксама, таварышы, стаю за бацьку Талаша. Ён—чалавек змыслы, кемкі, асцярожны, але рашучы і смелы. Я прыглядаўся да яго на паходзе—камандзір ён будзе кругом на сто дваццаць.

Дзед Талаш. Абярэце, голубе, каго маладзейшага болей спрактыкаванага ў ваеннай справе, хоць-бы Мартына Рыля.

Рыль. Не, бацька, цябе!

Галасы. Бацька Талаш! Бацьку Талаша!

Дарвідошка. Няхай бацька Талаш будзе атаман наш!

Жыбуль (*да дзеда Талаша*). Чуеце? Народ Вас абірае.

Галасы. Талаш! Талаш!

Дзед Талаш (*расчулены*). Дзякую вам, голубы мае. Яшчэ раз прашу: абярэце каго-небудзь, болей вартага, чым я.

Усе. Талаш! Талаш камандзір!

Дзед Талаш (*знімае шапку, кланяецца*). Дзякую, дзякую. Я буду, голубе, старацца. За кожную кроплю вашай крыві буду дрыжаць. Будзем стаяць адзін за аднаго. Справа наша—біць гвалтаўнікоў, вызваляць нашу зямлю ад ворага. Але паслушэнства, голубе, павінна стаць нашым законам. Я буду слухаць ваш голас, а вы павінны слухаць мяне, бо іначай не будзе ладу. Маім-жа памочнікам дазвольце мне абраць Мартына Рыля.

Усе галасы. Дазваляем! Мартына! Мартына!

Букрэй (*да дзеда Талаша*). Ну, бацька, віншую і ад усяго сэрца жадаю вам поспеху. Дык памятайце, таварышы: дысцыпліна, паслушэнства. Трымайце вуха востра. Вораг хітры, і сіла яго не малая. Не адрывайцеся ад Чырвонай Арміі, дапамагайце ёй, а яна дапаможа вам: усе мы робім адну справу.

Дзед Талаш. Шкода, шкода, голубе, разлучацца з вамі. Але калі трэба, то трэба (*Да Мартына Рыля*). А ці не час варту змяніць? Хто на чарзе?

Будзік і Дарвідошка. Мы.

Дзед Талаш. Дык ідзіце змяніце вартавых.

(Будзік і Дарвідошка выходзяць).

Букрэй. Таварышы чырвонаармейцы, гатовіцца ў дарогу. Камандзіру першага аддзялення выслаць дазор. Кірунак трымаць на Рудню. (*Да польскага салдата*). А ты, таварыш Кухарык, пайдзеш з намі—не як палонны, а як наш таварыш.

(Кухарык моўчкі ківае галавою. Выходзяць чырвонаармейцы. Строяцца. Аддзелены камандзір вылучае дазор. Букрэй развітваецца з дзедам Талашом са словамі: „Ну, бацька, усяго добрага". Падае руку Жыбулю, Мартыну Рылю. З шалаша выходзіць Аўгіння, вядучы Панаса. Панас зварачваецца да Букрэя).

Панас. І я хачу, дзядзька, папрашчацца з вамі.

Букрэй. Ах, міляга ты мой! Ды я цябе і сам не забыў-бы. Бывай-жа здаровы! (*Падае Панасу руку. Да Аўгінні*). Ну, сястра, усяго добрага.

Аўгіння. Усяго, усяго вам добранькага.

Букрэй (*да партызанаў*). Шчасліва аставацца, таварышы. Слухайце вашых камандзіраў. (*Знімае шапку, трасе ёю ў паветры*).

Партызаны (*таксама знімаюць шапкі, махаюць імі*). Шчаслівай дарогі!

(Узвод рушыцца, ідзе ў лес, знікае з вачэй. Партызаны моўчкі праводзяць іх поглядам. З лесу выходзіць **Цімох Будзік і Марка Булук**).

Будзік. Прышоў Саўка Мільгун. Затрымалі на Татарскай паляне.

(Паведамленне Будзіка адразу мяняе настрой прысутных. Чуюцца галасы: „Прышоў". „Прадажная скура". На сцэне шум).

Жыбуль. Ціха, таварышы. (*Усе змаўкаюць*). І віду не паказаць, што мы ведаем, чаго ён прышоў сюды. Памятайце гэта, таварышы. Пакінем тут бацьку аднаго: няхай ён з ім гутарыць.

Дзед Талаш. Эгэ, голубе. Я ўжо тут надзяру яму лазы на лапці. А вы, сябры, пахавайцеся. Нупрэйка, перанясі Панаса ў шалаш. А цябе, Аўгінька, ніякім чынам ён не павінен бачыць.

(Усе расходзяцца, астаецца дзед Талаш і Будзік).

Дзед Талаш (*да Будзіка*). Ідзі-ж, сынку, вядзі яго. (*Будзік выходзіць. Дзед Талаш падыходзіць да шалаша*). Ну, як табе паводзіцца, сынку?

Панас (*з шалаша*). Добра. Болю ў назе бадай што і не чуваць.

Дзед Талаш. Ну і добра, голубе. Ты-ж, сынку, маўчы, нічога не гавары.

Панас. Я толькі буду слухаць.

(Дзед Талаш адыходзіць ад шалаша, садзіцца каля агню, накладае тытун у люльку. Паказваюцца Будзік і Саўка).

Будзік. Вось, бацька, прывёў я ваяку. Партызанам хоча быць.
Дзед Талаш. Добра, сынку, добра!.. Ну, здароў, Саўка. (*Падае Саўку руку*). Што-ж павяло цябе, сынку, на гэту справу?
Саўка. Не магу змірыцца—такія крыўды чыняцца людзям.
Дзед Талаш. А якую маеш крыўду.
Саўка. Мяне яны сказаць, не пакрыўдзілі, але не магу спакойна глядзець, як другіх крыўдзяць. Вось Мартынаву хату спалілі. Кандрата Буса, майго можна сказаць, прыяцеля забілі. Дык чаго мне маўчаць? Хачу з вамі быць, паноў разам біць.
Дзед Талаш. Добра, сынку, добра! Прымаю цябе ў сваё войска. Ды памятай, голубе: слухаць павінен. У нас па ваеннаму—строга. Сядай: дам табе даручэнне, ты мусіш яго выпаўніць.
Саўка (*з запалам*). Усё буду рабіць, што загадаеце.
Дзед Талаш. Дужа добра, голубе. Дык вось, сынку. Ідзі разведай, ці многа панскага войска ў Вепрах і куды яны салдат гоняць. Прыслухоўвайся ды прыглядайся. Ды, глядзі, сынку, язык трымай за зубамі. Што ведаеш пра нас, ні гу-гу!
Саўка. Слухаю. Буду маўчаць, покі зубы тырчаць.
Дзед Талаш (*прыкідваючыся стомленым, пазяхаючы*). Ну, вось і усё покі што, старайся ж, голубе.
Саўка (*разглядаючыся як злодзей*). І вы, бацька, адзін жывеце тут?
Дзед Талаш. Усяляк бывае: і адзін і хто-небудзь у падсуседзі прыдзе. Найчасцей начуем тут, голубе.
Саўка. І шмат народу начуе тут?
Дзед Талаш. А бывае, сынку, чалавек з шэсць, эгэ. Дык прыходзь, голубе, з сваімі навінамі і не пазней заўтрашняга вечара: раніцою нас тут не будзе.
Саўка. Добра, бацька... Ну, я пашоў. Саўка і воўк—родныя браты... Бывай, бацька.

(Выходзіць. Будзік яго праводзіць. Дзед Талаш пазірае ўслед яму. Моўчкі сам сабе ківае галавою. Потым свішча пад свіст савы. Выходзіць Мартын).

Дзед Талаш. Ну, голубе: у гэту ноч госці прыдуць да нас. Што будзем рабіць?
Мартын. Што-ж рабіць? Гасцей сустрэць. Падрыхтавацца.
Дзед Талаш. А дзе-ж Аўгіння?

(З шалаша чуваць голас Панаса: „Бацька, падыйдзі да мяне". Дзед Талаш ідзе да Панаса. Мартын ціха гукае: „Гэй". Выходзіць Аўгіння).

Аўгіння. А што-ж я рабіць буду, Мартын?
Рыль. Будзеш, Аўгінька, жыць, і нам дапамагаць. А табе я дапамагу. Усё жыццё блукалі адзін каля аднаго, а цяпер разам пойдзем.
Аўгіння (*пазірае Мартыну ў вочы, пасміхаецца хітра*). А чорт на язык табе не сядзе?
Рыль. Не смейся і не жартуй, Аўгінька: ты для мяне зноў тая-ж, што была калісь. А чорта з языка я выплюну... Алеську даглядай. Эх, хацеў-бы я яе пабачыць.

Аўгіння (*апускае вочы, журботна*). А яна бедная і не ведае, хто бацька яе.

Рыль. А ты прыдзеш зараз у вёску, скажы ёй... Я хутка ў разведку пайду. Трэба выканаць адказнае заданне. Разам і пойдзем. А ў дарозе аб усім пагутарым.

Аўгіння. Разам? Няўжо, Мартын, разам?

Мартын (*туліць яе да сябе*). Аўгінька! Мы не бачылі яшчэ радасці, не ведалі шчасця. А яно прыдзе. Я от сэрцам сваім чую яго. Прагонім, вынішчым панскую гнусь і ўсё, што замінае жыць... Мы-ж не адны, Аўгінька. За намі Чырвоная Армія, Савецкая Расія, усе яе народы. Мы яшчэ пажывем, Аўгінька.

Аўгіння. А каб-жа гэта было так.

Рыль (*туліць да сябе Аўгінню. Спявае*).

„Ты прыдзі вясна жаданая,
прыдзі.
Гукам жыцця, песняй працы
загудзі.
На ўзгоркі, на нізіначкі
зірні.
Сон трывожны, сон цяжкі наш
разгані.
Ты нясі нам радасць, сілачку
нясі,
Нашу волю да змагання
Абудзі.
Ты ляці на крыллях выраю
Скарэй,
Абласкай цяплом пахілых,
Абагрэй.
Наша жыццё, нашу долечку
пабач.......

(Уваходзяць **Жыбуль і Балук**).

Жыбуль. А дзе бацька Талаш?

Дзед Талаш (*выходзіць з шалаша*). Тут я, голубе, тут... Ну, сябры, не будзем зводзіць часу. Саўка не пазней ночы паноў прывядзе.

Жыбуль. Абдумаць трэба ўсё да дробязей.

Дзед Талаш. Сцягнем сюды бліжэй народ. Па ўсіх дарогах і сцежках варту паставім. Займіся гэтым ты, Марка. А табе, голубе, Мартыне, разведкаю ведаць. Эй, Нупрэйка, Панаса перапраў у зацішнейшае месца.

(На кароткі час сцэна зацямняецца. Потым вырысоўваецца тая-ж самая абстаноўка. Затухшы агонь. Пустыя шалашы. Пачынае развідняцца. У лесе ціха і пуста. Здалёку даносіцца звонкі крык чаплі. На гэты крык аклікаецца журавель. Пасвіствае дрозд. Лес поўніцца разнастайнымі птушынымі галасамі з паўзамі. Голас птушак змаўкае. Раптам цішыню разрывае воўчае выццё. З-за дрэваў асцярожна высоўваюцца людскія постаці, акружаюць шалашы. Разглядаючыся і крадучыся, выходзяць агенты польскай дэфензівы. Адзін з іх, рыжавусы, з рэвальверам у правай руцэ ї з ліхтаром у левай, крадзецца да шалаша, асвятляе яго ліхтаром. Выходзяць агенты дэфензівы. Рыжавусы заходзіць у шалаш. Выходзіць з дзяружкаю ў руках).

Рыжавусы. Пся крэў, апазніліся, сышоў лайдак.

(Група агентаў падыходзіць да вогнішча, мацаюць попел).

Голас. Попел яшчэ цёплы.

(Рыжавусы ціха свішча. З лесу выходзяць дэфензіўшчыкі, збіраюцца ў кучу).

Рыжавусы. О, пся маць. А ён, пёс стары, дзесь блізка тут... Зачакайце...

Голас Дарвідошкі (*саскоквае з дрэва*). Складай зброю. Рукі ў гору.

(На сцэну ўрываюцца партызаны, узяўшы вінтоўкі як для штыкавога бою, шчыльным кругам ахопліваюць дэфензіўшчыкаў. Ад нечаканасці і страху дыфензіўшчыкі нямеюць.

Рыжавусы. Езус-Марыя.

Дарвідошка (*высоўваецца з першых радоў*). Не паможа табе ні езус, ні Марыя, ні Тодар з Тадораю. Ну, але. Давай сюды свой пісталет. (*Група дыфензіўшчыкаў моўчкі складае зброю*).

Дзед Талаш. Ну, што, панскія сабакі? Крыві нашай хочаце?

(Галасы абурэння: „Смерць сабакам", „Да сценкі").

Дзед Талаш. Вы чуеце свой прысуд? Эге, паны: ашукаліся вы.. Агледзьце, хлопцы, іх кішэні, ці не знойдзеце дакуменцікаў якіх.

(Дыфензіўшчыкаў абыскваюць. У гэты час два партызаны вядуць Саўку Мільгуна).

Балук. Вось правадыр іхні. Уцячы хацеў.

Дзед Талаш. Дык гэта ты, сынку, такі партызан?

Саўка (*кідаецца ў ногі дзеду Талашу*). Даруй, бацька: па маласвядомасці на грэх пашоў.

Нупрэйка. Гад!

Купрыян. Прадажная скура.

Голас. Смерць яму!

Дзед Талаш. Зробім, хлопцы, па закону. Ваша, галубе-грамада, слова—закон. Які будзе ваш прысуд?

Будзік. Сабакам сабачая смерць!

Дзед Талаш. Ці ўсе згодны з гэтым?

Галасы. Усе згодны. Смерць панскім сабакам!

Дзед Талаш (*дае знак рукою*). Вядзеце іх і зрабеце па закону. (*Да Маркі Балука*). Табе, Марка, даручаю выпаўніць прыгавор.

Балук. Слухаю.

Агентаў дыфензівы і Саўку вядуць у лес. На сцэне астаюцца дзед Талаш і Жыбуль. Залп).

Дзед Талаш. Ці правільна зроблена, таварыш Жыбуль?

Жыбуль. Так, так. Ворагаў трэба знішчаць.

(Уваходзіць **Мартын Рыль**).

Рыль (*з другога боку, узрушаны*). Таварышы! Патрабуецца тэрміновая дапамога нашай арміі. Батальён Шалёхіна акружан палякамі і прыціснут да Прыпяці. Єродкаў для пераправы няма.

Жыбуль. Верныя весткі?

Рыль. З Букрэйскага ўзводу перадана.

Жыбуль. Прыйсці на дапамогу—наш тварыскі доўг.

Дзед Талаш. Паможам, паможам, голубе. Выратуем. Мартыне голубе, трубі збор!

(Рыль трубіць у паляўнічы рог. Сходзяцца партызаны).

Дзед Талаш. Таварышы грамада. Чырвоная Армія нам дапамагала. Але настаў час, калі мы павінны пайсці на дапамогу Чырвонай Арміі. Батальён, з якім мы цесна звязаны, акружылі палякі, прыперлі да Прыпяці. Батальёну няма куды падацца.

Галасы. Трэба дапамагчы.

Дзед Талаш. Дык у паход, голубе, хлопцы.

Галасы. У паход.

(Партызаны строяцца ў паходную калону. У першых радах калоны зачынаецца песня. Яе падхоплівае партызанская маса. Апошнія рады партызан знікаюць з вачэй).

*Песня*:

Запявала.

Эй, з-за лесу ды з-за гор
Сонца выплывае.

Хор.

Зашумі ты, цёмны бор,
Пушча векавая!
Пойдзем пойдзем ваяваць
Долю, волю здабываць.

Запявала.

Расступецеся, лясы
Перад нашай сілай!

Хор

Няхай стануць верасы
Панскаю магілай.
Будзем, будзем гнаць паноў,
Біць, як чортавых сыноў.

Запявала.

Эй, вядзі-ж ты нас у бой,
Камандзір удалы.

Хор.

Абаронім край мы свой
Ад ліхой навалы.
Гайда-ж, гайда-ж у паход.
Нішчыць люты, панскі зброд.

*Заслона.*

## АКТ ЧАЦВЕРТЫ

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Ноч. Сярод лесу невялічкі ўзвышак, атулены дрэвамі. На ўзвышку сядзіць група камандзіраў: Шалёхін, Путнік, Пятраш, Грыгарук. Пад дрэвамі ляжаць упавалку чырвонаармейцы.

Грыгарук. Прабівацца? З чым прабівацца?

Шалёхін. Дык што-ж па твойму: сядзець, як мышам у мышалоўках і чакаць?

Пятраш. Выбар спосабаў вырвацца з мяшка не дужа вялікі: або прабіцца на Карначы, або пераправіцца праз Прыпяць.

Грыгарук. Не маючы патронаў, ні сапернай часці, нават тапароў, каб збіць звычайны плыт.

Шалёхін. Эх, раздзяры яго чорт! А прыдумаць нешта трэба. Краскін сукін сын, здорава намуціў: запэўніваў, што тут ёсць пераправы праз Прыпяць... Да рэчы, дзе ён? Чаму яго няма на нарадзе?

Грыгарук. Дык ён цяпер сам не свой ходзіць. У балоце па вушы выкачаўся, шукаючы пераправы.

Путнік. Не ведаючы броду, не сунься ў воду.

(Уваходзіць **Краскін**).

Шалёхін (*накідаецца на яго*). Ты дзе ходзіш? Чакаем цябе, а ты прапаў.

Краскін. Ну, таварыш камандзір, першы крок для фарсіравання Прыпяці зроблен—дарога да яе пралажана.

Шалёхін (*сярдзіта*). Ну, а далей што?

Краскін. Добры пачатак—палавіна справы, таварыш камбат.

Путнік. А як з другою палавінаю?
Краскін. А падручны матэрыял навошта?
Путнік. Амерыку адкрыў, да ў нас ніводнага тапара няма, каб збіць звычайны плыт. Ты-ж гэта маеш на ўвазе?
Краскін. Гэта толькі гэта. І плыт ужо, можна сказаць, гатовы.
Шалёхін. Колькі на яго можна пасадзіць чалавек?
Краскін. Адзін рэйс можа перакінуць чалавек дваццаць.
Шалёхін. А колькі часу спатрэбіцца на адзін рэйс?
Краскін. Ну, колькі-ж (*прыкідвае ў галаве*), з поўгадзіны зойме.
Шалёхін. А цяпер займіся арыфметыкай: падзялі шэсцьсот на дваццаць.
Пятраш (*іранічна*). Па падручніку Кісялёва выходзіць трыццаць гэта значыць пятнаццаць гадзін.
Шалёхін. А той бераг Прыпяці разведан?
Краскін. Разведкі туды, пакольки мне вядома не пасылалі.
Путнік (*жартліва*). Лягчэй табе, Пятраш, сказаць польскую скарагаворку—не пепш, Петше, вепша, пепшэм, бо пшэпешыш, Петшэ, вепша пепшем—чым Краскіну пераправіць нас за Прыпяць.
Шалёхін. Кінь глупыя жарты! (*Да Краскіна*). Праяўляць сваю ініцыятыву справа пахвальная. Але калі гэта ініцыятыва мяжуе па меншай меры з наіўнасцю, то лепей не праяўляць яе.
Грыгарук. Гэта, бадай што, і верна.
Краскін. Мы павінны спрабаваць усе меры, якія толькі могуць быць у нас для таго, каб выратавацца. Я здорава ашукаўся, але я хачу выкупіць сваю памылку.
Шалёхін. І зрабіць другую.
Краскін (*пакрыўджана*). Будзьце ласкавы, таварышы, запрапануйце другі спосаб, што-небудзь лепшае. Я буду бясконца рад.
Шалёхін. Ах, чорт яго раздзяры! Залезлі як у нерат, ні ўзад ні ўперад. На чым-жа, таварышы, спынімся? Які прыняць план?
Путнік. План адзін: разарваць нечаканаю атакаю найболей слабае звяно абцугоў і прабівацца на лінію Карначы—Ставок каб далучыцца да сваіх часцей.
Пятраш. Патронаў малавата, дружа. Але ў нашым становішчы гэта найболей правільны шлях.
Краскін. Байцы стомленыя, суткі не елі. Настрой, таварышы, паніжаны...—Трэба гэта прыняць пад увагу.
Шалёхін. На мне, таварышы, як на камандзіру часці, ляжыць уся адказнасць за тое цяжкае становішча, у якім апынуўся батальён. Таксама адказваю я і за далейшы яго лёс. Дык вот. На ўсходзе сонца мы зробім рашучую спробу вырвацца з мяшка. Нечаканым ударам абрушымся на правы фланг праціўніка. Каб адцягнуць яго ўвагу, рота Путніка завязвае бой у цэнтры абхвата. Размеркаванне баявых участкаў і задачу кожнаму камандзіру я дам своечасова, а для гэтага, таварышы камандзіры, праз гадзіну зайдзеце да мяне. У нашым

распараджэнні ёсць тры-чатыры гадзіны. Скарыстайце іх для найлепшай падрыхтоўкі прарыва. А цяпер, таварышы, па сваіх месцах.

Ротныя камандзіры. Ёсць, таварыш камандзір.

(Разыходзяцца. Астаецца адзін Шалёхін. Некаторы час сядзіць моўчкі, абапёршы галаву на далоні рук).

Шалёхін (*сам з сабою*). Палажэнне паршывае... І як гэта я даверыўся?.. Тьфу, ты, чорт цябе раздзяры... А іншага выйсця няма. Прабіцца якою-б то ні было цаною.

(Дастае палявую карту, разважае ціха. Паказваецца Букрэй).

Букрэй. Можна к табе на хвілінку, таварыш камандзір?

Шалёхін. А, гэта ты, Букрэй! Ну, давай!

Букрэй. Мае разведчыкі данеслі, таварыш камандзір, што палякі пераправілі на той бок Прыпяці тры батарэі.

Шалёхін. Стала быць, дружок, яны прыпускаюць, што мы будзем пераправляцца праз Прыпяць. Ну і чорт іх раздзяры. Мы выбралі рашэнне прабіцца на Карначы, самае вернае ў нашых умовах.

Букрэй. Таварыш камандзір, а ці не адлажыць нам яго яшчэ на суткі? Я перадаў у штаб партызанскага атрада аб нашым становішчы. Там пры штабе таварыш Жыбуль. Ён падыме партызан, каб нам памагчы.

Шалёхін. Я ў гэтым не сумняваюся. Але кожны лішні час мяняе суадносіны сіл, і кожная адтэрміноўка прарыва змяншае яго шансы на поспех. Сваё рашэнне я пакідаю ў сіле... Што яшчэ маеш сказаць, Букрэй.

Букрэй (*паціскае плячамі*). Ёсць адна рэч, аб якой я нават не адважваюся сказаць табе, таварыш камандзір.

Шалёхін. Гавары, гавары, брат!

Букрэй. Справа вось у чым, таварыш камандзір. Мне сказаў Кухарык, салдат, перашоўшы к нам разам з Талашовым Панасам, што нашага Краскіна ён бачыў сярод польскіх афіцэраў.

Шалёхін (*незаметна ўздрыгвае*). Ну гэта проста нейкае непаразуменне, ерунда.

Букрэй. Я таксама не прыдаў значэння словам Кухарыка, але гэта паведамленне мяне заскрэбла дужа непрыемна, і я рашыў пагаварыць з табою, таварыш камандзір. Мала што.

Шалёхін. Правільна, Букрэй, правільна... дзякую табе за паведамленне. Да рэчы, вось што. Пакольні ты тут, я непасрэдна перадаю табе тваю баявую задачу. Вазьмі свой узвод і аставайся ў арыергардзе для прыкрыцця батальёна ў часе нашай аперацыі.

Букрэй. Ёсць, таварыш камандзір.

Шалёхін. Ну, цяпер ты можаш ісці. Яшчэ раз дзякую (*Букрэй паварачваецца, выходзіць*). Пастой, дружок... Вось што. Аб Краскіну нікому ні слова і пашлі мне Кухарыка.

Букрэй. Слухаю, таварыш камандзір.

(Букрэй выходзіць. Шалёхін зноў застаецца адзін. Задумваецца).

Шалёхін. Чорт яго знае... Гм. Ну добра. (*Азіраецца навокал, запыняе погляд на чырвонаармейцах, якія спяць крэпкім сном*). Натаміліся бедныя, спяць сном праведнікаў. І не дзіва— тры ночы не прыкладалі галоў.

(Кладзецца на дол, падпірае галаву рукою. Ляжыць нерухліва. Потым прахопліваецца, рука машынальна намацвае рэвольвер. З лесу высоўваюцца два сілуэты людзей.

Шалёхін (*хватаецца за наган*). Хто там?
Часавы. Гэта да вас, таварыш камандзір.
Дзед Талаш (*падымае ўгору палец, дае знак маўчаць*). Псс! Гэта мы: Талаш і Жыбуль. Паратунак нясём вам.
Шалёхін (*праціраае вочы*). Талаш? Жыбуль? Сон гэта ці што?

(Устае. Жыбуль і дзед Талаш падыходзяць да яго).

Жыбуль. Здароў, брат!
Шалёхін (*абнімае Жыбуля*). Здароў, здароў, браток! (*Да дзеда Талаша*). Здароў, бацька!
Дзед Талаш. Падымайце, голубе, байцоў, і зараз-жа ў паход.
Шалёхін (*здзіўлена*). У паход?
Дзед Талаш. Цсс. За намі на Прыпяць: наш флот і нашы матросы чакаюць вас, голубе.
Жыбуль. Мабілізаваны лодкі і чаўны. Аддавай загад на пасадку.

(Краскін не заўважаны выпаўзае з-за кустоў, падслухоўвае).

Шалёхін. Пастойце, таварышы. Тры белапольскія батарэі з таго берага чакаюць нашай пераправы.
Дзед Талаш. Ведаем, голубе, ведаем. Цяпер гэтыя батарэі болей не панскія, а нашы, рабоча-сялянскія.

(Лес ажывае. Збіраюцца камандзіры, чырвонаармейцы.)

Шалёхін. Таварышы, я адмяняю свой загад. Зараз-жа ціха без таўкатні і шуму, арганізавана вясці роты для пераправы на лодках.
Краскін. А ўсё-ж такі, таварышы, па сутнасці мой план бярэ верх.
Шалёхін. Федот, ды не тот, таварыш Краскін! Ты будзеш пры мне неадлучна.

(Уваходзяць **Букрэй** і **Кухарык** у форме польскага салдата. Кухарык ўглядаецца ў Краскіна).

Кухарык. Пан Гэмбіцкі?

(Краскін бляднее, потым кідаецца бегчы. Букрэй хватае яго за шынель).

Букрэй. Позна ўцякаць!

*Заслона.*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

У штабе белапалякаў. Прасторны пакой. Абстаўлены ў панскім гусце. Пры адной сцяне стаіць стол. На стале пісьмовы прыбор, паперы, ваенныя карты. На сцяне вісіць карта Польшчы. Круле́ўскі чытае апошнія навіны і данясенні. Афіцэр стаіць каля карты, павешанай на сцяне, разглядае раён ваенных аперацый. У меру чытання пан Круле́ўскі ўсё болей і болей хмурыцца. Нарэшце ўскідае плячамі, кладзе паперы на стол.

Круле́ўскі. О, сто д'яблаў! І як-та магло здарыцца? Не разумею.

Афіцэр (*адрываецца ад карты, пазірае на Круле́ўскага. Круле́ўскі сядзіць моўчкі, абапершы лоб на далонь рукі*). Што так здэтанавала пана капітана?

Круле́ўскі. Наш план і наша стратэгія, пане паручніку, пашлі псу пад хвост.

Афіцэр (*паціскае плячамі*). Не разумею пана капітана.

Круле́ўскі (*к карце*). Батальён чырвоных шатанаў прыпёрты да Прыпяці і фактычна акружаны вырваўся з мяшка, не страціўшы ні аднаго чалавека. Але гэтага мала, пане паручніку: тры нашы батарэі, перапраўленыя на другі бераг Прыпяці захвачаны ворагам... О, пся маць!

Афіцэр (*у здзіўленні ўскідвае плячамі*). Фацэція! ... А што-ж пан Гэмбіцкі?

Круле́ўскі (*перабівае*). Пан Гэмбіцкі зрабіў усё, што можна зрабіць. Болей таго: ён у рот палажыў нам увесь большэвіцкі батальён і не яго віна, што мы не патрафілі з'есці яго.

Афіцэр (*разводзіць рукамі*). Толькі шатан мог пераправіць сваіх д'яблаў і вырваць іх з пасткі.

Круле́ўскі. У тым-та і бяда, што шатана мы не злавілі, пане паручніку.

(Уваходзіць **легіянер**).

Легіянер (*бярэ пад казырок*). Да пана капітана войт інтарэс мае.

Круле́ўскі (*у злосці*). Да ста д'яблаў твайго войта!.. Пачакай. Закліч яго тутай.

(Легіянер выходзіць, прыводзіць **Бусыгу**).

Бусыга (*нізка кланяецца*). Дзень добры яснавельможнаму панству.

Круле́ўскі (*мяняе тон, далікатна*). Дзень добры, пану войту! Проша сядаць. (*Паказвае рукою на крэсла. Бусыга садзіцца*). Што мае сказаць пан войт?

Бусыга. Нядобрыя навіны, вяльможны пане васпане.

Круле́ўскі. А якія-то навіны?

Бусыга. У лесе каля смалакураўскіх шалашоў пастухі знайшлі забітых паліцыянтаў і майго чалавека Саўку. Ён быў прыстаўлены, пане-васпане, асачыць табар старога разбойніка Талаша і павёў туды паліцыю. І ніхто назад, я так думаю, адтуль не вярнуўся.

Афіцэр. Матка боска! О, шатан стары!
Крулеўскі (*да афіцэра*). Што робіцца ў нас, пане паручніку!
Бусыга. Партызанскі зброд, вяльможны пане васпане расце. Ён ужо мае свайго камандзіра, атамана шайкі. І гэты атаман, я так думаю, не хто іншы, як стары Талаш. А правая рука яго, вядомы Рыль, што быў арыштаваны, ды збег з-пад канвою. Запраўляе-ж і канаводзіць усім большэвіцкім збродам нехта Жыбуль. Яго павуцінаю аблутаны ўсе вёскі.
Крулеўскі. Разблутаць і вымесці, пане паручніку, усю павуціну, а павука на агні спаліць!
Афіцэр (*дастае са стала папку, гартае*). Так, так, пане войт: Жыбуль значыцца ў спісках, як самы небяспечны чалавек. Нашым агентам аддан катэгарычны загад злавіць яго, пане капітан.
Крулеўскі. Час, час нам, пане паручніку, залучыць яго ў свае рукі.
Бусыга (*дастае з кішэні лісток*). Вось проша пана васпана, іхні лісток, брыдкі і агідны, я так думаю.

(Пан Крулеўскі і афіцэр бяруць лісток, пазіраюць у яго).

Крулеўскі (*чытае ўголас*) „Тоўстамордаму свінячаму войту Бусыгу. Ведай, панскі падбрэхіч, што цябе чакае тое самае, што і твайго Саўку. Не цяпер, дык у чацвер будзем судзіць і цябе, як судзілі панскіх шпегаў, а разам з табою і тваіх бязмозглых паноў, і ў першую чаргу твайго........ (*кідае лісток*). О пся маць іх.

(Бусыга падбірае лісток, дае яго падышоўшаму афіцэру).

Афіцэр. „І ў першую чаргу твайго задрыпу пана Крулеўскага. Занясі яму гэта пісьмо—няхай пачытае і ён. Мы дазваляем яму укусіць сябе за тое месца, якое ён выбярэ сам“.
Афіцэр. Якая нагласць!

(Узрушаны пан Крулеўскі шпарка ходзіць па пакою, потым запыняецца каля Бусыгі).

Крулеўскі. Няхай пан войт зробіць распараджэнне выслаць у лес фурманкі. Загінуўшых на варце айчыны, няхай агледзіць камісія на чале з панам следчым і доктарам, пасля чаго пахаваць урачыста пры імшы і касцельным звоне.
Бусыга. Слухаю пана!
Крулеўскі. Пан войт павінен прыняць свае меры для выкрыцця злачынцаў: гэтага патрабуюць інтарэсы маткі Польшчы і ўласныя інтарэсы пана войта.
Бусыга. Слухаю пана!
Крулеўскі. Пан войт можа быць вольным.

(Кланяецца лёгкім кіўком галавы).

Бусыга. Довідзення панове.

(Бусыга выходзіць, нізка пакланіўшыся. Афіцэр сядзіць, перагортвае паперы потым адкладае іх, барабаніць лёгенька пальцамі па стале. Прашоўшыся па пакоі разы два, пан Крулеўскі зварачаецца да афіцэра).

Крулеўскі. Што пан паручнік скажа на гэта?

Афіцэр. А трэба, пан капітан, прысляшыць высылку ў лес вайсковых часцей для поўнага зліквідавання шаек большэвіцкіх бандытаў.

Крулеўскі. Так, так: пан паручнік мае рацыю, мосці дабрадзею. Трэба нарэшце скончыць з гэтым хлопскім збродам. А за барбарскую расправу з агентамі польскага жонду, за нахабныя лісткі—расстрэл на месцы кожнага бандыта, халупы-ж іх пусцім дымам у паветры. (*Зноў у абурэнні ходзіць па пакою, потым да афіцэра*). Я сам, пане паручніку, мосці дабрадзею, станаўлюся на чале карнай экспедыцыі.

Афіцэр. І гэта будзе, пан капітан, вернай гарантыяй поўнага вынішчэння большэвіцкіх карэнняў на вёсках.

Крулеўскі (*пыхліва стукае кулаком па стале*). Яны адчуюць маю руку, пане паручніку, мосці дабрадзею!

(Уваходзіць легіянер).

Легіянер. Пане капітан. Прывялі затрыманых жабрака з кабетаю.

Крулеўскі. Жабрака? А на д'ябла ён?

Легіянер. Жабрак, пане капітан, падазрэнны.

Афіцэр. А трэба, пан капітан, зірнуць на яго.

Крулеўскі. Ну, то вядзі яго сюды.

Легіянер адчыняе дзверы. У пакой уваходзіць жабрак, адзеты ў лахманы і абвешаны торбамі, з доўгім кіем, з сівою бародкаю, збітаю ў касмыкі. Пераступіўшы парог, жабрак моўчкі запыняецца. Стаіць і трусіцца. Пан Крулеўскі і афіцэр моўчкі ўглядаюцца ў яго).

Крулеўскі. Сконт ты ест?

Жабрак (*не разумее*). Га?

Афіцэр. Адкуль ты?

Жабрак. З лесу. Адкуль-жа я?

Крулеўскі. А хто ты такі?

Жабрак. Га? Жабрак я.

Крулеўскі. А чаго ты трусішся?

Жабрак. Напалохалі мяне, панок.

Крулеўскі. Хто напалохаў?

Жабрак. Га? Ну, хто-ж? Яны, чэрці. З дрыгвы павылазілі. А дрыгва там вялікая. Людзі не ходзяць па ёй: ступіш—праваліўся і наверх ужо не выбярэшся.

Крулеўскі. Раскажы нам падробна пра іх. Мы ніколі не бачылі чарцей.

Жабрак. Кінь, панок, пытацца пра іх: сніцца паганыя потым будуць.

Афіцэр. Не, сноў мы не баімся. А ці не пакажаш нам тое месца, адкуль яны павылазілі?

Жабрак. Ой, баюся я. Але з вамі паночкамі ваякамі не так страшна. Гэта як ісці адсюль, дак за Доўгім бродам.

Крулеўскі. Стой! Лжэш, галгане. (*Хватае жабрака за бародку. Барада астаецца ў руцэ Крулеўскага*). Ну, мосці добрадзею,

што-ж скажаш ты цяпер. (*Жабрак маўчыць. Афіцэр узіраецца ў твар жабрака*).

Афіцэр. Пастой, пастой, каханы. Дзе гэта бачыў я тваю хамскую морду. (*Прыпамінае, пасля кароткай паузы звярачваецца да пана Крулеўскага*). Пан капітан. А гэта той самы, што з-пад канвою збег, Мартын Рыль.

Крулеўскі (*уражаны*). Рыль? (*Да Рыля*). Ты Рыль?

(Рыль не адказвае. Афіцэр зрывае з яго торбы і жабрацкія лахманы. З-пад лахманоў паказваецца наган. Афіцэр яго вырывае.)

Афіцэр (*да Крулеўскага*). Пан капітан памятае. Гэта яго пан капітан наказваў канвою глядзець, як свайго вока.

Крулеўскі (*прыглядаецца да Рыля*). А, памятаю: кандыдат у большэвіцкія камісары?.. Ну, цяпер ты будзеш віляць, як сабака хвастом?

Рыль (*панура*). Я не панскае пароды.

Крулеўскі. О, які ганарысты! Але амбіцыю сваю схавай у кішэню. Лепей пагаварым спакойна. Як шпіён, ты падлягаеш смерці без усякага суда. Аднак лёс твой яшчэ ў тваіх руках. Мы табе даруем жыццё, калі ты чэсна перад панам богам і маткай боскай раскажаш усю праўду аб сваіх хаўрусніках. Падумай і скажы.

Рыль (*некаторы час панура маўчыць*). Калі-б вы папаліся ў мае рукі, то ў мяне і гутаркі не было-б, каб зрабіць вас здраднікам. За каго-ж вы мяне лічыце?

Крулеўскі. З кім ты раўняеш мяне, хаме.

Рыль. Я памыліўся: такога параўнання вы не варты.

Крулеўскі. Цо? Пся мацы!

Афіцэр (*надзяваючы на руку касцет*). У нас, апроч слоўнай мовы, ёсць мова іншых спосабаў.

Рыль. Чуў пра іх. На гэта-то вы мастакі.

Крулеўскі. Скажы, хто тваё хаўруснікі і дзе яны?

Рыль. Мае хаўруснікі—Іван, Сцяпан, Даніла, Кірыла, Кандрат, Ігнат, Яхім ды Трахім ды Мацей з Аўдзеем. А дзе яны. Яны ўсюды. Нават сярод польскіх салдат не мала іх.

Крулеўскі. Лжэш, хаме! Польскі жолнеж—верны сын сваёй ойчызны.

Рыль. Дык кепска пан ведае сваіх салдат.

Афіцэр. А скажы: Талаш—атаман вашага хлопскага зброду?

Рыль. Мы не зброд: мы тутэйшыя людзі, а з прыблудным збродам мы ваюем.

Афіцэр (*іранічна*). Ах, пшэпрашам! Я пытаюся: хто атаман слаўтага партызанскага войска.

(Рыль маўчыць).

Крулеўскі. Чаму не адказваеш?

Рыль (*сеў*). Не люблю пустых гутарак.

Крулеўскі. Пустых гутарак? А дзе знаходзіцца ваша шайка?

Рыль. Там, адкуль зручней біць слаўтае панскае войска.

Крулеўскі (*трацячы здольнасць валодаць сабою*). Галган! Большэвіцкая зараза! Мы развяжам тв [illegible] я[illegible]к і навучым цябе пачцівасці.

(Шпарка падыходзіць да стала, звоніць, націскаючы на кнопку. Уваходзіць начальнік каравула са словамі: „Слухаю пана капітана", бярэ пад казырок).

Крулеўскі. Пасадзіць гэтага разбойніка пад самы строгі арышт і надзець яму наручнікі. (*Некалькі легіянераў накідваюцца на Рыля, і надзяваюць яму наручнікі. Тады паручнік б'е яго бездапаможнага касцетам па твары*). Памятайце, што адзін раз ён ужо збег.

(Начальнік каравула адчыняе дзверы, свішча ў свісток, уваходзяць легіянеры. Рыля пад канвоем выводзяць з пакою. У пакоі астаюцца пан Крулеўскі і афіцэр).

Крулеўскі (*да афіцэра*). Ну, што скажа пан паручнік?

Афіцэр. Зацятая юха, пан капітан. Але мы пасадзім яго на кабылу, ён вылажыць усё, што нам трэба. А цяпер, пан капітан, учынім допыт кабеце! Жанчыны болей падатлівы.

Крулеўскі. Так, так, пане паручніку: праз іх мы павінны дабрацца да гэтых бандытаў.

(Афіцэр адчыняе дзверы, аддае загад: „Прывесці сюды затрыманую кабету". Варочаецца, садзіцца за стол, каб запісваць паказанні допыту. Пан Крулеўскі шпацыруе па пакоі. Легіянер прапускае ў пакой жанчыну. Жанчына запмняецца, шырока адкрытымі вачамі глядзіць на Крулеўскага і на афіцэра. Яны таксама ўзіраюцца ў яе. На іх тварах адбіваецца здзіўленне).

Крулеўскі (*у здзіўленні*). Пані вайтова! Як разумець тую акалічнасць, што пані апынілася ў кампаніі бандыта Мартына Рыля!

Аўгіння (*уздрыгвае*). Рыля? Дык гэты жабрак, пан афіцэр, і быў Рыль?

Крулеўскі. А пані вайтова не знала гэтага? (*Недаўменна*). То як-жа магло здарыцца, што вас затрымалі разам?

Аўгіння (*бярэ сябе ў рукі, жахаецца*). Ох, божачка! А здарылася-ж так. Хадзіла я да свае маткі. Яна ў другой вёсцы жыве ў Вепрах. Ішла я адна да дому, аж выходзіць з лесу жабрак, заступае мне дарогу: „Ідзі, кажа, са мной". Я давай прасіцца і так і сяк, а ён ні на якія просьбы не падаецца... Пагражаў мне і прымусіў ісці з ім. Куды і чаго, ён не сказаў мне.

Крулеўскі (*задаволены расказам Аўгінні*). Ах, так. То іншая справа. Проша пані сядаць.

(Аўгіння садзіцца, напускае на сябе вясёласць).

Афіцэр (*з усмешкай галантнага кавалера*). Пані така слічна і не дзіва, што гэты лайдак забраў вас у палон. (*Аўгіння ў замяшанні апускае вочы. Да пана Крулеўскага*). Хлопская тактыка тут зразумела: залучыўшы пані вайтову, яны разлічалі на кішэню пана войта. Яны меркавалі, пані вайтова, за вас атрымаць выкуп.

Крулеўскі. Пан паручнік мае рацыю. (*Да Аўгінні*). А не скажа пані, што ён гаварыў вам?

Аўгіння (*прыкідваючыся сваёй*). Распытваў пра войта, куды ён ходзіць, якія людзі бываюць у яго.

Афіцэр (*да пана Крулеўскага*). О, цяпер праліваецца святло на іх брудны падкідны лісток, пане капітан.

(За сцэнаю чуваць голас Рыля. „Прэч, каты!" Тупат ног, свісткі. Пан Крулеўскі і афіцэр кідаюцца да акна. Аўгіння сядзіць акамянелая, толькі рукі яе трасуцца).

Крулеўскі (*каля акна стараецца захаваць спакой*). Што там за гармідар?

Афіцэр (*трывожна*). Ці не хлопскі-то налёт, пан капітан?

(Абодва хватаюцца за рэвольверы, выбягаюць з пакою. Аўгіння астаецца адна).

Аўгіння. О, каб яны падаспелі сюды... Матанькі, апазналі яго. Бедны, родны Мартын. (*Стрэл*). Не, ужо ты не вырвешся з панскіх ланцугоў? (*Аўгіння кідаецца да дзвярэй*). Што-ж мне рабіць тады?

(Уваходзіць афіцэр).

Афіцэр. Шатан які: разбіў наручнікі аб галаву няшчаснага начальніка караула. Але, пані вайтова, пані можа быць спакойна, жабрак пашоў жабраваць на той свет... Пан капітан яго прыстрэліў.

(Аўгіння мяняецца ў твары і падае з крэсла. Афіцэр падбягае да яе, падымае. Уваходзіць пан Крулеўскі, бачыць гэту сцэну).

Крулеўскі. Што тут здарылася, пане паручніку?

Афіцэр. Проша падаць вады, пан капітан. Пані вайтова абамлела.

(Крулеўскі налівае шклянку вады. Аўгінню прыводзяць у прытомнасць, усаджваюць на крэсла. Аўгіння п'е памаленьку воду, збіраецца з мыслямі).

Аўгіння. Ох божухна! Даруйце мне, паны афіцэры: я так напалохана, што не магу чуць стралянiны.

Крулеўскі. То ніц, ніц, пані вайтова, проша заспакоіцца. (*Падыходзіць да шафіка, дастае графін, налівае чарку, бярэ плітку шакалада, падносіць Аўгінні*). То, пані, замест лякарства: кропля польскай старавудкі ўзмоцніць сілы.

Аўгіння. Дзякуй пану афіцэру за турбацыю. Усё прайшло, і я зусім здарова.

Крулеўскі. Калі пані дазволіць, я маю да пані яшчэ адно запытанне: ці не помніць пані тое месца, дзе сустрэўся жабрак? (*Аўгіння маўчыць*).

Крулеўскі. А можа пані была-б так ласкава і паказала-б нам гэта месца?

Афіцэр. Няхай пані нічога не баіцца, мы гарантуем пані поўную забяспеку (*Аўгіння апускае галаву, збіраючыся з думкамі*).

Аўгіння. Я баюся, пане афіцэру, таго месца: там непадалёку партызанскае табарышча. Там яны туляюцца. А барані божа даведаюцца пра мяне, то не жыць мне не свеце.

Крулеўскі. Дзеля пана бога і польскай дзяржавы, а таксама і для свайго уласнага дому пані павінна пайсці на невялічкую ахвяру—перамагчы свой страх і нерашучасць. Гэтага патрабуе абавязак кожнага грамадзяніна рэчы паспалітай. Ухіленне-ж ад гэтага святога абавязку можа быць вытлумачана, як спачуванне пані войтавай да большэвіцкіх бандытаў.

(Аўгіння сядзіць у часе прамовы апусціўшы галаву, пры апошніх словах яна ўздрыгвае).

Аўгіння (*пасля паузы. Ціха*). Я згодна.

---

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Дзея адбываецца ў глухім лесе. Між дрэваў азіраючыся, асцярожна прабіраецца чалавек, селянін па абліччу і адзежы. Чалавек туляецца між карчоў. Раптам перад ім выступае партызан са стрэльбай, настаўляе штык, пераймае дарогу.

Балук (*грозна*). Стой!

(Чалавек палохаецца, запыняецца).

Балук. Ты хто?
Чалавек. Да я, браток, з тутэйшых мест.
Балук. Куды ідзеш?
Чалавек. Спаліў маю ўсю гаспадарку паляк... іду да свайго родзіча ў Пласкінь. Можа хоць з пуд жыта на хлеб дастану: дзеці галодныя сядзяць. Пусці мяне, браток!
Балук (*сурова*). Шмат у каго цяпер галодныя дзеці. (*Дастае свісток, збіраецца свістаць*).
Чалавек. Злітуйся, братка: не рабі гэтага, пусці мяне. (*Засоўвае руку ў кішэню, дастае грошы*). Вось вазьмі і пусці мяне. А я вам зла не мыслю.

(Партызан не зварочвае ўвагі, дае свісток).

Чалавек. Братка! На што ты губіш дзяцей маіх?
Балук. Разабрацца трэба, хто ты і з чым ідзеш.

(З лесу выходзіць дзед Талаш).

Дзед Талаш. А што тут у цябе, голубе? (*Глядзіць на незнаёмага чалавека*). Хто такі?
Балук. З тутэйшых, кажа. Ідзе ў Пласкінь да родзіча. Грошы даваў мне, каб пусціў яго.
Дзед Талаш (*да чалавека*). Хто ты будзеш такі, голубе?
Чалавек. А вы, бацька, прыгледзьцеся да мяне добра, можа пазнаеце? (*Дзед Талаш угледаецца*).
Талаш. Жыбуль! Дык ты жывы, здаровы?
Жыбуль. Я, дзядзька Талаш, паміраць не збіраюся.
Талаш. Вось гэта добра! Даўно, голубе, не бачыў я цябе. Хлопцы нашы ўжо непакоіцца пачалі.
Жыбуль. Дарма, чаго там непакоіцца? Усё, пакуль што, добра ідзе. Была ў нас нарада—два дні цягнулася. Адусюль пана-

ехалі: і з-пад Полацку, з-пад Слуцку, з-пад Барысава. Пад Барысавам сам Орджанікідзе аперацыяй кіруе.

Талаш. І ты яго бачыў, голубе?

Жыбуль. Бачыў.

Талаш. Вось гэта, мусіць ваяка! Эх! Паглядзець хоць-бы на яго сваімі старымі вачыма, голубе!

Жыбуль. Пажывем дык і пабачым. Ведаеш, бацька, Врангель злікві̇даваны. Сілы Чырвонай Арміі рушылі сюды, супроць паноў. Даволі ім гаспадарыць на нашай зямлі. А я вось бачыце, правяраю вашу варту. Малайцы. Дысцыпліна ў вас і пільнасць— што называецца.

Талаш (*задаволены*). Ого—маім хлопцам пальца ў рот не кладзі, голубе.

Балук. А як-жа інача́й.

Талаш (*да Жыбуля*). Інача́й, галубе, і не можна, асабліва ў гэты час, калі мы вось-вось чакаем панскага войска.

Жыбуль. Раскажэце, як тут справа стаіць.

Дзед Талаш. Данеслі нам, голубе, нашы людзі, што пан Круле́ўскі збіраецца на нас з войскам, ды не ведае, дзе наша галоўная сіла. Вось мы—я, і Мартын Рыль—злажылі свой план: выбраць зручную для нас пазіцыю і завабіць пана з войскам. Гэту пазіцыю і абралі мы тут. Непадалёку ёсць дрыгвяністае балота—... Мы і хочам, сынку, да балота іх прыперці і ў дрыгву загнаць. Калі нам удасца гэты план, усё будзе добра, голубе.

Жыбуль. А як-жа вы думаеце завабіць Крулеўскага?

Талаш. Мартын Рыль сам узяўся зрабіць гэта. Жабраком для гэтага адзеўся, сынку.

Жыбуль. Важныя навіны... І план задуман добра.

Талаш. Толькі-б з Мартынам чаго не здарылася.

Жыбуль. Тут, бацька, трэба гадаць і так, і сяк, розныя здарэнні могуць быць... Аднаго толькі не трэба спускаць з увагі: кожная наша ўдача, поспех падымаюць дух барацьбітоў і паўстаўшага народа. Ці ўсё зроблена, каб забяспечыць наш поспех?

Талаш. Мы сабралі тут усю нашу граматаду ваякаў. Кулямёты паставілі ў надзейнае месца, голубе. Ваякі нашы на зямлі, у зямлі і над зямлёй: на дрэвах сабе пазіцыі абралі. На вартах людзі надзейна стаяць.

(Дзед Талаш паварачвае ў той бок, адкуль чуецца голас трубы).

Талаш (*да Жыбуля*). Голубе, Жыбуль. У лесе паляк. Слухай. Зараз закукуе зязюля. (*Стаяць, слухаюць. З боку чуваць „ку-ку“, „ку-ку“*). Чуеш? Гэта азначае, голубе—станавіся на сваё месца. Пойдзем.

(Жыбуль і дзед Талаш ідуць у лес. Сцэна на некаторы час застаецца пустою. За сцэнаю з процілеглага боку, чуваць голас пана Крулеўскага. Уваходзіць **Аўгіння**).

Аўгіння. Хоць бы-ж каго пабачыць. (*Выпаўзае Дарвідошка*). Цсс, папярэдзь нашых... Крулеўскі тут з войскам.

Дарвідошка. Ведаю, пастарайся затрымаць іх тут. Дзе яны?
Аўгіння. Хавайся каб не ўбачылі. (*Вышла*).
Дарвідошка. Ну, брат Дарвідошка, не падгадзь, ну але. (*Таксама выходзіць*).
Крулеўскі (*выходзіць*). Пане паручніку, прыняць болей сталыя меры забяспекі. Рух войска прыпыніць, даць адпачынак і выслаць дадатковыя дазоры.
Паручнік. Слухам, пан капітан. (*Выходзіць*).
Крулеўскі (*з Аўгінняй ідуць*). Дык пані кажа да іхняга станавіска яшчэ вёрст пяць будзе?
Аўгіня. Не меней, пане афіцэру. Можна і адпачыць трошкі.

(Крулеўскі запыняецца, абводзіць поглядам лес).

Крулеўскі. Можна адпачыць... Якая пушча.
Аўгіння. Тут, пане афіцэру, ёсць дуб... вось ён. (*Паказвае на дупляваты дуб*). Пра гэты дуб застаўся расказ у народзе.
Крулеўскі Цікава. Няхай пані будзе ласкава, раскажа.
Аўгіння. Не ўмею я, пане афіцэру, складна расказваць.
Крулеўскі (*прыкладае руку да сэрца*). З вуснаў пані ўсякае слова, як чарка польскай старавудкі.
Аўгіння. Не смейцеся з мяне, пане афіцэру!
Крулеўскі. Я праўду кажу, пані, як бога кохам. Ї хачу, каб пані расказала легенду аб дубе.
Аўгіння (*хоча размовай затрымаць на больш доўгі час Крулеўскага*). Людзі так гавораць. Туляліся калісь у гэтым лесе два разбойнікі, родныя браты. Награбленае дабро хавалі ў дубе. Раз аднаго брата цяжка ранілі. Другі брат прывёў яго сюды. Ї вось нейкі злы дух пачаў яму нашэптваць: „дабі брата, усё дабро табе аднаму застанецца“. Усю ноч адганяў ён ад сябе гэтыя шэпты, а раніцою не ўтрымаўся і забіў брата. І вось кожны год у той дзень, калі забіў брат брата, чуецца голас каля гэтага дуба: „Помста! помста“!
Крулеўскі. Легенда якраз стасуецца з гэтым цёмным лесам.
Аўгіння. А вось, пане афіцэру, калі ўзлезці на гэты дуб, то ў прагале між дубовых галін відаць і тое балота, пра якое расказваў пану жабрак—Рыль. На балоце ёсць востраў. Ці не там хаваюцца партызаны?
Крулеўскі. А-а! Так, так, пані. То трэба, пані, разведку зрабіць. (*Падыходзіць пад дуб. Аўгіння ідзе за Крулеўскім. Крулеўскі аглядае дуб*). Што пані так пазірае?
Аўгіння. Ой, якая-ж я дурная. Пастух статка гоніць, а мне паказалася невядома што. Схавайцеся, пане афіцэру, а я пайду распытаюся.
Крулеўскі (*хаваецца за дуб*). А ладная, пся крэў, кабета. Але дзе-ж яна падзелася?

(Ваенная труба падае баявы сігнал. Пан Крулеўскі некаторы час сядзіць, прынікшы да дуба, потым крычыць: „Пане паручніку! Ка мне да паратунку“. З лесу выходзяць **дзед Талаш і Будзік**.)

Аўгіння. Сюды! Унь ён, забойца!

(Крулеўскі з рэвальверам у руцэ кінуўся бегчы).

Жыбуль (*выбягаючы з лесу*). Стой!

(Наводзіць на Крулеўскага наган. Крулеўскі страляе ў Жыбуля, Жыбуль выпускае наган, хістаецца, асядае на калена, хватаецца рукой за левы плячук. Талаш страляе ва ўпор у Крулеўскага. Крулеўскі падае).

Талаш (*нахіляецца над Жыбулём*). Жывы, голубе?
Жыбуль. Плячо гарыць, бацька, а так—пусцякі.

(У лесе грыміць „ура").

Талаш. Чуеш, голубе. Наша бярэ! Перавяжы, Аўгінька, рану...
Вылячым цябе, сынку, на радасць нашу.

(Жыбуль прабуе падняцца сам. Аўгіння падтрымлівае яго, памагае сесці).

Жыбуль. Потым, потым, Аўгінька: магу пачакаць.

(Прабуе паварушыць леваю рукою. Грымаса болю адбіваецца на яго твары. Бой і музыка. Цёмна, потым світае).

(Новы малюнак).

Дзед Талаш. Так, таварышы голубе, партызанскае войска. Яшчэ наша адна перамога. Але знімем шапкі, ушануем памяць ваякоў, што загінулі ў бітвах з панамі за грамадскую справу. (*Усе моўчкі знімаюць шапкі*). Сярод вас, голубе, партызанскія камандзіры, не далічваемся мы... (*голас яго дрыжыць*) аднаго з лепшых нашых камандзіраў.

(Сярод слухачоў ціхія галасы: „Рыль, Мартын Рыль". Аўгіння стаіць з нізка апушчанаю галавою, журботная).

Дзед Талаш. Эх, Мартыне, голубе. Не парадуешся ты з намі радасцю перамогі над панамі. Загінуў Мартын.
Галасы. Смерць панам! Папомсцімся за Мартына!
Аўгіння. Я на допыце паклялася сама сабе адпомсціць за яго—заступіла яго месца і прыняла забойцаў сюды.

(У натоўпе чуваць галасы: „Загінуў бедны", „Які быў чалавек". Апіраючыся здаровою рукою на плячо Аўгінні, устае Жыбуль).

Жыбуль. Таварышы, такія людзі, як Мартын Рыль не ўміраюць у памяці народа. Ён будзе служыць кожнаму з нас прыкладам барацьбіта. Будзьце-ж і вы такімі, як ён.
Галасы. Будзем біцца за справу, якую рабіў Мартын.
Усе. Будзем!
Аўгіння. Я прашу вас ўсіх, даражэнькія, памагчы мне знайсці яго цела, каб пахаваць. (*Замінаецца*). Не патрапіла я жыць разам з ім, дык хоць буду прыходзіць на яго магілу з сваёй дачкою. Яна—усё, што ён пакінуў мне. Яна—яго родная дачка.
Усе. Дачка!
Голас. Алеся—Мартынава дачка.

Талаш. Знойдзем, знойдзем Аўгінька яго. Пахаваем як героя, таварышы партызаны! Я хачу выказаць сваю і вашу падзяку партыі. Яна паслала нам на дапамогу свайго лепшага сына, таварыша Жыбуля. Гэта ён, голубе, збіраў нас, пакрыўджаных панамі і параскіданых, як пажоўклае лісце ў полі. Гэта ён развязваў нам вочы, падымаў на змаганне і засланяў нас сваімі грудзьмі. Дык будзем-жа біцца з панамі, покі хоць адзін пан астанецца на нашай роднай зямлі.

Усе галасы. Будзем! будзем.

Дарвідошка. Дазволь мне, бацька камандзір, слова.

Дзед Талаш. Кажы, голубе!

Дарвідошка (*выходзіць з натоўпу*).

Покі ў свеце ёсць паны,
Зброі не паложым.
Толькі мы, а не яны,
Зробім свет прыгожым.

Жыбуль. Ваяваць, сябры, да канца ваяваць!

(Усе падымаюць вінтоўкі, пяюць).

Расступіцеся лясы,
Перад нашай сілай
Няхай стануць верасы,
Панскаю магілай.
Будзем, будзем гнаць паноў,
Біць, як чортавых сыноў.

*Канец.*

*Жыршы Джамбул*

# ПЕСНЯ АД УСЁЙ ДУШЫ

Паглядзі на вяршыні гор,
На стэповы зірні прастор,
На шырокі агонь-зары,
На аулы ты паглядзі.

Па раўнінах, з канца ў канец,
Незлічоныя статкі авец
Пакідаюць свае сляды.
У Каракол ідуць вярблюды,
На Чымкент ідуць вярблюды,
Ад Джаркента да Кзыл-Орды
Скрозь калгасныя вярблюды.

Ты па стэпах наўкол зірні
На імклівыя табуны.
Нібы беркут, песня мая
У вышыню ляціць, бо зямля,
На усход, на поўдзень зямля,
І на захад, на поўнач зямля,
Уся калгасная, уся мая!
Я,—жыршы стогадовы, пяю:
Свой калгас Ер-Назар я люблю,
І Чыен люблю і Аяк—
Там шчаслівы жыве казах.
Перад ім, ў стэповай траве,
Шчасце сонечнае ўстае.

Хто прынёс гэта шчасце нам,
Заілійскіх гор пастухам?
Мне—сто год. Я Джамбул-Жыршы,
Вам пяю ад усей душы:
Гэта шчасце ў кожны калгас
Мудры Сталін прынёс для нас.

Яго імя грыміць наўкол,
Сталін—нібы горны арол,
Сталін—моцны як Ала-таў.
Шчасце сонечнае нам даў

Ён—вялікі і моцны друг
Гэта шчасце з сталінскіх рук
Мы ўзялі, і вам пяю:
Свой калгас Ер-Назар я люблю
І Чыен люблю і Аяк,
Упершыню дзе ўбачыў казах,
Што прад ім, у стэповай траве,
Шчасце сонечнае ўстае.

Гэту песню пяе жыршы,
Яго спеў—ад усей душы!

*Пераклаў* ВІТ. ВОЛЬСКІ.



**Н. А. НЕКРАСАЎ**
**Да шасцідзесяцігоддзя з дня смерці**
**(1878—1938 гг.)**

*Н. А. Некрасаў*

# ЧЫГУНКА

Ваня (*у фурманскім армячку*). Татуля! хто будаваў гэту чыгунку?
Тата (*у паліто на чырвонай падкладцы*). Граф Пётр Андрэевіч Клейнміхель, душачка.

(*Размова ў вагоне*).

Слаўная восень! Марозіць штодзённа,
Ясная раніца сіл надае;
Лёд нетрывалы на рэчцы сцюдзёнай—
Чысты як цукар—к паўдню растае.

Сёння на ўзлессі у мяккай пасцелі!—
Можна заснуць—бестурботнейшым сном!—
Зблякнуць зусім шчэ лісты не паспелі,
Зжоўклі і свежым ляжаць дываном.

Слаўная восень! Марозныя ночы,
Ясныя, ціхія дні...
Майстар—прырода! І купіны змрочныя,
І махавыя балоты, і пні—

Хораша ўсё ў светлым месяца ззянні,
Ўсюды я родную Русь пазнаю...
Хутка імчуся чыгункай, да рання
Думаю думу сваю...

II

Добры татуля! Навошта у змане
Доўга Ванюшу трымаць?
Вы мне дазвольце пры месяца ззянні
Праўду яму паказаць.

Праца была тут страшней за пакуты,
Не паўздалець аднаму!
Ў свеце ёсць цар: ён бязлітасны, люты,
Голад—вось назва яму.

Водзіць ён арміі, ў моры суднамі,
Правіць; зганяе ў арцелі людцоў,
Ходзіць за плугам, стаіць за плячамі
Каменацёсаў, ткачоў.

Ён пазганяў сюды масы народныя.
Шмат хто—ў цяжкой барацьбе,
Здолеўшы нетры падужаць бясплодныя,
Смерць здабываў тут сабе.

Стужкай дарожанька: насыпы вузкія,
Рэйкі, слупы і масты.
А паабапал ўсё костачкі рускія...
Колькі іх! Ваня, ці ведаеш ты?

Вось! Ужо чутны іх поклічы грозныя!
Тупат і скрогат зубоў;
Цені набеглі на шыбы марозныя...
Што там? Натоўп мерцвякоў!

Вось абганяюць чыгунку імклівую,
Следам спяшаюць, пяюць:
„Люба у ночку нам светла-маўклівую
„Працу пабачыць сваю!

„Мы надрываліся ў спёку і ў холад,
„З вечна сагнутай спіной:
„Чэзлі ў зямлянках, адольвалі голад,
„Мёрзлі і мяклі, хварэлі цынгой.

„Грабілі нас грамацеі-дзясятнікі,
„Гнула галеча, нас секлі паны,
„Усё пасцярпелі мы, божыя ратнікі,
„Мірныя—працы сыны!

„Вы—нашу працу цяпер спажываеце!
„Мы—будзем тлець у халоднай зямлі.
„Усё‘ шчэ нас бедных дабром памінаеце
„Сцёрся наш след—як зусім не жылі?“

Хай не жахае спяванне іх дзікае!
З Волхава, з матушкі Волгі, з Окі
З розных абшараў дзяржавы вялікае—
Гэта браты ўсё твае—мужыкі!

Сорамна, вочы пальчаткай прыкрыты,
Ты-ж не маленькі!.. Вунь воласам рус
Бачыш, зусім ліхаманкай знябыты,
Высакарослы стаіць беларус:

Губы бяскроўныя, вочы запаўшыя,
Язвы на слабых руках;
Вечна ў вадзе па калена стаяўшыя,
Ногі апухлі; каўтун ў валасах;

Ямінай грудзі—з дня ў дзень безразважліва
Ён над рыдлёўкаю гнуўся ўвесь век...
Ты прыглядзіся, Ванюша, уважліва:
Цяжка свой хлеб здабываў чалавек!

Не разагнуў ‘шчэ спіну ён кастлявую
Нават дагэтуль: няўцямна маўчыць,
Ды механічна рыдлёўкай іржаваю
У яме прамёрзлай звініць.

Нам працавітасць яго благародную
Вельмі не дрэнна з табой пераняць...
Благаславі-ж ты работу народную
І прывыкай мужыка паважаць.

Пэўнасці больш за айчыну любімую...
Вынес не мала наш рускі народ,
Вынес і гэту чыгунку нястрымную—
Вынесе ўсё—не збаіцца нягод!

Вынесе ўсё ён—і светлы, бяскрайны
Шлях сваёй сілай пралажыць сабе.
Толькі пажыць у той час надзвычайны
Не давядзецца ні мне, ні табе.

III

Раптам свісток аглушальна-зазыўны
Выгукнуў—знік той натоўп мерцвякоў!
„Бачыў, татуля, я сон нейкі дзіўны",—
Ваня сказаў: „Тысяч пяць мужыкоў—

Рускіх парод і плямёнаў—з поўсвету
У момант сышліся і *ён* мне сказаў:
— „Вось збудаваў хто дарогу нам гэту!.."
А генерал—рагатаў.

— Быў я нядаўна у сцянах Ватыкана,
Па Калізею дзве ночы хадзіў,
Бачыў я ў Вене святога Стэфана,
Што-ж... мо народ усё гэта стварыў?

— Вы мне прабачыце смех гэты дзёрзкі,
Логікі вашай не бачу я толк.
Хіба для вас Апалон Бельведэрскі
Горш, чым гліняны гаршчок?

— Вось ваш народ—ён і тэрмы і бані,
Цуда мастацтва—усё расцягаў!
„Я гавару не для вас, а для Вані..."
Ды генерал мне пярэчыць не даў.

— Ваш славянін, англа-сакс і германец
Нішчыць майстры—але дзе ім стварацъ,
Варвары! Дзікае зборышча п'яніц!
Зрэшты, Ванюшам заняцца пара;

Праўда, малюнкамі смерці і жальбы
Грэх вам дзіцячае сэрца ўзрушаць.
Варта дзіцяці цяпер паказаць бы
Светлыя вобразы...

IV

Рад паказаць!
Слухай, мой любы, работы няскорыя
Скончаны—рэйкі ўжо немец кладзе.
Пазакапаны нябожчыкі; хворыя
Скрыты ў зямлянках; рабочых людзей

Шумны натоўп пры канторы сабраўся...
Доўга патыліцы скрэблі яны:
Кожны падрадчыку вінен астаўся,
Сталі ў капейку прагульныя дні!

Усё запісалі дзясятнікі ў кніжку—
Колькі хто браў, па патрэбе якой:
„Можа і ёсць тут цяперака лішку,
Ды вось, вазьмі ты!..“ Махнулі рукой...

Ў сінім кафтане—лабазнік багаты,
Тоўсты, камлісты—чырвоны, як медзь,
Едзе падрадчык па лініі ў святы,
Едзе работы свае паглядзець.

Людзі дарогу даюць яму чынна...
Пот аж ільсніцца на твары ў купца,
Кажа ён, ўзяўшыся ў бокі карцінна:
„Ладна... нішто... малайца... малайца!..

„З богам па хатах цяпер—праздраўляю!
(„Шапкі далоў, калі я гавару!)
„Бочку рабочым віна выстаўляю
„І—*недаімку дару!..*“

Нехта „ура“ закрычаў. Падхапілі
Дружна, працяґла... З карчмы, праз парог
З песняй дзясятнікі бочку каділі...
Тут і лянівы устоіць не мог!

Выпраглі коней—і самі купчыну
З крыкам ура! па дарозе імчаць...
Цяжка, здаецца, прывабней карціну
Вам, генерал, паказаць?..

*Пераклаў Я. ШАРАХОЎСКІ.*

*Александр Міронаў*

# НА ЗІМОЎЦЫ

Апавяданне

Вылі сабакі: бясконца тужліва, аднастайна, закінуўшы чуткія морды ў чорную процьму неба. Выццё пачынаў Пірат, шырокагруды важак запражкі. Ён туліў да галавы маленькія вострыя вушы, заліваючыся тужлівай і жаласлівай песняй. Астатнія сабакі, пазяхаючы, вылазілі з снегу і, абтросшыся, падцягвалі важаку. Неўзабаве хор дзесятка сабачых галасоў напаўняў палярную ноч, несучыся ў чорна-сінюю пустату.

Ноч была доўгай і тужлівай, як бясконцае сабачае выццё. Сонца даўно ўжо схавалася за гарызонтам, і толькі месяцы праз два павінна было зноў вынырнуць з цемры. Толькі месяц ды зоркі, ды феерычныя, рознакалёрныя сполахі зззяння парушалі аднастайнасць начы. Сполахі, дрыжучы і змяняючыся, тушылі зоркі, мяккімі светлавымі руччамі расцякаючыся па небе. Месяц выплываў вялізны, нізкі, жоўты. Сабакі палохаліся месяца і вылі мацней.

Раз у суткі над вострывам, над снегавой роўняддзю вакол домікаў зімоўкі і над абледзянелым, таросістым морам разліваўся празрысты, шэравата-белы досвітак. Гэта працягвалася гадзінупаўтары і тады на шэрым небе месяц рабіўся фісташкавым і празрыстым. Святло здавалася ненатуральным і непатрэбным; быццам ноч, стаміўшыся прыпадымала свае прымарожаныя, сіне-чорныя павекі, акідваючы халодны востраў пустым і нежывым позіркам. Гэты позірк тут называўся днём.

Людзі жылі на востраве гаспадарліва, дзелавіта. Людзі шмат працавалі, амаль не заўважаючы доўгай ночы і тужлівага, воўчага выцця сабак. Сабакі разбівалі аднастайнасць: яны кідаліся да людзей і рэўніва шчэрыліся адзін на аднаго, дамагаючыся скупой чалавечай ласкі...

... У верасні ледакол, адсалютаваўшы востраву сакавітым басістам рэвам, пайшоў на Вялікую зямлю. Ён лавіраваў паміж ільдзін, паступова хаваючыся ў далечыні, і за кармой яго, як развітальнае прывітанне, віўся густы, шэры дым. Людзі на беразе вострава моўчкі глядзелі ўслед ледаколу. А калі дым зусім растаў над морам, яны гуськом пабрылі да домікаў зімоўкі, перамагаючы міжвольны ўздых.

Так пачалася зімоўка.

Людзі жылі ва ўтульным і цёплым доміку, дзе кожны меў свой пакой. Гэта давала магчымасць менш бываць разам, не

дакучаць адзін другому, але затое вечарамі, пасля працы усе імкнуліся ў кают-кампанію, каб крыху пабыць з таварышамі. Зімоўшчыкі садзіліся бліжэй да каміна, цешачыся гульнёй агню і спакоем, і падоўгу гутарылі, слухаючы свіст і плач пургі за сценамі доміка. На зімоўцы іх было пяцёра, і кожнаму з лішкам хапала работы. Людзі былі падабраны па прафесіях, як часцінкі складанага і дакладнага механізма, у якім нішто не павінна быць лішнім. Начальнік зімоўкі Васільеў, радыст Смірноў, метэаролаг Лідзія Паўлаўна—жонка Смірнова, матарыст Малыгін і старык-повар Іван Мацвеевіч Тарасаў былі гэтым дакладным і чоткім механізмам, які выконваў вялікую, адказную і вельмі патрэбную работу палярнай станцыі.

Толькі шосты зімоўшчык—Сярожа Смірноў—не меў прафесіі. Зрэшты, гэта ніколькі не засмучала яго: у свае чатыры гады яму даводзілася працаваць больш, як усім іншым зімоўшчыкам. За дзень ён паспяваў пабыць на кухні ў Матвеіча, каб выпрасіць костачак сабакам, наведаць бацьку ў радыё-рубцы і паслухаць там сухое патрэскванне бліскучага апарата на стале, збегаць да матарыста па цвікі і каточкі для будучага самалёта і ўважліва выслухаць цікавыя апавяданні начальніка зімоўкі пра мядзведзяў, маржоў і аб ледаколе. Толькі да мамы Сярожа стараўся не падыходзіць: мама чмокала яго ў ружовыя шчочкі, выцірала нос і рабіла яшчэ шмат розных непрыемнасцей. Толькі вечарам, кладучыся спаць, ён цясней туліўся да мамы, слухаючы як нешта стукае ў яе ў грудзях. Мама пяшчотна абнімала Сярожу, і ён хуценька засынаў пад вясёлыя яе казкі, у якіх кожнае слова мела свой колер: чырвоная шапачка—харошае слова, бліскучае, чырвонае; воўк—чорнае і страшнае.

Смірновы не шкадавалі, што ўзялі сына на зімоўку. Яго не было з кім пакінуць на мацерыку, ды яны і адчувалі, якой сумнай і напружанай будзе для іх зімоўка без любімага карапуза. І калі блакітны асенні змрок змяніла густая сіняя ноч, хлопчык зрабіўся ў ёй для ўсіх зімоўшчыкаў яркім і цёплым агеньчыкам. Ён скарачаў доўгія дні і родным, і сур'ёзнаму, дзелавітаму Васільеву, і бурчліваму повару, і спакойнаму, замкнутаму Малыгіну. Яны нават крыху рэўнавалі хлопчыка адзін да аднаго.

У Васільева на Вялікай зямлі астаўся такі-ж шустры Колька. У час рэдкіх пераклічак з сем'ямі начальнік разгублена і здэтанавана ўсміхаўся рэпрадуктару, з якога ліўся ўсхваляваны, крыху заікасты галасок Колькі, і гладзіў па белавалосай галоўцы прытуліўшагася да кален Сярожу. Яму здавалася быццам не Сярожа слухае з ім радыё, а родны, і цяпер такі блізкі, Колька. Ён нават шаптаў на вуха хлопчыку нешта пяшчотнае, прызначанае для сына. Сярожа зрабіўся блізкім і дарагім яму, як вобраз далёкага, недасяжнага цяпер Колькі.

Мацвеіч, убачыўшы Сярожу, прыжмурваў ва ўсмешцы ласкавыя шэрыя вочы. Сярожа пазіраў на зморшчкі вакол воч повара і думаў пра сонца, ад якога, калі прыжмурыцца, таксама цягнуцца такія вясёлыя зморшчынкі-праменні. Ён любіў слухаць апавяданні

Мацвеіча пра шырокія кубанскія бахчы (бахча было харошае слова: зялёнае, радаснае, пахучае), дзе спеюць пад залатым небам вялізныя смачныя кавуны.

— Перазімуеш вось,—мармытаў Мацвеіч, і паедзем на нашу Кубань, у калгас. У станіцы ў нас слаўна! Рэчка ёсць вялізная, ты па ёй параходы пускаць будзеш з Пашкам ды Коськам. На кані пакатаю цябе: коні харошыя ў нашым калгасе!

Коська і Панька былі ўнукі Мацвеіча.

Аднойчы стары атрымаў ад сына радыёграму: сын лаяў яго за паездку на поўнач і ад імя ўнукаў клікаў дамоў. Усміхаючыся, Мацвеіч некалькі разоў прачытаў радыёграму, стараючыся ўявіць сабе ўнукаў. Якія яны? Вялікія? Сапраўдныя казачаты? Але ўнукаў не атрымлівалася: у памяці ўсплывалі хлапчукі блізнюкі, яны былі сярожавага росту, з сярожавымі, падобнымі на лён, валасамі і нават галасы іх звінелі, як у Сярожы. Мацвеіч, стаміўся ад успамінаў, злосна схаваў радыёграму на дно чамадана і пакляўся вясной адправіцца на родную Кубань. Жарты сказаць: там сын старшыня калгаса, там унукі, а ён бадзяецца па чужых краях, дзе і зямлі нават не відаць, а толькі снягі ды ільды.

— Прывык валацугай векаваць, непаседа,—лаяў ён сябе. Жыў-бы цяпер у калгасе, гонар табе і павага, першае месца за сталом. Дык не, на зімоўку захацелася. Усё жыццё па зямлі калясіш!.. А цяпер туга душу скрабе. Чорт стары!

Але Сярожу з таго часу ён палюбіў асабліва моцна, усяк заманьваў яго да сябе на кухню і, расказваючы пра Кубань, частуючы прызапашаным шакаладам, блытаў, называючы яго то Коськам, то Панькам.

У Малыгіна не было ні жонкі, ні сына, ні тым болей—унукаў. Толькі ў далёкім становішчы, на Беламор'і, дажывала свой век старэнькая матка. Матарыст часамі наведваўся да яе, з кожным годам усё больш старэючай. Матка была яму адзіным блізкім і дарагім чалавекам. Ён любіў яе глыбока і пяшчотна, але мала хто ведаў пра матку маўклівага, замкнутага памора і пра вялікую сынаву любоў. Нязменна спакойны і пакладзісты, барадаты і шырокаплечы, ён неахвотна расказваў пра сябе, а бачачы гэта, ніхто з зімоўшчыкаў не спрабаваў яго распытваць. На зімоўцы ён усімі пачуццямі моцнага чалавека прывязаўся да Сярожы. Матка была далёка, і ўсю сваю любоў ён перанёс на маленькага сябра. Ён замыкаўся з ім у сваім пакоі і майстраваў яму парусныя караблі, кітабойныя гарматы, аэрапланы. Або з гатоўнасцю падпарадкучыюся патрабаванню хлопчыка, станавіўся на чацвярэнькі і, накрыты мядзвежай скурай, роў на Сярожу, скалячы жоўтыя, амаль мядзвежыя клыкі. Хлопчык хаваўся за койку, выследжваючы „мядзведзя“, і страляў у яго драўлянымі ядрамі з кітабойнай гарматы. Ядры балюча білі па галаве, „мядзведзь“ трос галавой і забіты падаў на спіну, крывячыся ад болю і раскідаючы па падлозе вялізныя, у мазалях, прамасленыя матарыставы рукі...

... У чоткай, строга размеранай працы, у адпачынку і гульнях з Сярожам мірна цякла палярная ноч. Яна была то калючай і беспрасветнай ад буйнай паземкі, то махнатай ад густой

як падшэрстак пясца, пургі, то марознай, сіняй і ціхай ад яснай і зорнай бязветранасці. Хутка ноч пераваліла за самы доўгі час зімы і паступова пачала ўбываць,—ішло да яркага, звонкага і кароткага палярнага лета. Праз месяц на паўднёвым усходзе, там, дзе востраў чорным абрывам узнімаўся над абледзянелым морам, павінна было ўспыхнуць сонца. Да гэтага дня ўрачыстага, як свята, зімоўшчыкі рыхтаваліся з хваляваннем, нецярпліва. Ён азначаў сканчэнне палярнай начы, а разам з гэтым і набліжэнне доўгачаканай вясны.

* * *

І ўсё-ж усходу сонца амаль ніхто не заўважыў. Мацвеіч, выкідваючы з кухні смецце, неўзнарок глянуў на барвова-рыжы акрайчык сонца, які баязліва выглянуў з-за гарызонта. З сілай зачыніўшы дзверы, ён змахнуў рукавом з расніцы буйную, падобную на ільдзінку, слязу:

— Не бачыць табе сонца, галубка, — прашаптаў ён раптам задрыжэўшымі губамі.

Лідзія Паўлаўна не адыходзіла ад сярожавай коечкі. Пахудалая, з сінімі, нібы сляды палярнай ночы, кругамі ля вачэй, яна сціскала гарачыя ручаняты сына, то паціху напяваючы яму, то расказваючы блытаныя, незразумелыя ёй самой казкі: Смірноў уцякаў з пакою. Ён не мог бачыць бездапаможнасці сына, да горла яго падкатваўся ліпкі, даўкі клубок, і ў грудзях з'яўляўся дзікі, поўны жаху крык. Перамагаючы крык, ён хутчэй бег у радыё-рубку і гадзінамі крочыў па маленькім квадраце падлогі, то з трывогай прыслухоўваючыся да напружанай цішыні ў доме, то лаючы сябе і жонку за лёгкадумнасць, дазволіўшую ім узяць хлопчыка на зімоўку.

Малыгін пакутваў моўчкі, скрытна, хаваючы гора ад другіх. Ён ішоў у майстэрню, да матора, і тут, абхапіўшы вялізнымі рукамі варштат, на якім стаяла зусім гатовая красуня-шхуна, ціха плакаў буйнымі, няўмелымі мужчынскімі слязамі.

Толькі Васільеў, з напружаннем волі не паддаваўся адчаю. Ён адзін усё яшчэ спадзяваўся, калі ўсе ўжо звыкліся з думкай аб няўхільным канцы. „Нават калі памрэ,—думаў ён,—нельга апускаць рукі". Іх было пяцёра, і начальнік ведаў, як трагічна можа скончыцца зімоўка, калі ў яго аслабнуць нервы. І спакойна, але рашуча і настойліва ён падтрымліваў цвёрды рэжым зімоўкі.

Штодзённа, к васьмі раніцы, зімоўшчыкі збіраліся снедаць. Елі моўчкі, не гледзячы адзін на аднаго, баючыся ўбачыць у чужых вачах свой і чужы боль. Пасля снедання кожны рабіў сваю работу. На Вялікую зямлю перадавалі зводкі аб надвор'і, аб першых подыхах палярнай вясны. Жыццё ішло строгае, непарушнае. Толькі радыё слухалі радзей, замоўк патэфон, ды недачытанымі ляжалі цікавыя кнігі.

Непрыметна Васільеў выходзіў з доміка. Свіснуўшы Пірату, ён неспяшаючыся накіроўваўся да цэнтра вострава, але ледзь за пакатым узгоркам хавалася страха станцыі, ён пускаўся бягом. Пірат імчаўся побач, актыўна ўдзельнічаючы ў цікавай гульні чалавека.

Але чалавек не гуляў. І ў цэнтры вострава ён крокамі вымерваў роўную, быццам знарок падрыхтаваную пляцоўку, і ўсё думаў пра самалёт, які выдатна мог-бы спусціцца на яе.

З думкаю пра самалёт ён ішоў да паўднёва-ўсходняга берага вострава, які чорным абрывам уздымаўся над абледзянелым морам. Тут ніхто не мог убачыць яго слабасці, і начальнік адчуваў, як паступова слабне скоўваючае яго напружанне, і як хочацца яму проста, для палёгкі, па-дзіцячы паплакаць. Надзеі амаль не было: хлопчык мог яшчэ пражыць дзён тры, сама больш чатыры, а пасля немінуча павінна было адбыцца тое страшнае, пра што не маглі не думаць зімоўшчыкі. Выратаваць дзіця магло толькі тэрміновае ўмяшанне хірурга: у стравaводзе, у невядомых для Васільева таямніцах сярожавага цела, засела маленькая костачка, і патрабавалася аперацыя, каб спыніць паступовую смерць дзіцяці.

— Самалёт,—гучна сказаў начальнік.—Самалёт з добрым урачом і з наборам востранькіх ножычкаў. Мы не можам выратаваць яго, разумееш, пёс. Мы не ўмеем! Ну, ад кашлю, ад насмарку вылячыць я магу, а вось рэзаць—ніяк. Самалёт патрэбен, самалёт, інакш памрэ наш Сярожа...

Пірат падняўся на лапы, уважліва слухаючы чалавека. Васільеву здалося раптам, што сабака разумее яго. Ён пагладзіў Пірата па мяккай шэрсці на галаве, а той, злавіўшы зубамі руку чалавека, злёгку сціснуў яе. І адказваючы на свае думкі, чалавек пачаў расказваць важаку пра хваробу хлопчыка, пра сваё гора, пра самалёт, якому ніяк не прабіцца праз дзве тысячы кілометраў густой, поўнай нечаканасцей палярнай начы.

— Прасіць дапамогі ці не, а, пёс? І ці паспее дапамога? Ці праб'ецца да нас? Гэта-ж дзве тысячы кілометраў, разумееш? Дзве тысячы!.. Не прабіцца. Не пашлюць да нас самалёт...

... К вечару Сярожу зрабілася значна горш. Ён кідаўся ў трызненні, то няскладна крычучы пра бахчы і пра страшнага ваўка, то сударгава хапаючыся за руку маткі.

— Мамачка,—шаптаў ён у хвіліны прасвятлення,—баліць мне, мілая мамачка.

Лідзія Паўлаўна тупа глядзела на сына. Яна абяссілела ад трывогі і бяссонніцы, Васільеў адправіў Смірнова змяніць яе. Сам ён не мог глядзець на пакуты дзіцяці. Яму здавалася, што памірае яго Коля, і начальнік адчуваў, як траціць уладу над сабой.

Вячэрнюю метэо-зводку на мацярык Васільеў перадаў сам. Строгія, халодныя прыборы радыё-рубкі дзейнічалі супакойваюча. З рубкі не хацелася ісці. Прыслухоўваючыся да цішыні ў доме, начальнік адну за другой дыміў папіросы, задуменна гладзячы пальцамі паліраваную ручку ключа перадатчыка на стале. Ён чакаў. І калі за дзвярмі зашкрэбалі па падлозе чыесці падэшвы, ён з біеннем сэрца падняўся насустрач, рыхтуючыся пачуць страшную вестку. Але ў дзверы, асцярожна, прасунуўся, з усмешкай твар Мацвеіча, і з-пад сівых і вісячых вусоў старога паліўся задаволены шэпт:

— Заснуў. Бацьку трымае за руку і спіць. Палягчэла яму.

Мацвеіч крытычна аглядзеў напружаную фігуру начальніка, і, хітра прыжмурыўшы прамяністае вока, буркнуў:

— Як цябе падвяло за гэтыя дні. Калючы зрабіўся!..

Ён таксама асцярожна прыкрыў дзверы і зашкрэбаў назад да сярожавага пакою. Васільеў таксама спачатку абрадаваўся: хлопчыку зрабілася лепш! Можа, і хвароба прайшла? Можа, заўтра Сярожа зноў будзе бегаць па пакоях, перашкаджаючы працаваць?

Ён прайшоўся па пакою, не ведаючы, спадзявацца ці не. Але надзея раптоўна прапала, зноў уступаючы месца безнадзейнасці: заснуў, бо стаміўся ад хваробы і болю. Заснуў, а раніцай, быць можа, не прачнецца зусім...

— Як-жа быць?—спыніўшыся пасярод рубкі, уголас спытаў ён. Ён задуменна, нібы бачачы ўпершыню, агледзеў рубку. Апарат, прыёмнік і перадатчык, стол, і на стале чорная ручка ключа—сувязь з Вялікай зямлёй, адкуль толькі можна чакаць дапамогі. Усё было прывычна, усё стаяла на сваім месцы, знаёмае да дробязей. На сцяне, проста над сталом, вялікі партрэт Сталіна. Сталін уважліва, вывучаючы і пасяброўску, ледзь усміхаючыся, глядзеў у вочы Васільеву. Здавалася, быццам ён разумее, спачувае і падбадзёрвае яго адначасова. Зрабіўшы крок да партрэта, Васільеў ціха, аднымі губамі праказаў:

— Як-жа быць? Не прыляціць-жа сюды самалёт. Далёка.

І раптам незвычайна ясна, з асаблівым спакоем ён зразумеў, што толькі Сталін—адзін ва ўсім свеце—можа дапамагчы яму. Ён так і падумаў: „Толькі Сталін“... Баючыся перадумаць, ён таропка прысеў да стала, уключыў перадатчык і адно за другім паслаў у эфір гарачыя словы закліку:

„Масква. Крэмль. Сталіну.

Выратуйце нашага хлопчыка. Мы выхаваем яго большэвіком-героем, такім-жа сынам народа, як Чкалаў, Стаханаў, Шмідт“...

Гадзіну счакаўшы, Васільеў сядзеў у кают-кампаніі, зручна ўстроіўшыся ў скураным крэсле. Яму было лёгка і радасна, як пасля вялікай небяспекі, пераможанай у цяжкай барацьбе. Упершыню за ўсе гэтыя трывожныя дні ён засынаў спакойна і безмяцежна, ведаючы, што далёка, за тысячы кіламетраў ад вострава краіна ўстае на дапамогу маленькаму Сярожу.

* * *

Сонца зноў вынырнула з-за гарызонта. Напалавіну схаванае ўтросы, яно пранізвала лёд халодным рыжым агнём. Вакно пакою, дзе ляжаў хворы, коркай лёду глядзела на сонца. Сонечнае святло прабівалася праз лёд цмянае, расплывістае, напаўняючы пакой залацістым туманам.

— Сонейка?—сілячыся падняцца на локці, ціха спытаў Сярожа.

— Сонейка, мілы, сонейка,—шапнула Лідзія Паўлаўна.—Хутка папраўішся, запражэш Пірата ў саначкі і паедзеш да сонейка ў госці. Паедзеш?

— Паеду...

Сярожа змоўк: ён не мог болей гаварыць. З хвіліны на хвіліну зімоўшчыкі чакалі, што кволае цельца хлопчыка сударгава выцягнецца на пасцелі. Ён ляжаў худы, пажоўклы, празрысты, і толькі вялікія, шырока адкрытыя вочы, поўныя болю і неўразумення, жылі ў ім. Вочы з нямым пытаннем бегалі па тварах смутных, нямых зімоўшчыкаў, нібы ў апошні раз просячы ў іх дапамогі.

Васільеў нікому не сказаў аб той ночы. Зямля маўчала і ён парашыў, што яна не пачула начнога закліку. Нашто-ж выклікаць надзею ў людзей? Каб пасля яшчэ горшым было расчараванне? Хай лепш таварышы не ведаюць пра яго спробу. Не трэба!

— Мама,—парушыў думкі начальніка слабенькі, нібы ўздых, шэпт Сярожы,—мама, а мы хутка паедзем на дзядуляву бахчу? Ведаеш, мамачка, там сапраўднае сонейка, цёплае...

Матка не адказала: яна не магла больш ні гаварыць, ні плакаць. Па пакрытым лёдам вакне, знізу, ад падаконніка, папоўз уверх сіні цень: сонца рыхтавалася схавацца ў лёд. Усім здалося, што можа схавацца назаўсёды, беззваротна, і абавязкова забярэ Сярожу. Малыгін сударгава варухнуўся, нібы хацеў пабегчы за сонцам і стрымаць яго.

— Мамуля,—раптоўна ясна, выразна, гучна сказаў хлопчык.— Чуеш, гудзе. Гудзе, мамачка, чуеш?..

„Усё,—падумаў Васільеў.—Канец“.

І раптам дзівотлівым, звярыным скачком ён выскачыў з пакою, дзіка пранёсся па карыдоры і злосна, з размаху высадзіў дзверы на двор. З-за сонца, зззяючы золатам крылляў, да вострава нёсся з магутным гудам вялізны і казачны самалёт.

Архангельск, кастрычнік
1937 года.

*Гейнрых Гейне*

# ГЕРМАНІЯ

## ЗІМНЯЯ КАЗКА

### I

Быў месяц пахмурны тады лістапад,
Штодзень—цямней і туманней
І вецер з дрэваў ірваў лісцё.
Я ехаў ізноў у Германію.

Калі я наблізіўся да мяжы,
Пазбыўся адразу спакою,
Застукала моцна ў маіх грудзях
І вочы набеглі слязою.

Калі-ж я нямецкую мову пачуў,
Не ведаю, што са мной стала;
Здалося, няйначай, бы сэрца маё
Салодка крывёю сплывала.

Дзяўчынка-арфістка спявала аб чымсь,
З сапраўдным пачуццем спявала
І тонам фальшывым. Але мяне
Спяванне яе ўсхвалявала.

Быў спеў аб каханні і болю яго,
Ахвярах і новым спатканні
Там, недзе ўверсе, дзе лепшы свет,
Дзе пакуты знікаюць дазвання.

Спявала яна аб нядолі зямной,
Аб радасцях эфемерных,
Аб свеце тым, дзе тоне душа
У вечных блажэнствах нязмерных.

Спявала яна вырачэння той спеў,
Калыханку вядомую неба,
Чым цешаць народ—дурное дзіця,
Калі ўкалыхаць яго трэба.

Я спеў гэты знаю, знаёмы мне тэкст
І аўтараў знаю пароду;
Цішком яны самі смокчуць віно,
А усім прапаведваюць воду.

Я новы спеў, я лепшы спеў,
Сябры, вам заспяваю!
Давайце тут, вось на зямлі,
Ці не збудуем раю.

Мы хочам шчаслівымі быць на зямлі,
Даволі ўжо гаравалі;
Няхай не глытае гультайскі трыбух,
Што рупныя рукі прыдбалі.

Даволі хлеба расце на зямлі,—
Хапіла-б усім патрошку,—
Вясёласці, міртаў і роз, і красы,
Цукровага, нават, гарошку.

О так, гарошку для кожнага з нас,
Яшчэ ў стручку зялёным!
А неба пакінем мы блакіт
Анёлкам і варонам.

А вырасце крылле па смерці у нас,
Тады мы у вас пабываем
Там уверсе. І тортаў і куханаў тых
Святых мы там паспытаем.

Той Новы спеў, той лепшы спеў!
Ён гучыць бы флейты і скрыпкі.
„Miserere“[1] заціхла ўжо зусім
І звоны хаўтурныя зніклі.

З дзяўчынай—Еўропай спраўляе свой шлюб
Свабоды прыгожы геній,
Яны ў абдымках першых ляжаць,
Цалуюцца ў захапленні.

Няхэй абыйшліся яны без папа,
Іх шлюб самы моцны ў свеце—
Няхай жыве малады з маладой,
І будучыя іх дзеці!

Вясельным спевам гучы мой спеў,
Мой новы спеў—спеў шчасця!
У душы маёй новыя зоркі ўзышлі
Вышэйшага прычасця.

---

[1] Miserere (лат.)—злітуйся.

Натхнёнyыя зоркі, што буйна гарацъ,
Сцякаюцъ агню струменнем,—
На дзіва магутным адчуў я сябе,
Дубы я ірваў-бы з карэннем!

Ледзь я на нямецкую землю ступіў,
Магутнасць ўлілася у жылы—
Да роднае маткі волат прынік[1]
І зноў яго выраслі сілы.

II

Пакуль дзяўчынка аб шчасці нябёс
Брынкала і спявала,
Прускіх таможнікаў чарга
Куфар мой аглядала.

Перaтрусілі, абнюхалі ўсё,
Перапаролі да-шчэнту;
Шукалі яны забароненых кніг,
Карункаў і дыямэнтаў.

Вы дурні, што ў куфры шукаеце вы!
Нічога там не схавана!
Уся кантрабанда, што едзе са мной,
Ў маёй галаве спакавана.

Вось тут, сапраўды, пляцецца заўжды,
Не мала заўзятых карунак,
Ды ў шмат разоў лепшыя яны
За Брусельскі гатунак.

Я дум дыямэнты нашу ў галаве,
Для будучыні кароны,—
Клейноды храма, дзе новы бог—
Вялікі невядомы.

І шмат кніжок у мяне ў галаве,
Што плачуць па цэнзуры!
У ёй шчэбет стаіць, як ў сапраўдным гняздзе,
Забароненай літаратуры.

У кнігасховах сатаны
Горшых кніг не бывае;
Яны больш шкодныя нават за тых,
Што Фалерслебен[2] складае.

---

[1] Міфалагічны волат Антэй, прынікаючы да зямлі, набываў неадольную сілу.
[2] Гофман фон-Фалерслебен (1798—1874) прафесар і палітычны паэт 40-х гадоў.

Адзін пасажыр, што стаяў ля мяне,
Заўважыў даволі спрытна,
Што тут перад намі мытны саюз,
Вялікі ланцуг прускі мытны.

„А мытны саюз“[1] заўважыў ён,
„Ён нацыю нашу ўмацуе,
Раскіданай бацькаўшчыны шматкі
У адзінае згуртуе.

Адзінства знадворнае ён нам дае
Як кажуць,—матар'яльна,
Адзінствам духоўным цэнзура нас
Забяспечвае ідэальна.

„Адзінства ў пачуццях і думках яна
Ахоўвае бесперапынна,
Адзінай патрэбна Германія нам,
Знутры і знадворку адзінай.“

III

У Ахене[2] ў старым саборы ў труне
Вялікі Карл спачывае;
Не блытаць яго з Карл Маерам[3] тым,
Што ў Швабіі пражывае.

Я-б мёртвым ляжаць, як той цар, не хацеў,
Хацят-б і ў саборы хавалі,
Ужо ў Штукерце[4] лепш, як маленькі паэт,
Я жыў-бы ля Некара хвалі.

Па вуліцах Ахена нудзяцца псы
І выюць вернападдана:
„Хоць дай, чужынец, штуршка нам у бок,
Бо нудзіцца гэтак пагана“.

Я ў гэтым нудным старым гнязьдзе
Бадзяўся гадзін мо колькі,
Там бачыў я прускіх афіцэроў,
Не змяніліся а—нікольки.

---

[1] Мытны саюз быў створаны ў 1834 г. Ен узначальваўся феадальна-манархічнай Прусіяй, таму Гейне нападаў на яго.

[2] Ахен—горад у Прусіі, былая сталіца Карла Вялікага.

[3] Карл Маер—паэт рэакцыйнай швабскай паэтычнай школы, над якой увесь час здзекваўся Гейне.

[4] Штукерт—швабская назва горада Штутгарта—рэзідэнцыі паэтаў швабскай школы.

Усе тыя шэрыя шынялі,
Каўнер чырвоны стаячы.
(А чырвань гэта—французская кроў,
Як Кёрнер[1] даўней адзначыў).

Ўсё той-жа яны педантычны народ,
Пад простым кутом іх манеры,
І поўны іх твар, як ў даўнейшыя дні,
Застыглых на ім фанаберый.

А дыбаюць так надзімана яны,
Так выпрастаны да астатку,
Нібыта яны праглынулі той кій,
Якім іх лупілі спачатку.

Так, цалкам фухтэль[2] яшчэ не знік,
Яны яго носяць ў вантробе,
І шчырае „Ты“ на даўнейшае „Ён“
Яшчэ надзвычайна падобна.

І, ўласна кажучы, доўгі вус,
—Толькі новая фаза косаў:
Каса, што ззаду вісела калісь,
Цяпер яна вісне з-пад носа.

Не менш спадабаліся коннікі мне
У вопратцы іхняй новай,
Шалом асабліва на галаве
І ўверсе той кончык сталёвы.

Гэта рыцарствам пахне, мы бачым ізноў
Часоў старадаўніх рамантыку,
Ўспамін аб Іоганне фон Монфокон[3],
Ўспамін аб Фуке, Уланд, Тыку[4].

Ён сярэднявечча нагадвае нам
Паўпанкаў і рыцарскай швалі,
Якія адданасць насілі ў душы,
А ззаду гербы вышывалі.

Ён нагадвае нам крыжовы паход,
Турніры і рыцараў балі,
Калі друкарняў не ведаў свет
І газет яшчэ не чыталі.

---

[1] Кёрнер—аўтар патрыятычных, антыфранцузскіх песень у эпоху так званых „вызваленчых“ войн супроць Напалеона.

[2] Фухтэль—шомпал, якім таксама каралі салдат.

[3] Графіня фон-Монфокон—гераіня рамантычнай драмы Аўгуста—Фрыдрыха Коцэбу „Іогана фон-Монфокон“.

[4] Фуке, Уланд, Тык—нямецкія паэты рамантыкі.

Так, так, шалом па душы мне. Ён
Ёсць сведка дасціпнасці лоўкай,
Ідэя царская, сапраўды,
З завостранай досыць канцоўкай.

Адно я баюся, каб не прыцягнуў
Вось гэтакі шпіц ў навальніцу
На рамантычную галаву
Сучасную бліскавіцу.

А будзе вайна, дык прыдзецца вам
Лягчэйшыя шапкі заводзіць,
Бо сярэднявечча цяжкі шалом
Вам уцякаць перашкодзіць.

У Ахен на шыльдзе паштовай ізноў
Пабачыў я гэнага птаха,
Што гэтак страшэнна мне знялюбеў,
Аж нельга ўспомніць без жаха.

Ты брыдкая птушка, каб трапіла ты,
У рукі мае, ўжо дацяў-бы:
Я выдзер-бы пер'е, ўсё-чыста тваё
І кіпці паадсякаў-бы.

Пасля пасадзіў-бы на жэрдцы даўгой
Ды склікаў (было-б не мала)
На смешнае гэнае стрэльбішча ўсіх
Прырэйнскіх стралкоў удалых.

А хто таго птаха падстрэліць нам,
Каронаю павянчаем
Мы гэнага зуха. Сыграем туш
І „Віват, кароль!“ прагукаем.

IV

Увечары позна прыехаўшы ў Кёльн
Я Рэйна пачуў пералівы.
І дух нямецкі абвеяў мяне,
Яго я ўбачыў уплывы—

На мой апетыт. Я там пад'еў
З вяндлінаю добрай яешні.
Паколькі-ж яна салонай была
Дык і выпіць было не лішне.

Рэйнвейн нібы золатаззяе заўжды
У зялёным шкле на падносе,
А вып'еш болей яго чымся след,
Запстрыкае зараз-жа ў носе.

У носе казлыча прыемна ён,
Аж не вытрымаць асалоды.
Ён выгнаў мяне у змрочную ноч,
У гулкіх завулкаў праходы.

Камяніцы наўкол абступалі мяне.
Бы паведаміць мелі паданні
Даўно адгучэўшых мінулых гадоў,
Старажытнага Кёльна казанні.

Так, тут калісьці папоўскі клір
Свае цёмныя правіў справы,
Тут „цёмныя людзі“[1] царылі, якіх
Ульрых фон-Гутэн зняславіў.

Тут Сярэднявечча скакалі канкан
Манахі й манашкі агідны;
Тут, кёльнскі Менцэль[2], Гохштратэн страчыў
Ланцуг даносаў яхідных.

Тут полымя вогнішчаў калісь
Кнігі й людзей праглыналі,
Пры тым ўрачыста званілі ў званы
І божую славу спявалі.

Нянавісць, распуста на вуліцах тут
Спраўлялі сабачы шлюб свой;
Нашчадкаў іх сёння не цяжка пазнаць
Па іх фанатызму і глупству.

Але паглядзі. Ў бляску месяца там
Волат узнёсся пачварны,
Чартоўскі чорны, да самых хмар,
Гэта кёльнскі сабор велізарны.

Ён бастыліяй духу павінен быў стаць
І марыла папская зграя:
„У гэтай вялізнай цямніцы якраз
Нямецкі розум сканае!“—

Прышоў тут Лютер[3] сказаўшы „стой!“
Вялікае сваё слова—
І з гэтага дня супынілася ўраз
Сабора пабудова.

---

[1] Намёк на „Пісьмы цёмных людзей“—вядомую сатыру на манахаў. Адным з галоўных яе аўтараў быў гуманіст Ульрых фон-Гутэн (1488—1523).

[2] Менцэль—нямецкі крытык, які зганьбіў сябе гнуснымі даносамі на левую літаратурную школу Маладая Германія, у прыватнасці на Гейне, які да яе належаў.

[3] Лютэр—правадыр рэфармацыі, рэлігійнага руху XVI ст. супроць папы і каталіцкага духавенства.

Не быў ён скончаны і—няхай,
Бо недабудовай гіганцкай,
Ён помнікам сілы нямецкай стаў
І місіі пратэстанцкай.

Бяздольныя шэльмы, саборны саюз[1],
Дарэмныя вашы мары—
Не вашай бяссільнай слабою рукой
Закончыць гэту пачвару!

Бязглузды намер! Дарэмна тут
Бразгаць кружкай царкоўнай,
У яўрэяў клянчыць і ерэтыкоў,
Нічога не будзе, ўсёроўна.

Дарэмна будзе вялікі Франц Ліст[2]
Іграць на карысць пабудовы,
Кароль-дэкламатар дарэмна трымаць
Драматычныя будзе прамовы!

Ён не будзе закончаны Кёльнскі сабор,
Што-б вы ні рабілі, хаця-бы
Для гэтае мэты каменняў карабль
Навезлі дурні швабы.

Не будзе ён скончаны, хай хоць як
Вароны і совы гвалтуюць,
Што, як прыхільнікі старыны,
У званіцах старых кватэруюць.

Ды нават прыдзе гэткі час,
Калі, замест заканчэння,
На стайню для коней гэты гмах
Знойдзе сабе прызначэнне.

„Калі-ж ператворыцца ў стайню сабор,
Дык што-ж нам рабіць тады трэба
З трыо святых каралёў, што ляжаць
У капліцы тут без патрэбы?“

Спытаюць мяне. Але, ці след
Аб гэтым нам хвалявацца?
Тры святыя цары з усходняй зямлі
Недзе ў іншым месцы змясцяцца.

---

[1] У 1842 г. па ініцыятыве прускага караля Фрыдрыха—Вільгельма IV быў створан саюз па дабудаванні сабора, які быў скончаны толькі ў 1880 г.

[2] Франц Ліст—венгерскі кампазітар і піяніст, які ў 1842 г. даў канцэрт на карысць Кёльнскага сабора.

А што да мяне, дык параіў бы я
Іх ў тыя тры скрынкі заперці,
Якія на Мюнстэрскай вежы вісяць
Імя святога Ламберці.

Калі-ж пры гэтым з тройкі той
Каго не будзе на месцы—
Замест усходняга караля
Каго-небудзь з нашых павесце.

V

Калі я да Рэйнскага мосту дайшоў,
Я ўбачыў з высокага вала,
Як Рэйн стары свае воды каціў,
І хваля пад месяцам ззяла.

„Вітаю цябе, мой бацька Рэйн.
Як самаадчуванне?
Я часта ўспамінаў цябе
Ў самоце на выгнанні“.

Так я казаў, ды раптам пачуў
З вады вібыта крактанне,
Старэчы кашаль, прыглушаны стогн,
Бурчэнне і мармытанне.

„Здароў, зямляк! Прыемна мне,
Што ты не забыў пра старога.
Трынаццаць год я не бачыў цябе
І шмат перажыў благога.

Каля Бібрыха я каменя глынуў,
Сапраўды, што страва не з першых,
Цяжэй аднак пераварыць
Нікласа Бекера[1] вершы.

Ён абрахаў мяне, быццам я
Прыпадобіцца мог-бы нявесце,
Якая нікому не аддала
Вяночак дзявочай чэсці.

Калі я чую той спеў дурны,
Гатовы я ўчапіцца
Ў сівую сваю бараду і гатоў
У самім сабе утапіцца.

Што я не дзяўчына, і цнотная шчэ,
Французам вядома не меней,
Не раз са мною злівалі яны
Сваіх перамог струмені.

[1] Ніклас Бекер—аўтар патрыятычнай песні „Че, вашым ён (Рэйн) не стане“.

Дурацкі спеў і дурны паэт!
Мяне ён абразіў публічна,
Ў вядомай ступені ён мяне
Скампраметаваў палітычна.

Бо прыдуць ізноў французы цяпер,
Дык мне чырванець будзе трэба,
Мне, хто аб іх звароце не раз
Маліў са слязамі неба.

Я іх заўсёды моцна любіў
Маленькіх вёрткіх французаў,
Ці усё скачуць яны, ці спяваюць яны
Ці белыя носяць рэйтузы?

З ахвотаю я-б іх убачыў зноў,
Але баюся плётак;
А ўсё з-за гэных праклятых радкоў
А усё з-за рыфмаплётаў.

Альфрэд дэ Мюсэ[1], гарэза-гаўрош,
Ї барабаншчык упарты,
Ён з імі мо' прыдзе і будзе мне
Барабаніць брыдкія жарты".

Так скардзіўся бедны бацька Рэйн,
Не ў сілах забыцца на ліха,
Я сказаў яму пару цёплых слоў,
Каб яго супакоіць крыху.

„О ты не бойся, бацька Рэйн,
Жартлівага смеху французаў;
Старых французаў няма ужо,
Няма ўжо тых рэйтузаў.

Яны зараз чырвоныя, белых няма
Ї новы на іх гузік;
Не скача больш, не спявае больш,
Галоўку схіліў французік.

Яны філасофствуюць зараз як мы
Аб Канту, Фіхтэ і Гегелі,
Яны кураць табак, піва п'юць,
Часам гуляюць і ў кеглі.

Яны філістэры зусім як мы
Ї не горш за нас ў гэтай ролі

---

[1] Альфрэд дэ Мюсэ—французскі паэт, які адказаў Бекеру вершам, які пачынаўся так: „Ён нашым быў, ваш нямецкі Рэйн".

І, гэтак сказаць, генгстэнберг'янцы[1] яны,
А не вольтэр'янцы болей.

Альфрэд дэ Мюсэ гэты, праўда, яшчэ
Як быў,—жартаўнік нягодны;
Але не бойся,—на ланцужок
Мы возьмем язык яго шкодны.

А прабарабаніць ён нам які жарт,
Мы не горшым адкажам на гэта,
Мы прасвішчам яму, што сталася з ім
І адной прыгожай кабетай.

Не клапаціся, бацька Рэйн,
Набярыся да вершаў цярпення,
Ты лепшы хутка пачуеш спеў,
Бывай,—да пабачэння!"

## VI

За Паганіні заўсёды хадзіў
Spiritus Familiaris[2],
Як сабака часам, часам, як здань
Нябожчыка Георга Гарыс[3].

Напалеону з'яўляўся штораз
Перад бойкай нехта ў чырвоным,
Сакрат уласнага дэмана меў,—
Не было гэта прывідам сонным.

Я сам, калі я за працай сядзеў
Уначы, неаднойчы бачыў,
Як замаскаваны нейкі госць
За маёю спіною маячыў.

Пад чорнай накідкай ён нешта хаваў,
Што жудасна бойстра блішчэла,
Калі трапляла на вочы, яно
Падабенства з сякераю мела.

Прысадзістай постаць яго была,
Вочы—як зоркі ў змроку,
Ён мне ніколі не перашкаджаў,
Заставаўся спакойна здалёку.

---

[1] Генгтэнберг'янцы—паслядоўнікі Эрнеста-Вільгельма Генстэнберга, прафесара багаслоўя, ярага рэакцыянера, які падобна да Менцэля гнусна цкаваў Маладую Германію.

[2] Spiritus Familiaris (лат.)—хатні дух, нешта падобнае да добрага дамавога. Паганіні—італьянскі скрыпач-віртуоз.

[3] Георг Гарыс—выдаўца і паэт, які доўгі час займаўся арганізацыяй канцэртаў Паганіні.

Я колькі год не бачыў яго,
Ды раптам спаткаў нанова
У бляску месяца і цішыні
Завулкаў Кёльна начнога.

Я ішоў ў задуменні ўздоўж вуліц, калі
Пабачыў яго за сабою,
Нібы ён быў мой цень. Я стаў;
Гляджу,—ён стаіць за спіною.

Застыў, нібыта чакае на што,
А ледзь я крок паскору,
Ён—зноў за мною. Так мы дайшлі
Да плошчы каля сабору.

Я не здолеў стрымацца, я павярнуў,
Пытаю яго: „Чаго ты
Ідзеш за мною крок у крок
Сярод начной адзіноты?

„Я цябе сустракаю заўжды ў той час,
Як сусвета пачуцці лунаюць
У маіх грудзях, і мозаг мой
Бліскавіцы дум працінаюць.

„Ты гэтак упарта глядзіш на мяне—
Адказвай: што ты хаваеш,
Вунь, пад накідкай, што гэтак блішчыць?
Хто ты, чаго ты жадаеш?“

Але той адказаў мне тонам сухім
Нават крыху флегматычна:
„Калі ласка, свае заклінанні пакінь
І толькі не так патэтычна!

Я зусім не прывід мінуўшчыны,
І не выхадзец магільны,
Рыторыкі не аматар я
І да тэорый не схільны.

Практычнае натуры я,
Заўсёды маўчу, не рухавы.
Але ведай: што розум задумаў твой,
Я гэта даводжу да справы.

„Хай пройдуць гады, я буду чакаць,
Пакуль не ператвару я
У рэчаіснасць думку тваю,
Ты—думаеш, а я—раблю я.

Так, ты суддзя, выканаўца-ж я
І, як слуга руплівы,
Выконваю кожны твой прысуд,
Хаця-б і несправядлівы.

Перад консулам неслі сякеру заўжды
У Рыме даўняй парою.
Ты ліктара[1] маеш таксама, і ён
Сякеру нясе за табою.

Я—ліктар твой і я нясу
Сякеру ў адным імкненні
Выканаць твой прысуд, бо я—
Ідэй тваіх здзейсненне.

VII

Да дому прыйшоўшы, заснуў я, нібы
Анёлкі мяне калыхалі,
На ложку нямецкім так мякка паспаць,
(Калі шчэ пярыну падслалі).

О, як сумаваў я па слодычы той
Роднага краю пярыны
У бяссонныя ночы выгнання свайго
На жорсткіх матрацах чужыны!

А добра у нашай пярыне паспаць,
Забыцца цудоўнымі снамі.
Свабодны ў іх вее нямецкі дух,
Не скуты зямлі ланцугамі.

Свабодны ён, вольны, ляціць ўгару
Лунае ў нябесных абшарах.
О, дух нямецкі, твой горды ўзлёт
У цудоўных паўночных марах!

Пры тваім набліжэнні бляднеюць багі,
І не раз ты ў сваім блуканні
Сустрэчныя зоркі крылом закранаў
І абмахваў пыл з іх убрання.

Французам і рускім належыць зямля,
І мора належыць Брытаніі,
А нам, у паветраным царстве сноў,—
Бясспрэчнае панаванне.

---

[1] Ліктары—ганаровая ахова вышэйшых рымскіх афіцыйных асоб.

Вось тут гегемонамі мы адны,
Нас у адно тут з'ядналі;
Народы іншыя ў гэты час
Роўнядзь зямлі занялі.

Калі-ж я заснуў, дык снілася мне,
Што я блукаю нанова
Уздоўж залітых месяцам гулкіх, начных
Завулкаў Кёльна старога.

І следам за мной неадступна ідзе
Мой праважаты таемны.
Я так стаміўся, я падаю з ног,
Але далей, ўсё далей ідзем мы.

Мы далей ішлі. Маё сэрца ў грудзях
Адчыненай ранай зіяла.
І з гэтае раны, адна за адной,
Чырвоная кропля сцякала.

Я часам пальцы ў іх макаў
І здаралася часам таксама,
Калі вушакі я дзвярэй закранаў,
Я іх меціў чырвонаю плямай.

І кожны раз, калі гэтак мной
Які-небудзь дом адзначаўся,
Здалёку быў чутны хаўтурны звон
І жалобны енк раздаваўся.

На небе месяц між тым збляднеў,
Бы уздыбленыя коні,
Чорныя хмары нясліся за ім
Ў якойсці дзікай пагоні.

І праз увесь шлях ішла за мной
З сякерай сваёю сталёвай
Цёмная постаць, і доўгі час
Блукалі мы з ёю без слова.

Мы йшлі ды йшлі, пакуль ізноў
Да плошчы саборнай дайшлі мы,
Шырока адчынена брама была
І ў цёмны сабор ўвайшлі мы.

Панавалі праз ўвесь гіганцкі гмах
Толькі ноч, і смерць, і маўчанне,
Яшчэ больш згушчаючы змрок навакол,
Мігцела лампадак ззянне.

Я доўга блукаў уздоўж скляпенняў старых
І чуў у маўчанні глыбокім,
Як мой спадарожнік за мною ўслед
І тут ішоў крок за крокам.

І мы нарэшце да месца дайшлі,
Дзе ў золаце ўсё мігціцца,
У дарагіх каменнях і агнях—
Гэта трох каралёў капліца.

Тры святыя цары з усходняй зямлі,
Што звычайна крануцца не смелі,
О цуд, яны узняліся цяпер,
На сваіх саркафагах сядзелі.

Фантастычна прыбраных шкілетаў тры:
З каронамі на трухлявых
Пустых, пажоўклых чарапах,
Скіптры ў руках кастлявых.

Нібы паяцы варушылі яны
Даўно змярцвелыя косці;
Трухлявае нешта разам з святым
Ад іх аддавала штосьці.

Адзін нават вусны свае разяўляў
Ды ў доўгай прамове даводзіў,
Чаму ён увагі ад мяне
Патрабуе, ды й годзе:

Папершае,—бо нябожчык ён,
Падругое—ён цар, гэта пэўна,
Патрэцяе—ён да таго-ж і святы—
— Мяне ён мала ўпэўніў.

Я яму адказаў, смяючыся ў твар:
Кінь ты дарэмную справу!
Я бачу, што ты да мінуўшчыны
Належыш цалкам па праву.

Прэч, прэч адгэтуль! У глыбокай зямлі
Вось дзе вам належыць змясціцца.
Жыццё рэквізуе цяпер для сябе
Багацці гэтай капліцы.

Вясёлая кавалерыя будучых дзён
Будзе тут стаяць на пастоі
І на дзверы прыкладам пакажа вам,
Як не пойдзеце самі сабой".

Так я сказаў ды глянуў назад
І тут я убачыў страшэннай
Сякеры майго праважатага бляск,
Ён мяне зразумеў імгненна.

І ён падышоў і сякерай сваёй
Збіў іх адзіным махам,
Забабонаў шкілеты, ён іх разбіў,
Дашчэнту—без жалю і страху.

І водгук удараў вакол прагучэў
У скляпеннях старых—цудоўна!
Кроў палілася з маіх грудзей,
І я абудзіўся раптоўна.

VIII

Ад Кёльна да Гагена пошта бярэ
Пяць талераў прускіх з чымся,
Нажаль дыліжанс быў біткам набіт
І вось мы ў карэце імчымся.

Васенняе ранне, вільгаць, туман,
Па лужах кульгае карэта;
Але надвор'ю і гразі на зло
Душа мая ласкай сагрэта.

Дык—гэта-ж паветра радзімы маёй!
Я слодыч яго адчуваю!
І гэтая гразь, яно-ж родная мне
Дзярмо майго роднага краю!

Прыветна коні круцілі хвастом,
Як быццам знаёмству рады,
І іх круглячкі здаваліся мне,
Бы яблакі з райскага саду.

Мюльгейм [1] праязджалі. Горад—нішто,
Народ таксама—нібыта,
У апошні раз у маі я
У трыццаць першым быў там.

Тады навакол ўсё буяла, цвіло,
І сонца косы ззялі,
І поўны утомы быў птушак спеў,
Людзі марылі і чакалі.

[1] Мюльгейм—горад у Рэйнскай вобласці.

Яны марылі: рыцарства хутка ад нас
Уцячэ на пятках гарэзных,
На развітанне мы ім паднясем
З даўгіх бутэлек жалезных!

Ї свабода прыдзе пад скокі і спеў,
Са сцягам сіне-бела-чырвоным;
Яна, можа, выкліча з-пад зямлі
Нябожчыка Напалеона!

Ах, божа, рыцары ўсё яшчэ тут.
Ї шмат хто з гэтых зухаў,
Што ходарлявым прыйшоў у наш край,
Нажыў сабе буйнае бруха.

Сухотны, як вера, надзея, любоў,
Быў выгляд гэтай швалі,
Яны з таго часу на нашым віне
Пунсовы нос нагулялі.—

Ї свабода скруціла нагу сабе,
Не гойсае ў штурмах і скоках,
Трохкаляровы ў Парыжы сцяг
Схіліўся з вежаў высокіх.

Їмператар паўстаў ужо раз, але
Англійскія чэрві зрабілі
Яго ціхамірным. Ён даўся зноў,
Каб яго ў зямлю апусцілі.

Я бачыў сам пахаванне яго—
Залаты катафалк з залатымі
Перамогі багінямі навакол,
Залатую труну паміж імі.

Ї Елісейскіх палёў уздоўж
Ад Брамы Трыумфальнай
Скрозь праз туман, скрозь праз слату
Цягнуўся карцёж пахавальны.

Жахліва гучэў жалобны марш.
Музыканты зусім адубелі
З холаду. Сумна схіліўшыся ўніз,
Арлы са штандараў глядзелі.

Здавалася, людзі як здані ішлі
У старых успамінаў тумане—
Вялікай імперыі казачны сон
Уставаў як з-пад заклінання.

Я плакаў у той дзень. На вачах маіх
Самотныя слёзы адчуў я,
Калі даўно адгучэўшы кліч
„Vive l'Empereur!" пачуў я.

IX

Я выехаў з Кёльна, было ля васьмі,
Ї раніца, як звычайна;
А ў Гаген прыехаў гадзін ля трох
Ї тут папалуднаваў файна.

Я старагерманскую кухню знайшоў
Чысцейшую, без прыкрасаў.
Вітаю капусты квашанай дух—
Найлепшую ў свеце з закрасаў!

Каштаны з капустай! Я вас калісь
У маткі еў яшчэ мальцам.
О, родныя рыбкі, вітаю я вас!
Так мудра вы дружыце з шмальцам!

Для кожнага чулага сэрца заўжды
Радзіма каштоўна напэўна,—
Люблю я таксама селядцы
Ї смажанага пеўня.

Кілбасы пішчэлі у шкварках. Дразды,
Бы печаныя анёлкі,
Мне шчабяталі: „Здароў, зямляк,
Ці скончыў бадзяцца без толку.

„Дзень добры, зямляк!" Шчабяталі яны.
„Вітаем у роднай краіне.
З нянашымі птушкамі бавіўся ты
Нямала ў далёкай чужыне!"

Стаяла там гуска сярод усіх страў,
Так сціпна, так міла стаяла,
Як абодвы былі мы з ёй маладзей,
Яна мяне мо' і кахала.

Яна многазначна глядзела ў мой бок
Так шчыра, лагодна, удзячна!
Хоць, пэўна, прыгожую мела душу,
Аднак мяса было нясмачна.

А потым свінячую галаву
Прынеслі на блюдзе новым;
У нас яшчэ ўсё аздабляюць свінням
Лычы вяночкам лаўровым.

## X

За Гагенам хутка настала ноч
І я адчуў у вантробах
Якісь халадок. У Уне[1], ў карчме
Сагрэўся я ад азнобу.

Красуня дзяўчына сустрэла мяне,
Паднесла шклянак пару.
Як жоўты шоўк—яе валасы,
Вочы—што месяц у хмары.

Шапялявы яе вестфальскі акцэнт
З прыемнасцю мог пачуць я.
Пунш успаміны ва мне абудзіў,
Да любых братоў пачуцці;

Да любых вестфальцаў, з якімі не раз
Мы ў Гетынгене[2] півалі,
Пакуль на грудзі адзін аднаму
І разам пад стол не траплялі.

Я іх заўсёды моцна любіў,—
Добрыя людзі вестфальцы.
Народ вельмі цвёрды, без пахвальбы,
І вельмі надзейныя мальцы.

На мензуры[3] заўзята стаялі яны,
Кожны—львінае сэрца,
І добрасумленна і моцна так
Ляцелі кварты і тэрцы.

Яны біць майстры, яны піць майстры,
І сяброўства цэняць, аж люба,
Яны плачуць, п'ючы на брудэршафт—
З сантыментальнасцю дуба.

Барані цябе божа, спрытны народ,
І блаславі твае справы,
Ад геройства крый і яго клапот,
Барані ад вайны і ад славы.

Няхай ён сынам тваім дае
Заўсёды лёгкі экзамен,
І дачок тваіх няўхільна вядзе
Пад фату падвянечную—amen!

---

[1] Уна—горад у Вестфаліі.
[2] Гетынген—германскі горад, вядомы сваім універсітэтам.
[3] Мензура—тэрмін фехтавання. Кварты і тэрцы—фехтавальныя прыёмы.

## XI

Вось гэта Тэўтабургскі лёс [1],
Апісаны у Тацыта [2]
Тое балота класічнае, дзе
Калісьці быў Вар разбіты...

Тут Германа войскам разбіты ён быў
Херускаў харобрага князя;
Нямецкай нацыі слава і чэсць
На гэтым дзярме узнялася.

Каб Герман не выйграў бойкі той
З ардою сваіх бландзінаў,
Нямецкай волі прышоў-бы канец,
Пад Рымам мы быць-бы павінны.

У нашай радзіме Рымскі бы лад
І звычай і мова была-бы,
Весталкі вадзіліся-б ў Мюнхене нат,
Квірытамі [3] зваліся-б швабы.

Геруспексам [4] быў-бы Генстерберг [5],
Ў трыбусе капаўся-б, бычыным,
Неандр [6] стаў-бы аўгурам [7]. Ён бы
Сачыў за палётам птушыным.

Бірх-Пфайфер [8] глытала-б шпігінар,
Як некалі рымскія дамы,—
(Казалі, ад гэтага іх мача
Пахла нібы фіміамы).

Раўмер [9] не быў-бы нямецкі басяк
А быў-бы рымскі басяцый,
Пісаў бы без рыфмы Фрэйліграт [10],
Як нябожчык Флак Гарацый [11].

---

[1] Як сведчыць паданне, у старыя часы тут германцы разбілі рымскія легіёны, на чале якіх быў палкаводзец Вар.

[2] Тацыт—рымскі гісторык.

[3] Квірыты—ганаровая назва грамадзян старога Рыма.

[4] Гаруспекс—адзін з рымскіх жрацоў, што прадказваў будучае па вантробах жывёл.

[5] Гл. заўвагу да радка 72 главы V.

[6] Неандр Іоган-Аўгуст—прафесар тэалогіі ў Берліне.

[7] Аўгуры—рымскія жрацы, якія рабілі прадказанні па палёту птушак.

[8] Бірх-Пфайфер—актрыса і драматург, аўтар мяшчанскіх п'ес.

[9] Раўмер Фрыдрых-Людвіг-Георг—нямецкі гісторык, пасрэдны вучоны і вельмі памяркоўны ліберал.

[10] Фрэйліграт Фердынанд—нямецкі паэт, прадстаўнік палітычнай рэвалюцыйнай лірыкі 40-х гадоў.

[11] Гарацый Флак—рымскі паэт.

Жабрак наш грубы, бацька Ян,
Ён зваўся-б грубіянус.
Me Hercule! Масман [1] бы ведаў латынь,
Marcus Tullius Masmanus!

Змагары за праўду—сілу сваю
Прабавалі-б на львах і шакалах
На арэнах, замест таго, як цяпер,
На цюцьках у дробных журналах.

Аднаго мы мелі-б Нерона [2] цяпер
Замест трох з паловай дзесяткаў.
Мы-б вены ўскрывалі сабе, каб пазліць
Рабаўласніцтва подлых нашчадкаў.

Сенекай стаў-бы Шэлінг [3] якраз
І тым-бы ён скончыў канфліктам,
Карнеліус [4] наш пачуў-бы ад нас
Cacatum non est pictum! [5]

Дзякуй богу! Герман выйграў бой,
Прагнаны іншаземцы,
Вар з легіёнам загінуў тут,
І мы засталіся немцы.

Мы немцы, і мова нямецкая ў нас,
Хоць мы ў ёй і слабы;
Асёл ёсць асёл, а не asinus [6],
А швабы, гэта швабы.

А Раўмер застаўся нямецкі басяк,
Да ордэна кажуць дажыўся.
У рыфму піша Фрэйліграт,
Гарацый з яго не зрабіўся.

Дзякуй богу, Масман ў латыні слабы,
Бірх-Пфайфер сабе піша драмы
І не глытае шпігінар,
Як Рыма галантныя дамы.

О Герман, табе абавязаны мы!
І, як трэба ў такім выпадку,
У Дзетмольдзе помнік ставім табе,
Я сам зрабіў ўзнос для пачатку.

---

[1] Me Hercule (лат.)—Клянуся Геркулесам!—жартлівая форма клятвы ў рымлян. Масман Ганс—Фердынанд—прафесар, яры шавініст.

[2] Нерон—рымскі імператар, вядомы сваёй жорсткасцю.

[3] Шэлінг Фрыдрых-Вільгельм (1775—1854) нямецкі філосаф-ідэаліст.

[4] Карнеліус Петэр—нямецкі жывапісец, прадстаўнік рэакцыйнай школы жывапісі.

[5] Cacatum non est pictum! (лат.)—мазня, не жывапісь.

[6] Asinus (лат.)—асёл.

## XII

У лесе начным трасецца, рыпіць
Карэта. Штось затрашчала.
Зламалася кола. Мы стаім.
Прыемнага вельмі мала.

Вазніца злязае, спяшае ў сяло,
А я застаюся ў чаканні
А поўначы ў лесе зусім адзін,
Вакол ваўкоў завыванне.

Так, гэта ваўкі, яны выюць вакол
І ляскаюць зубам галодным,
Нібы вугалле, ў цемры гараць
Іх вочы бляскам халодным.

Яны вітаюць мяне. Відаць,
Яны пра праезд мой чулі,
Ілюмінавалі лес наскрозь
Ды хорам зацягнулі.

Серанада-ж гэта, я бачу цяпер,
Я маю быць ўшанаваны!
Я адпаведную позу прыняў
І гэтак пачаў ўсхваляваны:

„Ваўкі, браты мае! Як я шчасліў.
Што так мяне добра прымаюць,
І гэтулькі душ благародных мне
З любоўю падвываюць.

Не выказаць словам таго, што я
Адчуваю у гэта імгненне.
Ах, гэта гадзіна будзе заўжды
Лунаць у маім уяўленні.

Я дзякую вам за давер‘е. Мяне
Яго вы лічыце вартым.
Вы ў часе іспытаў цяжкіх не раз
Даказвалі гэта не жартам.

Ваўкі, браты мае! Ведаю я,
Ніхто з вас не папаўся
На брэх тых шэльмаў, што кажуць вам,
Нібы я да сабак перадаўся.

Нібы я адступнік і буду цяпер
Саветнікам ў статку авечым.
Ніжэй за гонар свой лічу
Я гэтаму ‘нат супярэчыць.

Аўчына, якою ад холаду мне
Прыходзілася абкрывацца,
Не давяла мяне да таго,
Каб за шчасце авечак змагацца.

„Не авечка я, не сабака я,
Не саветнік ў авечым статку.
Я воўк, і сэрца і зубы мае—
Ваўчыныя да астатку.

„Я воўк стары і буду заўжды
Сябраваць і выць з ваўкамі.
Так, верце мне, глядзіце сябе
І бог тады будзе з вамі!“

Вось тая прамова, што я трымаў
Без задняй думкі на мэце.
Яе пакрэмзаўшы надрукаваў
Кольб[1] ў „Усеагульнай газеце“.

## XIII

Над Падэборнам[2] сонца ўзышло
З мінай не вельмі жвавай.
Дурную зямлю штодзень асвятляць
Сапраўды не вясёлая справа!

Ты ледзве адзін яе бок ахапіў
І за другім шпарыш бокам,
Каб свет яму даць, а тымчасам ужо
Зноў першы пакрыецца змрокам.

Сізіфавай працы няма канца,
Льюць ваду данаіды ўпустую
У дзіравую бочку, і сонца дарма
Асвятляе кулю зямную!

Калі раніцой разышоўся туман,
Я ўбачыў каля дарогі
У золаку рання на крыжы
Распяты вобраз нябогі.

Жальбой напаўняе мяне штораз
Твой выгляд, мой бедны браценік,
Ты, што наважыў ўвесь свет ратаваць,
Спасіцель, вар'ят, лятуценнік!

---

[1] Кольб Густаў—сябра Гейне, выдаўца „Усеагульнай газеты“, які часта скарачаў і выпраўляў артыкулы Гейне паводле цэнзурных меркаванняў.
[2] Падэборн—прускі гарадок у Міндэнскай акрузе.

З табою сінедрыёна паны
Абышліся сурова на справе,
Ды хто штурхаў цябе ляпаць вось так
Аб царкве і аб дзяржаве!

На няшчасце тваё друкарскі станок
У той час не быў вядомы,
Ты ў нашыя дні па пытаннях нябес
Напісаў-бы некалькі томаў.

Цэнзура пакрэсліла-б крыху ў іх,
Дзе ёсць да зямлі дачыненне,
І клапатліва ратунак дала-б
Ад распяцця і васкрасення.

Эх выбраў-бы ты які іншы тэкст
Для сваёй нагорнай прамовы!
Ты-ж таленту досыць і розуму меў,
Мог лепш падбіраць свае словы!

Ліхвяроў і банкіраў пасмеў ты пагнаць
Ад божага храма парога.
Лятуценнік няшчасны! Цяпер вісі
Для ўсіх перасцярогай.

(Канец у наступным нумары)

*Пераклад з нямецкай мовы*
*М. ВАСІЛЕЎСКАЙ.*

---

*Р. Вельтман*

# КАЛЯДНАЯ ЁЛКА

(Апавяданне)

Быў снежань месяц, але надвор'е было такое цёплае, быццам і не было зімы. Праўда, за гэты час некалькі разоў выпадаў снег, але ад першага дотыку да яго чалавечых ног і аўтамабільных шын ён тут-жа раставаў.

Такая зіма для беднякоў накшталт фрау Вендт была проста шчасцем. Яна пазбаўляла ад лішніх клопатаў і лішніх выдаткаў на пакупку вугалю і цёплай вопраткі для дзяцей.

У фрау Вендт было двое дзяцей—дачка і сын. Дачцы, маленькай бялявай Анхен ішоў пяты год, а смуглявму з вялікімі, як у бацькі, блакітнымі вачыма—сыну Вілі на днях споўнілася дзевяць год.

Дзевяць год! Божа! Значыць прайшло ўжо дзесяць год з таго часу, як яна, Эма Шмідт палюбіла Карла Вендта і выйшла за яго замуж.

Вясною 1924 года Эма паехала на вёску да свайго дзядзькі Франца і там, будучы ў гасцях у дзядзькі, яна пазнаёмілася з сваім будучым мужам Карлам Вендтам.

Карл Вендт быў суседам і старым сябрам дзядзькі Франца. Карл Вендт кожны вечар прыходзіў да дзядзькі, садзіўся каля акна, дзе расла герань, моўчкі выкурваў дзве-тры люлькі і таксама моўчкі, не прараніўшы ніводнага слова, ішоў дахаты.

Дзіўным чалавекам здаваўся ў першы час Эме гэты Карл Вендт і калі-б тады хто-небудзь сказаў, што яна пакахае гэтага чалавека і выйдзе за яго замуж, яна-б у адказ гучна зарагатала.

У суседа і сябра дзядзькі Франца—Карла Вендта была невялікая гаспадарка: тры моргены зямлі, конь, карова, стары, але моцны яшчэ дом і фруктовы сад. Сад пачынаўся тут-жа за домам і цягнуўся да самага рову, які ранняю вясной, у паводкі ператвараўся ў вялікае возера.

Сваім садам Вендт вельмі ганарыўся і заўсёды даглядаў яго так, як даглядаюць маленькае дзіця, або жонку, што ў першы раз нарадзіла.

Калі Эма прыехала да дзядзькі, сад быў увесь у кветках і да чаго ён быў прыгожы ў гэтым белым сваім адзенні!

У ясныя сонечныя дні сад быў асабліва прыгожым. У такія дні ад белых, нібы лебядзіным пухам абсыпаных, дрэваў ішло нейкае цудоўнае, здавалася, пранізваючае ўсё навакол—блакітнае святло.

Сад Карла Вендта быў адгарожаны ад дзядзькавага двара невысокай плеценай агарожай. Каля гэтай агарожы Эма часта прастойвала па цэлых гадзінах, захапляючыся цудоўным садам. Калі аднойчы Эма стаяла так каля агарожы і любавалася садам, раптам поруч з ёй з'явілася высокая стройная фігура Вендта і каля самаго свайго вуха Эма пачула яго па-хлапчукоўску звонкі голас (Эма нават здзівілася, што ў гэтага смутнага, заўсёды маўклівага чалавека звонкі хлапчукоўскі голас). Вендт сказаў:

— Фрэйлен Эма, я бачу вам падабаецца мой сад, дык чаму-б вам не зайсці і не пасядзець у ім? Сапраўды, тут вельмі добра!..

Эме, якая прышла ў замяшанне ад нечаканага з'яўлення і такога нечаканага звароту да яе Вендта, нічога больш не аставалася, як увайсці ў сад.

Гэта было надвечар. За ровам спускалася сонца і белыя дрэвы сада былі цяпер афарбаваны ў малінавы колер закату. Эма ішла побач з Вендтам. Карл Вендт любоўна, з гонарам спыняўся каля кожнага дрэўца, што расло ў яго садзе, даючы падрабязныя тлумачэнні Эме. Так яны дайшлі да канца сада, дзе абкружаная з усіх бакоў кустамі аквечанай жымаласці—стаяла невялікая бяседка. Карл Вендт запрасіў Эму прысесці і яна з ахвотаю згадзілася. Тут-жа было так хораша!

Сонца за ровам спускалася ўсё ніжэй і ніжэй і малінавы закат пераліваўся цяпер проста над бяседкай, у якой сядзелі Эма і Вендт.

— Як цудоўна!—усклікнула Эма, паказваючы на палымнеючае над іх галовамі неба.

— Так, вельмі прыгожа!—набіваючы табакай і закурваючы люльку, сказаў Карл.—Раней,—гаварыў ён,—я заўсёды таксама на гэтым месцы любаваўся закатам, але з таго часу, як я пабываў на фронце, душа пачарствела і нейк усё для мяне зрабілася абыякавым.

— А, вы былі на фронце?—усклікнула Эма, з цікаўнасцю зірнуўшы на Карла Вендта, і тут толькі яна заўважыла невялікі шрам на левай скроні.

— Гэта мяне крыху асколкам шрапнелі драпанула,—сказаў Карл, заўважыўшы позірк дзяўчыны. Гэта было ў 1917 годзе на фронце ў Шампаны. Рана сама па сабе была нікчэмная, але асколкам быў закрануты нейкі нерв і гаварылі, быццам я нават ад гэтага аслепнуць магу. Я вельмі хваляваўся і будучы ў лазарэце,—працягваў Вендт,—я спрабаваў пакончыць з сабой, але мне перашкодзілі і я, як бачыце, фрэйлен Эма, астаўся жывы і здаровы.—Пры гэтых словах Вендт усміхнуўся сумнай, пакутлівай ухмылкай, нібы шкадаваў, што яму не ўдалося тады пакончыць з сабой і што ён астаўся жывы. Добрая і чулая Эма, што сядзела побач з Карлам, адчула, што Карл Вендт глыбока няшчасны, ёй было вельмі шкода яго і ёй надзвычай захацелася яго суцешыць, даведацца аб прычыне яго няшчасця. Эма папрасіла Вендта расказаць ёй пра сваё жыццё.

— Раскажыце мне, Карл, пра ваша жыццё,—сказала Эма, дакрануўшыся маленькай мяккай сваёй рукой да вялікай і агрубелай ад цяжкой працы рукі Вендта.

— Вы хочаце ведаць пра маё жыццё, фрэйлен? Ды ў ім нічога

цікавага няма, анічога зусім!—гаварыў Карл, выбіваючы з патухшай люлькі на шырокую далонь сівы і яшчэ цёплы попел.

— Але я хачу ведаць пра ваша жыццё!—амаль з дзіцячай капрызнасцю сказала Эма і Карл, ці то каб задаволіць просьбу прыгожай дзяўчыны, што сядзела побач з ім, ці то гэты заўсёды пануры і маўклівы чалавек раптам у гэтую хвіліну адчуў патрэбу падзяліцца з кім-небудзь грузам успамінаў—загаварыў.

Карл Вендт расказаў дзяўчыне пра сваё дзяцінства, пра сваё кароткае, але цяжкое, што выпала на яго долю і на долю сотні тысяч падобных да яго маладых людзей,—жыццё; пра параненні і перажыванні на франтах, пра тое, што будучы ў палоне ва Францыі ён пакахаў адну дзяўчыну і ледзь быў не жаніўся на ёй.

— А чаму, сапраўды, не жаніліся на ёй, калі вы яе кахалі?—запытала Эма.

— Ды так, пацягнула да сябе на радзіму,—задуменна адказаў Вендт.

— Тады трэба было яе ўзяць з сабою,—сказала Эма.

— Ды я і хацеў-быў узяць яе з сабою,—нібы апраўдваючыся перад Эмай, ціха гаварыў Карл,—толькі... толькі бачыце, мілая фрэйлен, яна не хацела ехаць сюды. Яна ўгаварвала мяне астацца.

— Ну, тады вам сапраўды трэба было астацца, калі яна не згаджалася ехаць з вамі,—працягвала Эма.

— Яно так, фрэйлен! Мне трэба было астацца,—гаварыў Вендт, гледзячы напрост перад сабой кудысьці ў далячынь, нібы за гэтай сіняй вечаровай далечынёю, паўстала тая самая смуглявая француженка, вобраз якой да гэтага часу жыў у яго душы.

— Так,—працягваў Вендт,—я пасля часта шкадаваў аб тым, што не астаўся, але было ўжо позна. Але вам ужо час дахаты, фрэйлен,—сказаў, раптам паднімаючыся Вендт.—Вы лёгка апрануты і, я бачу, вам халодна.

Сапраўды, Эме крыху было халодна, бо з надыходам вечара, з рову павявала холадам. Але Эме не хацелася ісці дахаты, ёй не хацелася расставацца з гэтым самотным, столькі перажыўшым чалавекам, да якога яна ў гэтую хвіліну раптам адчула велізарную жаласлівасць, жаласлівасць змешаную з цмяным і незнаёмым ёй да гэтага часу пачуццём.

З гэтага вечару Эма кожны дзень бачылася з Карлам. Яна прыходзіла да яго ў сад і яны падоўгу гутарылі ўдвох.

У хуткім часе Эма пакахала Карла Вендта. Карл Вендт таксама ўпадабаў гэтую маладую, гарадскую, прыгожанькую дзяўчыну. Ён прызнаўся ёй і яны пажаніліся.

Першы час пасля вяселля жыццё Эмы ішло ціхамірна, без асаблівых клопатаў і хваляванняў. Яна кахала свайго мужа Карла. Карл яе кахаў і яна гэтым была шчаслівая, але вось у хуткім часе яе шчасце было парушана. Праз год пасля таго, як яны пажаніліся, нарадзіўся сын Вілі. Роды былі цяжкія і пасля іх Эма пачала хварэць.

Хвароба знясіліла яе малады арганізм, Эма настолькі аслабела, што не магла займацца сваёй маленькай гаспадаркай і ёй цяжка было даглядаць дзіця. На вёсцы Эма была ў адзіноце і ніякай дапамогі ад іншых не мела. Раней, калі яшчэ жыла жонка дзядзькі

Франца,—цётка Ліза, яна прыходзіла да Эмы і дапамагала ў гаспадарцы, але цётка Ліза яшчэ вясной, спагадзя некалькі месяцаў пасля таго, як у Эмы нарадзілася дзіця, прастудзілася і памерла.

Бацькі Эмы жылі ў Берліне. Ведаючы, што хворай дачцы цяжка адной глядзець за дзіцем і займацца гаспадаркай, яны клікалі ў пісьмах дачку да сябе, каб тая з мужам пераехала жыць у горад. Эма пачала прыставаць да свайго мужа, каб прадаць усё і пераехаць у горад. Эма разлічвала, што ў горадзе жыццё яе будзе лягчэйшым. Маці дапаможа ёй у хатніх справах і дапаможа ёй выхоўваць дзіця, ды і наогул з бацькамі яна не будзе адчуваць сябе такой адзінокай. Аднак, Карл доўга не згаджаўся. Ён нарадзіўся і вырас на вёсцы і яму цяжка было расставацца з усім ранейшым укладам жыцця, да якога ён прызвычаіўся, як прызвычаіўся, скажам, да сваёй старой, ужо абвугленай па краях, кароценькай люлькі.

Так, Карлу было цяжка расставацца з вёскай, цяжка было расставацца з сваёй гаспадаркай, асабліва з яго любімым садам. Але Эма з кожным днём усё больш і больш прыставала і ён урэшце ўступіў ёй. Так яны пераехалі жыць у вялікі шумны Берлін.

Будучы ў палоне ва Францыі, Карл Вендт крыху навучыўся слясарнай справе. Пераехаўшы ў Берлін, Карл паступіў слесарам на металургічны завод Рудольфа Шрайбера, дзе працаваў яго цесць. У першыя гады Карл зарабляў вядрэнна і ім зусім хапала на жыццё. Але вось прышоў крызіс. З прычыны крызісу і скарачэння рабочага тыдня на заводзе—заработак Карла адразу зменшыўся ўдвая і жыць стала цяжка. Якраз у гэты цяжкі час у іх нарадзілася другое дзіця—дачка Анхен. Анхен з дня нараджэння была слабым дзіцем і яе асабліва трэба было глядзець і забяспечыць ёй добрае харчаванне. Але адкуль было на гэта ўзяць сродкаў? Здаралася, што па цэлых днях дзіця не бачыла нават кроплі малака.

Так, нямала Эме за гэтыя гады давялося перажыць! А тут яшчэ з прыходам Гітлера да ўлады на яе абрушылася новае гора. Муж яе Карл заступіўся за аднаго антыфашыста, якога штурмавікі на тэрыторыі завода, на вачах ва ўсіх рабочых пачалі збіваць гумавымі дубінкамі. І хаця Карл Вендт быў заўсёды ціхім і ціхамірным чалавекам, хаця ён ніколі ні да якой палітычнай партыі не належаў, хаця за ім ніякіх грахоў не лічылася, усё-ткі ён быў зняволены ў канцэнтрацыйным лагеры толькі таму, што асмеліўся заступіцца за рабочага антыфашыста.

Пасля зняволення мужа ў канцэнтрацыйным лагеры—Эма з двума малымі дзецьмі асталася зусім без сродкаў да жыцця.

Астаўшыся адна, Эма некаторы час атрымлівала невялікую дапамогу па беднасці ў адным дабрачынным таварыстве, але, калі ў гэтым дабрачынным таварыстве стала вядомым, што муж яе зняволены ў канцэнтрацыйным лагеры за спачуванне антыфашысцкаму руху,—ёй адмовілі ў дапамозе.

За час, калі муж яе сядзеў у канцэнтрацыйным лагеры, Эма зусім выбілася з сіл і каб не дапамога суседа рабочага Курта Клебера, ёй давялося-б з дзецьмі памерці з голаду.

Работу Эма ніяк не магла знайсці і яна ўжо была зусім страціла надзею куды-небудзь паступіць. Але вось у пачатку зімы

пасля доўгіх няўдач і пакут, ёй нарэшце ўдалося паступіць у кафэ „Мітропа“. Праўда, заработак у гэтым кафэ быў невялікім, але Эма была шчаслівая, што яна нарэшце атрымала якую-небудзь работу. Цяпер яна здолее пакрыць хоць невялікую частку запазычанасці па кватэрнай плаце, а то домаўласнік пагражаў выкінуць яе з кватэры, ды яшчэ ў такі час! Цяпер Эма будзе мець магчымасць купіць Вілі пару новых чаравікаў. Старыя чаравікі Вілі зусім знасіліся і хлопчыку зусім не было ў чым хадзіць у школу.

Так, Эма была шчаслівая, што нарэшце атрымала работу!

Дні яшчэ стаялі цёплыя, сонечныя, а між тым набліжаліся ўжо калядныя святы. У начышчаных да бляску вітрынах магазінаў з‘явіліся зялёныя, багата ўпрыгожаныя ёлкі, вакол якіх штодня збіраліся натоўпы дзяцей. Па цэлых гадзінах дзеці прастойваюць каля вітрын, каля зялёных ёлак, захапляючыся цудоўнымі цацкамі.

Вось каля вітрыны, у якой красуецца адна з такіх цудоўных ёлак, стаіць з ранцам на спіне—смуглявы Вілі.

На ёлцы шырокі ў плячах, апрануты ў зялёныя боцікі, дзед-мароз безустанку ківае сваёй ссівелай галавой, нібы здароўкаючыся з дзецьмі, што сабраліся каля вітрыны, і ў дзяцей гэта выклікае надзвычайнае захапленне! Яны смяюцца, пляскаюць у ладкі і гучна прыгаварваюць: „вось дык дзед-мароз, вось дык дзед-мароз! Побач з дзедам-марозам на тонкім працягнутым паміж двума веткамі дроце паўзе велізарны вусач-жук. Больш за ўсё Вілі падабаецца жук. Аднак, ён знаходзіць у ім адну загану—жук зялёны, а на погляд Вілі жукі бываюць толькі чорныя. Хаця вялікай упэўненасці ў гэтым у Вілі няма і ён вырашае запытацца ў таварыша Ганса, што стаіць побач з ім.

— Слухай, Ганс—хіба жукі бываюць зялёныя?—пытаецца Вілі.

— Бываюць!—адказвае ўпэўнена стройны і тонкі, як трысцінка Ганс,—бываюць і зялёныя, і чорныя, і чырвоныя і... і...

— І... і хлус-жа ты ладны! Як табе не сорамна гэтак хлусіць! Хіба бываюць чырвоныя жукі?—ускліквае за спіною Ганса нейкі чумазы хлапчук. Вакол гучна рагочуць і твар у Ганса робіцца пунсовым ад сораму.

Налюбаваўшыся ўдосталь ёлкай—Вілі накіроўваецца дахаты. Па дарозе ён вырашае запытацца ў маці, ці будзе ў іх у гэтым годзе ёлка. Але прышоўшы дахаты, ён маткі ўжо не застае. Яна пашла на работу.

Эма і Карл далёка не былі набожнымі людзьмі, але ўсё-такі штогод у каляды наладжвалі ёлку. Ёлка наладжвалася для таго, каб прынесці радасць дзецям. У жыцці дзяцей-беднякоў так мала радасці, няхай-жа хоць раз у год нарадуюцца ўволю!—разважалі яны.

У гэтым годзе, не гледзячы на тое, што муж сядзеў у канцэнтрацыйным лагеры, не гледзячы на тое, што жыццё было поўна клопатаў і нястач, Эма вырашыла наладзіць ёлку для дзяцей. „Яны-ж столькі нацярпеліся за гэты год! Няхай хоць парадуюцца крыху!“—думала Эма.

Прышлі каляды. Пасярод маленькага, па-святочнаму ўбранага пакою, у якім жыве Эма з дзецьмі, стаіць раскінуўшы калматыя лапы, зялёная ёлка. Праўда, гэта была скромная, вельмі скромная

ёлка, якую можа сабе дазволіць бядняк. Некалькі запаленых рознакаляровых свечак, некалькі падвешаных на нітках ледзянцоў, белы, выразаны з картону, з апушчанай галавой, лебедзь, дзед-мароз і старая з аблупленым носам лялька Анхен. Вось усё убранне ёлкі.

Так, гэта была скромная, надта скромная ёлка, якая зусім не падобна была на тыя цудоўна ўпрыгожаныя ёлкі, якія сёння, у гэтую ноч, будуць красавацца ў багатых, ярка асветленых залах, і вакол якіх будуць скакаць апранутыя ў аксаміт і шаўкі сытыя і шчаслівыя дзеці багачоў.

Але ўсё-такі гэта была ёлка і дзеці Эмы—маленькая бялявая Анхен і смуглявы прыгажун Вілі былі ў захапленні ад яе.

Узяўшыся за рукі, дзеці танцуюць вакол ёлкі і спяваюць вясёлую песеньку, якой іх у мінулым годзе навучыў бацька:

Ёлачка, ёлачка
Зялёная ёлачка...

Побач з ёлкай пасярод пакою стаіць Эма. Яна стаіць, упёршы рукі ў бокі і з замілаваннем глядзіць на дзяцей, якія танцуюць вакол ёлкі. „Якія яны слаўныя, як яны выраслі за гэты год! Эх, каб іх убачыў зараз Карл!“—думае Эма і павярнуўшы галаву, яна глядзіць на вялікі партрэт мужа, што вісіць на сцяне.

У апошні час Эма не перастае думаць пра свайго мужа. Ён кожную ноч нават сніцца ёй ва сне. Сёння ўначы Карл зноў ёй прысніўся. Ён паўстаў перад ёй увесь змучаны, бледны, а ў накіраваным на яе позірку была такая жудасць, што Эме ад гэтага мужавага позірку зрабілася страшна і яна прачнулася.

„Божа! Каб толькі ён не звар‘яцеў!—думае, гледзячы на партрэт мужа, Эма.

Гадзіннік, што вісіць побач з партрэтам, прабіў дзевяць. Эма страпянулася і замітусілася па пакоі. Ужо дзевяць гадзін! А роўна ў дзесяць ёй трэба быць на працы.

Кафэ „Мітропа“, у якім служыць Эма, сёння з прычыны свята будзе адчынена ўсю ноч і ёй, Эме, якраз выпала працаваць у начной змене. Малодзенькіх і прыгожанькіх прыслужніц уласнік кафэ—гэта старая шэльма і распуснік Краузе адпусціў на свята пагуляць, а ёй, Эме, і нясмелай Матыльдзе, што нядаўна паступіла на службу ў кафэ, давядзецца ўсю ноч працаваць.

Ах, як не хочацца ў гэтую ноч Эме ісці з дому! Ісці ад дзяцей, што так весела гуляюць, але нічога не зробіш! Трэба ісці! Эма добра ведае, што калі не пойдзе на працу, то яе могуць звольніць.

Перш чым ісці на працу, Эма хоча пакласці дзяцей спаць, але дзеці пратэстуюць. Ім хочацца яшчэ пагуляць.

— Спаць?—не, мы яшчэ пагуляем, мамачка, пагуляем!—лапоча, лашчачыся да маткі маленькая, бялявая Анхен.

— Так, так, мы яшчэ пагуляем, мама! Нам так весела!—упрашвае маці Вілі.

„Сапраўды, няхай яшчэ пагуляюць крыху. Яшчэ-ж не так позна“—думае Эма.—Ну, добра, дзеці, пагуляйце, пагуляйце яшчэ крыху,—гаворыць яна—толькі памятай, Вілі!—працягвае звяртаю-

чыся да свайго сына Эма,—ты павінен неўзабаве пакласці Анхен спаць і сам легчы.

Вілі абяцае маці, што ён так і зробіць.

Апранутая ў старае сваё клетчатае паліто Эма, развітаўшыся з дзецьмі, накіроўваецца да дзвярэй.

Спусціўшыся ўніз ва двор Эма спыняецца. Яна падымае галаву і глядзіць на адзінае акно свае кватэры, што знаходзіцца амаль пад самым дахам. Гледзячы на цмяна асветленае акно, якое знізу здаецца малюсенькім, Эме раптам з неймавернай сілай захацелася вярнуцца назад, да дзяцей, але трэба ісці на работу! Час ужо позні і трэба спяшацца. Эма, пастаяўшы некалькі хвілін, з цяжарам на сэрцы і нейкай глухой трывогай у душы—пашла.

Калі Эма прышла ў кафэ, яно ўжо было перапоўнена гітлераўскімі „малайцамі“—апранутымі з прычыны свята—у новыя карычневыя гарнітуры—штурмавікамі.

Штурмавікі весела святкавалі першыя каляды пры новым рэжыму. Яны шумна выпівалі адну бутэльку шампанскага за другой, гучна чмокаліся з дзяўчатамі, што сядзелі ў іх на каленях, распявалі пахабныя песні, выхваляліся адзін перад адным сваімі прыгодамі ў рабочых і яўрэйскіх кварталах, прыгодамі, якія каштавалі жыцця сотням і тысячам ні ў чым невінаватых людзей.

Работы ў гэтую ноч у Эмы было надзвычай многа і ўсётакі, не гледзячы на перагружанасць работай, не гледзячы на мітусню, не гледзячы на шум і гам, які панаваў у кафэ—Эма ні на хвіліну не пераставала думаць пра сваіх дзяцей.

Эма вельмі непакоілася, што пакінула дзяцей нанач адных, без усякага нагляду. Больш за ўсё яе непакоіла тое, што калі яна ішла на працу, дзеці асталіся гуляць каля ёлкі, на якой яшчэ гарэлі свечкі.

„Хоць-бы з імі не здарылася што-небудзь“,—з трывогай думала Эма.

І чым далей, тым больш трывога гэта расла ў душы Эмы.

Ноч гэтая здавалася Эме бясконца доўгай. Яна не магла дачакацца, калі яна ўжо скончыць працу і будзе мець магчымасць ісці дахаты, да сваіх дзяцей. Была ўжо позняя ноч, калі зачынілі кафэ. Эма вольная і вось яна спяшаецца дахаты.

Эма ідзе хутка, але ёй здаецца, што яна ідзе вельмі павольна і яна яшчэ больш спяшаецца. Цяпер ужо Эма амаль бяжыць. Чырвонашчокі, шырокі ў плячах, велізарнага росту паліцэйскі, што стаіць на адной з вуліц, калі Эма прабегла каля яго—падазрона паглядзеў ёй услед. Але Эма на гэта не звярнула ўвагі. Яна цяпер не звяртае ўвагі на паставых паліцэйскіх, якія пазіраюць за ёй з падазронасцю, ёй няма ніякай справы да ўсяго свету. Яна жыве ў гэтую хвіліну толькі адной думкаю, адным жаданнем—хутчэй дабрацца дамоў!

Нарэшце, яна каля дома, дзе жыве. Сэрца яе моцна білася ад хуткай хадзьбы і хвалявання. Эма пачынае ўзнімацца па лесвіцы і раптам, як толькі яна пачала ўзыходзіць па лесвіцы—раптам адчула ледзь улоўны пах гары. Чым вышэй яна ўзыходзіла, тым

больш гэты пах гары ўзмацняўся. Зразумела! Ён ішоў адтуль, з самага верхняга паверху. Эму ахапіў жах! Яна адразу адчула, што здарылася нешта жудаснае, непапраўнае. І хаця яна задыхалася ад сэрцабіення, хаця ногі ў яе падгіналіся ад страху і слабасці—Эма, пераступаючы адразу праз некалькі ступенек, узбегла ўверх па лесвіцы. Вось яна ўжо каля свайго пакою. Дастаўшы дрыжачымі рукамі з кішэні ключ, Эма хоча адчыніць дзверы, але яна з жахам заўважае, што на дзвярах вісіць чужы замок. У пакоі цёмна і адтуль нясе даўкім пахам гары.

„Божа, што здарылася, што здарылася з маімі дзецьмі“—шэпча, заліваючыся слязамі Эма. Яна з усяе сілы стукае кулакамі ў дзверы: „Вілі, Вілі, сынок мой, моліць яна.—Абзавіся, гэта я... я, мама“. Але з сярэдзіны пакою ніхто не адгукаецца. Цішыня. Эма яшчэ мацней узялася стукаць у дзверы, але раптам яна чуе чыйсці голас.

— Ціха, ціха, Эма, не стукайце! З вашымі дзецьмі гм... З вашымі дзецьмі здарылася няшчасце...—гаворыць набліжаючыся сусед рабочы Курт Клебер.

— Што?!. Што з імі здарылася! Гаварыце хутчэй, Курт!—усклікнула Эма.—Гаварыце, гаварыце хутчэй... я вас малю...

Эма хапае рукі Курта. Яна гатова цалаваць гэтыя рукі, грубыя ад работы рукі старога Курта, абы той хутчэй расказаў, што здарылася з яе дзецьмі. Але Курт патупіўшы вочы маўчыць. Старому добраму Курту цяжка расказваць Эме аб вялікім горы, што на яе абрушылася. Нарэшце, сабраўшыся з сіламі, Курт расказвае рыдаючай жанчыне аб жудасным здарэнні.

А здарылася вось што: калі Эма пашла на працу, дзеці доўга яшчэ танцавалі вакол ёлкі. Але вось дзеці ўжо стаміліся. Маленькая Анхен першая адмаўляецца больш танцаваць. Брат яе Вілі хоча пакласці яе спаць, але Анхен не хоча яшчэ ісці спаць. Узяўшы маленькі, зроблены бацькам незадоўга да зняволення ў канцэнтрацыйным лагеры, стульчык, яна садзіцца на ім каля ёлкі.

Дзіўныя цяпер рэчы паўстаюць перад сонным зрокам маленькай Анхен. Зялёная ёлка круціцца па пакоі, белы лебедзь падміргвае ёй адзіным сваім аранжавым вокам, дзед-мароз раскінуўшы ногі скача так, што сівая барада яго трасецца, а там, дзе толькі што стаяў Вілі, стаіць цяпер бацька, стары добры яе бацька! „Папа, папа“...—хочацца крыкнуць Анхен, але яна не можа. Сон канчаткова змарыў яе. Заплюшчыўшы вочы, маленькая Анхен схіляе галоўку на адну з ветак ёлкі, і раптам нешта такое вострае пячэ ёй у шыю, у грудзі. Анхен, ускрыкнуўшы, усхапілася з стульчыка. Белая, апранутая на ёй сукеначка ахоплена агнём. Крычучы на ўсю сілу, з запаленай сукенкай, маленькая Анхен круціцца па пакоі. Брат яе Вілі, спяшаецца дапамагчы сястры. Ён рукамі спрабуе пагасіць на ёй сукенку. Вілі абпякае сабе рукі. На ім загараецца шэры з крапінкай світар. Цяпер Вілі крычыць ужо разам з сястрой, клічучы на дапамогу, але на дапамогу ніхто не ідзе, маткі няма. А з суседзяў хто ўжо спіць у гэты позны час, а хто весела спраўляе каляды і не чуе страшных крыкаў, ахопленых полымем

дзяцей. І крыкі дзяцей нясуцца ў ноч, а ноч маўклівая... Ніхто на дапамогу не ідзе. Ніхто не ратуе асуджаных на пагібель дзяцей...

Толькі пазней сусед-рабочы Курт Клебер, які варочаўся аднекуль, адчуў даўкі пах гары. Зламаўшы замок дзвярэй, Клебер увайшоў у пакой і ўбачыў дзяцей, якія няпрытомнымі ляжалі на падлозе.

Выкліканая Клеберам карэта хуткай дапамогі адвязла дзяцей у бліжэйшую больніцу.

Пакрытая ўся спёкамі, маленькая Анхен памерла яшчэ па дарозе ў больніцу, а яе брат Вілі памёр якраз к таму часу, калі маці яго вярнулася дахаты.

*А. Гурло*

## ЗАСНЕЖЫЎ СНЕЖАНЬ

Заснежыў снежань шлях-дарогу
І холад рукі мне пячэ.
Які ён злы, які ён строгі—
Аж зоры сыплюцца з вачэй!

Яшчэ хоць снег і не трывалы,
Яшчэ хоць вязне ў гразь нага,—
Ўжо вецер—грозны запявала—
Мяне ў свой венцер залыгаў.

Застудзіць гразь ён, сціcне слоту,
Развее ён туман густы,
І перакіне праз балоты
Мароз лядовыя масты.

Пайду на лыжах я пагоняй
Па снезе шоўкавым шамрэць,
Каб славіць нашае сягоння,
Каб нашым заўтрашнім гарэць!

29/X—36 г.

*Пімен Панчанка*

## БАЛАДА ПРА ВАСІЛЬКА І ПРАВАДЫРА

Маці ў горы і бацька ў горы—
Сын, Васілёк, трэці дзень ужо хворы.

Крочаць марудна глухія гадзіны.
Стогне ў гарачцы сынок іх адзіны...

А за сцяною бялеюць паляны,
Снегу абрусы усюды пасланы.

Гурбы, сувеі... Горад далёка.
У горад забрацца з хворым нялёгка.

Маці над сынам схілілася нізка,
Гора глядзіць з яе кожнае рыскі.

„Ці-ж я нядобра глядзела, мой сыне,
Мяккіх валос і вачэй тваіх сініх?

Сталі мы радасна жыць і багата—
Лепшы канюх у калгасе твой тата.

Быў ты адзеты, быў ты абмыты,
Марыў зрабіцца палярнікам Шмідтам...

Асіраціць захацеў ты нас, сынку?.."
Іскрай пякучай упала слязінка.

Б'ецца параненай птушкаю сэрца.
„Хто-ж майго голуба вырве ад смерці?"

Думка са смерцю мірыцца не хоча.
Маці ўзнімае вільготныя вочы.

З ласкай глядзіць на яе з партрэта
Той, чыім імем, як сонцам сагрэты.

І загарэлася раптам надзея:
„Мне дапаможа ў чорнай бядзе ён!"

У сетцы дратоў звініць тэлеграма,
Шпарка ляціць над палямі, лясамі.

Песняй трывожнай гудуць правады...
Мудры жыве у Крэмлі правадыр.

Ноччу і днём яму многа работы—
Шчасце няспынна куе для народаў.

Ласкай вялікай пагляд яго свеціць.
Нашы патрэбы ён заўжды прыкмеціць.

Голас магутны усюды гучыць.
Кожнаму рад ён ў бядзе памагчы...

* * *

У снезе па пояс раскіданы хаты.
Ёлак табун спіць пад белаю ватай.

Сонца скупое на лёдзе бліщчыць.
Спеў самалёта у небе гучыць...

Белых аблок ён мінуў караваны
І апусціўся на роўнай паляне.

Выйшаў з кабіны пасланец з-пад хмары—
Доктар сівы і працёр акуляры...

І весялей раптам стала у хаце,
Доктар над сынам схіліўся ў халаце.

А праз гадзіну сказаў да бацькоў:
„Будзе сынок ваш і жыў, і здароў!“

Цяжка пра матчыну радасць сказаць!
Радаснай зоркай упала сляза.

Сталін!—Ён родны усім, дарагі—
Сына вярнуў і пазбавіў тугі.

Сталіным любым маці жыла,
Сэрца сваё за яго аддала-б...

Зноў загучала прапелера песня—
Сталіну матчына дзякуй панесла.

1937 г. в. Казулічы,
Кіраўскі раён.

*В. Рагуцкі*

## ПРАХОДЖУ Я...

Мінаючы звонкія сосны,
Бурлівыя рэкі, палі,
Праходжу я вечарам росным,
Дарогамі роднай зямлі.

чую, як нівы гамоняць,
Шумяць сінявокія льны,
Па сёлах спяваюць гармоні
Прыгожыя песні вясны.

І мне не стрымаць хвалявання,
Не выказаць радасць сваю—
Я песням іду на спатканне
І песням руку падаю...

З вясёлым агнём маладосці
Над краем яны расцвілі.

І месяц і зоры зайздросцяць
Над стэпам і борам, калі
Мінаючы звонкія сосны,
Бурлівыя рэкі, палі,
Праходжу я вечарам росным
Дарогамі роднай зямлі.

Вёска Старое Пашкава.

*М. Нікanaў*

## СТАЛІНСКІ ЎРАДЖАЙ

По шырокіх гонях
Вецярок гуляе,
А на ўзгорку ціха
Развіжае гай.

Крадучыся золак
Над зямлёй звісае,
Навакол гамоніць
Спелы ураджай.

Поўныя калоссі
Ніву апранаюць,
Атуляе сонца
Мой любімы край.

Весела дзяўчына
У полі распявае:
Пра буйны, калгасны
Дарагі ўраджай.

І плывуць далёка
Песні, адгалоскі
Па траве зялёнай
У сінявокі гай.

Радасна на сэрцы
Нам збіраць вялікі
Яшчэ небывалы
Сталінскі ўраджай.

г. Магілеў.

*У. Фінкель*

# ПАЖАР

(Гістарычная навела)

Ужо каля двух гадзін Шмуэл Шмелькес стаіць у кухні ля дзвярэй крэдэнса[1]. Праз кожныя дзве-тры хвіліны рукавы яго атласнай халаміды труцца аб срэбныя падносы з пышным фарфарам і пазалочанай пасудай. Выштукаваныя лёкаі графа Вітгенштэйна нясуць пачастункі гасцям, што балявалі тут усю ноч.

Шмуэлу Шмелькесу млосна. Ён адчувае цяжар аксамітнай ярмолкі на галаве. Гарачая пара б'е ў вочы. Вільгатнеюць пейсы, чорная барада. Буйныя кроплі поту капаюць з белага ілба на ружовы пульхны твар.

Гарачы летні дзень, а ў кухні такая духата. Шмуэл Шмелькес нібы варам абліты, але ён не думае пайсці на двор. Больш чым заўсёды яго сёння палохаюць белыя каменныя львы. Яны стаяць на сярэдзіне двара на п'едэстале, адзін супроць аднаго, разяўленыя, зубастыя, з высунутымі языкамі, з узнятымі пярэднімі лапамі, нібы во-во раздзяруць адзін аднаго на шматкі.

І лёкай Ян шэпча Шмуэлу Шмелькесу на вуха:

— Зараз, Шмуйлачка, раз'едуцца госці... Прэндка...

У гэтым двары лёкай Ян самы прыязны яму чалавек. Пры кожнай гандлёвай справе між Шмуэлам Шмелькесам і графам нізенькі і шчуплы Ян бывае пасрэднікам, падміргвае чырвонымі жылкамі кашачых вачэй высокаму Шмуэлу і гладзіць сябе весела і пяшчотна па кішэні.

Заўсёды Ян мае ад Шмуэла Шмелькеса сваю залатую долю і часта наказвае яму:

— Пане Шмуйлачка, купцы прыехалі да графа... Прадаецца бор у сто дзесяцін... шпіляр пшаніцы... дваццаць быкоў... Не спі ў шапку, пане Шмуйлачка...

І Шмуэл Шмелькес не спіць у шапку.

Бадай у кожную суботу адвячоркам Ян наведваецца ў госці да Шмуэла Шмелькеса. Хадыром ходзіць тады ўся сям'я Шмуэла Шмелькеса. Госць ахмялелы, гаспадар асалавелы. Сора-Фейга не шкадуе смачных хрустоў, насмажанай рэдзькі ў мёдзе, макавых мармеладак, мядовых мігдалак. Гаспадыня зазірае Яну спагадліва ў вочы і з яе ніжняй тлустай губы зрываецца:

— Нех пан пакаштуе тэйгл[2], то зробіла мая цурка.

---

[1] Спецыяльная кладовая для пасуды.

[2] Медавікі з мучных клёцак.

Сора-Фейга паказвае на сваю дачку—пятнаццацігадовую заможніцу, што ўвіхаецца ля стала. І два прыяцелі—лёкай Ян і багаты арандатар графа Шмуэл Шмелькес—шчыра чокаюцца, дзынкаюць срэбнымі кілішкамі з шабасовай наліўкай і хваляць адзін аднаго за спрытны розум.

Калі Ян падышоў у графскай кухні да Шмуэла Шмелькеса паведаміць, што зараз раз'едуцца госці, дык адной рукой пагладзіў свае сівыя закручастыя вусы, а другой—Шмуэла Шмелькеса па доўгай чорнай барадзе зверху ўніз, да завостранага клінка.

На гэты раз Ян памыліўся. Госці сядзелі ў графа далёка за поўдзень і Шмуэл Шмелькес павінен быў доўга-доўга выстойваць ў кухні ля дзвярэй крэдэнса.

Нарэшце ён дачакаўся. Нарэшце стары граф, які дрыжэў ад холаду і ўлетку, прыняў яго ў адным з сваіх пакояў. Ён сядзеў ухутаны ў халат, падбіты вавёркавай футрай, і курыў з бурштынавай люлькі, апраўленай залатой вечкай, з плеценым цыбуком даўжынёю ў гайдуцкі бізун. Абапіраўся сіняватамі падагрычнымі рукамі аб сабачыя галовы на бакоўках утульнага крэсла з мастацкімі інкрустацыямі. На яго круглым твары яшчэ пералівалася сінявая чырвань бяссоннай ночы, а з-пад густых брывей мігацеліся вялікія папяловыя вочы.

Звычайна Шмуэл Шмелькес першы пачынаў гутарку, але на гэты раз граф адразу запытаўся:

— Як, Шмуйла, справа з прапінацыяй[1] і ў якім стане бровар?— граф узняў галаву, закасаў верхнюю губу і ўсмешка адкрыла яго закураныя пажоўклыя зубы.

Упершыню Шмуэл Шмелькес бачыць графа ў такім добрым гуморы, хаця і на гэты раз граф не прасіў яго падыходзіць да сябе бліжэй чым на дзесяць крокаў. Але сёння граф даволі лагодны, у голасе няма палохаючай строгасці.

Шмуэл Шмелькес ледзь прыкметна перабірае нагамі, трэ рукамі адну аб адну, нібы мыліць іх, і выраз шчырай адданасці расплываецца па яго твары. Ён згорбіўся, і яго высокі стан зрабіўся нізкім, схіленым. Граф ужо не раз гаварыў яму, што местачковыя яўрэі мала плацяць яму за пляцы, якія яны займаюць. Граф хацеў яму аддаць у арэнду спагнанне чыншоў з местачкоўцаў. Але Шмуэл Шмелькес ахвоты не меў: грошай у іх няма, а на адпрацоўку яны не пойдуць, гэтыя гультаі. У графа няма прывілеі на тое, каб местачкоўцы выплачвалі яму чыншы працай. Ужо некалькі дзён, як у яго, Шмуэла Шмелькеса выспявае новы спосаб спагнання чыншоў. Граф да яго сёння прыхільны. Ён, арандатар, пакажа цяпер местачковай галоце, дзе ракі зімуюць. У яго на іх вялікая злосць: на кожную суботу яны купляюць гарэлку не ў яго бровары, а ў зялёнай карчме з іншай ваколіцы.

Цяпер ён напомніць графу аб тым, аб чым граф сказаў яму па сакрэту яшчэ два гады таму назад: чырвоны певень... Няхай яны гараць—пякельнікі! І яны не хворы адбываць прыгон, як вясковыя

[1] Арэнда гандлю гарэлкай.

хлопы! Вось у яго для графа гатовенькі план, як дабіцца гэтага. З хуткасцю маланкі ляцяць яго думкі.

— Не добжэ, яснавяльможны граф,—Шмуэл Шмелькес разнімае рукі і зноў трэ іх адну аб адну.—Пакрысе нішчыцца прапінацыя. Карчмары ўпотайку дастаюць гарэлку з іншай ваколіцы. Грэбля пры млыне руйнуецца, няма каму правіць. Надыходзіць касавіца—няма каму касіць. Хлопы яснавяльможнага графа маюць і без гэтага працы па горла. Чаму-ж гэта местачковым абібокам, „жыдкам“ і мешчанчукам, не дастаўляць бочкі ў бравар? І яны не хворыя ісці на сенакос! Чаму не?

Граф Вітгенштэйн узняўся з крэсла. Ён успомніў сваю гутарку аб гэтай-жа справе з Шмуэлам Шмелькесам у мінулым годзе. Арандатар тлумачыў тады, што няма ад каго спаганяць—галадранцы. Але граф раптоўна зноў сеў. Падагрычныя колікі пранізвалі яго наскрозь, прасвідравалі з паясніцы аж да раменаў. Граф уздрыгануўся на крэсле і бурштынавая люлька грукнулася аб васкаваную падлогу—аж водгаласкі пайшлі па зале.

Шмуэл Шмелькес спыніў гутарку, нізенька пакланіўся, хутка, на цыпачках, падбег да таго месца, дзе ўпала люлька, падняў, падаў графу і, не здымаючы вачэй з графа, адышоў асцярожна назад на дзесяць крокаў. У гэты-ж час ён назбіраў у галаве моцныя пераконваючыя словы, якімі зноў пачне ўздзейнічаць на графа. Шмуэл Шмелькес глыбока ўздыхнуў, зноў мыліў руку аб руку, разняў іх і давай працягваць перапыненую гутарку:

— Яшчэ ў мінулым 1844 годзе гэтай самай парой я меў гонар чуць ад міласцівага графа аб гэтым-жа. Граф хацеў скасаваць старыя прывілеі, што местачкоўцы атрымалі ад вялікіх памёршых святой памяці дзядоў графа—прывілеі, каб плаціць грашыма, а не працай за пляцы, дзе стаяць будынкі местачкоўцаў. Цяпер я прыдумаў паратунак: галавешка—і няхай яны гараць! Чаму не? У такія гарачыя дні кінуць агеньчык у іхнія саламяныя стрэхі, дык о-го-го...—хаткі спапяляцца, як лучына—і пляцы чысцюткія для яснавельможнага графа, хоць кветкі на іх садзі!..

У Шмуэла Шмелькеса набажна замасліліся вочы. Ён пачынае гаварыць шэптам, сардэчна:

— Калі местачкоўцы хочуць адбудаваць хаты, няхай ідуць на гвалт [1], няхай папраўляць грэблю, няхай сапраўды папрацуюць некалькі дзён у месяц на арандатара яснавяльможнага графа. Чаму не? Рукі не адсохнуць...

Як заўсёды, лёкай Ян і сёння хацеў уткнуць сваю глюгу, каб даведацца аб чым гэта так доўга Шмелькові вядзе гутарку з графам. Ці не новы гэшэфт... Пэўна граф прадае некалькі дзялянак лесу. Ян не дапусціць, каб Шмелькові яго абмінуў. І з гэтага гандлю ён павінен сабе сцягнуць костку з мясам... Лёкай ціхутка адчыніў дзверы і ўсунуў галаву, як ліса. Але граф махнуў сіняй, падагрычной рукой у бок дзвярэй. Лёкай зразумеў, што граф думае, ірвануўся назад нячутна, як цень, і зачыніў за сабой дзверы.

Граф ужо даўно шукаў сродкаў, як прыцягнуць да паншчыны

[1] На паншчыну (стары выраз).

местачковае насельніцтва—яўрэяў, беларусоў і татар. Ён цяжка ўзняўся са свайго вольтэраўскага крэсла, спрабаваў выпрастацца, іранічна паківаў галавой, пацягнуў сябе за доўгія сівыя вусы і цяжкім крокам накіраваўся да Шмуэла Шмелькеса. Падышоў, пахлопаў свайго арандатара па спіне і сказаў:

— Я ўжо даўно ведаю, што ты шляхетны чалавек, што ты не галган, Шмелькові́ч. Твой сёнешні пражэкт напоўнены ізраільцянскай мудрасцю. Аднак, пажар—рызыкоўная справа. Кій мае два канцы. Млын таксама драўляны. Трэба быць вельмі асцярожным, а маёнтак... Еднак... Ты сам павінен зразумець, што трэба рабіць. Нех яны ведаюць з кім снедаюць. Едзь да дому і нех табе паможа пан буг патрыярхаў Абраама, Ісака і Якава.

Граф працягнуў яму сінюю руку з пухлымі, нібы каўбаскі, пальцамі. Шмуэл Шмелькес схапіў яе і набожна прыціснуў да сваіх губ, як шоўкавае адзенне на пергаментнай торы. Па зале разлёгся пошчак гучнага цмокання. Шмуэл Шмелькес пакланіўся графу ў ногі, з вясёлым „да відзэнне“ зачыніў за сабой дзверы і апынуўся на ганку. Граф пазіраў на яго праз акно,ківаў галавой і самому сабе сказаў:

— Ну, і д'ябальская галава ў Шмелькеса! Ну і спрыт...

Сонца ўжо вісела невысока над лесам, калі Шмуэл Шмелькес выехаў з двара ў таполевыя прысады. А вось і шырокі пыльны шлях. Над полем распрасцёрлася ледзь ружовае неба, чырлікалі жаўранкі. Гэта нагадвала яму цымбалы стагодняга Янкеля на сваім вяселлі. На буланым гарачым кані пераліваліся залатыя пасмы сонечных колераў. Шмуэл Шмелькес сядзеў у брычцы і меў асалоду ад заліхвацкіх посвістаў фурмана. Ён пачаў падпяваць і тарарамкаць шабасавыя мелодыі без слоў.

Дамоў ён прыехаў задаволены, прыхільны да сваёй жонкі, высокай і хударлявай Сора-Фейгі з мышынай лапкай на носе. Гэта самая чорная лапка на носе жонкі сёння набыла ў яго вачах нейкую асаблівую прываблівасць і сімпатыю. Яму сёння зусім не было прыкра глядзець на яе.

Праз некалькі дзён тры гайдукі, апранутыя ў сялянскія грубыя світкі возяць на двор Шмуэла Шмелькеса вялізныя медныя бочкі з вадой. Яны працуюць да цямна.

Надышоў вечар—ціхі летні вечар. З-за вуглоў старых хатак падкрадвалася ноч. Над мястэчкам навіс сіні купал, вышыты ў залатыя пчолы. Ля рэчкі працягла квакалі жабы. Цвыркуны па хацінах заходзіліся ў цвырканні. Насельніцтва наваражыла сабе па ясных зорках лепшую долю, пасля чаго старых і малых агарнуў сон. Лёгкі ветрык зачосвае і пяшчотна трэпле саламяныя стрэхі.

Спяць і ў мураванцы Шмуэла Шмелькеса. Толькі ён адзін дыбае па падлозе туды і сюды, крыху ўсхваляваны, з таямнічым выразам на твары. Гладзіць бараду, шчыпле з яе паадзіночныя валаскі. Раптам ён выходзіць з хаты і накіроўваецца ўніз з гары на грэблю ў невялічкі хвойнік.

Як толькі ён забіраецца да першых дрэў, чуе працяглае галёканне:

— Гу-гу-гу-у-у...

Гэта яны—пяць графскіх гайдукоў. Яны нецярпліва чакаюць каманды Шмуэла Шмелькеса...

Поўнач.

Шмуэл Шмелькес не спіць. Нейкая сіла не дае яму сядзець на месцы, ганяе яго па мураванцы туды і сюды. Часта, крадком ён тарапіць вочы ў ночную сінь акна. Яго цяпер непакоіць гэта сінь. Ён прагна жадае бачыць зусім іншае неба. Ён нецярпліва чакае. Адыходзіць злосна ад акна і зноў падыходзіць... Праклінае гайдукоў:

— Чаму іх трасца не бярэ, гэтых п'яных лотраў? Партачы? І для такой работы не гадзяцца...

І раптам... Неба змяніла свой колер. Яно заплывае чырванню з усіх бакоў. Становіцца светла, як сярод дня. Нібы ў гуце—пыхае гарачыня, яна ўсё больш і больш ахоплівае паветра. Іскры і палаючыя галавешкі казачнымі птушкамі ўзнімаюцца ўгару, апускаюцца на дахі, падаюць на зямлю.

Усё шырэй і шырэй разгортваецца па небу агнявая заслона. З поўдня на поўнач цягнуцца на сярэдзіну неба аграмадныя палыхаючыя пальцы. І рукі волата накідваюць на бледны месяц полымя, душаць яго, затуляюць— і ўжо не відаць яркага месяца. А ён зусім нядаўна плыў па сінім полі нябеснага бяздоння, залаціў краіваўняных хмарак і сеяў срэбныя зёрны на спячае мястэчка.

— Бум-бум-бум! — звіняць глухім басам званы праваслаўнай царквы—Пажар! Пажар!

Тонкім візгатам на мядзянай мове чуваць трывога са званіцы каталіцкага касцёла. Прачынаецца ўсё мястэчка:

-- Пажар! Пажар!

Збянтэжаныя, спалоханыя людзі выбягаюць з хат, крычаць, рукі ламаюць. Скубуць сабе валасы, бягуць з двара ў двор, галосяць, цягнуць бэбахі на гароды. Жаласліва і пранізліва мэкаюць козы, сакочуць спалоханыя куры. Дзе-ні-дзе пераклікаюцца рыканнем каровы. Гарыць вуліца на склоне гары, драўляныя хаты на рынку, і іншыя вуліцы. Успыхвае агонь і ў Татарскай слабадзе.

Бягуць сюды на паратунак з блізкіх вёсак. Бягуць сяляне з сякерамі, вёдрамі, бусакамі. Але не памагае.

Сярод людскога тлуму і галасу ўецца, нібы ўюн, Шмуэл Шмелькес у вывернутым кажуху, падпяразаны ручніком, абуты ў старыя атопкі. Ён войкае, стогне, крычыць, камандуе:

— Вады, вады! Сюды падавайце! Нясіце туды! Туды!

Ён аглядаецца ў бакі. шнырае позіркамі ў людскі тлум і пачынае на малітвены лад прычытваць—галасіць і ў голасе яго чутны слёзы:

— О, якую долю горкую бог-гасподзь дае нам... Руйнуецца такі горад... Агнём і дымам ідзе... Дробныя дзеткі без даха... У адну ноч голыя, як бізуны...

Усю ноч неба было затулена агнёвай палыхаючай заслонай. А на раніцу заслона стала дымнай і чорнай. Гарэла. Нібы скрыначкі з лучыны, разбураліся хаткі, агнёвыя языкі іх злізвалі

з графскай зямлі. Полымя балявала ў мястэчку аж двое сутак. Ад большасці чалавечых гнёзд засталіся на памятку печы з комінамі ў купінах вугалляў і попелу.

На папялішчах сядзелі напоўпрытомныя жанчыны, ламалі рукі, галасілі—плакалі. І слёзы іхныя цяклі ручайкамі па загрыміраваных сажай тварах. Мужчыны моўчкі шнырalі па папялішчах і збіралі ў кучы недагарэлыя бярвенні, галавешкі, асобна адкладвалі жалезныя крукі, клямкі, цвікі... Большасць местачкоўцаў засталася на чыстым полі без дахаў.

Па вакольных мястэчках збіралі хлеб для пагарэльцаў. Сёння паказаліся першыя фурманкі з хлебам. Яны стаяць на рынку. Дзеці, жанчыны, старыя, маладыя—беларусы, яўрэі, татары—галодным натоўпам наступаюць на вазы.

Ля вазоў стаяць „апякуны“ мястэчка—Хаімка зборшчык, Шмуэл Шмелькес, крывы Ноех ды іншыя. Гэта яны будуць дзяліць хлеб між галоднымі.

Лямант дзяцей, выццё жанчын, праклёны мужчын зліваюцца ў адзін жудасны хор, які невідочнымі хвалямі коціцца па рынку.

— Што вы на гэта скажаце? Га? Да скулы—прышчык. Чулі, што бондар Тодар гаварыў? Га?—сказаў ахрыплым голасам нізенькі Эля Тугу, глухі кравец з Млынавай вуліцы.—Так жадае бог. Га?—й Эля Тугу ў роспачы махнуў рукой і гучна плюнуў.

— Ты, Эля, аб пляцах?—запытаў даўганосы і шырокаплечы каваль Айзік.—Вось яны, слупы горада, рэб Хаімка і Шмуэл Шмелькес! Іх гэта мала абыходзіць. Іхнія мураванкі засталіся. Іхнія пляцы забудаваныя. Ім без лесвіцы ў неба ляцець і богу песні спяваць... Хі-хі-хі... ха-ха-ха...

Рогат Айзіка скрыпеў, як нямазаныя калёсы і яго саркастычныя вочы з чырвонымі абадкамі, з абгарэлымі брывамі, з вясёлым смуткам таропіліся ў людзей.

— Чаму табе не строіць кепікаў? Чаму не жартаваць? Гэта-ж твая хата і кузня засталіся цэленькія...—з дакорам сказаў каваль Янкель, нібы вінавацію Айзіка, узняў рудыя бровы і затрос доўгай ільняной барадой.

Гэтыя два кавалі ніколі спакойна між сабой не гавораць. Яны заўсёды сварацца. Кожны раз вылазіць наверх, нібы шыла з мяшка, непрыязнь двух канкурэнтаў.

Янкель трасе ільняной барадой. Айзік чмыхае носам.

Янкель крычыць:

— Калі твае будынкі засталіся, дык табе весела?

Айзік крыўдліва пытаецца:

— Чаго крычыш боўдзіла?

Янкель тлумачыць:

— Каму баліць, той і крычыць.

Айзік сароміць Янкеля:

— Эх, ты боўдзіла. Нават не ведаеш, што на свеце дзеецца. Што пляцы? Якія пляцы?

Эля Тугу стаіць ля іх, вострыць вушы, прыслухоўваецца.

— Гад,—кажа Эля.—Вось Тодар! Няхай сам раскажа.

— Што ў цэху гавораць аб пляцах?—пытаюцца ў Тодара.

— Невясёлае, кажуць, браткі...—Тодар цярэбіць сагнутым тоўстым пальцам патыліцу, моршчыць лоб, дадае:—Граф хоча, каб цэхавыя і ўсё мястэчка, якое жыве на яго зямлі, хадзіла некалькі дзён у месяц на прыгон у млын, у бровар, на поле...

З усіх бакоў—спалоханыя і здзіўленыя галасы:

— Нас на паншчыну?!

— Пад бізуны гайдукоў?

— Разбой! Здзек...

— А дзе старыя прывілеі?

— Прывілеі...

Тодару не даюць гаварыць. На розныя лады і галасы чуваць словы „прывілеі“. З хвалі галасоў вылазяць на ўзверх басавыя ноткі Тодара:

— Граф кажа, што дзядоўскія правілеі мышы згрызлі... Вось што кажуць, лебедзікі мае... Гора ідзе на нас, суседзі мілыя... Гора...

Дзеляць хлеб, хвалюецца натоўп галодных людзей. Штурхаюць адзін аднаго ў бакі.

Мацнейшыя прабіраюцца наперад, бліжэй да вазоў. Чутны лаянкі, крыкі. Ніхто не заўважае, што пачынае накрапваць дробны, як мак, дожджык. Людскія галасы зліваюцца ў адно мора войкання, у нейкі гул без слоў. Нечакана ў гэты гул урываецца спеў меднай трубы. Натоўп у адзін міг нямее.

— Што гэта?

— Хто гэта?

Натоўп рэжа на дзве часткі зграбная двуколка графскага аканома. За двуколкай—цэлы атрад конных гайдукоў. Зверху ўніз яны аглядаюць натоўп тупымі вачыма, ляскаюць у паветры бізунамі. Людзі даюць дарогу дзікай кавалькадзе, спалохана ціскаюцца ў бакі. Чуваць шэпты:

— Аканом...

— Аканом...

Аканом спыніўся на рынку. Вылез з двуколкі. Гайдукі абкружылі людзей, гналі іх ад вазоў з хлебам да пляцоўкі, дзе стаяў графскі аканом.

Аканом, светлавусы немец з ружовым тварам, узлез на адну з абгарэлых пячэй, і давай аглядаць местачкоўцаў халоднымі вачыма колеру волава. Ён дастаў з кішэні паперу і пачаў чытаць манатонным голасам...

І, нібы новы пажар пачынаецца... Людзі камянеюць на месцы ад страху і роспачы, што агортвае іх усё больш і больш, з кожным новым словам аканома. Ціхая жуда праносіцца над галовамі людзей, нібы смерць.

З графскай паперы местачкоўцы даведваюцца, што граф забараняе ім адбудоўвацца на старых пляцоўках, калі яны не абавязуюцца адпрацоўваць на карысць графа некалькі дзён у кожны месяц: чыніць масты, ісці „на гвалт“ (на паншчыну), працаваць на графскім полі, рамантаваць бровар, кожны год дастаўляць у двор вызначаную колькасць патакі, бочак для бровара і яшчэ... і яшчэ...

— Пане аканом!—крыкнуў з грамады бондар Тодар.—Мы ніколі на паншчыну не хадзілі... Мы цэхавыя...

—Цэхавыя!—пачуўся стогн аўчынніка Мунькі, старога татарына голенай сіняватай галавой.

— Мы ніколі на паншчыну не хадзілі!

— Не хадзілі!

— Разбойнікі, п'яўкі! Новая бяда на галаву! Няхай кагал умешваецца! Дзе кагал?—гэта надрываўся ад крыку каваль Янкель, трос ільняной барадой і ўзнімаў у гару кулак.

Узбураная грамада падхапіла апошняе слова Янкеля:

— Кагал!

— Дзе кагал?

Айзік паказваў рукой на Шмуэла Шмелькеса і Хаімку зборшчыка:

— Вось яны—апякуны горада! Няхай скажуць, што рабіць! Вось яны! Вось яны!

Адна маўклівая жанчына з гнеўнымі агнявымі вачыма схапіла галавешку, высунулася наперад і кінула ў аканома. Галавешка ўпала ля яго ног. Аканом зараз-жа саскочыў з печы і давай шукаць вачыма гайдукоў. Жанчыны, дзеці і многія з мужчын пачалі закідваць аканома вугаллем, каменнем, цаглінамі. На паратунак імчаліся на конях гайдукі.

Шмуэл Шмелькес і Хаімка зборшчык ўварваліся ў грамаду, узнімалі рукі ўгару і ўпрашвалі:

— Людзі, злітуйцеся над вашымі жонкамі і дзецьмі... Усё гэта ад бога...

Гайдукі ўрэзаліся ў натоўп і пачалі сцёбаць бізунамі па галовах, па тварах, па вачах. З візгатам і войканнем уцякала грамада з рынку ўніз на ўсклон гары. Нагамі тапталі па толькі што атрыманым хлебе. Гайдукі, азвярэлыя, лютыя, дзікія гналіся за імі далёка за мястэчка.

Праходзілі дні, тыдні. Загад графа дашчэнту зруйнаваў местачковую беднату. Многія пакінулі мястэчка і пусціліся ў вандроўку па свеце. Некаторыя доўгія гады судзіліся, шукалі сваю праўду, але пляцовак адсудзіць у графа не здолелі...

Заможнікі адкупліваліся ў Шмуэла Шмелькеса, а вялікая частка бедната і рамеснікаў прынялі на сябе абавязак, які накідваў на іх граф: пэўныя дні ў кожны месяц яны працавалі на арандатара прапінацыі—на Шмуэла Шмелькеса.

А ён „Шмелькович", тарарамкаў шабасавыя песні без слоў і паказваў народу сваё шчырае і добрае сэрца: ён, нібыта, даставаў бярвенне для тых, якія ўпрагліся ў ярмо яго паншчыны, і за гэта адраблялі яму ўдвойчы і ўтройчы. З таго часу ён быў забяспечаны дарэмнымі кваліфікаванымі рукамі ў сваім вялізным млыне, у бровары і на полі, што ён арандаваў у графа Вітгенштэйна.

*Пераклаў з яўрэйскай мовы З. БЯДУЛЯ.*

*Мікола Лупсякоў*

# СУСТРЭЧА

(Апавяданне)

## 1

У той час, як у краіне ішлі баі з белапольскімі бандамі, Сяргей Карпушок, змучаны бяссоннымі начамі і голадам, вярнуўся з палону ў свой родны горад. Ён доўга блукаў па гразкіх вуліцах, пакуль адшукаў стары, зжоўклы каменны будынак. У сутарэнні гэтага дома ён некалькі год назад пакінуў сваю маці і сястру Валю. Па вузкай лесвіцы ён сышоў уніз і таўхануў дзверы. У сутарэнні было сыра і цёмна. Але з цягам часу, калі зрок стаў прывыкаць да цемені, Карпушок заўважыў чалавека, які ляжаў на нарах у кутку. Карпушок падаўся туды, але жаночы голас супыніў яго:

— Ты хто?

Што было казаць на гэта? Атарапелы, з страшнай думкай, стаяў пасярэдзіне падвальнага памяшкання гэты стомлены чалавек. Жанчына паднялася з нар, падышла да яго і, зазіраючы ў твар, зноў запытала:

— Што табе трэба і хто ты такі?

— Сын Карпучыхі я, Сяргей. З палону вярнуўся. Дзе мая маці і сястра? Я іх тут пакінуў, калі на вайну ішоў.

— Сяргей! А я цябе і не пазнала!—ускрыкнула жанчына, у якой Карпушок пазнаў суседку Рыту.

Але жанчына маўчала. Некалькі хвілін у сутарэнні была напружаная цішыня. Па тым, як маўчыць Рыта, Карпушок адчуваў, што здарылася штосьці дрэннае.

— Рыта скажыце...

І жанчына загаварыла...

— Маці твая, Сяргей, памерла гэтым летам. Мы яе пахавалі. А сястра... Сястра не ведаю куды дзелася. Пасля смерці маткі знікла яна...

Стомлены, абарваны чалавек, прыхінуўшыся да сцяны, маўчаў. Цяжкі, балючы камок ляжаў на яго сэрцы.

— Вы пакажыце мне, Рыта, магілу маці,—сказаў потым ён.

— Зараз?

— Зараз.

— Дык куды ты пойдзеш? Адпачні, змарыўся, нябось.

— Не, мне трэба ісці, справа ў мяне...

Голас яго раптам сарваўся і слёзы пакаціліся па твары. Калі вышлі на вуліцу, жанчына сказала:

— Эх, Сяргей, засталася і я адна. Аркадзь мой да чырвоных падаўся і вось ужо з год, як яго няма.

Аркадзя, сына Рыты, Сяргей ведаў з самага маленства, калі будучы хлапчуком, гуляў разам з ім і лазіў у чужыя сады. Вайна яго, таксама, як і Сяргея, зацягнула на фронт, але быў ён у зусім другой часці.

— А ён прыходзіў дадому?

— Прыходзіў, калі пераварот гэты пачаўся. Крыху пабыў дома, ды і пакінуў мяне...

На могілках, адшукаўшы магілу, яна сказала:

— Вось тут,—і паказала на бугарок зямлі і пахілены пачарнелы ад дажджоў крыж. Заўважыўшы, што жанчына калоціцца ад холаду, Карпушок сказаў:

— Вы, Рыта, ідзіце дадому. Холадна-ж.

— А ты тут будзеш?

— Не, я толькі крыху пастаю.

— Дык прыходзь, пераначуеш.

І яна пакінула могілкі.

Выў вецер, асыпалася з дрэваў апошняе лісце, а перад магілай, у шэрым змроку надыходзячага восеньскага вечара, стаяў чалавек. Што было рабіць яму і куды ісці? Ён адчуваў, што да Рыты ён не пойдзе: няма ахвоты ісці ў тое шэрае сутарэнне. Ён агляінуўся, памацаў рукой мокры пясок магілы і падумаў: „Спіш, маці“. І тады адчуў, што няма чаго яму зараз тут, у гэтым горадзе рабіць, што ён яму чужы і што патрэбна ісці адсюль. Куды? На гэта ў яго не было сталага адказу. Ён толькі хацеў хутчэй пакінуць гэтую мясцовасць, так холадна прыняўшую яго. Ён рушыў з могілак. Гусцела цемень, плакаў над могілкамі халодны восеньскі вецер. А неба было чорнае, і на ім—ніводнай зоркі.

Абарваны, стомлены чалавек, гойдаючы худымі плячыма, зліўся з цемренню.

2

Карпушок доўга блукаў па горадзе. Ён не заўважаў таго, як прыціх горад, чакаючы чагосьці страшнага, як людзі ў зашмальцаваных рабочых куртках, з вінтоўкамі, строем праходзілі па вуліцы, на некалькі хвілін запаўняючы яе шумам, але потым, калі яны знікалі, на вуліцы станавілася гэтак-жа ціха, як і было. Дождж ужо не ішоў, як у мінулы дзень. Пад вечар гэтага дня з-за гораду данёсся раскацісты гул кананады. Гул гэты напомніў Карпушку фронт. Ён здрыгануўся і з агідай плюнуў.

Ён стаяў на вуліцы, каля невялікага драўлянага дома. З форткі акна гэтага дома высунулася спалоханая вусатая галава.

— Ніяк страляюць,—прапішчала яна і намерылася слухаць.

— Скажыце, хто гэта наступае,—запытаў Карпушок вусатую галаву з зялёнымі шчупачымі вачыма.

— А вы і не ведаеце?—здзівілася галава.

— Не.

— Дзіўна,—піскнула галава.

„А дужа ён на пацука падобен,“—падумаў Карпушок.

— Ведаеце,—працягвала галава,—ідзіце вы к чортавай матары. Калі думаеце, што-небудзь сцягнуць, дык не ўдасца.

— Вы, грамадзянін, памыляецеся,—сказаў Карпушок.

— Ах, не чапіцеся да мяне! Скажэце—страляць з гармат па гораду будуць?

— Ды я-ж кажу,—нічога не ведаю.

— Не ведаеце? От прахвост, сукін сын, ён нічога не ведае! І таго не ведаеш, як гэтыя вашы чырвоныя жыхароў б‘юць? Знарад у дом пападзе, а ў доме, нябось, людзі ёсць. Мне, па праўдзе кажучы, усё адно: белыя, чырвоныя, толькі-б з гармат не стралялі.

І раптам галава завохкала тоненькім сваім галаском:

— Ой, праклятыя, і на якога чорта вайна ім гэтая спатрэбілася.

Галава знікла ў фортачцы і праз хвіліну пачуўся яе піск:

— Манька! Знімі з кута чырвонае!..

— Вось пацук,—уголас ужо сказаў Карпушок і хутка пайшоў да вакзала.

На вакзале было людней. Чырвонаармейцы з шумам цягалі на платформы нечым нагружаныя мяхі, жартавалі.

Высокі чалавек у скураной куртцы з чырвонай зоркай на шапцы праходзячы, запытаў Карпушка:

— Якой ты роты?

— Ды я... я проста так тут. З палону дадому вярнуўся...

— Адкуль?

— З Нямеччыны,

— Ага... Дык мо‘ да нас прышоў?

— Не, я так...

Карпушок хутка павярнуўся і зноў пайшоў у горад. У гэты дзень ён шмат думаў...

Назаўтра белапалякі ўступалі ў горад. У горадзе пачуліся стрэлы, спалоханыя крыкі. Усё гэта разбудзіла Сяргея Карпушка. Ён вылез з дрывянага складу, дзе праспаў ноч, і вышаў на вуліцу.

Сярод вуліцы двое жаўнераў валаклі жанчыну. Жанчына падала ў гразь, яе падымалі, білі прыкладамі і зноў валаклі.

— У, сука,—роў адзін жаўнер,—гэта табе за сына!—і біў жанчыну кулаком у твар.

Карпушок раптам спыніўся, нібы ўкопаны. У збітай да поўсмерці жанчыне ён пазнаў суседку Рыту. Хтосьці відаць данёс, што яе сын пайшоў да чырвоных.

Карпушок сарваўся з месца і кінуўся да жаўнераў.

— Кінь біць!—крыкнуў ён.

— Што? Большэвік?—крыкнуў адзін паляк і схапіў Карпушка за каўнер.

Карпушок у злосць уваходзіў хутка і зараз яго вочы гарэлі нядобрымі агеньчыкамі.

— Пусці!—Карпушок павярнуўся і вырваўся з рук жаўнера.

„Эх, будзь, што будзе“,—падумаў Карпушок. Ён раптам падскочыў да жаўнера, вырваў у яго з рук вінтоўку, парнуў яго штыхом

Жаўнер зароў ад болю, а Карпушок пераскочыў праз агарожу і пабег садамі на ўскраіну горада. Ззаду некалькі разоў стрэлілі, пачуліся спалоханыя крыкі і стрэлы зачасцілі хутчэй.

„Лепей няхай заб'юць, чым сядзець, як той“, бягучы падумаў Карпушок і ўспомніў чужыя словы: „Манька! здымі з кута чырвонае“.

Вельмі хутка выбег ён за горад. Стрэлы сціхлі і Карпушок застанавіўся, каб абдумаць сваё становішча. Ён пастаяў некалькі хвілін і накіраваўся да лесу, што віднеўся, на гарызонце. Ішоў ён асцярожна, баючыся папасці ў рукі белапольскіх раз'ездаў...

Падымаліся ад зямлі і плылі па небе важкія кудзелі шэрых воблакаў...

* * *

— Стой! Хто ідзе?

— Свой.

— Пропуск!

Маўчанне.

— Рукі ўгару!

Карпушок падняў рукі. Вартавы чырвонаармеец узлескам правёў яго к крайняй хаце вёскі. Праз некалькі хвілін Карпушка ўвялі к камандзіру.

За сталом сядзеў высокі чалавек у скураной куртцы. Карпушок пазнаў у ім камандзіра, які ўчора на вакзале горада прыняў яго за чырвонаармейца.

— Я да вас, таварыш камандзір, прышоў,—пачаў Карпушок і расказаў усё, што было ў яго на сэрцы.

І Сяргея Карпушка залічылі ў полк.

## 3

Была вясна. На ўсходнім беразе Бярэзіны групаваліся чырвоныя войскі. Уначы бясшумна занімалі свае пазіцыі чырвонаармейцы, сапёры наводзілі праз раку пантонны мост. К раніцы патрэбна было выступаць. Намячалася наступленне.

Вясенняя ноч была цёмная.

Булькатала ў рэчцы вада, ды на лузе сонна скігітала спалоханая людзьмі кнігаўка, ноч была на дзіва парная і цёплая.

Полк, у якім знаходзіўся Сяргей Карпушок, распалажыўся каля самай рэчкі, у першай лініі. На досвітку ён павінен пачаць наступленне, пераправіўшыся праз раку. Людзі ціха гаварылі між сабой.

— Эх, закурыць-бы—шапнуў чырвонаармеец.

— Закурыш, калі ў наступленне пойдзем,—параіў яму Карпушок,—нябось, выдаць сябе можна.

— Я табе, Сяргей, скажу—яно ў баю весялей, калі курыш. У нас камандзір быў, забілі яго, дык ён заўсёды ў штыхі ішоў з люлькай у зубах. І я сёння здаровую цыгарку звярнуў.

Карпушок маўчаў. Ён ляжаў на зямлі і глядзеў у неба. Там, у цемені, перамігваліся паміж сабой зоры. Але і зоры і ціхае

булькатанне рэчкі наводзіла трывогу на сэрца. Карпушок не раз ужо быў у баю, але ніколі ён так не хваляваўся перад боем, як зараз.

Перад вачыма паўставалі малюнкі даўно пройдзенага жыцця. Успаміналася маці, гэтая ціхая старая жанчына, паўставаў твар сястры Валі, белы з сінімі прыгожымі вачыма і невялікімі ямінкамі на шчоках. Усплывала перад вачыма чорнае дзяцінства, вайна.

Усё гэта навязвалася на нейкую ніць, і малюнкі змяняліся, кожны раз даючы новыя вобразы.

Шпарка білася сэрца. Лежачы на зямлі, Карпушок чуў яго байкі стукат у грудзёх.

„Хутчэй-бы ўжо гэта пачалося",—думаў ён. Ноч здалася яму годам...

Перад раніцай пачулася каманда пераходзіць рэчку. На золку, калі рэчку пераходзілі ўжо апошнія часці, нейдзе ўперадзе грымнуў гарматны стрэл. Затым засакатаў кулямёт, пачуліся вінтовачныя залпы.

Ланцугі людзей раптам пабеглі.

Світала. Пачынаўся дзень...

Бой разгараўся з кожнай хвілінай.

Карпушок ляжаў за невялікім бугарком зямлі ў першым ланцугу і адстрэльваўся. Раптоўна па полю разнеслася гулкае „ура" і левы фланг чырвоных кінуўся ў штыкавую атаку.

Але чым бліжэй сыходзіліся варожыя ланцугі, тым цішэй станавілася на полі. Кулямёты раптам сціхлі, чуліся толькі паасобныя вінтовачныя стрэлы. Насустрач Карпушку бег высокі вусаты жаўнер. Вінтоўка гойдалася ў яго руках і бражчэла штыком. Зрэнкі вачэй яго расшыраны, твар скрыўлены ад нечалавечай злосці, а, можа быць, і жаху.

Карпушок да болю сціснуў у руках вінтоўку. Некалькі крокаў аддзяляла яго ад жаўнера і ў гэты час куля папала Карпушку ў левае плячо. Карпушок упаў. Ён паспрабаваў падняцца, але адчуў моцны боль і зноў паваліўся.

Што было далей Карпушок не памятаў, бо ачнуўся толькі пад вечар гэтага дня. Першае, што ён убачыў—гэта было яснае, глыбокае неба. Затым ён прыслухаўся: стрэлы чуліся дзесьці далёка ўперадзе. Карпушок абапёрся на правы локаць і ўбачыў знаёмага вусатага жаўнера, які ляжаў непадалёк з штыхавой ранай у грудзёх. Твар жаўнера неяк абмяк і Карпушок здзівіўся: такім непадобным ён быў да таго, калі Карпушок бачыў жаўнера жывым. Крыху далей ляжаў ранены чырвонаармеец і ціха стагнаў. Нейкая сіла пацягнула Карпушка да гэтага чырвонаармейца. Перамагаючы боль, ён падпоўз да яго. Доўга ён разглядаў белы жаночы твар і раптам...

У чырвонаармейцы ён пазнаў Валю. Як нечакана было гэта! Ён яшчэ раз акінуў поглядам постаць сястры і зашаптаў:

— Валя, як гэта?

Яна маўчала.

Карпушок трос яе, глядзеў у такі знаёмы яму твар. Ён чакаў, што яна загаворыць. І яна апрытомнела.

Павекі вачэй задрыжалі і адкрыліся. Вочы былі сінія, прыгожыя, якімі ведаў іх Карпушок з дзён свайго дзяцінства. Яна паглядзела на яго абветраны, заросшы барадою твар і загаварыла:

— Таварыш, нашы наступаюць?

Голас быў ціхі, слабы.

— Наступаюць, Валя!..

Але Валя не чула гэтых слоў. Яе сінія прыгожыя вочы раптам застанавіліся, і на яго руках яна памерла...

---

*Міх. Бекер*

# НАРОДЫ ПЯЮЦЬ ПРАВАДЫРОЎ

Лёс народнага песняра Каркыта быў выключна трагічны. Куды-б ён не прыходзіў, перад ім раскрывалася цёмная, прагавітая магіла. Смерць падпільноўвала яго на кожным кроку. Што-ж аставалася рабіць адвержанаму песняру? Ён разаслаў свае кошмы на пакатым беразе Сыр-Дар'і, засяваў у апошні раз сваю развітальную песню і разам з домрай — адзіным сябрам—сышоў у магілу.

Старадаўняя легенда, як нельга лепей, адлюстроўвае дарэвалюцыйны лёс казахскага народу, лёс яго мастацтва, зажыва пахаванага царызмам. Але такі быў лёс шмат і шмат якіх народаў, у якіх капіталізм адабраў права на песню, на творчасць. Капіталізм душыў тысячы таленавітых людзей з народу. Колькі напакутваў Тарас Шэўчэнка, адзін час пазбаўлены права пісаць і маляваць! Пакуты народнага паэта Украіны адлюстраваны з вялікай сілай у яго „Дзённіках“. Сумны быў лёс не толькі паэтаў, але і вучоных-самародкаў. Капіталізм замарожваў іх творчую ініцыятыву, заганяў іх у „магілу Каркыта“.

Кастрычніцкая рэволюцыя знішчыла ўсе перашкоды і творчая энергія, што таілася ў масах, праявілася ва ўсёй паўнаце яе магчымасцей, праявілася магутна і шматгранна. Гісторыя народаў СССР за дваццаць гадоў савецкай улады—гэта гісторыя бесперапыннай творчасці ва ўсіх галінах і напрамках.

Сапраўды творчай стала праца. Масавае вынаходніцтва—ледзь не самае яскравае выражэнне творчай прыроды соцыялістычнай працы, якая зрабілася справай гонару, доблесці і геройства.

Па думцы Маркса кожны завод пры соцыялізме будзе своеасаблівым універсітэтам.

Час, пра які марыў Маркс, прышоў. Кожны савецкі завод, гэта своеасаблівы вучэбны камбінат з сеткай гурткоў: тэхнічных, літаратурных, музыкальных, фізкультурных і агульнаадукацыйных. Кожны завод, кожны калгас мае сваю самадзейнасць, кадры таленавітых людзей, абкружаных увагай і клопатамі савецкай грамадскасці.

Народная творчасць пад апякунствам партыі і ўраду расцвітае на нашых вачах. Выстаўкі народна-выяўленчага мастацтва, тэатральныя дэкады казахаў, узбекаў, украінцаў, чырвонаармейская мастацкая самадзейнасць, песні народаў СССР—такія канкрэтныя паказчыкі бесперапынна растучай народнай творчасці.

Народная песня—гэта, бадай, адзін з самых квітнеючых участкаў савецкага фальклора. Нідзе, ні ў якой краіне песня не карыстаецца такой любоўю з боку шырокіх мас, як у нашым Саюзе. Нідзе, ні ў якой краіне няма такога багатага ўраджаю на песні, як у нас.

Асобныя рысы старога дарэвалюцыйнага фальклора захаваны ў мелодыцы, вобразнасці і лексіцы сучаснай песні. Але рашучыя зрухі, якія адбываюцца ў жыцці краіны, не могуць не адбіцца на змесце і форме народнай паэзіі.

Перш за ўсё: невымерна больш высокім стаў ідэйны ўзровень народнай паэзіі, упершыню ўвасабляючай у мастацкіх вобразах ідэі дружбы народаў, брацтва працоўных усяго свету. Паэт Казахстана, стары Джамбул, па-новаму асэнсоўвае, напрыклад, тэму аб гераізме. Паэт перабірае вобразы Чынгіс-Хана, Александра Македонскага, Рустэма (героя „Шах-Намэ"), і прыходзіць да вываду, што ўсе героі асуджалі народы на смерць і выраджэнне.

...Их слава недолго цвела,<br>
Кратковременна была.<br>
Каждый, сколько ни был знаменит,<br>
В новых битвах бывал разбит,<br>
И в залитых кровью цепях<br>
Оставался от славы прах.

Іншая справа Клім Варашылаў:

Ты проходишь дорогой побед,<br>
У тебя поражений нет,<br>
Ты народом крепко любим,<br>
А поэтому непобедим,<br>
Тебя Ленин учил борьбе,<br>
Тебя Сталин учил борьбе,<br>
Ты мужал, закалялся в борьбе,<br>
Нет по силе равных тебе.

Дарэвалюцыйная народная паэзія адлюстроўвае смутак і абурэнне народаў, закаваных у кайданы і ланцугі пажыццёвага рабства.

Руская песня! Гогаль быў шчыра ўсхваляваны і ўстрывожаны яе бясконца сумнай, душу кранаючай мелодыяй. Геніяльна-чулы Пушкін улавіў у ёй „разгулье удалое" і „сердечную тоску". Некрасаў пайшоў далей за ўсіх; ён прыраўноўваў песню к стогну.

...Выдь на Волгу: чей стон раздается<br>
Над великою русской рекой?<br>
Этот стон у нас песней зовется—<br>
То бурлаки идут бичевой!..

Што ўжо казаць тады пра песні таджыкаў, узбекаў, туркменаў і іншых народаў, якія знаходзіліся пад падвойным прыгнётам: нацыянальным і класавым.

„Усепаглынаючы плач вочы мне засцілае слязамі... І калі я смяюся, мой смех у гэты момант сыходзіць слязамі".

Словы Махтум-Нулі, народнага туркменскага паэта, які жыў у XVIII стагоддзі, могуць быць узяты ў якасці эпіграфа да песень

туркменаў, таджыкаў, узбекаў, цюркаў і іншых народаў, якіх капіталізм асуджваў на рабства і галечу.

Ці трэба здзіўляцца таму, што песні народаў, створаныя пасля соцыялістычнай рэволюцыі, загучэлі зусім па інакшаму. Фарбы яркія і жыццерадасныя зацвілі на фоне народнай паэзіі, адлюстроўваючай у светлых і бадзёрых акордах поступ новых дзён.

Я ходил по степям я бродил между скал,
Загорелый, обветренный и седой.
Девяносто лет я солнце искал,
И солнце предстало передо мной.
Снова юность, как чудом, Джамбулу дана,
Будто кровь, как кумыс, забурлила, звеня,
Будто снова моя разогнулась спина,
Будто белые зубы растут у меня.

Цудоўныя па шчырасці радкі казахскага акына Джамбула адлюстроўваюць радасць народа, паднятага з кален, адроджанага партыяй Леніна—Сталіна.

Новая сапраўднасць падказвае новыя вобразы і рытмы. „Пролетарскія па думцы, нацыянальныя па гуку і фарбах"—такія паводле выразу Я. Купалы савецкія песні.

Разумеецца, велізарнае значэнне мае той факт, што народы, ужо не адчуваючы былой абмежаванасці і адчужанасці, жывуць і развіваюцца ў атмасферы пастаяннага культурнага збліжэння. Дружная пераклічка народаў—ці гэта не аснова для братання песень? Спаборнічаючы між сабой, песні ўзаемна ўзбагачаюцца новым зместам і новай формай.

Асаблівасці савецкага фальклора: яго ідэйная насычанасць, яскравая жыццерадаснасць і мастацкая своеасаблівасць, лепш за ўсё праяўляюцца ў творах, прысвечаных Леніну і Сталіну. Ніхто яшчэ не падлічыў колькасці гэтых твораў, але калі іх падлічыць, дык атрымаецца фенаменальная лічба. Ленін і Сталін—самая кроўная, самая інтымная тэма народнай творчасці.

Спакон вякоў народ апяваў блізкіх яго сэрцу герояў. Ілья Мурамец, Пугачоў, Разін—улюбёныя фігуры народнай песні і народнагераічнага эпасу. Рускі народ бачыў у іх сапраўдных герояў з вялікім запасам фізічнай сілы і соцыяльнай чуткасці. І ён апяваў іх, паэтызаваў іх, абкружаў арэолам веліччa.

Рэволюцыя адкрыла народнаму выабражэнню найшырэйшы простор для апявання гераічнай асобы. Чапаеў, Шчорс, Будзённы, Кіраў, Варашылаў, людзі, якія пакрылі сябе неўвядальнай славай на франтах грамадзянскай вайны і будаўніцтва—вось хто з'яўляецца героямі народна-рэволюцыйнай песні. У фалянзе гэтых герояў асаблівае месца займаюць правадыры партыі Ленін і Сталін. Ім належаць самыя лепшыя і чыстыя парыванні. Пра іх—самыя пяшчотныя і мілагучныя словы. І гэта зразумела. Апяваючы Леніна і Сталіна, савецкі народ услаўляе „мудры корань" жыцця, пачатак усіх пачаткаў, услаўляе ў іх асобе комуністычную партыю і савецкую ўладу.

* * *

Пра Леніна складзены не толькі песні, але і легенды—казкі. Некаторыя з гэтых казак паказваюць Леніна ў выглядзе багатыра, які мае надзвычай вялікую фізічную сілу і розум.

Большасць твораў пра Леніна характарызуецца глыбокім рэалізмам. Ленін надзелены ў іх рысамі канкрэтнай індывідуальнасці, прычым, асабліва адзначаны такія яго рысы, як прастата, скромнасць і пачуццё гумару. Але нават там, дзе народ карыстаецца сімваламі, ён не затушоўвае імі рэалістычнай сутнасці вобраза. Леніна можна лёгка пазнаць у кожным алегарычным вобразе, які падаецца апавядальнікам.

Украінская казка „Хто-ж той сокіл, товариші“, складзеная ў духу векавой украінскай песеннай традыцыі, надае ў алегарычнай форме барацьбу Леніна з царом і пачатак грамадзянскай вайны.

Куды ни глянь—біле поле
Людським трупом вкрито,
А по селам плачуць жінки
Та голодні діты.
Царі, купці, енерали
Війну вихваляють
І на полях скрівавлених
Банкеты справляють...

І вось над акопамі ўзвіўся белы сокал:

Прилетів сокіл, прилетів ясний,
Над акопами літае,
До москаликів, до товаришів
Словами помовляе:
— Чи не годі вам, товариші,
В окопах загнивати,
Бо вже час настав, москаликі,
Свою долю здобувати.

Пачулі генералы сакаліныя словы, загадалі стралкам забіць сокала... Хто яго знізіць куляй, той атрымае ўзнагароду ад цара... Узяў стралок „рушніцу“ ў рукі—толькі „памылкова“ паслаў кулю не ў сокала, а ў генерала.

Узнялася завіруха, навальніца, зашумелі людзі, быццам рэкі рвуць аковы і імчацца ў мора. У гэтай страшнай завірусе і цара не стала. Равуць хвалі, б'юць парогі, зямля „пеклам“ стала, а над дымам, над пажарам—сокал усё лятае... І кліча людзей, склікае „да зброі, да зброі“, пакуль паны не палеглі, як бур'яны пад касою.

У пошуках праўды і справядлівасці народ ствараў жанр філасофскай казкі. Казка з горыччу канстатавала адсутнасць справядлівасці на зямлі.

Казкі, звязаныя з імем Леніна, таксама ставяць пытанні праўды і справядлівасці, але гэтыя казкі не пакідаюць месца для сумненняў, хістанняў. Праўда ёсць, і яна ў вучэнні Леніна—такі аптымістычны вывад гэтых казак.

Беларуская казка апавядае пра двух братоў, якія, пражыўшы доўгія гады ў нястачах, наважылі пайсці ў свет шукаць праўду.

Пан, да якога яны звярнуліся прасіць парады, сказаў: „Пакажу я вам праўду, калі пажадаеце, толькі вы мне папрацуйце за гэта“.

„... Прайшоў год. Прыходзяць яны да пана і кажуць:

— Навучы цяпер, пан, як нам праўду знайсці.

— Ну вось вам і праўда,—адказвае ім пан,—голь нямытая, працаваць вам заўсёды на нас!“

Такую-ж праўду, толькі ў больш мяккай рэдакцыі, яны пачулі з вуснаў папа пасля таго, як яны папрацавалі ў яго цэлы год.

— Працуйце вы добра і не гнявіце бога.

Не лепшай аказалася „праўда“ купца-фабрыканта.

Толькі ад Леніна браты ўведалі самую праўду. Просты, скромны чалавек („апрануты небагата, але чыста“) коратка расказаў, як трэба за рабочую праўду змагацца, каб не служыць ні панам, ні купцам, ні фабрыкантам і як прагнаць іх усіх разам.

Казка тлумачыць, што „ў кастрычніку 1917 года аб‘явілася гэтая праўда ды гучным голасам на ўвесь свет рабочых, а вёў іх тады сам Ленін са сваім лепшым памочнікам Сталіным“ („Ленінская праўда“).

Вялічча ленінскай праўды апявае таксама ўзбекская народная песня.

Гэтая песня—дыялаг. Песню спяваюць у чайхане (у чайной) у прысутнасці наведвальнікаў два спевакі. Яны сядзяць тварамі адзін да аднаго, кожны каля супроцьлеглай сцяны. Пяюць па чарзе пад гукі прымітыўных інструментаў на знаёмы ўсім народны матыў. Адзін задае пытанні, другі адказвае.

— Ці праўда, што мы, беднякі, ад веку былі ў цемры?

— Праўда.

— Ці праўда, што для нас над Масквой узышло сонца?

— Праўда.

— Ці праўда, што гэтаму сонцу імя—Ленін?

— Праўда.

— Ці праўда, што Ленін бачыў і Маскву і Кашгар?

— Праўда.

— Ці праўда, што калі хто пакрыўдзіць беднага дэкхана, дык Ленін жалезнай рукой схопіць таго, хто крыўдзіць?

— Праўда.

— Ці праўда, што Ленін любіць беднякоў і што ён даў ім уладу і свабоду?

— Праўда.

— Ці праўда, што ён выцер слёзы жанчын?

— Праўда.

— Ці праўда, што калі Ленін сказаў першае слова, дык гэтае слова было: хлеб і свабода?

— Праўда.

— Ці праўда, што Ленін ніколі не паміраў і ніколі не памрэ?

— Праўда.

Мы не зусім упэўнены ў тым, што ў совецкай паэзіі, якая творыцца кваліфікаванымі майстрамі, знойдзецца твор, які мог бы быць пастаўлены поруч з гэтай каларытнейшай песняй. Кранаючая любоў

народа да Леніна і разуменне сэнсу яго вучэння выражаны ў гэтай песні з канцэнтраванай сілай. Песня падкрэслівае дружбу Леніна з сялянствам, але ў ёй няма і намёку на сялянскую абмежаванасць. Народная песня адным штрыхом падкрэслівае шырокі кругагляд Леніна, які бачыць адначасова „і Маскву і Кашгар“, г. зн. рабочых і сялян.

З-за недахопу месца мы не падаем другіх аналагічных песень, апяваючых вялічча Леніна і яго бяссмертную справу.

Ленін заснаваў савецкую краіну,
Ленін зрабіў шчаслівымі людзей.
Ленін даў свабоду прыгнечаным народам.
Ленін зрабіў вольнай кіргізскую стэп.

Такія нязменныя матывы вершаў і песень пра Леніна.

У шэрагу песень і казак пра Леніна хочацца адзначыць прыгожую туркменскую казку ў запісе К. Паўстоўскага. Гэта адна з нешматлікіх легенд, якія паказваюць Леніна на фоне соцыялістычнага будаўніцтва.

... Кажа ён Файрэддзіну: „Вось людзі хваляцца буйнай пшаніцай і салодкім вінаградам, шкурамі і мяккай шэрсцю, высокім лясамі і тлустай рыбай. А чым багаты твой край?“ Файрэддзін маўчыць, Ленін зноў кажа: „Вось прыехалі ўсе на з'езд у Маскву, і расказвае кожны пра сваё, а ты адзін маўчыш. Скажы сваё слова, сябра, не пужайся. Чым жывяце вы ў вашай краіне, чаго чакаеце ад часу?“

Заплакаў Файрэддзін: „Таварыш, што магу я сказаць, стары туркмен з роду Абдала, перад усімі вамі? Чаго мы чакаем ад часу, калі час крадзе ў нас апошнюю ваду з калодзежаў і засыпае пяском учарашнія вінаграднікі. Я з краіны, што называецца Усць-Урт і яшчэ Кара-Кум. Багаты мы на жабрацтва і смагу, пясок і соль. Ты думаеш, іалдаш, пра шчасце беднякоў, а мы думаем пра ваду. Але няма вады! Алах высушыў нашу зямлю на дзесяць локцяў у глыбіню, і нават дождж высыхае, не паспеўшы дасягнуць зямлі. Рэкі цякуць пад пяскамі, але вада ў іх горкая, як скура персідскага апельсіна. З часу Тымура вяне наша краіна. Што рабіць, таварыш? Уніз усе землі заняты, уверх усе землі заняты, і няма нам месца на зямлі. Ты вялікі, і ты магутны. Ты вялікі чалавек, у цябе чуткае вуха і вострае вока, але чым ты можаш дапамагчы нам, туркменам? Таму я і маўчу на вялікім з'ездзе“.

Тады Ленін засмяяўся і адказаў старому Файрэддзіну: „Чаго не можа алах і не можа Тымур, могуць зрабіць бальшавікі, Файрэддзін“.

Файрэддзін паківаў галавой.

„Калі ты ідзеш з гарбатым,—адказаў ён,—дык не выцягвайся на ўвесь рост, каб горб яго не кідаўся людзям у вочы. Калі ты гаворыш з чалавекам з Кара-Кума, дык не смейся з яго і не абяцай немагчымага“.

Так адказаў Файрэддзін і пайшоў у роспачы.

Але цуда збылося. Жабрацкая краіна атрымала ў падарунак светлую ваду. Бальшавікі адрадзілі пустыню.

... „І цяпер стары Файрэддзін служыць размеркавальнікам вады на новым канале і ходзіць ганарысты, як вярблюд, бо вярблюд думае, што ён разумнейшы за людзей, таму што глядзіць паверх іх галоў".

Мастацкі своеасаблівая казка глыбокая і благародная па думцы. Большэвікі і іх партыя непераможны—вось гэта думка. Большэвікам не страшны ніякія цяжкасці, яны возьмуць якія хочаш цытадэлі, яны прымусяць працаваць на сябе прыроду, якую не пакарыць ні алаху, ні Тымуру. І яшчэ сіла большэвікоў у тым, што яны выхоўваюць тысячы такіх як Файрэддзін, пераконваючы іх прыкладам, гераічным подвігам, канкрэтнай работай.

Легенда паказвае Леніна як сапраўднага правадыра народаў.

Ленін гаворыць з народамі як роўны з роўным.

Ленін разам з народамі абмяркоўвае іх кроўныя справы, цікавіцца інтарэсамі кожнага народу. Як-жа не любіць такога правадыра? Народ падкрэслівае ў казцы сваю глыбокую павагу да таго, у каго „чуткае вуха і вострае вока". Формы выражэння гэтай любві, гэтага давер'я вельмі рознастайныя.

„... Калі Ворк расказваў пра гэта, ён плакаў, як жанчына. А калі яму давялося пайсці на вялікую тундру, ён радаваўся і ўсім казаў пра тое, што цяпер ён сустрэне Леніна і не пойдзе ад яго, а будзе яму шлях асвятляць кастрамі і ўсцілаць яго мяккімі шкурамі".

Што можна дадаць да слоў чукоцкай казкі! Што можа быць больш паэтычнае, задушэўнае? Як больш кранаюча выразіць любоў да правадыра, любоў, пераходзячую ў пяшчотнасць?

Амаль не самым яскравым паказчыкам адносін шырокіх мас да Леніна могуць служыць водгукі на смерць правадыра. Будучы гісторык, які захоча абрысаваць сваім сучаснікам дні жалобы па Леніне, павінен будзе ў першую чаргу звярнуцца да гэтых хвалюючых водгукаў. Боль і крыўда асіроцелых народаў выражаны ў іх драматычна моцна і з такой непасрэднасцю, якая ўласціва творам народнай творчасці.

Паўночная сказальніца, Марфа Сямёнаўна Крукава, былінным стылем апавядае пра тое, як „Масква каменна ўся праплакала".

> ... Все народы-люди ужасалися,
> Луна небесная у нас не светила,
> Народ-люди все призамолкнули,
> Призамолкнули, призагунули,
> Поодели платье черное
> Да ходили все невеселы,
> Буйны головы с плеч повесили,—
> Услыхали они весть нерадостну.
> Как пришла-то весть из Горок все:
> Как не стало у нас красна солнышка,
> Как и той луны поднебесные,
> Золотой звезды все блестящею,
> Как не стало вождя всей Россиюшки,
> Дорогого у нас товарища Ленина.

Ёсць рад твораў, для якіх не патрэбны грунтоўныя каментарыі. Такія, у прыватнасці, вершы і песні, якія з'яўляюцца водгукамі на

смерць правадыра. Лірычна моцныя і непасрэдныя, яны шмат кажуць свядомасці і пачуццю чытача. Дык не будзем-жа перарываць гэты цудоўны лірычны паток непатрэбнымі тлумачэннямі і сэнтэнцыямі. Хай вершы і песні кажуць самі за сябе даступнай ім, непараўнанай мовай.

* * *

Пяць дзён бушавала мора.

Пяць дзён на ўспененай вадзе ляжала слізкая муць.

На шосты—мора сціхла і ад карычневага берага да бледнасіняга гарызонта пакрылася дробнай рабаватай зыб'ю.

Шосты дзень—чорны голуб досвіткам у пунсовай дзюбе прынёс чорную вестку:

„У Маскве, у Горках памёр Ленін“.

* * *

Плачьте, узбеки,
Ваше солнце погасло,
И медь земли покрыла тень,
И черный мрак окутал небо,
Блеснули молнии, а на земле
Им в ответ блеснули выстрелы,
Взвыли гудки...
Заплакала земля...
Заплакал народ...

* * *

Он умер...
Его жизнь была чиста, как луна в небесах.
Он ни разу не сделал зла беднякам..
Он был с ними так же добр, как был зол с врагами.

Такія кранаючыя радкі, авеяныя глыбокім народным сумам. Але дарэмна мы сталі-б шукаць у іх адзнакі ўпадачнасці або настрою панікёрства. Усведамляючы цяжкасць страты, народ знаходзіць у сабе сілы і мужнасць, каб мабілізавацца для далейшай барацьбы.

Декхан, не плачь! Ленина не вернешь,
Лучше подумай, как жить без него.

Леніна няма, але жывуць яго ідэі, яго баявыя таварышы, сярод якіх самы вялікі, самы верны ленінец, таварыш Сталін.

Если товарищ Ленин и умер,
Имя и слава его остались.
Чтобы дальше бороться
Ленина верная партия осталась.
Если товарищ Ленин и умер,
Великое слово его осталось,
Чтобы дальше побеждать,
Сталин, верный товарищ Ленина,
Остался.

(З песень горных шорцаў).

Ленін і Сталін гарацъ яркім, нецмянеючым сузор'ем у народнай свядомасці.

Вместе с другим мудрым стариком
Он готовился в подземельях переделывать мир,
Вдвоем они работали, не разгибая спин,
Ленин и Сталин—наши великие вожди.
А когда пришел незабываемый в веках Октябрь,
Вместе с мудрым Лениным он поднял красное знамя
И сказал: „Вся власть трудовому народу",
Сталин—наш великий вождь.

(*Бахшы* з Обі-Гармо).

---

Основы Ленин заложил,
Но ты постройку завершил,
И каждый счастливо зажил,
Под новой кровлей, Сталин!
Ты данный Лениным завет.
Хранишь, держа в руках, как свет,
Спасаешь люд от черных бед,
Мир озаряя, Сталин!

*(Сулейман Стальскі)*

Думка пра адзінства Леніна і Сталіна атрымала разгорнутае мастацкае выражэнне ў саамскай „Песні пра звернутае сонца". Уласна кажучы, гэта не песня, а паэма, у якой эпічна спакойны расказ перамяжаецца лірычнымі адступленнямі. Паэма характарызуецца яркім нацыянальным каларытам, багатай вобразнасцю, markdownрознастайнасцю інтанацый і рытма.

Было так: саамы жылі вольным жыццём, доўга не ведалі „крывадушных слоў купцоў заезджых". Але шчасце доўга не пабыло. З „Русі гандлёвай" прыехалі царскія апрычнікі і купілі свабоду і багацці тундры за „ваду агнявую і персцень залаты". Тады вось і зайшло сонца саамаў. Тундру агарнула цемра.

Ішлі гады. З Русі вялікай прышоў Ленін і вярнуў саамам жыццё і сонца. Праўда, ворагі народу зноў хацелі вырваць сонца ў людзей галоднай тундры, але, выконваючы завет Ільіча, саамы са зброяй у руках адстаялі свабоду.

Але вось не стала Леніна. Саамы ў вялікай трывозе. Няўжо зноў зайдзе сонца? Не. „У ледзяную тундру сонца прывёз у шынэлі шэрым сын таго, хто першым звярнуў сонца лапландскім тундрам, хто такі-ж, як і Ленін, па розуму, магутнай сіле".

Он сошел на берег Кольский
Положил на землю солнце.
Подтолкнул его и громко
Приказал: „Ходи над тундрой,
Делай жизнь красивой в тундре,
Делай счастье людям тундры".
Он велик и мудр, как Ленин,
Он велик—утес гранитный,
Он такой-же как и Ленин,
И приветливый и добрый.
Он саамов, он и ненцев—
Всех, кто чист душой и телом,

Кто работать честно любит,
Называет первым другом.
Он и прост и мудр, как Ленин.
В тундре знают это имя
Стар и млад, саам и ненец:
Он зовется мудрый Сталин,
Вождь такой-же, как и Ленин,
Он его наказам верен,
Наш родной, любимый Сталин.
Он сказал саамам: „Будет
Ваша жизнь красивей сказки,
Зацветет, как солнце, тундра,
Будет ваша жизнь обильной,
Не плошайте только сами!“

„Песня пра звернутае сонца“ павучальна як спроба народа асэнсаваць сваё мінулае ў святле сучаснага. А калі народ пачынае глыбока цікавіцца сваёй гісторыяй не для таго, каб аглядвацца і ісці назад, а для таго, каб падымацца ўгору, то гэта верны сімптом культурнага ўздыму і нацыянальнага адраджэння.

Народы, якія былі абязлічаны царызмам, якім забаранялася мець сваю гісторыю, з вялікай прагнасцю вывучаюць сваё мінулае. І зусім не дзіўна, што ўступіўшы ў сваю гістарычную вясну, гэтыя народы з вялікай любоўю спыняюцца на Леніне і Сталіне, якія вызвалі іх з жабрацтва і рабства на шлях соцыялістычнага будаўніцтва.

У сваёй „Песні пра Сталіна“ Джамбул успамінае цёмнае рабскае мінулае казахскага народа і на гэтым фоне паказвае дасягненні соцыялістычнага Казахстана.

... Что мы знали? Тоску, нищету и мрак.
Что мы видели? Цепи, камчу [1] и штык.
Богатеи держали нас хуже собак,
В темноте угасал наш подавленный крик.
Но, как солнце, взойдя, разгоняет мрак,
Ты пришел—и народы тобой спасены.
И сковали мы герб, и подняли мы флаг
Самой светлой и самой счастливой страны.

Сталін вядзе свой народ па маршрутах соцыялізма да сонечных вяршынь чалавечага шчасця. Гэтае шчасце не ўтопія, не абяцанне, а рэальнае дасягненне.

Яно ў росце соцыялістычных гарадоў і соцыялістычнай індустрыі.

Яно ў квітненні калгаснага саду, у багатым ураджаі.

Яно ў росце матэрыяльнага дабрабыту працоўных і калгаснай заможнасці.

Народная песня адлюстроўвае вобраз правадыра ў канкрэтных дэталях яго жыцця і гераічнай работы. Чалавек у шынелі „с древней вещей трубкой“ паказан у ваенных паходах, у барацьбе з ухіламі, у клопатах пра чалавека.

Народны паэт Таджыкістана Г. Лахуці прысвячае свой верш „Садоўнік“ барацьбе Сталіна з ухіламі, за чыстату радоў партыі.

[1] Камча—бізун.

Мудраму садоўніку, які вырасціў „комунізма лазу“, паэт адрасуе свае палкія радкі:

... Ты, что первый по праву идешь,
Ленинизма учитель и вождь,
Если хочешь, что-б ветви труда
Не постигла такая беда,—
От лица трудящихся масс
Ты, за кем весь рабочий класс,
Эти сорные ветки сорви
Й стволы без пощады сруби!

Сталін на трыбуне. Яго словы пранікаюць ва ўсе куткі Савецкага Саюза. Яны адклікаюцца магутным рэхам ў гарах.

Когда твои речи доходят до нас,
Орлиным становится взор у людей
И если кто слово услышал твое,
Навеки запомнит он слово твое.

Колькі хвалюючай сілы і непасрэднасці ў гэтай ацэнцы сталінскай прамовы, запальваючай „безумством храбрых“, моцнай тым, што за кожным словам адчуваецца справа, *сталінская справа*. Вось таму і „орлиным становится взор у людей“.

Народная паэзія апявае высокую сталінскую чалавечнасць. Так, М. С. Крукава, у сваім „Сказе пра Пакален-бараду і ясных саколікаў“, прысвечаным эпапеі чэлюскінцаў, паказвае клопаты правадыра пра людзей на ільдзіне.

Уж вы, гой—еси, ясны соколы,
Вы летите высоко по поднебесью,
Через те ли леса темные,
Через те ли реки быстрые,
Через те ли моря глубокие,
Выше тех ли облаков ходячих,
Долетите-то до моря—океана-же,
До—той до мерзлой до льдиночки.
Заберите народ в свои крылышка,
Что б не нагнала их непогодушка,
Со великими снегами, со морозами,
Принесите их с моря да на суху землю!

Цікава адзначыць, што быліна пра чэлюскінцаў з'явілася па свежых слядах славутай падзеі. Народныя паэты, не ў прыклад некаторым кваліфікаваным майстрам, выдатна паспяваюць за тэмпамі жыцця.

Ці патрэбна здзіўляцца таму, што Сталінская Канстытуцыя, так радасна сустрэнутая сям'ёй савецкіх народаў, ужо апета частушкай і песняй. Акын Джамбул („Казахскі салавей“, паводле выражэння Г. Лацухі) кажа імем не толькі казахаў, але і ўсіх савецкіх народаў, калі складае ў гонар Сталінскай Канстытуцыі вось гэтыя поўныя натхнення радкі:

Я славлю великий советский закон,
Закон, по которому радость приходит,
Закон, по которому степь плодородит,
Закон, по которому сердце поет,

Закон, по которому юность цветет,
Закон, по которому все мы равны
В создании братских республик страны.
Пойте, акыны, пусть песни польются,
Пойте о Сталинской Конституции.

* * *

Цяжка перадаць „беднай прозай“ усе адценні благародных пачуццяў, выяўленых з такой шчырасцю ў вершах і песнях пра Сталіна. Кранаючая любоў да правадыра—вось што ляжыць у аснове гэтых шматлікіх дакументаў. Гэтая любоў дыктуе простыя, наіўныя часам, але ад усяго сэрца ідучыя словы.

Мы любим тебя,
Как отца в заполярном краю
Любят дети.
Мы сошьем тебе шубу
Из мягкого пыжика,
И ружье, и оленей
В подарок дадим,
Отблагодарить
Люди тундры вождя своего
Сумеют.

Пра эмацыянальны тонус вершаў і песень лягчэй за ўсё можна меркаваць па тых differently розностайных эпітэтах і метафарах, якімі паэты характарызуюць свайго правадыра. Трэба мець шмат творчай вынаходлівасці, каб прыдумаць такую колькасць рознастайных эпітэтаў. „Вяршыня, з якой відаць гарызонт“, правадыр і брат“, „ударнік першы“, „арол з тысячамі арлянят“, „вадзіцель народаў Сталін“, „полымя, што рухае стагоддзі ўперад“, „разящий отточенный меч“, „народаў інжынер“, „гранітны Іосіф Сталін“, „сонца, што асушыла патокі слёз“, „маяк, што свеціць над беднатой“, „мудрэйшы пад месяцам і сонцам“, „бясстрашны багатыр“, „пладовае дрэва СССР“, „вялікі, як Ленін“, „архітэктар сусвету“. Якая рознастайнасць эпітэтаў і метафар! Якая сіла і трапнасць азначэнняў!

Народ ніколі не скупіўся на эпітэты і параўнанні, калі перад ім узнікалі вобразы любімых герояў. Ён ствараў вобраз з новай якасцю, вобраз, у якім арганічна зліваюцца думка і пачуццё. „Разящий отточенный меч“—глыбокі, змястоўны вобраз, які падкрэслівае непрымірымасць правадыра ў барацьбе з ворагамі народа, мэтаімкнёнасць і магутную сілу яго ўдараў.

Не менш абагуленым з'яўляецца вобраз „пладовае дрэва СССР“, які сімвалізуе барацьбу Сталіна за шчаслівае заможнае жыццё совецкіх народаў. „Архітэктар сусвету“—раскрывае інтэрнацыянальнае значэнне сталінскай справы.

Зрэшты, часам і гэтыя багатыя параўнанні здаюцца народным паэтам недастаткова яскравымі і моцнымі. Тады яны пішуць так:

Гора над долиной стоит высоко,
А небо стоит над горой высоко,
Но, Сталин, ты выше высоких небес,
И выше тебя только мысли твои.

Созвездий и месяца солнце светлей
Но, Сталин, твой разум и солнца светлей.
Лучистое солнце сияет лишь днем,
А разум твой светлый и ночью и днем.
Всех крепче металлов упругая сталь,
Но, Сталин, ты крепче, чем всякая сталь.
И вот, потому, что ты выше небес,
Тебя почитают в высоких горах.
И мыслям другим, кроме мыслей твоих,
Не внемлют народы в высоких горах.

(Горская песня пра Сталіна).

* * *

Народныя творы пра Леніна і Сталіна пры ўсёй іх канкрэтнасці не прэтэндуюць на поўны і ўсебаковы паказ правадыроў. Гэта найлепшыя чалавечыя дакументы, адлюстроўваючыя думы народа пра яго правадыроў, дакументы вялікай паэтычнай сілы, якія фіксуюць безгранічную любоў і павагу шырокіх мас да Леніна і Сталіна. І гэта відавочна для кожнага: вершы і песні пра правадыроў з'яўляюцца фактарам палітычнага выхавання мас. Каб гэта не толькі зразумець, але і прачуць, трэба ўявіць сабе канкрэтныя абставіны, у якіх песня нараджаецца, зацвітае і становіцца жыццёвай справай. Трэба ведаць, што песня, якая творыцца ашугамі, акынамі і бахшы, распаўсюджваецца з хуткасцю маланкі па стэпах, кішлаках і аулах... Песні Сулеймана Стальскага карыстаюцца на яго радзіме выключна вялікай папулярнасцю. Іх добра ведае ўся краіна.

„На мяне і—я ведаю—не толькі на мяне зрабіў патрасаючае ўражанне Сулейман Стальскі,—сказаў М. Горкі на з'ездзе пісьменнікаў.—Я бачыў, як гэты стары, непісьменны, але мудры, седзячы ў прэзідыуме, шаптаў, ствараючы свае вершы. Пасля ён—Гамер дваццатага стагоддзя, цудоўна прачытаў іх. Беражыце людзей, здольных ствараць такія жамчужыны паэзіі, якія стварае Сулейман Стальскі“.

За час, які аддзяляе нас ад з'езда пісьменнікаў, зроблена нямала ў сэнсе папулярызацыі творчасці народаў СССР. Зроблена нямала наўпярок трацкісцка-авербахаўскім разбойнікам пяра і прахвостам друку, усяк зацямняўшым ролю і значэнне народнай творчасці, ідэалагічна спрабаваўшым дыскрэдытаваць яе спасылкамі на дрэнныя пераклады. Кніга „Творчасць народаў СССР“, якую выдае „Правда“—буйнейшая літаратурна-палітычная падзея. Складзеная з лепшых узораў народнай творчасці, гэтая кніга з'ўляецца неабвержным дакументам росквіту нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу культуры. Гэта кніга павінна адыграць вялікую ролю ў справе вывучэння і далейшага збірання твораў народнай творчасці. А ёсць што вывучаць, ёсць што збіраць.

Паэзія зрабілася паветрам нашай гераічнай радзімы, а Ленін і Сталін—крыніцай глыбокіх паэтычных эмоцый.

*Віт. Вольскі*

# ШОТА РУСТАВЕЛІ

У сусветнай паэзіі мала знойдзецца твораў, якія-б на працягу стольках вякоў не страцілі сваёй паэтычнай прывабнасці, свайго мастацкага значэння, якія карысталіся-б такой вялікай і шырокай папулярнасцю ў народных масах, як „Вепхіс Ткаосані“ (Той, хто носіць тыгравую скуру) Шота Руставелі.

Папулярнасць гэтага твору ў Грузіі—надзвычайная. Да гэтага часу паэма Руставелі займае значнае месца не толькі ў культурным жыцці краіны, але і ў асабістым і грамадскім жыцці амаль кожнага грузіна. Цудоўныя вершы Руставелі даўно ўжо зрабіліся здабыткам вуснай народнай творчасці. У грузінскім фальклоры бытуе цэлы рад вусных варыянтаў паэмы. З імем самога Руставелі звязана вялікая колькасць народных легенд і паданняў. Асобныя радкі яго паэмы, яго бліскучыя па форме і глыбокія па сэнсу афарызмы, даўно ўжо ператварыліся ў народныя прыслоўі. Старыя калгаснікі Карталініі, Імерэтыі, Гурыі, Мегрэліі, вінаробы і аўчары, гарнякі Чыатурскіх капальняў, трактарысты і камбайнеры, старыя рабочыя і комсамольцы, ведаюць напамяць цэлыя раздзелы з „Вэпхіс Ткаосані“ і ахвотна карыстаюцца гэтым у адпаведных выпадках свайго жыцця. Вершы Руставелі можна чуць і ў бытавой абстаноўцы, і ў часе адпачынку, і на грамадскіх урачыстасцях, у самых шырокіх колах грузінскага народа.

Мне ўспамінаецца, напрыклад, як на ўрачыстым сходзе ў гарадскім тэатры ў Поці галоўны інжынер Калхідбуда, ордэнаносец Гегечкоры замест прамовы выступіў з дэкламацыяй на памяць адпаведнага па тэме і сэнсу раздзела паэмы Руставелі.

Мне ўспамінаюцца таксама натхнёныя радкі Руставелі ў вуснах старога калгасніка-імерэціна на вінаградніку ў часе абедзенага перапынку. Стары ведаў на памяць усю паэму цалкам.

І гэта не выключэнне, не адзіночная з'ява.

Выключнай любоўю і цяплынёй атуляе грузінскі народ славутае імя свайго найвялікшага песняра. А быў такі час, калі рукапісы, а потым друкаваныя выданні Руставелі паліліся на вогнішчах, калі царква забараняла чытаць і распаўсюджваць яго паэму як твор ерэтычны і бязбожны. Але ніякія цкаванні з боку царквы і ўлады, ніякія навалы варожых заваёў не здолелі вытруціць любоў грузінскага народа да свайго паэта. Праз цяжкія вякі крывавых гістарычных выпрабаванняў прайшоў гераічны грузінскі народ і пранёс у сваім сэрцы бліскучы вобраз вялікага песняра. Народ захаваў цудоўную скарбніцу яго паэтычнай спадчыны, як урачысты і не-

нарушны сімвал сваёй старадаўняй культуры. Моцны паэтычны голас Шота перамог час, перамог гістарычную аддегласць стагоддзяў. З нястрымнай сілай гучыць ён у нашыя дні, цалкам захаваўшы для нас сваю чароўную прывабнасць.

Хто-ж такі аўтар гэтага твору? Чаму яго твор аж дагэтуль жыве ў народных масах Грузіі? У чым яго значэнне для нас і для грузінскага народа?

Біяграфія Шота Руставелі амаль зусім невядома. Нам невядомы дакладна ні год яго нараджэння, ні год яго смерці. Вядомы грузінскі гісторыёграф мінулага стагоддзя Платон Іоселіані адносіў нараджэнне паэта да 1174 г., а яго смерць да 1212 г. Некаторыя даследчыкі лічылі, што Руставелі нарадзіўся ў 1172 г., а памёр у 1216 г. Цяпер годам нараджэння Руставелі прынята лічыць 1187 год. Але і гэтая дата з'яўляецца ўмоўнай, бо дакументальных гістарычных звестак аб яго жыцці не захавалася.

Грузінскі народ стварыў аб сваім вялікім паэце цэлы цыкл легенд і паданняў, яго імя жыве ў вуснай народнай творчасці, а між тым у грузінскім летапісу „Картліс-Цховрэба", які пісаўся манахамі ў манастырах, аб ім няма ніводнага радка. Такім чынам, асноўнай крыніцай для высвятлення асобы аўтара і часу, калі ён жыў, застаецца толькі тэкст самой паэмы. У ім мы знаходзім некаторыя, хаця і вельмі скромныя, аўтабіяграфічныя ўказанні. Змест паэмы дае магчымасць устанавіць, што Шота Руставелі жыў у канцы XII і пачатку XIII ст. Гэта відаць з таго, што паэт прысвяціў свой твор царыцы Тамары і яе мужу Давіду Саслані, сучаснікам якіх ён з'яўляўся. Вось гэтыя радкі:

Льва, что знает меч блестящий, щит и копий свист лятящий,
Ту, чьи волосы—как чащи, чьи уста—рубин, Тамар,—
Этот лес кудрей агатный, и рубин тот ароматный
Я хвалою многократной вознесу в сияньи чар.

(З уступа)

В восхваленье, не в обиду солнцеравному по виду,
Богу Грузии—Давиду, пел я стих, служа тому,
Чье до Запада с Востока бдит недремлющее око,
Кто, врагов разя жестоко, любит преданных ему.

(Заключэнне)

У вусных народных паданнях Руставелі таксама заўсёды з'яўляецца сучаснікам царыцы Тамары і нават блізкім да яе чалавекам.

У некалькіх радках уступа і ў заключэнні паэмы падкрэсліваецца, што аўтар гэтага твору—Руставелі.

Вот запел я, Руставелі, в сердце мне вошло копье.

(Уступ)

Песнь сложил я, Руставелі, умирая от любви.

(Уступ)

У заключных страфах паэмы ён піша:

Тут свой труд кончаю скромный,—о, как время вероломно!
Тех, чья доблесть столь огромна, в мире свет уже погас.
Мир—лишь миг. И в самом деле, дни цвели и дни истлели.
Месх безвестный, Руставели, написал я этот сказ.

І, нарэшце, у апошніх радках заключэння аўтар паэмы адзначае сваё месца сярод выдатнейшых паэтаў таго часу:

Амирана пел Хонели, про Абдул—Месию пели
Строфы звучные Шавтели,—он в искусстве преуспел.
Диларгета пел Тмогвели, я же, некий Руставели,
О великом Тариэле, проливая слёзы, пел.

Гэтыя радкі даюць магчымасць устанавіць, што аўтар паэмы Руставелі належаў да грузінскага племені месхаў, якое насяляла паўднёвую Грузію—Месхетыю. У тыя часы Месхетыя з'яўлялася адной з культурнейшых частак Грузіі. Гэта супадае і з народнымі паданнямі, паводле якіх Руставелі паходзіць нібы-та з сяла Руставі, у Месхетыі, у ваколіцах гор. Ахалцыхе.

Адносна радзімы Руставелі, адносна яго асобы і прозвішча існуе цэлы рад досыць спрэчных гіпотэз і меркаванняў. Так, напрыклад, акадэмік Н. Я. Марр лічыў што пад псеўданімам Руставелі хаваецца Чахрухадзе, вядомы прыдворны паэт царыцы Тамары. Падставамі для такога меркавання паслужыла тое, што Чахрухадзе таксама, як і Руставелі, называў сябе месхам, што супадаюць асобныя рыфмы, што ёсць шмат агульных асаблівасцей у паэтычнай мове Чахрухадзе і Руставелі.

Некаторыя даследчыкі, накшталт Д. Дандурава, аўтара вельмі спрэчнай, на наш погляд, кнігі „Шота Руставелі“, якая вышла нядаўна з друку, спрабуюць давесці, што Шота з'яўляецца нібы-та братам Чахрухадзе, што прозвішча яго—Руставелі звязана не з назвай сяла Руставі, а з назвай мясцовасці Руставісі, што Руставелі быў нібы-та скарбнікам царыцы Тамары. Для абгрунтавання гэтай гіпотэзы і для высвятлення гістарычнай асобы Шота, Д. Дандураў разгортвае цэлы ланцуг усялякіх заключэнняў, здагадак, домыслаў і абагульненняў, але ў значнай сваёй частцы яны настолькі не маюць рэальных падстаў, настолькі ўмоўны, абстрактны і часам нават фантастычны, што мы тут на іх спыняцца не будзем.

Народныя паданні гавораць нам аб тым, што Руставелі быў чалавекам вельмі адукаваным, што ён вучыўся ў Грэцыі, быў у Егіпце, у Іране, у Індыі, нават у Расіі, куды ездзіў па Волзе, што памёр ён у Іерусаліме.

Паданне аб грэчаскай адукацыі Руставелі бясспрэчна мае падставы. У сваёй паэме ён выяўляе глыбокае і арганічнае веданне антычнай філасофіі наогул і філасофіі Платона ў прыватнасці. Так, напрыклад, Аўтандзіл, праз вусны якога Руставелі часта выяўляе свае ўласныя погляды і адносіны да света, робіць у пісьме да цара Ростэвана наступную спасылку на Платона:

Знаю я, мое решенье в этот час есть дерзновенье,
Но его без осужденья примешь в днях. Есть зов? Спеши.
Жертва другу—власть закона. Царь, воспомни мысль Платона:
„Ложь двуличья—порчи лоно и для тела и души.

Руставелі відавочна ведаў Іліаду і Одысею. Яго веды не абмяжоўваюцца толькі антычнай філасофіяй і літаратурай. Гэта быў чалавек, які валодаў вяршынямі сусветнай культуры таго часу. Руставелі выяўляе глыбокае веданне іранскай і арабскай літаратуры.

У яго творы часта ўпамінаюцца іранскія паэты. У ім ёсць спасылкі на „Шах-Наме“ Фірдоусі, на „Лейлі і Меджнун“ Нізамі, на творы Фахр-эд-дына Гургані. У ім адчуваюцца пэўныя ўплывы арабскіх казак з „1001 ночы“.

Сюжэтныя падзеі паэмы разгортваюцца у Індыі, у Арабіі. Персанажы Руставелі з'яўляюцца прадстаўнікамі розных краін і розных народаў.

Напісаная аўтарам грузінам на грузінскай мове, паэма Руставелі не мае на першы погляд нацыянальнай абалонкі. Але гэта толькі знадворна. І Арабія, і Індастан, і мусульманскія героі паэмы з'яўляюцца толькі паэтычнай умоўнасцю. Пад арабскімі і індыйскімі персанажамі хаваюцца нацыянальна-грузінскія героі. Прырода ў паэме мае яскрава выражаны каўказскі каларыт. Геаграфічныя асаблівасці Арабіі ці Індыі ў творы Руставелі адсутнічаюць. Быт герояў паэмы з'яўляецца бытам грузінскіх феадалаў. У ім няма нічога мусульманскага. Становішча і роля жанчыны ў паэме ніякім чынам не адпавядае становішчу жанчыны ў мусульманскіх краінах. Жаночыя вобразы паэмы з'яўляюцца ідэалізаванымі вобразамі жанчын грузінскага феадальнага грамадства эпохі яго росквіту.

Праўда, сам Руставелі піша:

> Сказку персов, их намеки, влил в грузинские я строки...

Але на справе гэта далёка не так. Сюжэт паэмы арыгінальны і самабытны. Ён не сустракаецца ні ў іранскай, ні ў арабскай літаратуры. Магчыма, што ў пабудове сваёй паэмы, у асобных паэтычных прыёмах, аўтар карыстаўся ўзорамі іранскай літаратуры, але змест яго твораў звязаны з канкрэтнымі гістарычнымі асаблівасцямі грузінскай рэчаіснасці. Сам Руставелі ў заключных страфах дае нам ключ для разумення гэтых абставін. Прысвячаючы свой твор царыцы Тамары і Давіду, ён піша:

> Но того, кто столь прекрасен, столь могуч и громогласен,
> Петь достойно—труд напрасен, и облек я в этот стих
> Сказ чужой о дальних странах, о владыках иностранных
> И о подвигах их бранных и обычаях чужых.

Пад выглядам чужаземных герояў, пад выглядам чужога сказа пра дальнія краіны, карыстаючыся алегарычнай формай, Руставелі праслаўляе рэальных герояў грузінскай рэчаіснасці. Ёсць пэўныя падставы меркаваць, што пад знадворнай фантастычнай абалонкай Арабіі і Індастана, у сімвалічнай форме, у паэтычных вобразах, Шота Руставелі адгукаецца на рэальна-гістарычныя падзеі, звязаныя з палітычным жыццём тагочаснай Грузіі, што ў яго паэме знайшлі сабе паэтычнае адлюстраванне складаныя падзеі грузінскай рэчаіснасці ў канцы XII стагоддзя. Для свайго часу „Вепхіс Ткаосані“ была відавочна творам палітычна-вострым і актуальным. У гэтым не цяжка пераканацца, калі параўнаць асобныя эпізоды паэмы з канкрэтнымі гістарычнымі фактамі грузінскай рэчаіснасці таго часу. Некаторыя даследчыкі схільны нават паставіць сувэльны знак абсалютнай роўнасці паміж сюжэтам паэмы і гіста-

рычнымі фактамі. Так, напрыклад, Д. Дандураў імкнецца давесці ў сваёй кнізе, што ў вобразах Нестан-Дарэджан і Тінатін увасабляецца царыца Тамара, у вобразах Ростэвана і Парсадана—бацька Тамары цар Георгій III, у вобразе Тарыеля—другі муж Тамары—Давід Сослані, у вобразе Фрыдона—першы муж Тамары, рускі князь Юрый, сын Андрэя Багалюбскага, што, нарэшце, вобраз Аўтандзіла з'яўляецца паэтычным увасабленнем самога аўтара, Руставелі, які нібы-та з'уляўся актыўным удзельнікам палітычнай барацьбы, якая разгарнулася ў Грузіі вакол трона Георгія III.

Як-бы там ні было з асобнымі гістарычнымі дэталямі і аналогіямі, якія спрабуе ўстанавіць Д. Дандураў, але для нас зусім ясна, што для свайго часу „Вепхіс Ткаосані“ быў творам палітычна актуальным. У тыя часы пытанне адносна праў наследвання грузінскага трона мела асабліва вострае значэнне і Руставелі нездарма звяртае столькі ўвагі гэтаму пытанню. У сваёй паэме ён неаднойчы выказваецца на карысць царыцы Тамары, усхваляючы ўсякім чынам мудрае рашэнне свайго фантастычнага цара Ростэвана, які таксама як і грузінскі цар Георгій III у сапраўднасці, яшчэ пры сваім жыцці, зрабіў царыцай сваю дачку.

Цікава адзначыць, што Тамара ўвесь час называла сябе не „царыцай“ г. зн. жонкай цара (дэдампалі), але „царом“ (мэпэ). І Руставелі ў паэтычнай форме неаднаразова імкнецца давесці, што разумная, смелая і рашучая жанчына мае поўнае права быць царом, калі гэтаму адпавядаюць яе прыродныя якасці:

> Женщина, но небо ей в удел престол излило;
> Мы не льстим тебе—достойна Тинатин принять венец,
> Путь царевны светозарной ярок, словно ход светила,
> Льву во всем подобен львенок, будь то самка иль самец.

Такім чынам, палітычная накіраванасць паэмы зусім відавочна. У барацьбе за аб'яднанне і ўзмацненне Грузіі, за стварэнне цэнтралізаванай улады, супроць сепарацісцкіх тэндэнцый буйных феадалаў, Руставелі цалкам знаходзіцца на баку таго манарха, хаця-б і жанчыны, які аб'ядае ўсю краіну і абараняе яе ад чужаземных ворагаў, забяспечваючы яе магутнасць і незалежнасць. Палітычныя тэндэнцыі Руставелі былі для свайго часу тэндэнцыямі прагрэсіўнага парадку.

Прынцып царскай улады ў феадальным грамадстве Руставелі ставіць вельмі высока. Функцыі цара ён разглядае як высокую і адказную місію перад усім народам, перад усёй краінай. Цар мае вялікую ўладу, але гэтая ўлада павінна быць накіравана толькі на добрыя справы, на карысць усёй краіны. Толькі такі цар можа быць шчаслівы, толькі такі цар карыстаецца заслужанай славай, пашанай і адданасцю свайго народа, які клапоціцца аб сваёй краіне, які жыве з ёю адным жыццём, які інтарэсы краіны ставіць вышэй за ўсё. Цар павінен быць справядлівым, добрым і шчодрым для народа, суровым і бязлітасным да ворагаў, да прыгнятальнікаў, да злых людзей. Гэта адзін з палітычных матываў, які праходзіць праз усю паэму. Асабліва моцна гучыць ён у апошніх радках

паэмы. Гаворачы аб сваіх героях, якія зрабіліся ўладарамі краін, Руставелі піша:

Так избавясь от кручины, три могучих властелина,
Заключив союз единый, жили счастьем частых встреч.
Каждый был любим страною, с нею жизнью жил одною.
Лишь запятнанным виною угрожал их грозный меч.

В милосердьи к человеку, не забыли и калеку,
Взяты сироты в опеку, вдовья вытерта слеза.
Лишь злодеев строгой каре обрекали государи,
Но паслась там с волком в паре, не страшась его, коза.

У гэтых радках, якімі заканчваецца паэма, з асаблівай выразнасцю паўстае перад намі той недасяжны ідэал царскай улады, за які змагаўся Руставелі. У адпаведнасці з такім вызначэннем прынцыпаў цэнтралізаванай улады ў феадальным грамадстве, Руставелі разгортвае ў паэме і сваё разуменне абавязкаў васала, як вернага і шчырага дапаможніка цара ў яго вялікіх і добрых справах, як паслухмянага выканаўца яго загадаў. Ідэя непарушнай вернасці, ідэя адданасці васала свайму сюзерэну праходзіць праз усю паэму.

Асноўныя героі „Вепхіс Ткаосані" з'яўляюцца перадавымі прадстаўнікамі вышэйшых колаў феадальнага грамадства. Да сваіх ідэалізаваных герояў Руставелі адносіцца з вялікай любоўю. Яны з'яўляюцца для яго носьбітамі вышэйшых чалавечых якасцей, увасабленнем розума, мужнасці, геройства, сумленнасці, дружбы, шляхетнасці. Праз усе цяжкія выпрабаванні праносяць яны сваю вернасць і непарушнасць, сваю здольнасць ахвяраваць жыццё на карысць друга, на карысць свайго ўладара. Яны настойлівы, упарты ў дасягненні пастаўленай мэты і адначасова велікадушны, чуллівы, спагадны.

Шота Руставелі быў прадстаўніком феадальнага грамадства, але яго разумовыя і культурныя гарызонты былі значна шырэй свайго соцыяльнага асяроддзя, сваёй эпохі. Нас здзіўляе яснасць яго пантэістычнага светапогляду. Руставелі жыў у эпоху, калі ўлада царкоўнага дагматызма панавала над розумам і свядомасцю чалавека. Між тым, у яго ясным і гарманічным творы, прасякнутым сонечнай радасцю жыцця, светлай і непахіснай верай у чалавечы розум, няма ніякіх слядоў сярэдневяковай схаластыкі, царкоўнага мыслення, афіцыйнай хрысціянскай рэлігійнасці. Яго светаадчуванне нічым не звязана з змрочнай і аскетычнай клерыкальнай ідэалогіяй сярэдневякоўя. У паэме надзвычай мала нават знадворных элементаў хрысціянства. Героям Руставелі ўласціва шырыня светаадчування. У паэме яны лічацца мусульманамі, але іх погляды не ўкладваюцца ў рамкі афіцыйнага мусульманскага ці хрысціянскага мыслення. Іх адносіны да бога хутчэй пантэістычныя. Вельмі часта ў паэме адчуваюцца водгукі старадаўняга язычаскага культа сонца, як пачатку і асновы ўсяго свету, як крыніцы жыцця. Вобразы герояў паэмы ў аснове сваёй рэалістычныя.

Руставелі быў раннім прадвеснікам гуманізма. У яго творы адлюстроўваліся асноўныя ідэі блізкай ужо эпохі адраджэння. Яго

паэма прасякнута духам сапраўднага касмапалітызма і верацярпімасці. Філасофская аснова яго твору накіравана супроць клерыкалізма, супроць царкоўнай рэлігійнасці.

Цікавыя адносіны Руставелі да жанчыны. У яго паэме жанчына выступае на роўных правах з мужчынам. Ён стварыў такія моцныя, яркія. бліскучыя і разнастайныя вобразы жанчын, як Нестан-Дарэджан, Тінатін, Асмат, Фацьма. Яго гераіні—заўсёды самастойныя ў сваіх дзеяннях і ўчынках, яны дзейнічаюць заўсёды так, як падказвае ім розум і пачуццё. У асобных эпізодах паэмы жанчыны выяўляюць нават большую рашучасць і сілу волі, чым мужчыны. На жанчыну Руставелі глядзіць як на роўнапраўнага сябра, таварыша і спадарожніка ў жыцці. Героі Руставелі адносяцца да жанчыны з нязменнай павагай і ўважлівасцю.

Каханне, высокае, чыстае, самаадданае,—таксама, як і дружба,—з'яўляецца адным з асноўных матываў паэмы Руставелі. У імя кахання героі яго выконваюць вялікія справы, выдатнейшыя подвігі. Не кожнаму даступна сапраўднае каханне. Людзям нізкім, злым яно не ўласціва. Яго могуць адчуваць толькі людзі з чыстым сэрцам, героі з высокімі душэўнымі якасцямі, разумныя, адважныя, моцныя, сумленныя, самаадданыя. Нараўне з сонцам, каханне і вернасць набываюць у Руставелі характар паэтычнага культа. Ім прысвячае ён свае натхнёныя гімны. Аднак, каханне ў Руставелі не мае нічога агульнага з хрысціянскім культам кахання. Значна адрозніваецца яно і ад культа жанчыны ў заходне-еўрапейскай рыцарскай паэзіі. Каханне да жанчыны мае ў Руставелі больш жыццёвы, больш просты, больш натуральны характар. Яно непадобна ні на абстрактнае, незямное, містычнае каханне Дантэ, ні на ўмоўнае, чыста літаратурнае каханне Петраркі.

Такое разуменне ўзаемаадносін паміж жанчынай і мужчынай не ўласціва ні ўсходнім краінам, ні ідэалогіі хрысціянскага сярэдневякоўя. У ім зноў даюць сябе адчуваць ідэі гуманізма і адраджэння.

Велізарнае значэнне Руставелі для грузінскай культуры і, асабліва, для грузінскай паэзіі нават цяжка ўлічыць. Руставелі стварыў літаратурную мову для свайго народа, таксама як гэта зрабілі Дантэ для Італіі, Фірдоусі для Ірана, Пушкін для Расіі. Хадульнасць і штучнасць мовы прыдворнай грузінскай паэзіі, Руставелі замяніў жывой бліскучай вобразнай народнай мовай. Ён стварыў свой уласны вершаваны размер (шаіры), з адной рыфмай для кожных чатырох радкоў, які ў далейшым на працягу многіх вякоў панаваў у грузінскай паэзіі. Яго твор захапляе нас сілай і глыбінёй пачуцц»ў, вялікай культурай, шырынёй светапогляду, багатай змястоўнасцю, палітычнай накіраванасцю, тонкай сюжэтнай апрацоўкай, бліскучай формай цудоўнага верша. Яго радкі поўны афарызмаў і метафар, якія ўвайшлі ў жывую мову народа і жывуць да гэтага часу.

Творчасць Руставелі з'явілася ў выніку сінтэза культур Усхода Захада, іранскай і арабскай з аднаго боку, антычнай, візантый-

скай і заходне-еўрапейскай—з другога. І гэта невыпадкова: Руставелі быў сынам свайго народа, сваёй роднай грузінскай культуры, свайго часу. Эпоха XI—XIII ст. была звязана з найвышэйшым росквітам эканамічнага, палітычнага і культурнага жыцця Грузіі, якая ляжала на рубяжы Усхода і Захада, на перакрыжаванні вялікіх гістарычных шляхоў. І гэта адлюстравалася ў творчасці Руставелі.

Стварыўшы твор, глыбока нацыянальны па свайму зместу, па сваёй мове, па сваёй накіраванасці, Руставелі ўзнімаецца ў ім на вялікую агульна-чалавечую вышыню. Яго паэма, дзякуючы бліскучай дасканаласці сваёй формы, філасофскай глыбіні зместа, высокай ідэйнасці, сіле і выразнасці вобразаў і чалавечых пачуццяў выходзіць за межы нацыянальных рамак і набывае сусветнае значэнне. Вобразы канкрэтнай гістарычнай рэчаіснасці, вобразы сваёй краіны і свайго часу, Руставелі здолеў ператварыць у мастацкую форму такой высокай дасканаласці, такога майстэрства і выразнасці, што яны перажылі вякі. Створаныя ім вобразы жывуць і будуць жыць яшчэ доўга, з'яўляючыся для нас бліскучым узорам нацыянальнай і адначасова сусветнай паэзіі.

*М. Ларчанка*

# ПАЭТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ЛІРЫКІ ЯКУБА КОЛАСА
## (Дарэвалюцыйны перыяд)

### I. Лірычны вобраз

Даследванне коласаўскай лірычнай спецыфікі мы пачнем з аналіза лірычнага вобраза. Пад лірычным вобразам будзем разумець самога паэта з яго думкамі і пачуццямі, які, або непасрэдна праз сваё творчае „я“, або, апасрэдваючы яго ў фактах і з'явах аб'ектыўнай рэчаіснасці, пазнае і раскрывае, праз складаны комплекс лірычных мастацкіх асаблівасцей, істотныя бакі рэальнага жыцця. Перш за ўсё разгледзім, як адлюстравана аб'ектыўная рэчаіснасць праз лірычны вобраз у дарэвалюцыйнай лірыцы Якуба Коласа, а ў далейшым, пакажам некаторыя паэтычныя асаблівасці іншых кампанентаў лірычнай спецыфікі Коласа, якія дапаўняюць лірычны вобраз і залежаць ад яго.

Яшчэ ў вершы, напісаным напярэдадні рэволюцыі 1905 г. Колас, усведамляючы сябе песняром, акрэсліў ідэйны і мастацкі характар сваёй лірыкі. Ён пісаў:

> Не пытайце, не прасіце
> Светлых песень у мяне,
> Бо як песню заспяваю,
> Жаль вам душу скалыхне. (1904 г.)

Ужо з гэтых радкоў перад намі паўстае глыбока арыгінальнае „я“ паэта. Ужо тут Коласам ставіцца праблема ўзаемаадносін з працоўным народам, выяўлен адзін з асноўных матываў дарэволюцыйнай лірыкі Коласа—ціхі смутак, жаль, што агортваюць душу чалавека, — матыў, які ўзнік непасрэдна пад уплывам тагочасных умоў жыцця прыгнечаных працоўных мас беларускага народа. Ужо ў першых вершах у наяўнасці ўласцівая Коласу глыбокая, задушэўная эмацыянальнасць, народная прастата верша і непасрэдная сувязь з жыццём свайго абяздоленага народа. У вершы „Песняр“ (1908 г.) Колас яскрава ахарактарызаваў сутнасць сумна-тужлівых матываў сваёй песні.

> Кажуць людзі: „Што ты смутны?
> Што спяваеш ты пра гора?
> Твае песні—стогн пакутны,
> Слёзы ветру на просторы!..“
>
> Ой, вы, людзі! Няма-ж волі:
> Скуты мыслі ланцугамі.

Пусты нівы нашы ў полі,
Злосны віхар дзме над намі!

Ці-ж я сэрцам не балею?
Ці-ж мне смутак лёгка даўся?
Я спяваю, як умею,
Я пра радасць пець не здаўся.

Якуб Колас любіў сваю радзіму і працоўны народ. Але гэта радзіма і народ знаходзіліся пад страшэнным соцыяльным і нацыянальным уціскам царызма і памешчыкаў. Паэт выступаў супроць гэтых прыгнятальнікаў за вызваленне сваёй радзімы і працоўнага народа. Адсюль узніклі матывы журбы, гневу і помсты, што прасякаюць сабой дарэволюцыйную лірыку Коласа і якія маюць сувязь з некрасаўскай паэзіяй.

Некрасаў у творы „Газетная“ (1865 г.) так характарызаваў асноўны матыў сваёй паэзіі:

Да! Но, все-таки, грустен напев
Наших песен, нельзя не сознаться,
Переделать его не сумев,
Мы решили при нем оставаться.
Примиритесь же с музой моей.
Я не знаю другого напева.
Кто живет без печали и гнева,
Тот не любит отчизны своей...

Некрасаўская „печаль“ і „гнев“ знаходзяць шырокае месца і ў коласаўскай дарэволюцыйнай лірыцы.

Калі прагрымелі грамавыя раскаты першай рускай рэволюцыі, якая „глубоко взрыла почву, выкорчевала вековые предрассудки, пробудила к политической жизни и к политической борьбе миллионы рабочих и десятки миллионов крестьян“ [1], Якуб Колас выступаў як прадстаўнік дэмакратычных мас беларускага сялянства і ў вершы „Ворагам“ (1906 г.), паказваючы іх паднявольнае, цяжкое жыццё, з гневам і абурэннем гаварыў:

Багачы і панства,
Нашы „дабрадзеі“!
Мы на суд вас клічам,
Каты вы, зладзеі!

І тут-жа, ад імя народных мас, паэт выносіў „багачам і панству“ смяротны прыгавор:

Ужо даўно вяроўкі
Вас, паны, чакаюць,
І па вас асіны
Слёзы праліваюць.

Паэт смела і адкрыта заяўляў:

Не, ня будзе нам жыцця,
Як паноў не перавешаць. („Што, брат Грышка...“ 1907 г.)

[1] В. І. Ленін, т. XX, вып. 3, стар. 13.

І адначасова з гэтым Колас з сакрушальнай ironiяй і сарказмам праклінаў цара, выражаючы векавое нездавальненне народу самаўладствам:

Да чаго-ж мы дажыліся!
Эх, падвёў ты нас, царок!
Каб табе даў бог на старасць
Лапці, торбу і мяшок. („Мікалаю II“, 1907).

Выражаючы настроі дэмакратычных мас беларускага сялянства, паэт стварае лірычны вобраз гэтых мас. Праз гэты вобраз раскрываецца асноўная тэма коласаўскай лірыкі—соцыяльны і нацыянальны прыгнёт працоўных мас беларускага сялянства.

Асмеяны, аблаяны,
Гразёю мы замазаны,
Багатымі мы скрыўджаны,
Няволяю мы звязаны
У балоты мы адціснуты,
Загнаны мы у шчыліны,
І вочы нам завязаны,
І вушы нам зачынены. („Наша возьме“, 1907 г.)

У часе буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1905-07 гг. паэт з'яўляўся сялянскім рэволюцыйным дэмакратам. У сваіх творах ён выражаў жаданні і патрабаванні сялянскіх працоўных мас у буржуазна дэмакратычнай рэволюцыі. Ён бязлітасна выкрываў сваёй едкай сатырай „канстытуцыйныя“ ілюзіі, царскую „канстытуцыю“, царызм з яго прыспешнікамі, чорнасоценную думу і інш.

В. І. Ленін у той час пісаў: „Вопрос о конституционных иллюзиях, это—как раз тот вопрос, на котором всего легче в настоящее время и всего вернее можно отличить оппортуниста от сторонника дальнейшего развития революции. Оппортунист уклоняется от разоблачения этих иллюзий. Сторонник революции беспощадно показывает их обманчивость“. (т. IX, ст. 202, выд. III).

Якуб Колас, выкрываючы „канстытуцыйныя ілюзіі“, рэзка выступае супроць царызма. У вершы „Канстытуцыя“ (1908 г.) паэт з сарказмам пісаў пра царскую „канстытуцыю“:

Канстытуцыю далі,
Адчынілі дзверы
І... ў астрог нас павялі
І таўкуць без меры.

Выражаючы настроі сялянскай дэмакратыі, паэт высоўваў праграмныя патрабаванні сялянскіх мас, атоесамліваючы сваё лірычнае „я“ з іх імкненнямі. Паэт заклікае весці барацьбу за патрабаванні „зямлі і волі“, заклікае працоўныя масы пакінуць смутак і брацца за рэволюцыйную работу:

За работу жыва, жыва!
Каб нас доля не ўшчувала,
Каб не сохла наша ніва,
Каб нуда нас больш не знала.
(„Кінька смутак“, 1907 г.)

У вершы „Згнанніку“ (1907 г.), праз лірычны вобраз згнанніка паказваецца безвыходнае становішча прыгнечаных мас беларускага народа; гэты верш прасякнуты моцнаю вераю ў сілы народа, у рэволюцыю:

Мыслі праўды, дух свабодны,
Вольны наш народны дух,
Растрасе свае астрогі,
Ржавы ён парве ланцуг!

Непасрэдныя настроі і жаданні паэта, якія праяўляліся ў такой паэтычнай форме, калі паэт гаворыць вуснамі народа, характэрны не толькі першаму этапу (1906-1907 гг.) творчасці паэта (тут гэта з'яўляецца пануючым), яны таксама ўласцівы лірыцы паэта і наступных этапаў (1908 1911 гг., 1912-1916 гг.), праўда, у меншай ступені. Так, на другім этапе, у перыяд змрочнай рэакцыі, не гледзячы на разгубленасць паэта, у асобныя моманты ён страсна, як паэт прыгнечанага народа, выкрываў самаўладства:

Ой, стары парадак,
Як ты назаляеш!
Тузаеш ты, ломіш,
Скуры з нас здзіраеш.

Здзекуешся з нас ты,
Гнеш ты нас бясконца,
З-за цябе не бачым
Ні дабра, ні сонца. („Старому парадку“, 1907 г.)

У вершы „Цемра“ (1909 г.) паэт дае выключны па сваёй праўдзівасці і мастацкай прастаце малюнак уціску беларускіх сялянскіх мас.

Ад імя гэтых народных мас паэт выносіць смяротны праклён усім прыгнятальнікам:

Эй, вы, дармаеды,
Моль вы, вош людская!
А хто-ж вас, праклятых,
На плячах трымае?

Ён гнеўным голасам пагражае:

Але пачакайце,
Помніце, псякосці!
Эх, прыпомнім крыўды
Мы вам, ягамосці! („Горкая доля“, 1909 г.)

У вершы „Малебен“ (1908 г.) паэт з пякучым сарказмам выкрываў цара:

Адслужым малебен.
Ці-ж цар нам патрэбен?
Патрэбен ён, братцы,
Як прус у аладцы,
Як у мосце дзірка,
Як з гразі зацірка,
Як скула-балячка.

Нават на этапе змрочнай рэакцыі, калі паэт знаходзіўся ў турме, ён патрабаваў ад песняра такіх песень, каб яны грымелі пяруном:

Скажы, як ў няволі жывецца,
Як нам шыі здушыла ярмо,
Як душа наша томіцца, рвецца
Як жыццё прападае дармо.
(„Песняру“, 1910 г.)

Паэт, будучы ў турме, не пераставаў з вялікім абурэннем, страсным, гнеўным голасам выступаць супроць „катаў народнае волі“.

Эх, каты вы, каты народнае волі!
Нашто збудавалі астрог?
(„У астрозе“, 1910 г.)

Аднак, у часе змрочнай рэакцыі (1908—1910 гг.) у лірыцы Коласа дамініруючымі настроямі з'яўляюцца настроі расчараванасці і разгубленасці. Моцныя рэвалюцыйна-дэмакратычныя заклікі на барацьбу з царызмам і памешчыкамі адыходзяць на задні план. Гэта здарылася таму, што паэт да таго, як царызм кінуў яго ў турму, працуючы ў газеце „Наша ніва“ паддаўся ўплывам буржуазнай нашаніўскай ідэалогіі, якая пахіснула паэта з ранейшых рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцый у бок рэфармісцка-буржуазных нацыяналістычных ідэй.

„Наша Ніва“ была тым месцам, дзе ў час рэакцыі сабралася контррэвалюцыйная беларуская буржуазія, якая сваёй дзейнасцю, прапагандуючы на старонках сваёй газеты сталыпіншчыну, нацыяналізм, атручвала свядомасць працоўных мас. Якуб Колас знаходзіўся некаторы час у гэтым нашаніўскім літаратурным асяроддзі, якое накіроўвала паэта па нацыялістычным шляху, і ў сваёй творчасці гэтага часу ён аддае значную даніну буржуазнаму рэфармізму і нацыяналізму („Школьная работніца“, „Аратаму“, „Агляд зямлі“ і інш.).

Але ўсё-ж за астрожнымі кратамі паэта не пакідалі рэвалюцыйныя настроі, ён не забываў працоўнага народа, думаў аб яго вызваленні і, не знаходзячы сапраўдных і канкрэтных шляхоў вызвалення, часамі сумняваўся, сумаваў смуткам грамадзяніна, хварэючага за свой народ.

На трэцім этапе, напярэдадні імперыялістычнай вайны і ў часе яе, нашага паэта не пакідалі рэвалюцыйна-дэмакратычныя настроі.

У часе рэвалюцыйнага ўздыму, які пачаўся напярэдадні імперыялістычнай вайны, прыгнечаны народ зноў паставіў у парадак дня патрабаванні „зямлі і волі“, ідучы ў бойку супроць царызма і памешчыкаў. У вершы „Тры жаданні“ (1911 г.) паэт, выражаючы жаданні працоўнага сялянства, заклікае яго на рэвалюцыйную барацьбу з прыгнятальнікамі.

Хочам жыцця мы і волі,
Цяжка нам насіць ярмо.
Не спадзе яно ніколі,
Не спадзе яно само.

Такім чынам, з аналізу ідэйна-палітычнай асаблівасці праяўлення лірычнага вобраза, можна бачыць, што асабліва ў вершах этапу рэволюцыі 1905—07 гг. і рэволюцыйнага ўздыму 1911—1912 гг. лірычнае „я“ паэта; прасякнутае моцным рэволюцыйным пафасам, праяўляецца ў своеасаблівай лірычнай форме атоесамлення сябе з вялікім калектывам прыгнечаных. Праз гэту форму праяўлення лірычнага „я“ паэта вельмі ўдала раскрываецца тэма соцыяльнага і нацыянальнага вызвалення працоўных мас беларускага сялянства.

У коласаўскай лірыцы гэтага часу мы знаходзім даволі значную групу вершаў, дзе паэт заўсёды гаворыць простымі словамі асноўных мас сялянства, атоесамліваючы сваё лірычнае „я“ з калектыўным „мы“ працоўнага народу.

Гэтая лірычная форма атоесамлення сведчыць аб вельмі моцнай арганічнай сувязі паэта з народам. Яна сведчыць аб глыбокай народнасці коласаўскай лірыкі, аб яе непасрэднай сувязі з фальклорнай сялянскай лірыкай, дзе паэтычная асаблівасць лірычнага вобраза заключаецца, галоўным чынам у тым, што *вобраз самаго паэта ёсць вобраз народа.*

Гэта ідэйна-паэтычная асаблівасць лірычнага вобраза коласаўскай лірыкі вельмі часта праяўляецца ў форме пераўвасаблення лірычнага „я“ паэта ў вобразы мужыка, батрака, астрожніка, салдата і проста адзінокага чалавека.

У вершы „Асадзі назад“ паэт у форме лірычнай непасрэднасці з палкім гумарам, сатырычна паказвае бяспраўнасць селяніна, якога адусюль праганяюць і якому ўсюды крычаць „асадзі назад“:

Божа ты мой мілы!
Б'юся я, як гад,
Толькі-ж дзе ні ткнуся:
—„Асадзі назад!“

У другім вершы пад назвай „Мужык“, напісаным у 1909 г. у часе разгула лютай рэакцыі, калі царызм жорстка распраўляўся з рэволюцыйным народам, паэт гаворыць горкую праўду аб цяжкім жыцці селяніна-бедняка:

Я—мужык, я—сын бядоты,
Недаем і недасплю,
Гнусь пад цяжарам работы,
Дзень працую за два злоты,
Здзекі ўсякія цярплю.

Вуснамі гэтага мужыка паэт заклікаў браць стрэльбы і ісці узброеным паўстаннем змагацца супроць царызма і памешчыкаў:

Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
—„Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!“
(„Мужык“, 1909 г.)

Свае мары аб разняволенні працоўных мас, свае думкі аб волі паэт апасрэдвае ў вобразе адзінокага чалавека або батрака і праз гэты вобраз гаворыць:

Даражэй за ўсё свабода!
Ды што плакацца дарма?
Воля, воля! Толькі шкода,
Што цябе нідзе няма.

. . . . . . . . .

Горка быць мужычым сынам.
Багач ззяе ў пазалоце,
Мужык бедны мрэ ў бядоце.
Эх, нашто ўздыхаць па волі,
Калі я не маю долі.
(„З песень адзінокага“, 1910 г.)

У вершы „Каханне“ (1907 г.), паэт дае вобраз батрака ў інтымных пачуццях кахання і разам з гэтым паказвае свае адносіны да царскай паліцэйшчыны:

Я-ж быў шчаслівейшы
На свеце батрак,
Ішоў, не баяўся
„Шнуроў і сабак“.

На трэцім этапе, у часе рэвалюцыйнага ўздыму, напярэдадні імперыялістычнай вайны, наш паэт у форме пераўвасаблення свайго лірычнага „я“ гаворыць:

Не крычы, пан: „Прэч з дарогі!“
Што з того, што я мужык?
А ўжо гнуцца, як убогі.
І я, бачыш ты, адвык.
(„На дарозе“ 1912 г.)

Часта Якуб Колас у сваёй лірыцы стварае вобраз асобы, які нагадвае эпічны вобраз-персанаж і праз гэты вобраз выяўляе сваё лірычнае „я“.

Так, у вершы „Не дамся“ (1909 г.) даецца вобраз селяніна, засаджанага ў астрог за рэвалюцыйныя ўчынкі, які настойліва і цвёрда заяўляе:

Не, мяне не справяць кары,—
Толькі злосці паддадуць.

Гэтую-ж форму лірычнага апасрэдвання мы маем у вершы „Як і калісь“ (1912 г.), дзе даецца вобраз селяніна, які „ўзбунтаваўся супроць улады ды парадку“, і ў вершы „Думкі салдата“ (1916 г.), дзе рысуецца вобраз салдата імперыялістычнай вайны, праз якога паэт заяўляе рашучы рэвалюцыйны пратэст супроць імперыялістаў. Вуснамі салдата паэт гаворыць:

Эх за што? Ну, за што, адкажыце вы мне
Я павінен другіх знішчажаць?
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Вы, што селі ў гары, як вас, каты, назваць?
Не шкада вам нявінных людцоў.
Самадурства сваё вы гатовы купляць
Мільёнамі нашых галоў!

Даючы вобраз селяніна-бедняка, паэт праз гэты вобраз гаворыць нам аб сваёй веры ў прыход рэволюцыі:

Бо я цвёрда веру ў тое,
Што наш засеў у полі дзікім
Гневам вырасце вялікім
І затопіць усё злое,
Усё няшчасце векавое.
(„Эх, скажы мне...", 1912 г.)

З аналіза лірычнага апасрэдвання паэтам свайго лірычнага „я" ў форме пераўвасаблення яго ў вобразах мужыка, батрака, салдата, астрожніка і проста адзінокага чалавека вынікае, што гэтай формай паэт карыстаецца, галоўным чынам, на этапе рэволюцыі (1905—07 гг.), рэволюцыйнага ўздыму (1911—12 гг.), што яна з'яўляецца сродкам праяўлення эмоцый, непасрэднага пачуцця, задушэўнасці паэта ў рэалістычным паказе сапраўднасці. Коласаўская паэтычная асаблівасць пераўвасаблення лірычнага „я", таксама як і асаблівасць атоесамлення паэтам самога сябе з калектывам народу, сведчаць аб глыбокай народнасці паэзіі Коласа.

Такія асаблівасці праяўлення свядомасці паэта ўласцівы не толькі лірыцы Якуба Коласа. Гэтыя паэтычныя асаблівасці, як найбольш адпавядаючыя выражэнню рэволюцыйных настрояў і сувязі паэта з народам, шырока выкарыстоўвалі ў сваёй лірыцы паэты-дэмакраты—Тарас Шэўчэнка, Некрасаў і інш. Гэта гаворыць за тое, што лепшае ў дарэволюцыйнай паэзіі Коласа роднае і блізкае рэволюцыйна-дэмакратычнай паэзіі Шэўчэнкі і Некрасава.

2

Часта паэт бярэ для праяўлення свайго лірычнага „я" канкрэтны факт матэрыяльнай рэчаіснасці, прыроды або грамадскага жыцця селяніна і рэалістычна зарысоўваючы пэўны прадмет або з'яву, разам з тым усведамляе сябе як прадстаўніка прыгнечанага народа і паказвае свае адносіны да соцыяльнай рэчаіснасці або прыроды. Так, напрыклад, у вершы „Дарога" паэт дае ў чатырох страфах рэалістычную пейзажную зарысоўку звычайнай вузкай дарогі, а ў пятай страфе—яквывад—такое лірычнае, з клічнай інтанацыяй, заключэнне:

Ой, дарога сцежка
Вузкая, крывая!
І ты жыцце наша
Ты доля, такая!
(„Дарога", 1907 г.)

Пры зарысоўцы месяца, які адзінока ходзіць у небе над зямлёй, паэт не любуецца яго прыгожасцю, не эстэтствуе, а пытае:

Неразгаданы, далёкі,
Што ты бачыш пад сабой?

І тут-жа Колас свае думкі і пачуцці, усё тое, што ён бачыў і чуў у тагочаснай соцыяльнай рэчаіснасці перадае не ад сябе, а ад месяца, пасля звяртаючыся да месяца гаворыць:

Бачыш слёзы ты людскія,
Як з расою тэй ліюцца,
Як без хлеба і без долі
Працавіты люд наш гнецца.
(„Месяц", 1907 г.)

Пры зарысоўцы мяцеліцы, вецер у Коласа становіцца лірычным вобразам, праз які выяўляюцца суб'ектыўныя настроі паэта:

> Ой, ты, вецер, сын прастору!
> Ты-ж аб чым галосіш?
> Ці не гэта маё гора
> У палёх разносіш.
> („Мяцеліца", 1910 г.)

Пры пейзажнай зарысоўцы вясны лірычная думка паэта аб свабодзе, аб сіле грамады ўкладаецца ў спеў ручайкоў:

> Мы імчым, мы гонім воды,
> Затапілі мы брады,
> Дружнасць—першы крок свабоды,
> Згода—сіла грамады!
> („Песня вясны", 1910 г.)

Такім чынам, з прыведзеных прыкладаў відаць, што з асаблівасцю праяўлення лірычнага „я" паэта ў фактах і з'явах аб'ектыўнай рэчаіснасці звязана мастацкая асаблівасць коласаўскага лірычнага пейзажа.

Гэта асаблівасць пейзажа галоўным чынам заключаецца ў тым, што Колас ва ўсіх сваіх лірычных творах, прасякнутых рэвалюцыйна-дэмакратычнай накіраванасцю і рэалізмам, не эстэтствуе над пейзажнай зарысоўкай, а падае нам яе для таго, каб больш яскрава адцяніць праўдзівы паказ соцыяльнага жыцця.

Напрыклад, у вершы „Наш родны край" (1906 г.) паэт дае глыбока рэволюцыйную замалёўку пейзажа старой прыгнечанай Беларусі:

> Край наш бедны, край наш родны!
> Лес, балоты ды пясок...
> Чуць дзе крыху луг прыгодны...
> Хвойнік мох ды верасок.
> Наша поле кепска родзіць.
> Бедна тут жыве народ,
> У гразі жыве ён, ходзіць,
> А працуе—льецца пот.

Такая асаблівасць лірычнага пейзажа ўласціва лірыцы Коласа галоўным чынам перыяда рэволюцыі 1905–07 гг.

Праблема волі, праблема вызвалення з-пад уціску царызма і памешчыкаў у дакастрычніцкай лірыцы Коласа займае адно з цэнтральных месц. Гэта мы бачылі на аналізе лірычнага вобраза палітычнай лірыкі. І ў пейзажнай лірыцы Колас ставіць гэтую-ж праблему.

У вершы „Вейце, ветры, на прасторы" (1907 г.), прырода, у прыватнасці з'явы буры і грому, падаюцца паэтам у плане рэволюцыйнай сімволікі.

> Толькі ў страшных песнях буры
> Наш слабы акрэпне дух,
> Смелым стане ўзгляд пануры,
> Чуткім зробіцца наш слух!—
> Так гуляйце-ж, ветры ў полі,—
> Неба гнеў і гнеў зямлі
> Каб зліліся ў песню волі,
> Хваляй сілы пацяклі.

Тое-ж самае мы маем і ў вершы „Першы гром“ (1910 г.), дзе гром з'яўляецца сімвалам свабоды і азняволення. Гэта асаблівасць лірычнага пейзажа збліжае нашага паэта з лірычнымі асаблівасцямі пейзажа вялікіх рускіх паэтаў А. С. Пушкіна, і Н. А. Некрасава, у якіх Колас вучыўся і магчыма запазычыў асобныя матывы.

3

Нязначная частка вершаў напісана так, што паэт гаворыць непасрэдна ад свайго уласнага „я“. Напрыклад:

Як хацеў бы я
Па палёх прайсціць
І ўпіцца іх
Пахам-росамі.
(„Як хацеў бы я“, 1910 г.)

Або:

Высокі Бераг, родны, мілы!
Люблю я твой пясчаны скат
І хвоек нізкіх гурт пахілы,
Капцоў гранічных цэлы рад.
(„Высокі Бераг“, 1915 г.)

У такой форме праяўлення лірычнага вобраза напісаны вершы, прасякнутыя рамантыкай разгубленасці, галоўным чынам коласаўскія элегіі: „Родныя песні“—1909 г., „Родныя абразы“—1908 г., „Сохну марна я ў вастрозе“—1910 г., „Маёй вясне“—1910 г., „Дзве дарогі“—1917 г., „Яшчэ адзін усход мінаю“—1917 г. і інш. На асаблівасці коласаўскай элегіі мы застановімся пры разглядзе жанраў.

З разгледжаных асаблівасцей лірычнага вобраза вынікае, што коласаўскае лірычнае „я“, лірычны вобраз яго паэзіі, часцей за ўсё арганічна звязан з соцыяльнай рэчаіснасцю і матэрыяльнай прыродай. Адсюль, канкрэтная вобразная прадметнасць у лірыцы; падаўляючая большасць вершаў, як мы бачылі, гэта не абстрактна-псіхалагічнае капанне ў сваіх суб'ектыўных пачуццях, як гэта было ў лірыкаў-дэкадэнтаў, а канкрэтнае рэалістычнае адлюстраванне соцыяльнага жыцця грамады і прыроды. Лірыка носіць галоўным чынам ідэйна-соцыяльны характар. Лірычны вобраз у пераважнасці мае апавядальна-апісальную форму. Прычым, гэта форма заўсёды прасякнута непасрэдным коласаўскім лірызмам. Пры апавядальным апісанні, напрыклад, быта мужыка-бедака (верш „Мужык“ 1908 г., „Пахаванне“ 1908 г., „На прадвесні“ 1908 г.), сяла або вёскі („Сяло“ і „Вёска“ 1908 г. і інш.), пейзажнай замалёўкі („Вецер“, „Неба“, „Край наш родны“ і інш.)—заўсёды— і гэта амаль у кожным вершы,—маецца адна або некалькі лірычных сентэнцый, вывадаў, заключэнняў паэта або наогул аб жыцці, або аб сабе самім. Так, у вершы „Мяцеліца“ спачатку даецца мастацкая зарысоўка мяцеліцы:

Нізка звіслі над зямлёю
Хмары снегавыя,
Свішча вецер за сцяною,
У коміне вые.
Лес гудзе, дрыжаць галіны,

Стогне бор хваёвы,
Злосна выюць верхавіны,
Гнуцца іх галовы.
Белым пылам даль закрыта,
Ходзяць ветры вірам,
Прасяваюць снег на сіта
У бясконцай шыры.

А ў заключэнне гэтай пейзажнай зарысоўкі даецца лірычны вывад суб'ектыўных думак паэта аб свабодзе, аб вольных песнях:

Эх, гуляюць віхры ў полі
Ветравыя дзеці.
Як зайздрошчу я іх долі—
Вольна песні пеці!

Гэтых прыкладаў,—а іх можна было-б значна павялічыць,—дастаткова для таго, каб паказаць, якім чынам у Коласа спалучаецца апавядальна-апісальны або эпічны момант з лірычным, але пры эпічным апісанні прадмета або з'явы прыроды амаль заўсёды гэтае апісанне прасякнута лірызмам настолькі, што лірызм з'яўляецца дамінуючым. Такім чынам, у лірыцы Коласа першага перыяда суб'ектыўна-эмацыянальны настрой паэта, лірычны вобраз, галоўным чынам праяўляецца ў апавядальна-апісальнай форме, кароткіх рэалістычных зарысоўках рэчаіснасці, праз якія заўсёды прасвечваецца лірычнае „я" паэта.

## II. Асаблівасці лірычных жанраў

З асаблівасцямі лірычнага вобраза вельмі цесна звязаны асаблівасці лірычных жанраў.

Жанры коласаўскай лірыкі аднастайны, але своеасаблівы. У ёй мы не знаходзім класічна-кананічных лірычных жанраў: трыалета, санета, рандо, тэрцыны і інш. Жанры ў дарэвалюцыйнай лірыцы Коласа вельмі простыя. Дамінуючым жанрам з'яўляецца такі лірычны верш, дзе ў простай форме апісваецца жыццё беларускага селяніна і з'явы прыроды. Прычым, гэта апісанне робіцца так, што заўсёды лірычнае „я" паэта прысутнічае за апавядальнай формай і праяўляецца ў некалькіх радках або строфах верша, як вывад, як ацэнка, як выяўленне свайго настрою. Гэты лірычны настрой з'яўляецца дамінуючым; ён, як лірычны пафас усяго верша, прасякае сабой апісальна-апавядальны элемент і гэтым самым робіць твор не эпічным, а лірычным, або ліра-эпічным. Гэта можна бачыць з усіх тых твораў, якія адлюстроўваюць сялянскае жыццё, быт і беларускую прыроду. Напрыклад, такія вершы, як „Наш родны край" (1906 г.), „Нёман" (1906 г.), „Наша сяло" (1908 г.), „Вёска" (1908 г.), „Дарога" (1909 г.), „Каля парога" (1909 г.), „Жыта" (1909 г.), „Жніво" (1909 г.) і інш.

Усе толькі што прыведзеныя вершы выконваюць рэалістычную і рэвалюцыйна-дэмакратычную ролю, у іх паэт канкрэтна паказвае жыццёвыя факты, падаючы іх у адпаведным паэтычна-простым стылістычным афармленні.

Ва ўсіх гэтых лірычных творах, як мы адзначылі, у наяўнасці цеснае спалучэнне апавядальна-апісальнай, або эпічнай формы

з глыбокім лірызмам, дзякуючы якому, гэтыя вершы адрозніваюцца ад вершаваных навел („Зяць“, 1906 г., „Паслушная жонка“, 1909 г., „За дождж“, 1909 г., „Паўлюкова бяда“, 1910 г., „Батрак“, 1910 г., „Першы заработак“, 1910 г., „Прапаў чалавек“, 1911 г., „Як Янка забагацеў“, 1911 г.).

Невялікая частка лірычных вершаў Коласа носіць элегічны характар. Гэтыя элегіі напісаны ў плане размышлення паэта аб жыцці, аб маладосці, аб смерці і інш.

Сюды адносяцца: „Моладасць“, 1906 г., „Пытанне“, 1907 г., „Могілкі“, 1906 г., „Перад восенню“, 1910 г., „Раздум'е“, 1910 г., „Забытая магіла“, 1910 г., „У цемры“, 1910 г., „Маёй вясне“, 1910 г., „Родныя песні“, 1909 г., „Родныя абразы“, 1909 г., „Дзе-б не быў я“, 1910 г., „Як хацеў бы я“, 1910 г., „Думкі“, 1910 г., „Дзве дарогі“, 1917 г., “Яшчэ адзін усход мінаю“, 1917 г.“ і інш.

Коласаўскія элегіі ў большасці навеяны сумнымі ўспамінамі паэта аб прайшоўшай маладосці, якая „пралятае, як вясна мілая“ („Моладасць“). Напрыклад, пры пейзажнай зарысоўцы вясенняга лесу, паэт гаворыць яму, каб ён не журыўся і не маркоціўся, бо прыдзе вясна: „Жыццё новае табе вернецца, зашуміш, ты лес, гучна лісцямі“ і разам з гэтым паэт успамінае аб сабе, аб сваёй маладосці—вясне і з лірычным жалем ускліквае: „А мая вясна, мая мілая, ужо не вернецца, ой не вернецца! („Перад восенню“, 1910 г.).

Ёсць элегіі, у якіх паэт разважае аб чалавечым жыцці наогул („Раздум'е“, 1910 г., „Забытая магіла“), аб жыцці мужыка-бедака („Могілкі“, 1907 г., „Пытанне“, 1907 г.), аб чорнай рэакцыі, наступіўшай пасля часовага паражэння рэволюцыі 1905 г. („Пад спеў ветру“, 1908 г., „Бездараж“, 1909 г., „У дарозе“, 1909 г., „Дзе вы“, 1909 г.), аб лёсе роднай краіны („Родныя абразы“, 1910 г., „Родныя песні“, 1909 г., „Восень у гаю“, 1916 г.), аб імперыялістычнай вайне („На рэчцы“, 1916 г., „Дзве дарогі“, 1917 г.).

Усе гэтыя вершы з элегічнымі матывамі выражаюць сабой ідэйную разгубленасць, рамантычную і нацыяналістычную настраёвасць паэта, што часамі (асабліва ў час рэакцыі 1908-1910 гг.) праяўлялася ў яго творчасці. У жанры элегіі ў коласаўскай лірыцы праяўляецца сімвалістычна-дэкадэнцкая філасофія, якая часамі мела свой уплыў на паэта. Гэта заметна на такіх элегіях, як „Забытая магіла“, дзе паэт падобна паэтам сімвалістам-дэкадэнтам разважае: „як міг жыццё ты чалавечча, дыхнуў віхор і згінуў след“, або ў вершы „Раздум'е“ (1910 г.): „І ты, чалавеча, як снег у адлігу, упаў, і сканаў і няма“.

Апісваючы імперыялістычную вайну, Колас упадае ў песімістычную разгубленасць і робіць свой вывад: „І ўсё спачыне, спазнае свой час, а людзям ці будзе спакой!“ („На рэчцы“, 1916 г.).

У элегіі „Дзве дарогі“ Колас, апісваючы ўход на імперыялістычную вайну, элегічна разважае:

А я еду, госці лета,
Ў той далёкі вір,
Дзе вар'яцтва ўсяго свету
Свой спраўляе пір.

Апрача звычайнага верша і своеасаблівай элегіі ў лірыцы, у Коласа можна часта спаткаць баладу („Пад новы год“, 1913 г., „Матчына прычытанне“, 1910 г., „Няшчасная маці“, 1912 г., „На адзіноце“, 1909 г. і інш.). Гэтыя коласаўскія балады пабудаваны, галоўным чынам, на фальклорна-казачных матывах, часам на містычнай забабоннасці адсталых мас сялянства. У гэтых баладах часцей за ўсё выяўляюцца рэакцыйна-рамантычныя настроі, што часам знаходзілі сваё месца ў творчасці паэта. Гэта можна бачыць з балады „Пад новы год“ (1913 г.), „Рыну“ (1916 г.). Гэтыя балады пабудаваны толькі ў рамантычна-фантастычным плане; рэалістычны план амаль адсутнічае. У такім-жа плане пабудавана большасць коласаўскіх балад.

Вельмі часта можна спаткаць у коласаўскай лірыцы такія вершы, якія носяць юмарыстычна-сатырычны характар. У сатырах Колас часцей за ўсё выкрывае царскі суд, царскую паліцыю, чыноўнікаў і інш. Напрыклад, у такім кароткім вершы, як „У судзе“ Колас, укладаючы свае словы ў вусны селяніна, выкрывае царскі суд. Асабліва вызначаецца сваёй сатырычнасцю канцоўка верша. Пасля таго, калі селяніна, якога за пакражу жыта ў полі суд пастанаўляе пратрымаць год у турме, член суда гаворыць селяніну:

А турму ты як адбудзеш—
Кажа член, каб горш кальнуць—
Дык правоў тых мець не будзеш,
Нават соцкім не збяруць,

а селянін у гэты момант:

Пакланіўся асцярожна,
Янка члена стаў пытаць:
„Мой паночку! Ці не можна
Тых правоў і з сына зняць“.

А вось як у вершы „Першае знаёмства“ Колас у сатырычна-юмарыстычнай форме высмейвае царскую паліцыю:

Помню, помню тую ночку.
Не забуду я той час.
Пеў салоўка у садочку,
Зор цягнуўся ў небе пас.
І прышла ты нечакана,
Сама строгая прышла!
І са мною аж да рана
Тую ночку правяла.
Загадала першым дзелам
„Рукі ўгору“ мне падняць
Ды кішэні аглядзела,
Нават кіцель мусіў зняць.
Ты набрала маіх кніжак
Два партфелі і прыпол,
А каб быць знаёмым бліжэй,
Напісала пратакол.

Сатыры, прысвечаныя высмейванню царскага суда, паліцыі, выкрыццю царскай „канстытуцыі“, цара, самаўладства („Канстытуцыя“, 1908 г., „Мікалаю II“, 1908 г., „Старому парадку“, 1909 г.), выконваюць рэвалюцыйна-дэмакратычную ролю. Гэтыя сатыры

адрозніваюцца ад элегіі дынамічна-мажорнымі матывамі, а іхняя лексіка—рэалістычнай меткасцю і вастрынёй. Разам з гэтым у Коласа мы сустракаем і такія вершы юмарыстычнага парадку, у якіх паэт высмейвае паводзіны п'янага селяніна.

Годзі, жонка! Ну, не лайся:
Больш гарэлкі ані ў зуб.
Калі вып'ю, ну, хоць кроплю,
Дык мяне цягай за чуб!
Сам, нябож, я добра знаю,
Што з гарэлкі свет гарыць...
Тфу, паскудства! Тфу, брыдота!
Хоць зарэж, не буду піць.
Ой-не раз я гэта чую!
Заракалася свіння
За вугол хадзіць, Тарасе,—
І табе не веру я.
(„Пахмелле", 1911 г.)

У такім-жа юмарыстычным плане напісана і яшчэ некалькі вершаў, як, напрыклад, „Песня п'янага" (1912 г.) і інш. Гумар Коласа накіраван на высмейванне асобных бытавых бакоў жыцця селяніна.

Такім чынам, у дакастрычніцкай лірыцы Коласа з лірычных жанраў мы знаходзім: 1) Звычайны верш, як асноўную, дамінуючую жанравую форму, дзе вельмі цесна спалучаюцца лірычны і эпічны элементы. Гэта жанравая форма нясе, падпарадкоўваючыся ідэйна-класавай накіраванасці паэта, дваістую функцыю. У адных лірычных вершах, напісаных у час рэволюцыі 1906-07 гг. і рэволюцыйнага ўздыму 1911-12 г., выражаецца рэволюцыйна-дэмакратычная накіраванасць паэта, а ў другіх вершах, напісаных, галоўным чынам, у час рэакцыі 1908-1910 гг., нацыяналістычную разгубленасць Коласа. 2) Элегію, у якой галоўным чынам праяўляецца рамантычна-адцягненая настраёвасць паэта, што наглядалася часамі ў развіцці Коласа дакастрычніцкай пары (на этапе рэакцыі 1908-10 гг. і імперыялістычнай вайны 1914-16 гг.). 3) Баладу, якая нясе ў лірыцы Коласа тую-ж самую ідэйную функцыю, як і элегія. 4) Сатыру, у якой Колас высмейвае царскі суд, царскую паліцыю, самаўладства. 5) Вершы гумарыстычнага жанру, напісаныя ў плане лёгкага гумару на п'янага селяніна, які п'е з гора, п'е не зважаючы на тое, што ў яго „кажух парваны", што ён „бедны" і інш. („Песня п'янага", 1912 г.).

### III. Асаблівасці лірычнай рытмікі

Рэволюцыйна-дэмакратычны змест і часам настрой разгубленасці ў дарэволюцыйнай лірыцы Коласа адпаведным чынам праяўляўся ў кампанентах лірычнай спецыфікі. Гэта мы паказалі ўжо пры разглядзе асноўных асаблівасцей лірычнага вобраза і жанраў. У далейшым пакажам гэта на іншых кампанентах мастацкай спецыфікі.

У паэтычнай метрыцы лірыкі Коласа гэтага часу пераважнае месца займае харэй; ямб сустракаецца радзей. Такія метры, як анапест, амфібрахій і дактыль займаюць нязначнае месца. Іншыя метры, апрача пэонаў, амаль адсутнічаюць. Такім чынам, дамі-

нуючым ва ўсёй лірыцы гэтага перыяду з'яўляецца харэй і ямб. У харэях і ямбах лірыкі Коласа моцна выражан каларыт народнай меладычнасці, народнай песні. Пераважная большасць вершаў— гэта фальклорна-простая мелодыя, песня, у якой Коласам выражаны думы і рэвалюцыйнае імкненне бядняцка-серадняцкіх мас беларускага сялянства ў дакастрычніцкую пару.

Рытміка гэтых песень-вершаў даволі рознастайна: яна цесна звязана з рытмікай фальклорна-сялянскіх песень. У ёй адсутнічае тая ўяўная манатоннасць, якая прыпісвалася нацыянал-дэмакратычнай крытыкай нашаму паэту.

Асабліва гэта заметна на лірычных рэалістычных вершах рэвалюцыйна-дэмакратычнага характару, дзе лірычнае „я“ паэта праяўляецца ў форме атоесамлення з „мы“ прыгнечанага беларускага народа, або ў форме пераўвасаблення ў вобразе бедака, мужыка-батрака і інш. вобразах.

У гэтых вершах асабліва шырока разгорнута пытальная і клічная інтанацыя, якая галоўным чынам выяўляецца ў сінтаксічнай фігуры звароту. Такія вершы, як „Ворагам“, 1906 г., „Кінеце смутак“, 1907 г., „Беларусам“, 1906 г., „Асадзі назад“, 1908 г., „Заклікание вясны“, 1912 г., „Ворагам“, 1916 г.,—пабудаваны выключна на пытальнай і клічнай інтанацыі. Гэта інтанацыя найбольш часта сустракаецца ў вершах з рэвалюцыйна-дэмакратычным зместам. Але ў большасці вершаў у той або іншай ступені гэтыя лірычна-паэтычныя кампаненты ёсць у наяўнасці.

У вышэйадзначаных вершах рэвалюцыйна-дэмакратычнага характару пры дапамозе пытальнай і клічнай інтанацыі лірычны пафас паэта ўзмацняецца і робіць рытміку бадзёрай, імкліва-дынамічнай. Напрыклад:

Багачы і панства
І вы, ўсе брадзягі!
Ў бок з дарогі, каты!
Бойцеся сермягі!
    Чыімі рукамі
    Вы дабро збіралі?
    На чыі вы слёзы
    Добрабыт куплялі? („Ворагам“, 1906 г.)
Ці не брэша поп з амбону,
Што цару бог даў карону?
Ой, не, мусібыць, не так! („Мужык“, 1909 г.)

Апрача гэтых паэтычных сродкаў, клічных і пытальных інтанацый, адзначаных вышэй, у рытміцы лірычных вершаў Коласа гэтага часу сустракаюцца адны досыць часта, а другія рэдка,—розныя рытміка-сінтаксічныя фігуры, якія таксама надаюць рытміцы лірычных вершаў вялікую рознастайнасць і паказваюць на паэтычнае майстэрства Я. Коласа. Гэта асаблівасць рытмічна-сінтаксічных фігур уласціва вялікім паэтам, класікам сусветнай літаратуры: Пушкіну, Гейне, Някрасаву, Шэўчэнка.

Пры дапамозе паэтычна-сінтаксічных фігур у кантэксце верша ўтвараюцца рознастайныя рытмічныя варыяцыі і пераходы. Разам з тым, падпарадкоўваючыся ідэйнай накіраванасці паэта, коласаўскія рытміка-сінтаксічныя фігуры ў розны час і ў розных вершах

нясуць неаднолькавую ідэйную функцыю. Так, напрыклад, сінтаксічная анафара і эпіфара „Прастор, прастор і воля там, але не нам, яны не нам“ („Песні няволі“, 1910 г.), „А прасвету нідзе не відаць, не відаць“ („Цемра“, 1910 г.), у даным выпадку выражаюць сабою журботна-тужлівыя настроі паэта па волі, а ў другім, „Вясна, вясна жаданая, ты вернешся, ты вернешся“ ці „За работу жыва, жыва“ („Кіньце смутак“) наадварот, упэўненасць, бадзёры настрой паэта. Тое-ж самае мы маем і з іншымі рытмічна-сінтаксічнымі фігурамі, Так, напрыклад, у сінтаксічным стыку: „Ды толькі мне не вернешся, не вернешся ты маладасць“, пры дапамозе паўтарэння слоў „не вернешся, не вернешся“ ўзмацняецца рамантычна-элегічны настрой і смутак па прайшоўшай маладосці, а ў другім выпадку: „Жаць пара, пара касіць“—наадварот, шляхам паўтарэння слоў „пара, пара“ ў алегарычнай форме ўзмацняецца заклік да барацьбы. У такім-жа плане выкарыстаны і іншыя рытміка-сінтаксічныя фігуры.

Вялікую ролю ў рытміцы і мелодыцы, слоўнай інструментоўцы коласаўскага лірычнага верша адыгрывае паэтычная фігура страфічнай анафары, якая таксама выконвае не аднолькавую функцыю: у рэвалюцыйна-дэмакратычных вершах яна ўзмацняе іх сцвярджальную сілу. Напрыклад, у вершы „На новы год“ (1907 г.), анафарычнае, „каб“ гаворыць аб рашучым і цвёрдым патрабаванні паэта:

Каб больш слёзы не ліліся,  
Каб не падаў чалавек,  
Каб астрогі запярліся  
Ад людзей на цэлы век;  
Каб казалі, што хацелі,  
Каб не гнуліся, як цяпер,  
Каб са страхам не глядзелі,  
На ўраднікаў каўнер.  
(„На новы год“).

Тое-ж самае мы можам бачыць у вершах „Малебен“ (1908 г. „Старому парадку“ (1909 г.), „Кіньце смутак“ (1907 г.) і інш.

Аднак, у асобных выпадках коласаўская страфічная анафара выражае смуткаванне і журбу паэта, надаючы мелодыцы верша мінорныя матывы. Напрыклад:

Будуць плакаць вочы,  
Будуць рвацца грудзі,  
Будуць чалавека  
Цісвуць доўга людзі.  
(„Пытанне“, 1907 г.).

Анафарычныя „каб“, „як“, „будуць“, „няхай“, „калі“, „нечым“ і іншыя словы, якіх у вершах Коласа можна знайсці вельмі багата, надаюць рытмічную разнастайнасць і меладычнасць вершу.

Разам з гэтым, гэта паэтычная фігура страфічнай анафары падкрэслівае, што лірычная творчасць Коласа вельмі цесна звязана з фальклорна-песеннай лірыкай, якая, як вядома, больш за ўсё пабудавана на разнастайных анафарах.

Такім чынам, рытміка лірычных вершаў Коласа дарэвалюцыйнай пары вельмі разнастайная. Шмат у чым яна нагадвае рытміку Некрасава, паэта „мести и печали“ і украінскага рэвалюцыйна-дэмакратычнага паэта Шэўчэнкі.

Лірычныя вершы Коласа па сваёй страфічнай пабудове, па сваёй песеннай рытміцы, па свайму жанру і кампазіцыі напамінаюць нам народныя песні. Коласаўскі лірычны верш гэта—песня прыгнечаных мас беларускага сялянства. Коласаўскія вершы прасякнуты шчырым лірычным пачуццём і народнай прастатой. Коласаўская паэтычная прастата верша перш за ўсё ідзе ад фальклора і ад вялікіх паэтаў-лірыкаў Некрасава і Шэўчэнкі.

Рытміка дарэвалюцыйнага коласаўскага лірычнага верша ў многіх момантах падобна рытміцы Шэўчэнка. Вось у якой паэтычнай форме перадае нам свае лірычныя пачуцці Тарас Шэўчэнка:

Думи мої, думи мої<br>
Квіти мої діти!<br>
Виростав вас, доглядав вас,—<br>
Две-ж мени вас діти.<br>
Думи мої, думи мої,<br>
Лихо мені з вамі.<br>
На-що сталі на напери<br>
Сумными рядами?

А вось як аб сваіх думках і пачуццях гаварыў наш народны паэт у дакастрычніцкі час:

Ой, вы думкі, думкі,<br>
Сэрца майго раны!<br>
Ці вы мае дзеці,<br>
Ці вы кім насланы?<br>
Што-ж вы завіліся<br>
Віхрам нада мною,<br>
І няма ніколі<br>
Мне ад вас спакою.<br>
І на маю душу<br>
Леглі вы туманам,<br>
Мітуслівым роем,<br>
Смутным караванам.

Тут не толькі фальклорная песеннасць рытмікі, але і задушэўная лірычная·афарбоўка, сам паэтычны пафас верша збліжае Коласа з вялікім паэтам. Гэта сведчыць аб паэтычнай блізасці Коласа да Шэўчэнкі, і нават больш таго—аб ідэйна-класавай роднасці іх талентаў і творчасці.

У дакастрычніцкай лірыцы Якуба Коласа мы знаходзім даволі часта аднолькавую рытмічную структуру верша з некрасаўскай лірычнай рытмікай і мелодыяй, якая ідзе ад народнай „песні, падобнай стогну“ эксплаатуемага мужыка, аб якім з глыбокай журбой, у рытмах, прасякнутых „скорбью народной“, гаворыць Некрасаў.

Даючы тыповы вобраз жыцця рускага мужыка, Некрасаў у паэме „Железная дорога“ першы ў сусветнай літаратуры нарысаваў нам жывы і тыповы вобраз мужыка-беларуса, нядолю-няволю якога працягваў паказваць і апяваць у сваёй творчасці Якуб Колас.

Колас ва ўсёй паўнаце ў сваёй дарэвалюцыйнай творчасці вырысаваў нам вобраз мужыка-беларуса, які доўга знаходзіўся ў няволі і рашуча змагаўся з царызмам і памешчыкамі. Беларускі мужык, голасам якога Колас спяваў свае раннія песні, таксама як і рускі

мужык, паказаны Некрасавым, разам працавалі і разам стваралі сваю „песню, падобную стону“, у цяжкіх умовах жорсткай панска-памешчыцкай эксплаатацыі і царскага прыгнёту. Гэтыя паэтычныя асаблівасці такім чынам збліжаюць Коласа з Некрасавым. Вось прыклад некрасаўскай песеннай рытмікі:

Примиритесь же с музой моей.
Я не знаю другого напева.
Кто живет без печали и гнева,
Тот не любит отчизны своей.

Гэты матыў „печали“ і „мести“ з'яўляецца вельмі тыповым для Некрасава і гэты-ж матыў некрасаўскай лірыкі мы знаходзім і ў нашага народнага паэта. Коласаўская мелодыка верша таксама прасякнута жальбою, гневам, скаргаю, помстаю і любоўю да сваёй радзімы, да мас працоўнага сялянства.

Колас, звяртаючыся да песняра, гаворыць:

Заспявай ты мне песню такую,
Каб мне душу паліла яна,
Каб у ёй ты нядолю людскую
Ї ўсё вычарпаў гора да дна.
Скажы як у няволі жывецца,
Як нам шыю здушыла ярмо,
Як душа наша томіцца, рвецца,
Як жыццё прападае дармо.
(„Песняру“, 1908 г.)

У гэтым песенным коласаўскім рытме з усёй паўнатой адчуваецца некрасаўская рэволюцыйна-дэмакратычная паэтычная сіла, некрасаўская „печаль и месть“, адчуваецца песня „падобная стону“, якім была перапоўнена і беларуская зямля ў часы царызма. Гэтым стогнам, смуткам і абурэннем прасякнута мелодыка дарэволюцыйнай лірыкі Якуба Коласа. Лірыка Коласа, будучы арганічна звязана з народнай творчасцю, па сваёй рытміцы нясе і непасрэдныя ўплывы фальклорнай песні. Коласаўская рытміка часам вельмі цесна сутыкаецца з рытмічнымі асаблівасцямі паэзіі Кальцова і Нікіціна. У галіне рытмікі і слоўнай інструментоўкі для прыкладу можна параўнаць „Крестьянскую пирушку“ і „Лес“ Кальцова з рытмікай і слоўнай інструментоўкай вершаў Коласа „Перад восенню“ і „Дуб“ (1910 г.); „Ночлег в деревне“ Нікіціна з вершам Коласа „Вёска“ (1908 г.) і інш.

## IV. Асаблівасці лірычнай кампазіцыі

Асаблівасці лірычнай кампазіцыі коласаўскай дакастрычніцкай лірыкі звязаны як з ідэйнай накіраванасцю вершаў, так і з асаблівасцямі лірычнага вобраза, што былі разгледжаны вышэй.

Строфы лірычных вершаў Коласа аднастайны; яны пабудаваны галоўным чынам па прынцыпу крыжаваных рыфмаў (рэдка абхватнай або выключна жаночай, або ў скрыжаванні жаночай з мужчынскай поўнай і няпоўнай). Рыфмавыя асанансы і дактылічныя рыфмы сустракаюцца вельмі рэдка. Сустракаюцца вершы з 4-радковымі строфамі зусім без рыфмы, пабудаваныя выключна на рыт-

мічна-меладычнай аснове („Вясной“, „Перад восенню“, „Дуб“ 1910 г.). Часта паэт сваю страфу будуе пры дапамозе анафары („На новы год“, 1907 г., „Мужычая ніва“, 1907 г.). Напрыклад:

Каб казалі, што хацелі,
Каб не гнулісь, як цяпер,
Каб са страхам не глядзелі,
На ураднікаў каўнер.
(„На новы год“, 1907 г.)

Ой, мужыча ніва!
Ты сіротка ў полі:
Няма табе шчасця,
Няма табе долі!
Ой, ты, ніва наша!
Ці-ж ты не арана
Ці-ж мужычым потам
Ты не палівана?
(„Мужычая ніва“, 1907 г.)

Ёсць строфы, пабудаваныя на аснове выключна рытарычных пытанняў і клічных інтанацый (вершы: „Ворагам“, 1906 г., „Закліканне вясны“, 1912 г. і інш). Такая структура ўласціва рэвалюцыйна-дэмакратычным вершам Коласа.

Ёсць моманты, калі страфа будуецца на аснове эпіфарычнага стыку:

Ды толькі мне
Не вернешся,
Не вернешся,
Ты моладасць!
(„Вясна“, 1910 г.)

Апрача гэтага ёсць строфы, пабудаваныя выключна на псіхалагічным паралелізме; гэта значыць на асаблівым тэматычным супастаўленні з'явы прыроды з сваімі душэўнымі перажываниямі. Напрыклад:

То не дуб у бары,
Заскрыпеў, застагнаў,—
Гэта я без пары
Богу душу аддаў.
(„Мужык“, 1908 г.)

Коласаўская лірычная 4-радковая страфа вызначаецца фальклорна-песеннай прастатой.

Разгледзеўшы, такім чынам, кампазіцыйную асаблівасць коласаўскай лірычнай страфы, паглядзім цяпер, як гэтыя строфы спалучаюцца ў цэлыя вершы. Перш за ўсё, пры разглядзе кампазіцыі цэлых лірычных вершаў, трэба звярнуць увагу на колькасць строф, з якіх складаюцца вершы. Самы меншы лірычны верш складаецца з адной і часцей за ўсё двух строф, а самы большы— з 27—53. Дамінуючымі з'яўляюцца вершы памерам ад 4-х да 10 строф.

Мы вышэй устанавілі, што паэтычная асаблівасць лірычнага вобраза коласаўскай дарэвалюцыйнай лірыкі заключаецца ў тым, што лірызм, галоўным чынам, праяўляецца ў апавядальна-апісальнай або эпічнай форме пейзажна-бытавых зарысовак рэальнай рэчаіснасці (прыроды, быту старой вёскі). А таму ў Коласа

пераважная колькасць лірычных вершаў пабудавана так, што заўсёды ў большай або меншай ступені маецца своеасаблівае спалучэнне лірычнага і эпічнага. Гэта робіць своеасаблівы ўплыў на кампазіцыю коласаўскіх вершаў.

Разгледзім характэрныя прыклады кампазіцыйнай пабудовы.

Вось верш „Вецер“ (1908 г.); ён складаецца з 4-х строф. Ідэйна-лірычны пафас гэтага верша заключаецца ў тым, што паэт, апісваючы з'яву прыроды—„неспакойны вецер“—параўноўвае сябе з гэтым ветрам, як „братам па долі“. Гэтаму адпавядае і кампазіцыйная пабудова верша. Першая страфа заключае сабой лірычны зачын і пачынаецца радком клічнай інтанацыі, якая к канцу страфы становіцца апавядальна-апісальнай, спакойнай. Напрыклад:

> Ой, ты, вецер неспакойны,
> Дзмеш ты безустанку,
> Адну песню нам спяваеш,
> Адну баеш байку.

Гэтая апавядальна-апісальная, спакойна-манатонная інтанацыя, у першай страфе падтрыманая аднаслоўнай анафарай „адну“, у другой і 3-й страфе, пры дапамозе анафары „то“ прадаўжаецца:

> То заплачаш сіратою
> Над убогай хатай,
> То застогнеш, як над нівай,
> Селянін-араты,
> То засвішчаш за вугламі,
> Жалем разальешся,
> То сярдзіта ў дзверы стукнеш,
> Злосна засмяешся...

Апошняя страфа, якая пачынаецца анафарычным радком першай, падкрэсліваючы ідэйна-кампазіцыйнае адзінства ўсяго верша, выяўляе сэнс гэтага верша праз параўнанне паэтам сябе з ветрам, як „братам па долі“:

> Ой, ты, вецер неспакойны.
> Ты мой брат па долі!
> Раскідаем смех і слёзы
> Мы у чыстым полі.

Той-жа прынцып кампазіцыйнай пабудовы, праўда ў крыху зменёнай форме, мы маем у 7-строфным вершы „Вясна“ (1910 г.) і „Вячэрнія хмаркі“, дзе спачатку ў двух строфах даецца спакойна-эпічнае апісанне вячэрняга неба, па якім плывуць хмары, а ў наступных 5-ці страфах паэт, зварочваючыся да гэтых хмарак, выяўляе свой лірычны настрой. Апошняя страфа з зменёнымі двума радкамі паўтарае трэцюю і гэтым самым надае вершу лірычную гарманічнасць і маналітнасць. Пры гэтым кампазіцыйна ён падзяляецца на 2 сіметрычныя часткі па 3 страфы ў кожнай. Гэтыя часткі, прадстаўляючы сабой у меладычным сэнсе як-бы два вершы, спалучаюцца ў адзін верш пры дапамозе тэматычна-лірычнай анафары.

Бываюць выпадкі анафарычнай кампазіцыі, калі анафара ахоплівае некалькі строф і аб'ядноўвае іх у адзін меладычна-рытмічны

такт. Напрыклад, верш „На полі вясной“ (1909 г.) пабудаваны такім чынам, што анафара „Люблю я“ не паўтараецца ў кожнай страфе, а шляхам страфічнага пераносу аб'ядноўвае сабой некалькі строф і несіметрычна раскідана па ўсяму вершу.

Люблю я прыволле
Шырокіх палёў,
Зялёнае мора
Ржаных каласоў
  І вузкія стужкі
  Сялянскіх палос,
  Люблю цябе, поле,
  Люблю я твой лёс!
І грушы старыя,
Што ў жыце шумяць,
Зялёныя межы,
Далёкую гладзь.

Далей ідуць дзве страфы анафарай „Люблю я“; у 6-й страфе яна некалькі мяняецца: „Люблю пазіраць я“, аб'ядноўвае сабой наступныя строфы, у канцы паўтарае першую і з'яўляецца, такім чынам, анафарычнай канцоўкай твора, падкрэсліваючы кампазіцыйнае і музычна-меладычнае адзінства верша.

Кампазіцыя з сіметрычным распалажэннем анафар у Коласа сустракаецца рэдка. Часцей за ўсё, як мы бачылі з пададзеных прыкладаў, можна сустрэць анафарычную камбінацыю, перастаноўку і пераносы анафар з адной страфы ў другую, з аднаго радка ў другі.

Важную ролю ў лірычнай кампазіцыі коласаўскіх вершаў гэтага часу адыгрывае страфічнае кальцо верша, або своеасаблівы рэфрэн, паўтарэнне некалькіх радкоў або цэлай страфы ў канцы верша. Мы ўжо адзначылі гэты момант у вершы „На полі вясной“, дзе першая страфа верша з'ўляецца канцоўкай яго. Тое самае мы маем і ў вершы „Вясна“ (1910 г.), дзе 1-я страфа „Вясна, вясна жаданая, ты прыдзеш зноў, ты вернешся“, паўтараецца некалькі зьмененай у канцы верша, даючы, такім чынам, кампазіцыйную закончанасць вершу.

Такі прынцып кампазіцыйнай пабудовы верша мы знаходзім яшчэ ў многіх коласаўскіх творах: „Сябрам-выгнаннікам“ (1908 г.), „Каханне“ (1908 г.), „З турмы“ (1910 г.), „Думкі“ (1909 г.), „Рана засмуцілася“ (1909 г.), „На ростанках“ (1908 г.), „Родныя абразы“, (1909 г.), „Краска“ (1910 г.) і інш.

Гэтая асаблівасць кампазіцыі Коласам запазычана хутчэй за ўсё з фальклорна-песеннай лірыкі працоўнага сялянства, якая (лірыка), як мы адзначылі вышэй, мела свой непасрэдны ўплыў на паэта. Апрача гэтага, трэба думаць, што Колас запазычыў яе з класічнай лірыкі. Як вядома, такімі прыёмамі лірычнай кампазіцыі, як анафарычна-страфічнае кальцо, рэфрэн і інш., любілі карыстацца ў сваёй лірыцы такія майстры сусветнай літаратуры, рэвалюцыйныя лірыкі, як Гейне і Беранжэ. Гэтым прыёмам кампазіцыі часта карыстаўся вялікі украінскі паэт Шэўчэнка і таксама карыстаўся і карыстаецца наш народны паэт Янка Купала. Кожны паэт свае мастацкія кампаненты заўсёды падпарадкоўвае ідэйна-класавай

накіраванасці. Гэта відаць хоць-бы з такіх вершаў Коласа, як „Мужык“ (1909 г.) і „Асадзі назад“ (1908 г.). У першым з іх, сіметрычная анафара „Я—мужык“, спалучаючы пяць строф у маналітнае адзінства, і ў другім—страфічная эпіфара „Асадзі назад“, паўтараючыся ў канцы кожнай страфы і пераходзячы, нарэшце, з „Асадзі назад“ у „Даць яму ўпярод“ выконваюць надзвычай моцную рэволюцыйна-дэмакратычную і паэтычна-лірычную функцыю.

## V. Асаблівасці слоўна-маляўнічых сродкаў

Слоўна-паэтычныя сродкі коласаўскай лірыкі, асабліва вершаў рэволюцыйнага і рэалістычнага характару, сваімі вытокамі, таксама як і разгледжаныя вышэй лірычныя кампаненты, уваходзяць у народную рэволюцыйную творчасць беларускага сялянства; яны прасякнуты непасрэднай фальклорна-паэтычнай прастатой і жыццёвасцю.

Эпітэты ў лірыцы Коласа вельмі простыя і яны паказваюць жыццёвую рэальнасць прадмета або з'явы. У вершах першага перыяду мы знаходзім дзве групы эпітэтаў: 1) Канкрэтныя; Напрыклад: „лес бязлісты“, „вырай галасісты“, „трава густая“, „вясна маладая“, „дарога вузкая, крывая“, „месяц круглатвары“, „лугі мурожныя“, „праца трудная“, „рукі мазолістыя“, „хмаркі вясновыя“, „каласы буйныя“, „жыццё няўдалае“, „неба сіняе“, „поле шырокае“, „дуб разложысты“, „дым сівы“, „вечар цёмны“, „дні ясныя“ „хмара чорная“ і г. д.

Усе гэтыя эпітэты падкрэсліваюць рэалістычную накіраванасць паэта і непасрэдна выходзяць з фальклорнай творчасці, яны характэрны, галоўным чынам, лірыцы Коласа перыяду першай рускай рэволюцыі (1905—1907 гг.).

2) Малаканкрэтныя, або абстрактныя: „нуда бяздонная“, „ночка бяссонная“, „дні шэрыя“, „думкі неспакойныя“, „думкі нудныя“, „лес дзікі“, „ноч глухая“, „каменні ліхія“, „пытанне горкае“, „неба бяздоннае“ і г. д. Гэта група эпітэтаў часцей за ўсё наглядаецца ў вершах, у якіх выражаецца смуткаванне і журба паэта. Яны характэрны, галоўным чынам, творчасці Коласа перыяда рэакцыі.

Параўнанні коласаўскай лірыкі па сваёй пабудове і тэматыцы рознастайны. Яны пабудаваны, галоўным чынам, па форме простага параўнання абстракатнага паняцця або прадмета, з'явы, з канкрэтнымі рэчамі, для таго, каб абстрактнае зрабіць больш канкрэтным і мастацкі адчувальным.

Сустракаем мы ў Коласа і разгорнутыя параўнанні. Напрыклад: „Як лёгкі дым, як тонкі пар, расталі ў небе кучы хмар“ („Песня няволі“, 1910 г.); „Уецца сцежка прада мною, у шырокі свет бяжыць, дзе звіваецца змяёю, дзе як стужачка ляжыць“ („У дарозе“, 1909 г.).

Большая частка параўнанняў такога роду, як „Тут мужык працуе чорны ўвесь, як сажа“, „Мы ходзім, спатыкаемся, бадзяемся, як п'яныя“ („Наша возьме“, 1908 г.) падкрэсліваюць коласаўскі рэалізм, а параўнанні такога парадку: „Селянін глядзіць з уцехай, хо-

дзіць у тым дару (У полі, М. Л.) так ні поп, ні ксёндз не ходзіць пры сваім аўтару („Рольнік“, 1908 г.)—наадварот, паказваюць ідэалізацыю паэтам уласніцкіх інстынкта ў сялянскай псіхікі.

Ёсць і такія параўнанні, што падкрэсліваюць і выражаюць, галоўным чынам, рамантычную разгубленасць і адарванасць паэта ад рэальнай рэчаіснасці. Вось некалькі прыкладаў такіх параўнанняў. „За далёкай сіняй гранню мільгацела *гожай зданню* пышных рослін чарада“ („Мара“, 1910 г.); „Бурліць крыніца агнявая, бы *нейкі грозны віхар-вір* і бляскі іскры разлівае, як залаты агністы жвір“ („Ноч перад навальніцай“, 1910 г.).

У гэтых параўнаннях мала матэрыяльнай канкрэтнасці і разам з гэтым рэалістычнасці. Замест гэтага, мы маем рамантычную расплывучатасць ва ўспрыяцці з'яў і прадметаў прыроды. Аднак, трэба адзначыць, што параўнанні такога роду сустракаюцца не вельмі часта; яны, галоўным чынам, ужываюцца паэтам у вершах, у якіх выяўляецца рамантычная накіраванасць, ідэйная разгубленасць паэта ў часе змрочнай рэакцыі 1908—1910 гг.

Як мы бачым характэрнай асаблівасцю параўнанняў коласаўскай дарэвалюцыйнай лірыкі з'яўляецца тое, што яны ў пераважнай большасці канкрэтызуюць і дэталізуюць прадмет або з'яву і гэтым самым нясуць рэалістычную функцыю.

Што датычыцца метафар, то яны таксама ў Коласа з'яўляюцца моцным паэтычна-маляўнічым сродкам. Яны надаюць адлюстроўваемай з'яве, або прадмету вобразную жывасць, канкрэтнасць, нагляднасць.

Метафара ў коласаўскай лірыцы своеасаблівая; яна з аднаго боку па фальклорнаму простая („Па вясне-красе, залатой пары“), а з другога—паэтычна-складаная („Сноп праменняў пышна ўзняты сее бляск—чырвонцы“). Але трэба адзначыць, што ў метафарах Коласа пераважаюць фальклорна-рэалістычныя матывы, якія характарызуюць Коласа, галоўным чынам, як паэта рэаліста, не гледзячы на асобныя рамантычныя моманты, якія праяўляюцца і ў коласаўскіх метафарах у пэўныя перыяды яго творчасці.

З паняццем метафары цесным чынам звязана лірычная алегорыя, якая ў дарэвалюцыйнай лірыцы Коласа займае даволі значнае месца і адыгрывае вялікую ідэйна-паэтычную функцыю. Так, у часе рэакцыі, наступіўшай пасля часовага паражэння першай рускай рэвалюцыі, Якуб Колас, не гледзячы на сваю ідэйную хісткасць і значны адыход ад рэвалюцыйна-дэмакратычных настрояў у бок нашаніўскай рэакцыйнай ідэалогіі, пры дапамозе лірычных алегорый рэалістычна зарысоўваў перыяд чорнай рэакцыі ў вобразе „цьмы глухой“, „нудных дзён восені“, „вечнай цемнаты“, „глухой ночы“, „халоднага снегу“. Паэт выступаў супроць рэакцыі, ён у форме лірычнага запытання пратэставаў:

Ты скажы, мне цьма глухая
Доўга будзеш ты ляжаць?
Доўга будзеш думка злая
Сэрца жалем калыхаць?

Разам з гэтым, падаючы рэвалюцыю ў вобразе „вясны“, „сонца“, „борздага лета“, „светлай пары“, „ясных дзён“ („Пад шум ветру“, 1907 г., „Нягода“, 1908 г.), паэт верыць, што „ночка—не год, заварушыцца край“, верыў у прыход рэвалюцыі, у прыход залатога жыцця ў сваёй краіне і таму заклікаў не сумаваць і не бедаваць.

Не бядуй, што снег халодны
Скрые землю ад вачэй.
Не загіне край твой родны
У тэй цемені начэй.

Будзе час і снег растане,
Прыдзе зноў да нас вясна,
Ціха з неба сонца гляне,
Ачуняе старана.

Дымам пойдзе ўсё ліхое,
Ўсё, што душыць нас і гне.
Вер, брат,—жыцце залатое
Будзе ў нашай старане!
(„Не бядуй“, 1907 г.)

Метанімія ў дакастрычніцкай лірычнай творчасці сустракаецца не так часта. Часам (напрыклад, у вершы „Дзе дзенешся“, 1910 г.), пры дапамозе метаніміі „шнуроў чырвоных“ і „мундзіраў сініх“ высмейваецца царская паліцэйшчына.

Аднак, тое, што метанімія ў лірыцы Коласа сустракаецца рэдка, дае нам падставу сцвярджаць, што коласаўская лірычная стылістыка па свайму паэтычнаму характару перш за ўсё *метафарычна*. Гэтая метафарычнасць, галоўным чынам, звязана з паэтычным прыёмам увасаблення, адушаўлення з'яў і рэчаў мёртвай прыроды. Увасабленне, як паэтычны прыём, надае лірычнаму вершу багата мастацкай жывасці і канкрэтнасці. Напрыклад: „Убярэцца лес бязлісты ў гарнітур свой зялёны“, „Кветкі ў лузе засмяюцца“ і інш.

Вялікую мастацкую функцыю ў паэтычнай лексіцы коласаўскай лірыкі дарэвалюцыйнай пары адыгрываюць аднародна-граматычныя словы, злучаныя або на аснове сінанімічнасці, або метафарычнасці ў адзін сэнсава-вобразны комплекс. Напрыклад: „Па вясне-красе“; „Вецер-сівер да касцей праймае“; „Не лісціся к сільным, дружа, зелейкам-бярозкай“. У многіх выпадках яны падкрэсліваюць рэалістычную накіраванасць паэта, арганічную сувязь коласаўскай лірычнай лексікі з фальклорнай лексікай.

Калі параўнаць гэтую асаблівасць коласаўскай лексікі з асаблівасцямі такіх рэвалюцыйна-дэмакратычных паэтаў як Некрасаў і Шэўчэнка, то ў іх мы знойдзем багата агульных рыс.

З разгледжаных прыкладаў ідэйна-паэтычных асаблівасцей слоўна-мастацкіх сродкаў коласаўскай лірыкі вынікаюць наступныя вывады:

1. Паэтычная лексіка, сваімі карэннямі выходзячая з рэвалюцыйна-сялянскага фальклора, з'яўляецца надзвычай сакавітай, рэалістычнай, мастацкі простай, яскрава маляўнічай. Гэта асаблівасць лексікі ўласціва лірыцы Коласа, галоўным чынам, перыяда першай

рускай рэвалюцыі (1905—07 гг.) і рэвалюцыйнага ўздыму (1911—12 гг).

2. Эпітэты, параўнанні, метафары і інш. слоўна-маляўнічыя сродкі, заключаючыя ў сабе фальклорную прастату і рэалістычна-мастацкую жывасць, па сваёй ідэйнай функцыі адыгрываюць рэалістычную ролю (у вершах з рэвалюцыйна дэмакратычнай накіраванасцю).

3. Лірычная стылістыка носіць, галоўным чынам, метафарычны характар.

4. Лірычнае ўвасабленне, як паэтычны прыём, звязаны сваімі найглыбейшымі карэннямі з фальклорнай творчасцю, надае вершу багата мастацкай канкрэтнасці і лірычнай жывасці.

З даследвання паэтычных асаблівасцей лірыкі Коласа можна зрабіць агульны вывад.

У дарэвалюцыйнай лірыцы Коласа вельмі поўна і яскрава адлюстравана жыццё, быт, думкі і імкненні, сіла і слабасць асноўных мас працоўнага беларускага сялянства ў барацьбе за вызваленне з-пад уціску самаўладства, памешчыкаў і розных іншых прыгнятальнікаў. Разам з гэтым мы бачылі, што па сваёй паэтычнай спецыфіцы яна ў многіх момантах збліжаецца з творчасцю вялікіх паэтаў рэвалюцыйнай дэмакратыі Некрасава, Шэўчэнка і ўзвышаецца да высокага мастацкага ўзроўня. А калі так, то лірыка Коласа мае для нас вялікае аб'ектыўна-пазнавальнае значэнне. Нам трэба вывучаць яе высокае паэтычнае майстэрства, выкарыстоўваць рэвалюцыйна-дэмакратычныя элементы гэтай лірыкі, яе паэтычную прастату, для стварэння вялікага паэтычнага майстэрства соцыялістычнага рэалізма, соцыялістычнай лірыкі.

# ХРОНІКА

## СВЯТКАВАННЕ 750-ГОДДЗЯ З ДНЯ З'ЯЎЛЕННЯ ПАЭМЫ ШОТА РУСТАВЕЛІ

■ **24 снежня** спецыяльным поездам з Масквы ў Тбілісі прыбылі на пленум дэлегацыі совецкіх пісьменнікаў. Украінская дэлегацыя прывезла поўны пераклад геніяльнай паэмы „Віцязь у тыгравай скуры" на украінскую мову, зроблены Міколам Бажаном. Таксама прывёз свой поўны пераклад паэмы „Віцязь у тыгравай скуры", у апрацоўцы для юнацтва, Мікола Забалоцкі. На пленум з'ехаліся прадстаўнікі ўсіх брацкіх літаратур. Прыехаў на пленум старэйшы паэт Казахстана Джамбул. Грузінскі народ надзвычай гасціпна сустрэў пісьменнікаў на вакзале з кветкамі і музыкай. Тут-жа на вакзале адбыўся мітынг, які адчыніў старэйшы пісьменнік Грузіі драматург Шалва Дадзіані. З прамовамі таксама выступілі народны паэт БССР Янка Купала, В. Вішнеўскі, прадстаўнікі прадпрыемстваў і культурных устаноў Грузіі.

Папулярнасць вялікага паэта Шота Руставелі надзвычайная сярод грузінскага народа. Пленум ператварыўся ў народнае свята. Горад Тбілісі ўпрыгожаны партрэтамі Руставелі. На чырвоных транспарантах напісаны мудрыя выказванні геніяльнага паэта, якія ўжо сталі народнымі прымаўкамі. У вітрынах магазінаў выстаўлены шматлікія выданні бяссмертнай паэмы „Віцязь у тыгравай скуры".

24 снежня вечарам у тэатры імя Руставелі адчыніўся ўрачысты пленум Праўлення Саюза Совецкіх Пісьменнікаў, прысвечаны юбілею. Зал перапоўнены віднейшымі грамадска-палітычнымі дзеячамі Грузіі, пісьменнікамі і прадстаўнікамі працоўных.

Пленум адчыніў тав. Стаўскі. Ён у сваім уступе гаварыў аб выключным росквіце культуры ў нашай краіне, аб арганізатару і натхніцелю вялікіх перамог таварышу Сталіну. Пры ўспаміне імя Сталіна пленум наладзіў бурную доўганезмаўкаючую авацыю. У ганаровы прэзідыум абраны тав. Сталін, члены палітбюро ЦК ВКП(б), т. Берыя, Дзімітраў Тэльман, Хозе Дыяс.

Ад імя пісьменнікаў совецкай Грузіі пленум вітае т. Бессо Жгенці, ад работнікаў мастацтваў Грузіі—артыст т. Давідашвілі, ад моладзі студэнтка ордэнаноска т. Гокіелі. Пісьменнік Серафімовіч у сваім выступленні вітае соцыялістычную Грузію і яе народ.

■ **25 снежня** пленум пачаў сваю работу ў канцэртнай зале тэатра імя Руставелі. Тав. Паўленка ў сваім дакладзе аб паэме Руставелі гаварыў аб уплыве паэмы на фармаванне грузінскага нацыянальнага характара. Потым выступіў з дакладам Валерыян Гапрындашвілі на тэму: „Руставелі і сучаснасць". Дакладчык прывёў шмат прыкладаў аб тым, што паэма Руставелі зрабіла вялікі ўплыў на культуру і побыт Грузіі. Афарызмы Руставелі сталі прымаўкамі, вершы яго вывучаюцца на памяць.

З цікавай прамовай выступіў Нікалай Тіханаў. Ад Акадэміі навук СССР пленум вітаў акадэмік Мешчанінаў.

■ **26 снежня** спецыяльным цягнікам усе ўдзельнікі пленума выехалі ў г. Горы, дзе нарадзіўся і правёў свае юнацкія гады вялікі Сталін.

На вакзале ў Горы цягнік сустрэлі жыццерадасныя жыхары горада з музыкай і песнямі. Пасля мітынга ўдзельнікі пленума накіраваліся да невялічкага доміка, дзе жыла сям'я таварыша Сталіна. На сцяне доміка мармуровая дошка: **„Тут нарадзіўся 21 снежня 1879 года вялікі Сталін"**. Надзвычай усхваляваныя ўсім бачаным выступалі пісьменнікі на мітынгу, які адбыўся каля доміка. Пад гром апладысментаў і спеў „Інтэрнацыянала" прынята пісьмо вялікаму Сталіну.

Пасля агляду і мітынга адбылася радыёперадача. Ля мікрафона, які быў устаноўлены каля доміка, выступалі паэты і пісьменнікі: Всевалад Вішнеўскі, Лахуці, Янка Купала, паэты Грузіі, Азербайджана, Узбекістана, Украіны, Карэліі і інш. Чыталі вершы аб Сталіне—кожны на роднай мове.

■ **27 снежня** на пленуме выступіў ісландскі пісьменнік Лакснэс, балгарскі

пісьменнік Хрысто Белеў, якія віталі Савецкі Саюз і ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку. З гарачай прамовай выступіў іспанскі пісьменнік Пля-І-Бертран. Яго абяцанне перакласці паэму Руставелі на іспанскую мову выклікала авацыю ўсяго пленума.

З цікавымі прамовамі на пленуме выступілі праф. Нуцубідзе, М. Лынькоў, Наіры Зар'ян, А. Суркоў, Алтаузен, Шапавалаў і інш.

**28 снежня** з вялікім дакладам аб грузінскай літаратуры выступіў кіраўнік грузінскага саюза пісьменнікаў т. Чарквіані. Дакладчык паказаў у сваім дакладзе, як перамагаючы групаўшчыну, выкрываючы ворагаў народа ў сваіх шэрагах грузінскія паэты і пісьменнікі шпарка крочылі наперад. Паэзія займае вядучае месца. Імёны Галакціона Табідзе, Сімона Чыкавані, Валер'яна Гапрындашвілі, Сандро Эўлі, Аліо Машашвілі, вядомы ўсяму Савецкаму Саюзу. Грузінская проза некальні адстае ад паэзіі. Перад ёю стаіць задача асвоіць сучасную тэматыку. Грузінскія драматургі за апошні час стварылі 40 п'ес. Асаблівым дасягненнем у драматургіі трэба лічыць п'есу Шалва Дадіані „Из искры". П'еса пабудавана на матэрыялах гісторыі бальшавіцкіх арганізацый Закаўказзя.

Увесь дзень 28 і 29 снежня цягнуліся гарачыя спрэчкі па дакладу т. Чарквіані. Выступалі грузінскія, рускія, узбекскія, украінскія, беларускія і інш. пісьменнікі.

**30 снежня** адчынілася ўрачыстае паседжанне пашыранага пленума Тбіліскага горсовета, разам з актывам рабочых, служачых і інтэлігенцыі г. Тбілісі, прысвечанае 750-годдзю з часу напісання бяссмертнай паэмы геніяльнага грузінскага паэта Шота Руставелі „Віцязь у тыгравай скуры". У прэзідыуме прадстаўнікі прадпрыемстваў, пісьменнікі, вучоныя, сакратар ЦК КП(б)Г Лаўрэнцi Берыя, старшыня ЦВК Грузіі Махарадзе, старшыня Соўнаркома Бакрадзе.

Паседжанне пачалося ўступнай прамовай старшыні руставелеўскага камітэта і старшыні Соўнаркома Грузіі тав. Бакрадзе. Потым з дакладам аб Руставелі выступіў праф. Кекелідзе.

Адна за другой выходзяць на трыбуну дэлегацыі народаў Саюза. Яны вітаюць грузінскі народ з святам культуры, кажуць аб велізарнай папулярнасці вялікага паэта Грузіі. З прывітаннямі выступаюць пісьменнікі, паэты з усіх канцоў Саюза. Выступаюць стаханаўцы, прафесары, артысты, мастакі.

Усе прамовы прасякнуты гордасцю за вялікую краіну соцыялізма, за ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, якая прывяла да росквіту культуры і моцнай дружбы ўсіх народаў краіны.

Усе выступаючыя гавораць аб **Леніне** і **Сталіне**, вялікіх правадырах народаў. Іх імёны сустракаюць кожны раз гарачымі авацыямі.

На розных мовах гучаць дзівосныя вершы аб Руставелі. Сівы Джамбул пяе славу Каўказу, славу грузінскаму народу. Піонеры расказваюць, як яны вучацца ў Руставелі.

На паседжанні была абвешчана пастанова ЦВК Грузіі аб узнагародзе перакладчыкаў паэмы Руставелі на мовы братніх народаў.

У заключэнне было прынята прывітанне таварышу Сталіну.

## УДЗЕЛЬНІКІ РУСТАВЕЛЕЎСКАГА ПЛЕНУМА НА ШОЎКА-ТКАЦКАЙ ФАБРЫЦЫ

25 снежня ўдзельнікі руставелеўскага пленума праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР тт. А. Новікаў-Прыбой, Н. Забалоцкі, Ал. Суркоў, С. Эўлі, Ш. Дадіані, В. Інбер, Лугаўской, А. Фадзееў, М. Шагінян, П. Антакольскі, П. Глебка, Камянецкі, І. Грышашвілі і іншыя наведалі тбіліскую шоўкаткацкую фабрыку.

Пісьменнікаў цёпла сустрэлі работніцы фабрыкі, вітала іх сакратар парткома фабрыкі, дэпутат Вярхоўнага Совета СССР, Э. Н. Мазанашвілі.

Госці аглядзелі асноўныя цэхі фабрыкі, азнаёміліся з працэсам вытворчасці шоўкавай тканіны.

Пасля агляду фабрыкі пісьменнікі накіраваліся ў клуб фабрыкі. Рабочыя і работніцы цёпла сустрэлі прыбыўшых гасцей. На сцэне клуба выступілі работніцы-стаханаўкі, якія прачыталі ўрыўкі з паэмы „Віцязь у тыгравай скуры" Шота Руставелі. Ад імя пісьменнікаў з прывітальнай прамовай выступіў пісьменнік А. Суркоў. Потым выступілі паэты: Лугаўской, які прачытаў „Песню аб Сталіне", Забалоцкі—„Гарыйскую сімфонію", А. Машашвілі—„Радзіма правадыра", В. Інбер—„Нас чацвёра", Грышашвілі—„Ліст правадыру", Антакольскі—„Народ". С. Эўлі прачытаў свой верш, прысвечаны дэпутату Вярхоўнага Совета СССР ткачысе Э. Н. Мазанашвілі.

## ВЕЧАР ПЕРАКЛАДАЎ ШОТА РУСТАВЕЛІ НА МОВЫ НАРОДАЎ СССР

30 снежня ў канцэртнай зале тэатра імя Шота Руставелі адбыўся вечар перакладаў паэмы „Віцязь у тыгравай скуры"

на мовы народаў СССР. З уступнай прамовай выступіў паэт А. Суркоў. З перакладамі выступілі: Наіры Зар'ян,—пераклад на армянскую мову, Самед Вургун, Мікола Хведаровіч, Антакольскі, П. Броўка, П. Глебка, Камянецкі, А. Жараў, Чычынадзе, М. Забалацкі, узбекскія паэты, татарскі паэт Манур і інш.

## БРЫГАДА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ПЛЕНУМА Ў БАТУМІ

1-га студзеня ў Батумі прыбыла брыгада пісьменнікаў—удзельнікаў пленума. У склад брыгады ўваходзяць: М. Галодны, М. Лынькоў, М. Хведаровіч, П. Броўка, П. Глебка, Перэц, Маркіш, Сандро Эулі, А. Машашвілі, замежная дэлегацыя пісьменнікаў: балгарскі пісьменнік Хрысто Беляў, іспанскі паэт Пля-І-Бертран і інш.

Брыгада ў суправаджэнні старшыні ЦВК Аджарыі т. Футкарадзе накіравалася ў соўгас „Чаква", дзе азнаёмілася з гаспадаркай соўгаса і чакніскай чайнай фабрыкай. Брыгада таксама наведала электрастанцыю „Аджарысцхалі".

3 студзеня адбыўся ўрачысты пленум батумскага горсовета, на якім выступілі пісьменнікі, удзельнікі пленума. Таксама батумскім горсоветам было наладжана некалькі вечароў, прысвечаных геніяльнаму паэту Шота Руставелі, сярод настаўнікаў, рабочых і чырвонаармейцаў, у якіх прынялі ўдзел прыехаўшыя пісьменнікі.

## ВЕЧАР ШОТА РУСТАВЕЛІ Ў ДОМЕ ПІСЬМЕННІКА

23 снежня адбыўся вечар, прысвечаны 750-годдзю з дня з'яўлення геніяльнай паэмы „Віцязь у тыгравай скуры" вялікага грузінскага паэта Шота Руставелі.

З дакладам аб паэме „Віцязь у тыгравай скуры" выступіў тав. В. Ф. Вольскі. З чыткай перакладаў паэмы на беларускую мову выступілі паэты К. Крапіва, А. Гурло, Э. Агняцвет і А. Куляшоў.

## ВЕЧАР, ПРЫСВЕЧАНЫ НЕКРАСАЎСКАЙ ТВОРЧАСЦІ

11 студзеня ў памяшканні клуба імя Сталіна (Менск) адбыўся гарадскі вечар, прысвечаны памяці вялікага рускага паэта Н. А. Некрасава. Вечар адкрыў уступным словам народны паэт Якуб Колас. Ён у сваёй прамове раіў беларускім паэтам вучыцца праўдзівасці і высокай мастацкасці ў Некрасава.

З дакладам аб жыцці і творчасці Н. А. Некрасава выступіў акадэмік І. І. Замоцін. Пасля д[illegible]лада беларускія паэты прачыталі тво[illegible] Некрасава ў перакладзе на беларускую мову. К. Крапіва прачытаў верш „Забытая вёска", А. Гурло „Радзіма", З. Аксельрод прачытаў у перакладзе на яўрэйскую мову „Жалезная дорога", Агняцвет „Арына маці салдацкая", А. Якімовіч урывак з паэмы „Генерал Таптыгін", А. Астрэйка і М. Калачынскі „Каму на Русі жыць добра".

## ВЕЧАР ПАМЯЦІ РУСТАВЕЛІ

17 лістапада адбылося ўрачыстае пасяджэнне Саюза Совецкіх Пісьменнікаў Украіны, Акадэміі Навук УССР і Упраўлення па Справах мастацтваў пры СНК УССР, прысвечанае 750-годдзю з дня з'яўлення паэмы вялікага грузінскага паэта Шота Руставелі. Пасяджэнне адчыніў украінскі совецкі пісьменнік, дэпутат Вярхоўнага Совета СССР А. Карнейчук. Пры ўспаміне імя вялікага Сталіна ўвесь зал устае і наладжвае авацыю правадыру і другу любімаму Сталіну.

У прэзідыуме ўрачыстага пасяджэння: акадэмік О. О. Багамолец, пісьменнік Карнейчук, акадэмік О. Паладзін, народны артыст УССР ордэнаносец Г. П. Юра, пісьменнікі Кірылэнка, Іван Лэ, Панч, Бажан, Гофштэйн.

Даклад „Руставелі і сучаснасць" зрабіў М. А. Навіцкі. Слова ад Акадэміі Навук бярэ О. В. Паладзін. Ён кажа, што народы Совецкага Саюза высока цэняць творчасць вялікіх людзей. Толькі ў нас заблішчэлі творы Пушкіна, Шэўчэнка, Руставелі.

Пісьменнік П. Панч гаворыць пра велізарнае значэнне паэмы „Віцязь у тыгравай скуры", пра яе глыбіню і майстэрства, пра тое, што мары Шота Руставелі здзейсніліся толькі ў совецкай краіне.

Перакладчык геніяльнай паэмы „Віцязь у тыгравай скуры" украінскі паэт М. Бажан гаворыць пра велізарнае выхаваўчае значэнне паэмы.

Пасля ўрачыстай часткі адбыўся канцэрт, у якім прынялі ўдзел заслужаны артыст рэспублікі Н. М. Ужвій, К. М. Палавікова, Ада Сонц і інш.

Паэты Рыльскі, Сасюра, Первамайскі, Гарадской, Фафер, Горштэйн, Малышко, Ушакоў і Тарэшчанка прачыталі вершы, прысвечаныя Шота Руставелі.

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68. Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

# ЗМЕСТ

*Рэдактар М. Лынькоў*

Здана ў набор 1/I—38 г. Падпісана да друку 1/II—38 г. Аб'ём 11¼ друкаваных аркушаў. Знакаў у друк. арк. 52.000. Папера 62×94 1/16. Тыраж 5.000 экз. Зак. № 3022. Уп. Галоўлітбела № К—5402.

Друкарня імя Сталіна, Менск, Дом Друку.

## Памылкі друку

| Стар. | Радок | Надрукавана | Павінна быць |
|---|---|---|---|
| 12 | 9 знізу | выходэяць | выходзяць |
| 15 | 18 зверху | „Пільнуўце | „Пільнуйце |
| 17 | 14 „ | грабежнікі | грабежнікі“. |
| 35 | 22 знізу | дэмакрат | нацдэмакрат |
| 45 | 8 зверху | Аддзелены | Аддзялённы |
| 52 | 13 „ | паляк | палякі |
| 58 | 21 „ | запмняецца | запыняецца |
| 97 | 1 „ | лёс | лес |
| 117 | 5 „ | чую | І чую |
| 149 | 1 знізу | Захада | і Захада |
| 158 | 17 „ | яквывад | як вывад |
| 160 | 2 зверху | азняволення | разняволення |
| 166 | 20 знізу | (1908 г. | (1908 г.). |
| 171 | 4 зверху | варшу | вершу |
| 171 | 13 „ | грушы | І грушы |
| 173 | 3 „ | інстынкта ў | інстынктаў |

Зак. 3022.